


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**12** (986)

СНЕЖАНЬ

Выдаецца
са снежня 1922 года



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2011

*ЗМЕСТ*

3 **Эльвіра ЯРЧАК. Максіму Багдановічу.** Верш.

4 **Алесь РЫБАК. На раздарожжы.** Раман. Заканчэнне.

50 **Юрка ГОЛУБ. З кнігі «Аберуч».** Вершы.

54 **Ніна РЫБІК. Вечар перад Ражством.** Апавяданне.

61 **Анатоль ЗЭКАЎ. Янкава калыска. ***З гэтым нельга не згадзіцца… ***Памерла маці, і ўжо тата… ***Мінулага не выракайся… ***Як шмат зрабіць не паспяваю… ***Ці па снезе ты, ці па марозе… ***Бывае, так затужыцца… Мядзведзева. ***Няма Таісы Бондар, Коўтун Валі… ***Я аднойчы налягу на вёслы… ***Люблю на беразе азёрным… ***Зазвоніць тэлефон — я схамянуся… ***Як да мяне, так і пасля мяне…** Вершы.

66 **Іван КАНАНОВІЧ. Вепраўцы.** Апавяданне.

78 **Таццяна МУШЫНСКАЯ. «Гэта светлае шчасце — чакаць і кахаць…»** Вершы.

82 **Мація БЕЧКАВІЧ. Ты ж не малы ўжо. Песня зняволенага. Размова з Гойям. На магіле айца Юсціна. Японія, Ява, Мальёрка, Мадагаскар.** Вершы. Пераклад з сербскай Івана Чароты.

88 **Ірына ШМАТКОВА. Беларуская жаночая паэзія: да пытання эвалюцыі.**

97 **Валерый МАКСІМОВІЧ. Застацца людзьмі.**

103 **Вячаслаў РАГОЙША. Вяршыня беларускага Трыглава.**

116 **Цімафей ЛІЯКУМОВІЧ. Пабрацімы.**

124 **Казімір КАМЕЙША. І высокае, і зямное.**

131 **Зінаіда ДРАЗДОВА. Чалавек у маральна-духоўным кантэксце.**

145 **Алесь САВІЦКІ. Ласкавае святло Літзавы.**

152 **Эмануіл ІОФЕ. Летапіс сям'і і эпохі.**

154 **Змест часопіса за 2011 год.**



ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»



Эльвіра ЯРЧАК

# МАКСІМУ БАГДАНОВІЧУ

Паэты не паміраюць
(У вершах душа паэта),
Іх зоркі не падаюць з неба,
А толькі гарäць ярчэй,
І, нібы брыльянты, ззяюць,
Максімавы трыялеты,
Бо ён спапяліў сваё сэрца
Натхненнем сярод начэй.
«Навошта нам сваркі і звадкі, —
Сцвярджаў малады Багдановіч, —
Мы ўсе падарожныя толькі
І разам ляцім да зор…»
І ён застанецца загадкай
Для пакаленняў новых,
І васількі на золку
Цепляць жытнёвы прастор.
Ад Нёмана і да Волгі
Ступала Муза паэта,
Ад Нёмана і да Волгі
Кідаў бязлітасны лёс,
Памяццю аб матулі
Ліра яго сагрэта,
Ды ад тугі па радзіме
Колькі ў ёй смутку і слёз,
Колькі вялікай любові,
Колькі адданасці шчырай
І хараства незямнога,
Добрых і светлых надзей,
Каб зразумелі людзі:
Жыць трэба ў згодзе і міры.
Гэта паэт ад Бога, —
Светач у сэрцах людзей!



Алесь РЫБАК

# НА РАЗДАРОЖЖЫ*

*Раман*

## Частка трэцяя

### 1

Была тая пара бабінага лета, калі як магнітам цягнула на прыроду, каб перад зацяжнымі дажджамі і першымі замаразкамі атрымаць поўную асалоду ад зямлі, нацешыцца сонцам, удыхнуць на поўныя грудзі гаючага паветра. Тут, на Балотнай станцыі, дзе яны з Люсяй знялі невялікі пакойчык, таксама хапала прастору, варта было толькі мінуць невялікі завулак — і перад табою поле, а там, трошкі далей, — гаёк, у якім, казалі, яшчэ і цяпер сустракаюцца крамяныя баравікі. Вядома, гэта не тое, што пад Бягомлем. Там, ведаў Вадзім, вазамі вазілі белыя, падасінавікі, рыжыкі. На сыраежкі ці там бабкі ніхто глядзець не хацеў. Цяпер, прагульваючыся з Люсяй па наваколлі Балотнай, Вадзім з пачуццём нейкай віны прыгадваў, як развітваўся з супрацоўнікамі газеты, з гаспадыняй, у хаце якой спазнаў асалоду першай шлюбнай ночы. Ён тады, ужо вольны ад рэдакцыйных абавязкаў, падбухторыў Лявона Галкіна яшчэ раз з'ездзіць у самы гушчар Бярэзінскага заказніка, дзе жыў яго актыўны аўтар Васіль Махавец. Замалёўкі аб прыродзе, звярах і птушках Махаўца друкавалі амаль што ўсе рэспубліканскія выданні, а ўжо ў Вадзіма ён быў найпершы аўтар, матэрыялы якога выклікалі самы шчыры водгук чытачоў.

Хату Махаўца ў лесе Лявон ведаў добра, але, калі прыехалі, гаспадара не было дома. На дзвярах вісеў замок. Чакаць яго не мела сэнсу, бо гэты чалавек не стыкаўся дома, мог гадзінамі сядзець дзе на дрэве ці пад кустом і назіраць за дзікай прыродай. Вось бы яму фотакамеру ці добры апарат, колькі здымкаў, якія б упрыгожылі лепшыя фотавыстаўкі краіны, ён мог бы зрабіць дзеля радасці людской!

Яны з Лявонам вярнуліся назад. Зайшлі разам у рэдакцыю, і Вадзім яшчэ раз з сумам, як быццам губляе штосьці самае дарагое і незваротнае, развітаўся з усімі.

У Мінск вярнуўся нейкі апустошаны, безуважны да ўсяго. Здаўшы рэчы, якія заставаліся яшчэ ў гаспадыні, у багажнае аддзяленне, паехаў у рэдакцыю часопіса. Яшчэ раз пераканаўшыся, што залічаны ў штат, зноў падаўся на вакзал, каб завезці ў Жорнаўку досыць такі ёмкі груз. Адной Люсі ён быў бы не па сілах.

* Заканчэнне. Пачатак у № 6—7, 2010 г., № 11, 2011 г.

І вось яны, пасля двух тыдняў пошуку кутка, нарэшце-такі знайшлі гэты пакойчык, якому бязмежна рады. У гэтую нядзелю яны вырашылі не ехаць да маці, адаспацца ўволю, а пасля пахадзіць па ваколіцах Балотнай станцыі. Ніякага балота пры станцыі тут і заваду няму, але вось назва сведчыла, што тут, відаць, здабывалі некалі торф, а побач шумелі вялікія бары. Сонца ўжо добра прыпякала, і яны, адышоўшыся далекавата ад ускрайку горада, вырашылі разаслаць коўдры і трохі пазагараць. Распрануліся да трусоў, а Люся нават і ліфчык зняла, каб загар быў роўны па ўсім целе. Вадзім, шчаслівы такой блізкасцю, прытуліў любую да сябе, горача пачаў цалаваць.

— Хоць бы каго побач не было, — засаромелася дзяўчына. — Убачаць, тады…

Ён не даў ёй дагаварыць. Неадольнае жаданне мецъ яе, цалаваць яе тугія грудзі, ногі, губы зацьміла ўсё на свеце. Люся таксама задыхнулася ў такім жа жаданні. Астыўшы ад шалу кахання, яны, абняўшыся, моцна заснулі. Вадзім прачнуўся першы, калі сонца схавалася за хмарку і адразу стала прахалодна. Ён акрыў любімую сваім пінжаком і, пакуль яна спала, думаў пра новую сваю работу. Вядома, гэта было нашмат лягчэй, чым у райгазеце, але і больш адказна. Тыраж раёнкі і рэспубліканскага часопіса непараўнальны. Калі прапусціць якую памылку пры вычытцы карэктуры, і яна пройдзе, чакай непрыемнасцей. Ды ёсць такія ўедлівыя чытачы, што любую блыху заўважаць і паскардзяцца. Асабліва актыўнічаюць настаўнікі-пенсіянеры. Але, дзякаваць богу, пакуль што ў яго ўсё ідзе гладка. Вось толькі зарплата мізэрная — усяго трыццаць сем рублёў. Паспрабуй на такія грошы пражыць. За пакойчык падрадзіліся плаціць пятнаццаць рублёў. І што застаецца? Мізэр. Каб не такія-сякія ганарары, ногі працягнулі б. А гэтага дапусціць ён не можа. Каму, як не яму, гаспадару сям'і, паклапаціцца аб яе дабрабыце. Тым больш Люся прызналася, што зацяжарыла, што праз якога паўгода ў іх будзе папаўненне. Божа, якая гэта радасць і разам з тым адказнасць! Няўжо ў яго будзе дачушка альбо сын? Але ж аб іх трэба паклапаціцца, аб жонцы і дзіцяці. Толькі што дзеля гэтага зрабіць? Пытанні, на якія трэба шукаць адказу.

Люся, нешта прамармытаўшы ў сне, прачнулася, абвіла мужаву шыю, сказала:

— Як соладка спіцца на свежам паветры. Ды яшчэ пасля такога… — яна шчаслівa засмяялася.

Апрануўшыся, яны пайшлі да нешырокай палоскі лесу.

— А раптам знойдзем які грыб, — сказала яна. — Я б тады зрабіла таўканіцу з грыбной подліўкай.

— Гэта ідэя, — падхапіў Вадзім. — Даўно не еў таўканіцу з грыбамі. Зробім сёння такую вячэру. А бульбы яшчэ засталося трохі? А не, дык пазычым у гаспадыні, пакуль ад маці прывязём.

— Хутка паедзем капаць. Мама казала, што ўрадзіла неблагая бульба. Так што другім хлебам мы будзем забяспечаны.

У лесе, колькі ні хадзілі, апроч мухамораў і некалькіх сыраежак, нічога не знаходзілі.

— Давай па ўскрайку паходзім, — прапанаваў Вадзім. — Усе бягуць чым глыбей, а мы пры полі пашукаем у траве.

І праўда, праз хвіліну Люся радасна ўсклікнула:

— Во, во! Хадзі глянь.

Вадзім, падышоўшы, не паверыў сваім вачам: у разоры, якой апаясваюць лес ад пажараў, сядзелі ў пяску рыжыкі, такія агністыя, вабныя, якія і зрываць

было нават шкада. Пахадзіўшы з паўгадзіны, яны разам набралі цэлую, як завязаць, Люсіну хустку найсмачнейшых лясных ласункаў.

— Іх засаліць добра было б, — сказала яна. — Мама неяк зрабіла са смятанай, то пасля нельга было ад місы адцягнуць.

— Дык і мы зробім так, але не ўсе. З таўканіцай, калі адварыць і прыгатаваць падліву, пойдуць за мілую душу.

Вярнуліся ў свой пакойчык задаволеныя, як ніколі. Бульбы, аказалася, яшчэ трохі было, і яны размеркавалі абавязкі: Вадзім падрадзіўся абіраць бульбу, а яна, Люся, ачышчаць ад пяску і адварваць грыбы. Знайшоўся посуд і для салення.

Вячэралі гэты раз па-царску. На часопісным століку, які вызваліла ад вазонаў гаспадыня, стаяла бутэлька піва, а ў талерках дымілася таўканіца, шчодра палітая грыбамі. На асобным сподачку былі нарэзаныя памідоры і салёныя агуркі.

— Ну, любая, каб гэтыя вуглы абмінала ўсялякае ліха, — Вадзім падняў шклянку і чокнуўся з Люсінай.

Яда аказалася найсмачнейшай.

— Будзем час ад часу наведвацца туды, — сказаў Вадзім, як не вылізваючы талерку. — Можам, акрамя рыжыкаў, і на апяты натрапіць. Тады і на зіму трохі насалілі б.

Гэты раз Вадзім рашыў усё-такі пагаварыць з рэдактарам. Пастукаўшыся, зайшоў у кабінет, пачакаў, пакуль ён скончыў гаварыць па тэлефоне.

— Ну, што, Гурко? — рэдактар быў у добрым настроі, і гэта Вадзіма ўзбадзёрыла. — Як асвойтваешся на новым месцы? Кватэру знайшоў?

Адказаўшы на ўсе пытанні, Вадзім папрасіў:

— Памажыце мне стаць на чаргу на жыллё. У мяне ж пакуль што няма прапіскі, а без яе ніхто і слухаць не хоча. Непаўнацэнны жыхар горада.

— Ну, ты гэта дарэмна — непаўнацэнны. Паўнацэнны, ды яшчэ які. Не кожны гэтак пісаць умее, як ты. Так што не прыбядняйся. А наконт прапіскі будзем нешта думаць. Гаспадары твае не могуць прапісаць? У прыватным жа доме лягчэй.

— Яно, можа, і лягчэй, але ж у іх метраў не хапае. Так кажа гаспадыня.

— Ладна, — сказаў рэдактар. — Запішы свой адрас, а мы пахадайнічаем перад гарсаветам, каб зрабілі якое выключэнне.

Рэдактару зноў пазванілі, і Вадзім, задаволены размовай, пайшоў да сябе і, сеўшы за стол, пачаў вычытваць гранкі наступнага нумара.

— З цябе бутэлька, — азваўся ад свайго стала Генадзь Каўко, супрацоўнік літаратурнага аддзела. — У гэты нумар думаем ставіць тваю гумарэску «Дыспрапорцыя». Рэч вартая ўвагі, але не шкодзіла б пару абзацаў скараціць, бо не ўмесціцца на старонку.

— Трэба дык трэба, — Вадзіма гэтая вестка парадавала, — бо канчаліся грошы, а ў перспектыве, апроч гэтай рэчы і яшчэ апавядання, якое заляжалася ў маладзёжным часопісе, нічога новага не было напісана. — Можам з'ездзіць да мяне, дзе я асталяваўся. Заадно з жонкай пазнаёмлю і салёных рыжыкаў пад чарку паспрабуем.

— Гэта ідэя! — усклікнуў Генадзь. — Даўно рыжыкаў не каштаваў.

Пасля работы яны пайшлі разам. Каўко аказаўся кампанейскім чалавекам, які, праўда, у адрозненне ад Вадзіма, любіў выпіць, нават і на рабоце тадысяды прыкладаўся да бутэлькі. Сам неблагі паэт, да яго пастаянна ішлі маладыя, якія спрабавалі сілы ў гэтым жанры, неслі сатырычныя вершы, заадно і выпіўку. Але Генадзь ні на якую халтуру не ішоў, выпіваў толькі з тымі, каго прымаў да друку.

— Дык, можа, таксі возьмем, — Генадзь пачаў галасаваць, але ніводная машына з шашачкамі не спынялася.

— Тут і паўгадзіны не будзе хады, — Вадзім прыкідваў, колькі ў яго грошай і ці хапіла б і на бутэльку, і на таксі, каб яно і падхапіла іх. Люсі, вядома, гэта будзе нечаканасцю і лішнімі клопатамі. Хоць бы дома быў хлеб. Па шляху, папрасіўшы Каўко пачакаць на вуліцы, ён усё ж заскочыў у гастраном, купіў бохан, ну і заадно бутэльку. На каўбасу не разлічваў, а прыхапіў дзве бляшанкі рыбных кансерваў.

— Проша пана ў мае апартаменты, — галантна раскланяўся, прапускаючы Генадзя перад сабой у расчыненыя сенечкі. Яшчэ адтуль пачуў пах смажанай цыбулі і сала, а ў пакойчыку галасы жонкі і яшчэ кагосьці. Не адчыняючы дзверы, пазнаў, што гэта цешча. Жанчыны абрадаваліся, убачыўшы Вадзіма з госцем.

— А я, зяцёк, чакала вас, чакала, ды сама кінулася ў росшук, — сказала Вольга Іванаўна, спадцішка разглядаючы незнаёмага чалавека. Вадзім прадставіў яго:

— Паэт, супрацоўнік часопіса Генадзь Каўко. Прашу любіць і жалаваць.

Выкладаючы на столік свае пакупкі, прадставіў Генадзю сваю жонку і цешчу.

— Як бачыш, — паказваючы пакойчык, казаў знарочыста бадзёра. — Жывём і хлеб жуём. А да хлеба смажаніны і рыжыкаў знойдзем.

Люся ахвотна выняла з-пад ложка трохлітровы слоік, шчыльна напоўнены рыжыкамі.

— Дзе ж гэта такое багацце ўзялі? — пацікавіўся Каўко. — Нябось, далёка куды ездзілі?

Калі яму сказалі, што ў ляску за паўкіламетра адсюль, ажно не паверыў.

— Дык і мяне іншым разам вазьміце, — папрасіў ён. — Усё аддам за рыжыкі.

Люся, калі хлопец адыходзіў, наклала яму невялікі слоічак гэтага смакоцця. Цешча, трошкі яшчэ пабыўшы і расказаўшы такія-сякія навіны, таксама засабіралася дамоў.

— Вы, мама, можа пераначавалі б. У гаспадыні я папрашу раскладушку. Яшчэ пасядзім, пап'ём чаю. А заўтра я вас правяду.

— Не, дачушка, не. Там падсвінак будзе енчыць ад голаду. На вечар я яму замяшала цэлае карытца, але ж ён ужо, мусіць, усё злопаў. Так што паспею на апошні поезд.

Яны правялі яе на трамвай, які ішоў да вакзала, і вярнуліся назад.

— Мама свежаніны нам прывезла, — пахвалілася Люся, дастаючы з плеценай карзіны ладнаваты пакунак. Трэба толькі пасаліць. А солі як на тое можа лыжкі дзве засталося. Няёмка ж прасіць у гаспадыні. Як думаеш?

— Я думаю, што трэба яе пачаставаць, адрэзаць які кавалак, а солі яна дасць колькі хочаш.

— Ты ў мяне самы разумны і самы шчодры, — яна пацалавала яго і пайшла ў сенечкі. Але вярнулася ні з чым.

— Гаспадыні няма дома, — сказала засмучана. — А можа, яшчэ не позна схадзіць у магазін.

— Толькі калі разам. Згода?

Яны хуценька апрануліся і найкарацейшым шляхам выйшлі на праспект.

## 2

Дачушка з'явілася на свет акурат на Ражство Хрыстова. Даведаўся Вадзім пра гэта днём пазней, калі прыйшоў у рэдакцыю. Яшчэ ў калідоры яго стрэў Генадзь Каўко, які выйшаў з пакоя падыміць. Сказаў:

— Табе званілі з Радава. Толькі ты збег учора, а тут — званок. Я на лесвіцу, але цябе і след прастыў. Карацей, цешча твая прасіла прыехаць.

«Можа з Люсяй што, — устрывожыўся Вадзім. — Інакш сама пазваніла б». Адпрасіўшыся ў рэдактара на суткі (акурат не было тэрміновай работы), памчаўся на вакзал. Поезда, на шчасце, доўга не давялося чакаць, і ўжо к абеду ён, хвалюючыся, пераступіў парог цешчынай хаты. Вольга Іванаўна была дома, кешкалася на кухні. Убачыла зяця і вельмі абрадавалася.

— Якое шчасце, — сказала хвілінай пазней, калі Вадзім распрануўся і сеў пры печы, прысланіўшыся спінай да гарачых цаглін, — што мы не спазніліся, датупалі да бальніцы. Ты ж бачыў, якія кругом гурбы снегу, якія гурбы панамятала. Дачушка мая такая малайчына. І толькі прыйшлі, толькі паклалі ў радзільнае аддзяленне, як пачаліся роды. Так што з дачушкай цябе, зяцёк. Няня мне сказала, што больш за тры кіло важыць. Вечарам сходзім, можа ж, даведаемся, як яны там.

Вадзім як не скакаў ад радасці. Дачушка, у яго ёсць дачушка! Божа, гэта ж здурнець можна ад такой навіны. Яшчэ заўчора яны з Люсяй гулялі па праспекце, хацелі нават схадзіць у кіно. Аднак жонка ў апошні момант адмовілася ад шпацыравання, сказала, што не лепшым чынам сябе адчувае і што яна паедзе да маці. Ён, свінтус, тады не прыдаў значэння яе словам і працягваў настойваць на сваім.

— Ты разумееш, — ужо злавалася Люся, — што я магу тут жа, на вуліцы, нарадзіць.

Яна пайшла на вакзал, а ён стаяў ля кінатэатра «Цэнтральны», спадзеючыся, што жонка капрызнічае без дайпрычыны і хутка вернецца. І во на табе, маеш. Як цяпер загладзіць віну перад ёю? Прыйшлі ў бальніцу ўжо ў вечаровым сутонні. Мяцеліца, яшчэ з сухім, калючым ветрам, перашкаджала бачыць перад сабой ужо за дзесяць крокаў. «А як жа ёй, беднай, было поцемку ісці адной, ды яшчэ ў такім становішчы?» — мучыла яго сумленне. Ён сцішыў трохі крок, пачакаў Вольгу Іванаўну. Калі яна, цяжка дыхаючы, параўнялася, сказаў:

— Я не ведаю, што купіць для парадзіхі на першым часе. А для дачушкі таксама трэба паўзункі, пялёнкі, распашонкі. Тут жа, відаць, не купіш усяго гэтага?

— Купіш, чаму ж, абы былі грошы. Ведаючы, што ў вас іх кот наплакаў, я трохі пазычыла. Пабагацееце, аддамо. Абы яны здаровенькія былі.

Словы цешчы падбадзёрылі Вадзіма. Вядома ж, не вечна яны будуць пабірацца, лічыць кожную капейчыну. Будзе ж і на іхняй вуліцы свята. Абавязкова будзе. Касцьмі ляжа, а пра сям'ю сваю паклапоціцца як мае быць. Пра ўсё гэта, падыходзячы да бальніцы, ён і расказваў цешчы.

— То дай божа, дзіцятка, каб у вас быў некалі куток свой і ў ім хапала ўсяго самага неабходнага. Што змагу, то і я падсоблю. У мяне ёсць на цяжкі выпадак тое-сёе ў запасе. Яшчэ з мужам нажылі, царства яму нябеснае. Тры царскія залатоўкі зашыла ў сяннік. Прыспічыць, то пойдуць на вас.

Вадзім рашуча запярэчыў:

— Не, хай золата будзе недатыкальнае. Я буду нешта сам думаць.

У бальніцы малую яшчэ не паказалі, а вось Люся, бледная і пахудзелая, у пярэстым халаце выйшла на колькі хвілін у хол. Убачыўшы мужа, абрадавала-

ся і пры маці стрымана пацалавала. «Божа, як жа я вінаваты перад ёю, — зноў упікаў сябе Вадзім. — Любая, харошая мая. Усё зраблю, магчымае і немагчымае, каб ты была шчаслівая».

Доўга ім пасядзець не далі: сястра прыйшла клікаць карміць маленькую.

— Ну, як яна? Як ты? — Вадзім спяшаўся як мага болей даведацца пра самых дарагіх яму людзей.

— У нас усё нармальна, — Люся, пацалаваўшы маці і мужа, пабегла ў палату. Наўздагон Вадзім сказаў, што сёння ж паедзе апошнім поездам у Мінск, бо заўтра з самага ранку прыйдзе карэктура часопіса.

Пакінуўшы цешчы трохі грошай, ён развітаўся і пайшоў на станцыю. Мяцеліца крыху сунялася, аднак злы і калючы вецер не даваў магчымасці дыхнуць на поўныя грудзі.

«Хоць бы грубку гаспадыня яшчэ раз прапаліла, — думаў пра свой катух на Балотнай. — Прыеду, а там халадрыга, да касцей пройме».

Усю дарогу да Мінска абдумваў, з чаго пачаць, да каго кінуцца, каб выклянчыць які цёплы пакой, дзе будуць цёплыя, як у рэдакцыі, батарэі, будзе своя вада, мо нават і гарачая, свая ванная. Згадалася кватэра, у якой, пажаніўшыся, жывуць Рыгор і Паліна. Тады, паўгода назад, на іхнім вяселлі яны з Люсяй падаравалі маладажонам чайны сервіз, які вельмі прыйшоўся Паліне даспадобы. Як госці разышліся, яны ўчатырох пілі з гэтага сервіза чай, Рыгор чытаў вершы з новага свайго зборніка, прысвечанага каханай. Шматлюднага вяселля яны не рабілі, Паліна не захацела, хоць маці яе, салідная жанчына сярэдніх гадоў, нязменны галоўны бухгалтар на гадзіннікавым заводзе, на гэтым настойвала. Яе падтрымліваў і муж, работнік міністэрства прамысловасці. Да зяця яны ставіліся стрымана, але паважна і хацелі на вяселле запрасіць з аднаго і другога боку саслужыўцаў. Аднак дзяўчына заўпарцілася: не і яшчэ раз не. Я іх нікога не ведаю, а ў мяне сваіх сяброў і сяброўак хапае. Карацей кажучы, ледзьве не сапсавалі ёй урачыстасць. Дык вось кватэра, у якую адразу прапісалі Рыгора, была на ўзроўні міністэрскай. Тры шыкоўныя пакоі, вялікі, на веласіпедзе можна катацца, калідор, прасторная кухня, ванная, асобны туалет.

— Ты, браце Рыгорка, каб табе не было горка, як буржуй зараз, — сказаў Вадзім сябру, калі яны, пакінуўшы жанчын мыць посуд, выйшлі на балкон праветрыцца. — Раскулачваць пара.

— Дай такім волю, то яны і цябе запяклі б куды трэба. Два патэфоны купіў? Купіў. Касцюм хвацкі справіў? Справіў. За якія шышы? Вось усё галажопікам пакажы і распішы.

Пасмяяліся. «Як ён зараз, Рыгорка? Нешта даўно не наведваўся ў рэдакцыю. Вядома, і ў яго работа не цукар у літаратурнай газеце. Супрацоўнікаў мала, а матэрыялы кожны тыдзень давай і давай. Але ж і зарплата яго не параўнаць з ягонай. Ды і Паліна працуе ў школе настаўніцай. Таксама нядблага мае».

Аналізуючы сваё становішча, Вадзім прыйшоў да высновы, што трэба больш настойліва стукацца ў гарсаветаўскія дзверы. Зараз, калі яго нарэшце-такі прапісалі, дзякуючы намаганню рэдактара, ён мае поўнае права станавіцца ў чаргу на жыллё. Але ж гэта чарга расцягнецца на многія гады. А яму трэба сёння, заўтра, трэба мець хоць які цёплы пакойчык. Бываюць жа нейкія і выключэнні. Ён круглы сірата, Люсін бацька, афіцэр, таксама загінуў на вайне. То чаму ім не даць якую паслабку? Пакуль жонка ў бальніцы, ён, заручыўшыся пісьмом з «Вожыка», пойдзе на прыём да галавы горада. Наіўны чалавек! Думаў, яго там чакаюць не дачакаюцца. Такіх гарапашнікаў, як Вадзім Гурко, хоць адбаўляй. Яны гатовы звечара займаць чаргу, каб трапіць на прыём да вялікага начальніка.

Пайшоў да старшыні гарсавета і Вадзім. Выстаяў, грэючыся ў пад'ездзе цэлую ноч, прамёрз, бы цюцік, але ўсё ж трапіў на прыём. Малады, але салідней камплекцыі мужчына, які сядзеў за масіўным сталом, заваленым паперамі, выслухаў яго, паківаў галавой, але ўсё ж заяву і пісьмо з рэдакцыі ўзяў.

— Абяцаць нічога не абяцаю, але ўсё ж просьбу такога саліднага часопіса не маем права сходу адхіліць. Будзем думаць.

З тым Вадзім і пайшоў. Страшэнна хацелася спаць, кружылася галава. Ды і голад даваў аб сабе знаць. Здэцца, заваліцца б да сябе, перахапіць што ў рот і, накрыўшыся з галавой ватняй коўдрай, легчы ў пасцель. Аднак справа ёсць справа. Па шляху ў рэдакцыю заскочыў у булачную, заказаў і выпіў кубак гарачай моцнай кавы. Трохі пасвятлела ў галаве. На рабоце яшчэ нікога не было, і ён, замкнуўшы дзверы, у крэсле за сталом вырашыў трохі падрамаць. Колькі часу доўжыўся яго сон, не ведае, але абудзіў тэлефонны званок. Пыталіся Генадзя Каўко. Вадзім, адказаўшы на жаночы голас, выйшаў у калідор. Генадзя стрэў каля лесвіцы.

— Нейкі ты сёння змэнчаны? Што з табой? — вітаючыся, папытаў Каўко. — Дзіця не дало спаць?

— Жонка з дзіцем у цешчы. Куды яе забярэш зімою? Тут і сам ледзь трымаешся ад холаду.

— А што, у гаспадыні няма паліва?

— Для сябе, можа, і ёсць, а вось на грубку, якая адным бокам выходзіць да мяне, не хапае. Таму і мерзну.

— Н-да, браце, нічога не параю і нічым не магу падсобіць. Трэба рэдактару расказаць.

Вадзім адмахнуўся:

— У яго і сваіх клопатаў хапае. Я ўжо як-небудзь сам буду рашаць, што рабіць-чыніць.

— Ну, чыні, чыні, — Генадзь пайшоў да сябе, пакінуўшы Вадзіма сам-насам з цяжкімі думкамі. Вядома, шкада часопіса, але трэба, мусібыць, з ім развітацца, пашукаць сабе што іншае. Успомніўшы, што ў сельгасгазеце было вакантнае месца стыльрэдактара, вырашыў сёння ж зайсці да адказнага сакратара рэдакцыі і папытаць свайго шчасця. Усё ж сельгасгазета — адзін з органаў друку партыі, і там, напэўна ж, зарплата была б у два, а то і тры разы вышэйшая, і з жыллём якім, можа, лягчэй вырашылі б пытанне.

Хацеў, вярнуўшыся ў пакой, сваімі меркаваннямі падзяліцца з Каўко, але перадумаў: яшчэ ж зусім няпэўна, ці свеціць яму што на новым месцы. А загадзя разбалабоніць аб сваім рашэнні — нашкодзіць сабе.

Прынеслі акурат карэктуру, і Вадзім унурыўся ў вычытку. Да абеду звяраў тэксты з арыгіналам, правіў памылкі (на гэты раз набор быў вельмі кепскі), ставіў пытальнікі, каб пасля з тымі супрацоўнікамі, якія рыхтавалі матэрыял, іх зняць. Звычайная карэктарская праца, якую ён ужо і палюбіў і не змяніў бы ні на якую іншую, каб не абставіны.

Абедаць вырашыў тым, што ўзяў з сабою: парэзанае скрылікамі сала, хлеб і салёны са слоіка агурок. Кіпетню, каб заварыць чай, ён возьме ў сакратаркі Людмілы Іванаўны, якая таксама любіць сталавацца на рабоце.

Падсілкаваўшыся і яшчэ раз праверыўшы праўкі, зняўшы пытанні, здаў карэктуру для далейшай работы. Цяпер ён некалькі дзён вольны, і трэба скарыстацца гэтым момантам, каб падумаць пра сваё. Калі ўсе пайшлі з працы дадому, ён замкнуў свой пакой і спусціўся на першы паверх, дзе месцілася рэдакцыя сельгасгазеты. У твар адказнага сакратара Вадзім ведаў, толькі не меў блізкіх кантактаў, таму, не баючыся памыліцца, смела

пастукаўся ў дзверы. Яму адказалі, і Вадзім зайшоў усярэдзіну пакоя не без хвалявання.

— Вы да мяне? — яму насустрач падняўся з крэсла стомлены і нейкі хваравіты мужчына гадоў пяцідзесяці ў строгім касцюме пры гальштуку, з разбэрсанымі валасамі.

— Да вас, Віктар Максімавіч. Я не перашкодзіў? Па асабістым пытанні, — Вадзім відавочна хваляваўся. — Мне патрэбна работа. Цяпер я ў сатырычным часопісе на паўстаўцы карэктара. Але ж, не маючы свайго жылля і калі ў цябе на ўтрыманні жонка і нованароджанае дзіця, з такімі грашыма пражыць немагчыма. Таму і прашуся да вас. Чуў, што ў вас было месца. У стыльрэдактуры.

— Яно і зараз ёсць. Але пакуль што падчытчыка, — Віктар Максімавіч прыязна паглядзеў на Вадзіма. — Вядома, не тое, што вы хацелі б, але не ўсё адразу. Зарплата нашмат большая, чым вашы паўстаўкі. Але ж вы, відаць, пішаце, можаце кампенсаваць недахоп грошай ганарарам. Калі вы згодзіцеся, то возьмем. Сходзім разам да рэдактара. То як?

Трэба было даць станоўчы адказ, але Вадзім, памеркаваўшы, папрасіў дзень-два на роздум. Ён ведаў, што гэта яшчэ больш дадасць яму вагі. На тым і пагадзіліся.

Выйшаўшы на вуліцу, Вадзім надумаў пад’ехаць у Жорнаўку, пабачыць жонку і сваю дарагую малюпаську. Там хоць можна ў цяпле пераначаваць. Пашкадаваў, што грошай у яго мала, а так не шкодзіла б іхняй Ірынцы (так назвалі дачушку) купіць якую бразготку ці хоць маленькую ляльку. З пустымі ж рукамі няёмка ехаць. А тут яшчэ на білет туды-сюды. Вырашыў, што хоць зайцам паедзе, а цацку купіць. Можа ж, кантралёра не будзе і як-небудзь праскочыць. Не заўсёды ж правяраюць.

Каля вакзала як не на апошнія грошы купіў маленькага пушыстага мядзведзіка, які, калі трошкі націснуць на яго пальцамі, выдаваў працяжлівы грозны гук. Задаволены пакупкай, зайшоў у будынак вакзала, пацікавіўся раскладам. Аказваецца, трэба яшчэ больш за гадзіну чакаць. Але ж нічога не зробіш. Ён пашукаў вольнае месца на лаўцы, прымасціўся і прыкархнуў. Напружанне апошніх дзён усё ж дало аб сабе знаць. Прачнуўся, адчуўшы, што нехта лезе да яго ў кішэню паліто. Схапіў за руку і сціснуў, бы абцугамі, запясце. Павярнуў галаву і пазнаў аднаго з тых двух, што абчысцілі некалі няшчасную кабету ў вагоне, калі тая ехала на вяселле дачкі.

— Што, гаўнюк, так і не кінуў свой паганы занятак? — не выпускаючы рукі злодзея са сваёй, ціха, каб не прыцягваць увагі збоку, шапнуў Вадзім. — А дзе ж твой хаўруснік? Ну, той, з кім па вагонах шастаеце, няшчасных кабет абчышчаеце?

— З некім вы мяне блытаеце. Адпусціце руку, я выпадкова дакрануўся да вашага паліто. А вы…

— Замаўчы, брыдота. Доўга цацкацца з табой не буду. Зараз жа здам у міліцыю. Хай высветляць, дзе жывеш і чаго шастаеш па цягніках і вакзалах.

— Клічце, клічце, нічога вы не дакажаце. Я што-небудзь украў у вас? Хай абшукаюць усяго, нічога вашага не знойдуць. А тое, што сядзеў побачкі і дакрануўся выпадкова да вашага паліто, ні пра што не кажа. «Вопытны зладзюга, — падумаў Вадзім. — І праўда, што я дакажу». Абвясцілі пасадку на цягнік, і Вадзіму нічога не заставалася, як адпусціць кішэнніка.

— Убачу яшчэ раз на вакзале, галаву скручу. І зараз шчасце тваё, што спяшаюся на поезд. А так бы…

Ён плюнуў і падаўся да выхада на перон. Уяўляў, з якім смяшком глянуў яму ў спіну гэты вырадак. У вагон усярэдзіну не пайшоў, стаў у тамбуры. На

выпадак праверкі скажа, што ўскочыў у апошнюю хвіліну, не паспеўшы купіць білет да Радава. Вядома ж, кантралёры не паверац, будуць патрабаваць аплаціць штраф, а дзе ён возьме тыя грошы. А мо ім паказаць пасведчанне работніка сатырычнага часопіса? А чаго? Гэта ідэя. Не могуць жа не паверыць салíднаму чалавеку, супрацоўніку такога аўтарытэтнага выдання. Вунь, кожны чацвёрты пасажыр у вагоне гартае і чытае гэты часопіс, ад душы абураецца альбо смяецца. Можа, там у каго і ягоная гумарэска. Баяўся ён дарэмна. Да Радава ніякай праверкі не было, і ён з лёгкім сэрцам саскочыў з прыступак і пайшоў у бок Жорнаўкі. Ад хуткай хады разагрэўся, што давялося нават расшпіліць паліто. У цешчынай хаце ярка свяцілася ў зале акно, нават праз фіранку бачна было, як мітусяцца чыесь цені. Ён з’явіўся на парозе, пусціўшы ў кухню клубок халоднай пары. Жонка і Вольга Іванаўна былі, відаць, у зале, бо стуль чуліся галасы, прыглушаныя шчыльна зачыненымі дзвярыма. Вадзім распрануўся, у парозе зняў зімнія туфлі і ў адных шкарпэтках падаўся да ўсіх. Яго не чакалі, таму Люся і абрадавалася, і адначасна ўстрывожылася. Пацалаваўшы мужа, папытала:

— Што-небудзь здарылася? Гэта ж у будні дзень і на ноч гледзячы.

— Усё нармальна, — сказаў ён. — Проста замаркоціўся без вас. І вось я тут. Кінуў-рынуў усё на свеце і бягом у Жорнаўку. Хіба не чакалі?

— Ну што ты, зяцёк. Кожную хвіліну мы думаем пра цябе, ці не галодны часам, ці цёпла ў гаспадыні. Пра каго ж нам яшчэ думаць? Хіба што пра сына ў арміі. Але ён там таксама ў шапку не спіць. Знайшоў там сабе нейкую і хоча жаніцца. Во, сёння атрымала пісьмо, толькі што з дачкой прачыталі.

— А дзе ж Ірынка, крывінка наша? — Вадзіму не цярпелася хутчэй убачыць дачушку.

— Спіць у бакоўцы, — жонка, узяўшы яго за руку, павяла за перагародку, куды праз шчыліны ў дошках трапляла трохі святла. — Нядаўна яе пакупалі, захуталі і паклалі на спінку. Ціхенька падыдзі, паглядзі, якая харошанькая.

Вадзім асцярожна цмокнуў яе ў цёпленькі носік, адчуўшы ні з чым не параўнальную радасць. Павярнуўшыся да жонкі, прытуліўшы да сябе, прашаптаў:

— І праўда засумаваў без вас, мае вы любыя. Ноччу чаго толькі не сніцца…

— У нас усё добра, любы. Ты, відаць, галодны. Мы з мамай перакусілі ўжо. Зараз табе што-небудзь зробім. А калі назад?

— Ну, вядома, заўтра. Хачу з табой параіцца. Удумаў памяняць працу, то як ты на гэта глядзіш. Тут жа зарплата ведаеш якая. А куды хачу — у два з нечым разы большая. Ну, і ганарар там таксама можна такі-сякі мець. Карацей кажучы, тваё апошняе слова.

— Я што, — трохі ўстрывожылася Люся, — куды іголка, туды і нітка. Хіба я разумею што ў гэтым? Але глядзі, не памыліся, каб пасля не кусаць сабе локці.

Вольга Іванаўна паклікала вячэраць, і Вадзім, яшчэ раз плюснуўшы дачушку ў носік, пайшоў на кухню, дзе на патэльні, толькі што знятай з керагаза, дымілася смажаная бульба, а ў талерцы асобна ляжалі скваркі. Люся есці больш не стала, сядзела пры печы, нацiскала на мядзведзіка і, калі ён выдаваў гукі, цешылася, бы дзіця.

— А што табе заварыць, зяцёк: чай ці каву? — папытала Вольга Іванаўна. — У нас ёсць адно і другое.

— Лепш нанач чаю, бо ад кавы спацца будзе дрэнна. Вы пасядзіце, я сам згатую. Толькі б кіпетню мне. — Вадзім падняўся, пашукаў вачыма заварны чайнік.

Раніцай, прыехаўшы ў Мінск, зайшоў на работу, распрануўся і спусціўся на першы паверх. Віктара Максімавіча на месцы не было, але кабінет ягоны быў расчынены насцеж. Нарэшце ён з’явіўся і запрасіў да сябе. Папытаў:

— То якое будзе рашэнне? Пойдзеце ў нашу газету? Толькі ведайце, што давядзецца пазменна працаваць. Бывае, што і да поўначы.

— Мяне гэта не палохае, — адказаў Вадзім. — Карацей кажучы, я згодзен. Толькі мне трэба дні два, каб на ранейшым месцы падцягнуць усе хвасты.

## 3

Зіма канчалася, а з жыллём усё было няпэўна. Яшчэ тры разы Вадзім начаваў на вуліцы, пільнаваў чаргу на прыём да старшыні гарвыканкама. Гэтым разам ён вырашыў узяць і жонку з дачкой. У пэўны час яна пад’едзе з маленькай да адкрыцця прыёмнай, зойдуць разам у кабінет і пакажуць чыноўніку сваю крывінку. Няўжо ж яго сэрца не змякчыцца, няўжо ў вялізным горадзе не знойдзецца які вольны пакойчык і для іхняй сям’і? З такой думкай звярнуўся і да жонкі. Яна падтрымала гэту ідэю. Прыехалі разам у Мінск, пераначавалі ў досыць халодным пакойчыку на Балотнай. Звечара Вадзім пайшоў станавіцца ў чаргу, а Люся з дачушкай павінны былі прыехаць к дзевяці гадзінам. Падышла пара заходзіць у кабінет, а жонкі ўсё не было і не было. Ён выбягаў на вуліцу, прапусціў нават наперад адну жанчыну, але больш марудзіць не выпадала. Зайшоў адзін. Старшыня яго ўжо ведаў. Сустрэў пытаннем:

— Пойдзеце на вуліцу Зялёную? Там вызваліўся пакойчык. Гаспадыня пераязджае, то, можа, паспееце яшчэ ўзяць ключ.

Ён назваў нумар дома і кватэры. Як на крылах, Вадзім памчаўся шукаць тую вуліцу. Аднак у каго ні пытаўся, ніхто нічога пэўнага не мог сказаць. Выручыў таксіст. Той без ваганняў сказаў садзіцца і праз дваццаць хвілін прывёз да месца. Вадзім расплаціўся і зайшоў у двор двухпавярховай будыніны з аблезлай атынкоўкай, паламанымі знадворку дзвярыма. Зайшоў у патрэбны пад’езд і ледзьве не задыхнуўся ад смуроду. Каля лесвіцы валяліся горы акуркаў, нейкія недаедкі, парваныя чаравікі, брудныя анучы. Ён выпадкова крануў адну з куч і… адхіснуўся ад жаху. На яго глядзелі вочы велізарнага, з добрага ката, пацука, да якога далучылася яшчэ некалькі мярзотных стварэнняў. Вадзім убачыў на дзвярах таблічку і, упэўнены, што яны не зачынены, таўхануў іх наперад. Ён не памыліўся: усярэдзіне ўжо было пуста. Маленькі, не большы за дамавіну, калідорчык, які вёў на кухню з пядзю велічынёй, збоку — праём у пакойчык, сцены якога былі пакрыты цвіллю, а між вокан зіхцелі дзіркі проста на вуліцу. Сцены былі мокрыя, у вялікіх разводах. Гэткая ж і столь. Печка, якая стаяла пры сцяне ў куханьку, таксама была напаўразваленая. «Божа, і гэткае жыллё прапаноўваюць новым гаротнікам. Ды тут жа і сабака не схоча зрабіць сваю патрэбу». Ён плюнуў і, затыкаючы нос, як ашалелы выскачыў на вуліцу. Было крыўдна за згубленую ноч. А яшчэ брала трывога: чаму жонка з дачушкай не прыехалі? Хоць бы што з імі не здарылася.

Хоць трэба было на працу, ён памчаўся на кватэру да гаспадыні. Прыбег задыханы і ўстрывожаны. Люся сустрэла яго з заплаканымі вачыма.

— Дачушка наша захварэла, тэмпература трыццаць дзевяць і тры. Уся ажно гарыць. Што ж гэта рабіць?

Вадзім дакрануўся губамі да яе ручкі і адчуў, як ад яе патыхае жарам.

— Тэрмінова трэба ўрача выклікаць. Пабягу з аўтамата званіць. Заадно і на рабоце скажу, што затрымаюся. Можа ж абыдуцца паўдня?

Хуткая дапамога прыехала праз дзесяць хвілін. Пажылая жанчына ў белым халаце паслухала малую і безапеляцыйна заявіла: запаленне лёгкіх. Збірайцеся і паедзеце разам у дзіцячае аддзяленне.

За ўсё, што здарылася, Вадзім вініў найперш сябе. Навошта было змањваць жонку з дзіцем з цёплай хаты, ісці пехатой да станцыі, трэсціся ў вагоне, пасля ў трамваі? А прыйшлі на Балотную — там таксама холадна, хоць ваўкоў ганяй. Пакуль трохі прапалілі, збольшага сагрэлі пакой, прайшло нямала часу. А малую ж трэба карміць, мяняць пялёнкі, паўзункі. Вось і падхапіла дзесь прастуду ці вірус. Калі яны паехалі, у яго абарвалася ўсё ўсярэдзіне. У той дзень у яго ўсё валілася з рук. Ледзьве даседзеў да канца рабочага дня. Вечарам зноў надумаў пайсці да гарсавета і стаць у чаргу на прыём. Гэты раз ён выкажа старшыні ўвесь свой гнеў, сваё абурэнне. Як можна гэтак здзекавацца з чалавека, прапаноўваць яму тое, ад чаго любы бадзяга адмовіцца. Раніцай, патуляўшыся цэлую ноч з пад’езда ў пад’езд, грэючыся ля батарэй і час ад часу звяраючы сваю чаргу, ён ужо сядзеў бліз кабінета старшыні і абдумваў, як павесці сябе. Трэба каб і не нагрубіць, але і быць хлопчыкам для біцця таксама не варта. Трэба выбраць нешта сярэдняе.

Па яго змардаваным выглядзе і калючых вачах старшыня зразумеў, што будзе выбух. Таму, не даючы хлопцу апамятацца, спрактыкаваны чыноўнік адразу агламошыў:

— Дык вам жа выдзелілі двухпакаёвую кватэру ў новым доме. І цяпер што не так?

— Якая двухпакаёўка, які новы дом? Тое, што вы мне прапанавалі пагля-дзець учора, вартае курам на смех. У мяне бацькі ў магіле перавярнуліся б, каб убачылі гэтае жыллё. А яны ж паклалі галовы ў вайну і за будучыню сваіх дзяцей. Жончын бацька, афіцэр, таксама загінуў на фронце.

— Я ж вам кажу, што вашаму часопісу выдзелена двухпакаёўка. Месца — у цэнтры горада. Недзе праз месяц-паўтара будзе засяленне. Так што з вамі пытанне вырашана.

Вадзім не верыў сваім вушам. Яму — двухпакаёвая раскоша ў цэнтры горада?! Памчаўся на работу, а адтуль падняўся на чацвёрты паверх, дзе месцілася рэдакцыя часопіса. Вядома ж, перш-наперш пастукаўся ў кабінет галоўнага рэдактара.

Той, павітаўшыся, спытаў, як працуецца на новым месцы, ці не ўздумаў вярнуцца назад.

— Пакуль не позна, — сказаў галоўны, — можам узяць. Бо прэтэндэнты ўжо ёсць, і не адзін. Месца не такое ўжо і благое для таго, хто піша. І перспектыва ёсць. «Зубы загаворвае, — падумаў Вадзім. — Ведае ж, відаць, чаго прыйшоў».

— Я толькі што з гарвыканкама, — сказаў Вадзім. — Там сказалі, што мне выдзелена жыллё. Я хачу засведчыць, што я яго дамогся, і яно маё.

Рэдактар адкінуўся на спінку крэсла і гучна засмяяўся.

— Наіўны ты чалавек, Гурко, — сказаў пасля кароткай паўзы. — Во, пакажу табе паперку, што двухпакаёвая кватэра па нашай просьбе выдзяляецца рэдакцыі часопіса. І там ні слова не сказана, што гэта табе. Гэта, па-першае. Па-другое, ты ўжо не наш супрацоўнік, а чужому я аніяк не маю права аддаць. Па-трэцяе, і самае галоўнае, мы выдзелілі гэтую кватэру нашаму загадчыку рэдакцыі, які мае патрэбу ў паляпшэнні жылля. Вось, браток, аргументы, супраць якіх не пойдзеш.

Пракаўтнуўшы горкі камяк, Вадзім пакінуў кабінет. Слёзы засцілі яму вочы, было цяжка дыхаць. Каб ніхто са знаёмых не бачыў яго ў такім стане, выйшаў на вуліцу і падаўся ў бок парку. Тугі перадвясенні вецер забіраўся пад крыссе палітона, студзіў спіну, але ён нічога не чуў і не бачыў перад сабой.

У адным месцы, калі пераходзіў праспект, яго ледзьве не збіла машына. Збялелы, бы палатно, шафёр выскачыў з кабіны, вызверыўся не па-людску:

— Т-т-ты, гаўнюк, куды прэш? Бельмы засляпіла, ці што? Жыць надаела? А мне з-за цябе ў турму? «Якая турма? Што ён пляце?» — падумаў ён, ступіўшы на тратуар. Звярнуў направа, у вароты велізарнейшых памераў, за якімі раскінуўся парк. Вецер гудзеў у вершалінах дрэў, абрываў і ламаў сухія галіны, якія з трэскам падалі долу. У парку, дзякаваць богу, нікога не было, і гэта яго задавальняла. На чыстай ад снегу лаўцы прысеў, абдумваючы сваё становішча. Пошум дрэў і гаючае паветра прывялі яго ў нейкую раўнавагу. Прыйшоў да высновы, што трэба зноў стукацца ў старшынёвы дзверы. Атрымалася ж вельмі пагана. Каб ён яшчэ месяцы тры затрымаўся ў часопісе, то напэўна ж кватэра, калі не гэта, новая, то вызваленая іхнім загадчыкам рэдакцыі дасталася б яму. А цяпер — шышы. Трэба ўсё пачынаць нанава. А ці хопіць у яго сіл? Не, дзеля жонкі, дзеля дачушкі ён пойдзе на ўсё, але даможацца свайго. Жыццё вучыла яго пераадольваць тое, што многім было не па сіле.

Ён хацеў ужо ісці, ды як не пад ногі скокнула аднекуль вавёрачка, за ёй другая. Вадзім працягнуў руку, але, убачыўшы, што яна пустая і пажывіцца тут не выпадзе, абодва звяркі скокнулі на сасну і закружыліся па кроне ў нейкай сваёй гульні. «Во каму жывецца бесклапотна, — падумаў пра рыжых шэльмаў. — Ні пра жыллё, ні пра адзенне не трэба дбаць. Дупляністых дрэў хапае. Звіў сабе гняздзечка і радуйся, гадуй дзетак. А корм — корм заўсёды знойдзецца».

Да пачатку другой змены было яшчэ чатыры гадзіны, і Вадзім вырашыў схадзіць да сябе, зрабіць што папалуднаваць і хоць трохі перакархнуць. Інакш ён не зможа працаваць. А пасля — зноў пойдзе займаць чаргу на прыём да старшыні.

## 4

Наваселле, як ні цяжка было, рашыў усё ж справіць па-людску. Акрамя супрацоўнікаў газеты, Вадзім рашыў запрасіць і Рыгора з Палінай. Сваіх — Верку і Юзіка, Колю з Лількай, цешчу — ён лічыў само сабой зразумелым іх прысутнасць за сталом. За тыдні два да наваселля ён з'ездзіў у Галаброды, падзяліўся навіной са сваімі роднымі. Расказаў, колькі поту і слёз каштаваў яму гэты пакой, дзе ёсць усе выгоды, халодная, а калі пагрэць дрывамі, то і гарачая вада. Плюхайся ў ванне колькі душы заўгодна. Ну, само сабой зразумела, туалет, кухня з плітой, хай сабе і на цвёрдым паліве, але ж можна што хочаш прыгатаваць. А самае галоўнае — цёпла, праўда, мо трохі цемнаваты пакой, бо на першым паверсе. Другі, меншы пакойчык выдзелілі жонцы рэабілітаванага пасмяротна пісьменніка Міхася Зарэцкага, творы якога доўгі час былі пад забаронай. Зараз, калі іх выдалі ці дазволілі карыстацца тымі, што выходзілі яшчэ да вайны, многія зачытваліся і здзіўляліся, за што такі магутны талент растапталі нелюдзі з усемагутнага ведамства. Ды каб жа адзін пісьменнік атрымаў пакаранне. Саслалі на катаргу з сям'ёй, маленькімі дачкой і сынам. Як Марыя Іванаўна выжыла з дзецьмі, яна доўгі час не магла нават гаварыць.

У Юзіка з Веркай Вадзім не мог доўга гасцяваць, бо і з работы не адпрасіўся, і трэба было рыхтавацца да ўрачыстасці. Папрасіў адно швагра, каб выгнаў сваёй славутай самагонкі са збожжа. Спіртное было найпершым клопатам. Цешча абяцала што-колечы са свініны падкінуць. Астатняе — вары, смаж. Умовы цяпер дазваляюць. Юзік абяцаў прывезці літраў дзесяць свайго, як ён казаў, «чэмергесу». Палічылі, што гэтага хопіць.

— Толькі, — пачухаў патыліцу швагер, — як давезці? У бутэльках, то ў мяне няма гэтулькі посуду. Дый праверыць могуць. Цяпер жа вельмі строга.

Падказала выйсце Верка:

— А мы нальём у грэлкі. У мяне дзве ё. Яшчэ тры пазычу. Абвяжашся кругом цела. Во будуць грэць.

Усе засмяяліся, але ідэя гэта прыйшлася даспадобы.

Яшчэ за суткі да прызначанага дня Люся не выходзіла з кухні. Пакарміўшы дачку і паклаўшы яе спаць, абдумвала, як размясціць гасцей, падлічвала відэльцы, нажы, посуд. Усяго гэтага вельмі не хапала, яна ламала галаву, дзе ўсё дастаць. Купіць — дарага, пазычыць, то яна нікога тут не ведае. Добра ж, калі Марыя Іванаўна пад'едзе з вёскі пад Мінскам, дзе прыдбала невялічкую хатку, і выручыць. На ўсякі выпадак папрасіла мужа даць тэлеграму маці, а тая ўжо ў дошку разаб'ецца, а знойдзе патрэбнае.

У прызначаны дзень Люся на керагазе пякла, смажыла, а Вадзім майстраваў доўгі стол, пры ім — лаўкі. Дошак ноччу нацягаў з недалёкай адсюль будоўлі. Першай прыехала цешча, прывезла цэлую карзіну правіянту: падсолены і падсушаны свіны кумпяк, ужо звараных буракоў, з якіх зробяць вінегрэт, у місах — квашаная капуста і салёныя гуркі, у слоічку — цёрты на тарцы хрэн. У дадатак да ўсяго вылажыла на стол цэлы стосік відэльцаў і некалькі самаробных нажоў. Перш-наперш кінулася да ўнучачкі, але, паколькі тая яшчэ соладка спала, пачала памагаць дачцэ. Усё не магла нарадавацца пакоем, на чым свет хваліла зяця, што той дамогся такой раскошы.

Хваляваліся за Юзіка (Верка адразу сказала, што прыехаць не можа з-за малой). Час падпіраў, а яго ўсё не было і не было. Вадзім тады, як быў у Галабродах, падрабязна расказаў, якім транспартам да яго ехаць. Назваў прыпынак, нумар дома і кватэры. Цяпер браў одум: хаця б не заблудзіўся. Не будучы ў Мінску, у гэтым людскім мурашніку не цяжка разгубіцца, паехаць не ў той бок. Ён ужо дакараў сябе, што не сустрэў швагра на вакзале.

Вадзім выйшаў на прыпынак аўтобуса, які быў акурат насупраць іхняга дома. Чакаў, хвалюючыся, доўга, пакуль не паклікала яго Люся.

— Ідзі дамоў. Юзік ужо тут. Як гэта вы размінуліся?

Ужо ў кватэры высветлілася, што швагер не дачуў назвы прыпынку і праехаў далей цэлы квартал. Давялося, прыглядваючыся да нумарацыі дамоў, ісці назад, шукаць патрэбны. Спіртное Юзік прывёз, як і дамаўляліся, у грэлках. Зараз трэба знайсці чыстыя бутэлькі і хоць з адной грэлкі разліць у іх, паставіць на стол.

Рыгор з Палінай, якія з'явіліся неўзабаве, прынеслі з сабой каньяк, шампанскае, тры кольцы кракаўскай каўбасы. А Люсі і яе маці — па каробцы цукерак. А яшчэ яны купілі ў якасці падарунка набор пасцельнай бялізны. Паліна, як змеціў Вадзім, пакруглела ў таліі — відаць, да родаў таксама засталося нядоўга.

— Віншую, — шапнуў сябру Вадзім, калі яны засталіся на хвіліну ўдвух.

— З чым? — той выказаў непадробнае здзіўленне. — Гэта ж цябе мы віншуем.

— Не прытварайся. Думаеш, я сляпы, не бачу. Хутка і ў цябе будзе папаўненне ў сям'і.

Падышла Паліна, пацікавілася, як працуецца, як гадуецца дачушка.

— А во, пайдзі паглядзі. Там, пры акне, яе калыска. Нешта дужа моцна спіць у новай хаце.

Паліна, а за ёю Рыгор на дыбачках падышлі да калыскі, залюбаваліся малой, якая пачала ўжо цмокаць роцікам, відаць, абуджаючыся і чакаючы яды. Вадзім паклікаў жонку, а яны ўтраіх выйшлі на пляцоўку, каб не церціся

пад нагамі, заадно падзяліцца навінамі. Але ім не далі пагаварыць. Пад'ехаў да саменькага пад'езда аўтобусік, і з яго пачалі вывальвацца, як змеціў праз шкляныя дзверы Вадзім, яго саслужыўцы. Ажно дзевяць чалавек. З аўтобусіка яны цягнулі штосьці цяжкае, здэцца, канапу. Вадзім, не марудзячы, падбег, паздароўкаўся і памкнуўся памагчы. Але яго адхілілі, смеючыся, сказалі, што ён яшчэ слабак для такога цяжару. Абнову ўносілі чатыры чалавекі. Вадзім адно расчыняў і трымаў дзверы. Канапу паставілі ў прыхожай — акурат пры сценцы ёй было добрае месца. Пагаманіўшы, а хто і пакурыўшы на лесвічнай пляцоўцы, селі за доўгі стол, якога акурат хапіла для ўсіх.

Першы з тостам падняўся намеснік галоўнага рэдактара Сыркоў Валерый Мікалаевіч.

— Сябры, — сказаў ён, звяртаючыся да ўсіх прысутных. — Сёння ў нашага супрацоўніка і яго найчароўнай палавіны надзвычай радасны дзень — яны святкуюць наваселле. Кожны з нас перажыў гэтую падзею і ведае, што гэта такое — займець свой куток, дзе ёсць месца прыхіліць галаву, пазбыцца жыццёвых нягод, зведаць асалоду сямейнага ачага. Мы добра ведаем, якой цаной далося Вадзіму Гурко гэтае жыллё. Колькі начэй ён не спаў, стаяў у чэргах да чынавенства, адваёўваючы сваё права на шчасце. І ён дамогся свайго. Нягоды не зламалі гэтага здольнага чалавека. Ад імя ўсяго калектыву рэдакцыі, у тым ліку і галоўнага рэдактара, віншуем сям'ю Гурко з наваселлем і зычым ім дабра і яшчэ папаўнення. Са свайго боку наш падарунак вы бачылі, а ў дадатак рэдактар прасіў перадаць вось гэты канверт, змесціва якога хоць трохі кампенсуе выдаткі сям'і на такі багаты стол. «Ну і гаварун, — аж няёмка стала Вадзіму. — Можна падумаць, што я там шышка важная. А што перажыў, то чыстая праўда». Выпілі, закусілі. Да гарэлкі самаробнай спачатку паставіліся з недаверам, а як паспрабавалі, то не схацелі нават каньяку. Спыталі, чыя гарэлка, і тут ужо настала чарга Юзіку пахваліцца сваім умельствам. Яму нават пасыпаліся заказы, а швагер сказаў, што зараз няма ні жыта, ні мукі. А як будзе, то абавязкова зробіць, за ім справа не стане.

Гарэлка так прыйшлася даспадобы, што Вадзім пачаў перажываць, хаця б хапіла. Праўда, у выніку няхваткі блізка магазін і яму нядоўга падскочыць і купіць яшчэ колькі бутэлек. Пра закусь ні ён, ні Люся не турбаваліся — у талеркі было яшчэ што пакласці.

Калі зрабілі перапынак на перакур і ўсе выйшлі на пляцоўку, Люся шапнула Вадзіму:

— Ну і выпівохі там у вас. Добра, што Юзік яшчэ адну грэлку прывёз, але пакуль што не паказваў. Трэба ў пустыя бутэлькі разліць. Хай п'юць, думаю, усе будуць давольныя.

Гулі да позняга вечара. Юзік, праўда, паехаў рана. Вадзім праводзіў яго да аўтобуса, падзякаваў за ўсё. Яшчэ да гэтага пайшлі Рыгор з Палінай, бо Паліне штосьці не здаровілася. Вольга Іванаўна таксама была засабіралася ехаць дадому, але Люся напрамілы бог угаварыла яе застацца нанач.

— Во, новую канапу асвоіце, — казала яна маці. Рэдакцыйныя ўсё яшчэ пілі, спявалі песні, расказвалі анекдоты. Вадзім, акрамя як праводзіць Юзіка, не адлучаўся ад іх ні на хвіліну. Трэба ж было падтрымліваць кампанію, сачыць, каму чаго не стае. Маленькая Ірынка нікому не перашкаджала. Надвячоркам Люся як пакарміла яе, то і спала на кухні, не прачынаючыся.

Нарэшце, добра пабаляваўшы, усталі з-за стала і астатнія, пачалі збірацца дадому. Калі кватэра апусцела, Люся села на канапу, не ў сілах больш пашавяліцца.

— Пасядзі, дачушка, а то і падрамі, — паспачувала ёй цешча. — А мы з Вадзімам прымем посуд, памыем. Не, я адна памыю, а ён хай разбірае сталы, выносіць на сметнік дошкі.

Кешкаліся яшчэ гадзіны дзве, покуль прывялі ўсё ў парадак. Гэту ноч спалі як забітыя.

## 5

Хоць жыццё ўвайшло ў нейкую норму, аднак яно ані не задавальняла Вадзіма. Трэба было пісаць, а часу на творчасць не хапала. Пасля другой змены, якая часам зацягвалася да раніцы, было ўжо не да свайго. Прымасціўшыся на ложку побач з жонкай, ён адразу засынаў, не чуў нават, як плакала дзіця, калі Люся ўставала да малой, калі рыхтавала для абаіх сняданак і абед. Толькі пасля дванаццаці ўставаў вялы і разбіты, акурат цягаў мяшкі з пяском. Еў таксама з неахвотай. Усё больш шкадаваў, што пакінуў часопіс, дзе часу вольнага было хоць адбаўляй. Каб жа ведаў ён тады, як будзе з кватэрай, то нізавошта не звольніўся б. Яно можна і тут, у газеце, працаваць, але рэдактар, горкі п'яніца і бабнік, якіх свет не бачыў, трымаў увесь сакратарыят без справы, пакуль сам не паедзе. Да яго позна ўвечары заходзілі нейкія людзі, замыкаўся ў кабінеце, і што яны там рабілі, аднаму чорту вядома. Не саромеўся ён і сваіх машыністак выклікаць да сябе… Гэта было ненармальна, выклікала ціхае абурэнне. Паспрабаваў быў пагаварыць з шэфам Віктар Максімавіч. Усё ж адказны сакратар, і настрой сваіх падначаленых быў для яго не абыякавы. Аднак праз тыдзень загадам галоўнага ён быў пераведзены ў радавыя літсупрацоўнікі. Вось тады і надумаў Вадзім шукаць іншую працу.

Акурат падвярнуўся выпадак. Аднойчы яму сказалі, што па радыё чыталі гумарэску як дзве кропелькі вады падобную на тую, што летась ён друкаваў у сатырычным часопісе. Вадзім, выбраўшы вольную хвіліну, паехаў у радыёкамітэт на Рэвалюцыйную. Узяў свой экзэмпляр часопіса і зайшоў у літрэдакцыю. Сустрэў там свайго аднакашніка па ўніверсітэце Вацлава Занько. Той пагартаў матэрыялы «сатырычнага акна» (так называлася рубрыка сатыры і гумару) і сапраўды знайшоў Вадзімаву гумарэску пад чужым прозвішчам.

— Н-да, дзялы, — пачухаў патыліцу Вацлаў. — Выходзіць, і ў нас завяліся плагіятары. Ну, і што зараз будзем рабіць? А ты, аднак, папулярны. Цябе чытаюць і перапісваюць. Не кожны гэтым можа пахваліцца. Так што віншую. Карацей, я схаджу, а то, можа, і разам да старшыні камітэта. Хай парадзіць, як у такім выпадку быць. У суд жа не падасі, а вось прапясочыць нягодніка нейкім чынам варта. Прамаўчы, то ён яшчэ куды пашле не сваё, падставіць рэдакцыю.

Ісці да начальства Вадзім адмовіўся, і хлопец сам узяўся разблытаць гэты вузел. Праз колькі хвілін вярнуўся і сказаў, што да старшыні пакуль не прабіцца, зойдзе пасля.

— Добра, я патэлефаную, — Вадзім запісаў нумар Занько. Той раптам ні з таго ні з сяго прапанаваў:

— У нас тут у рэдакцыі пісьмаў ёсць вакантнае месца. Работа адказная, але вартая таго. Будуць камандзіроўкі па рэспубліцы, сустрэчы з цікавымі людзьмі. Так што падумай, але нядоўга. Такія вакансіі доўга не пустуюць.

Вадзім сказаў, што прыйдзе заўтра, а ён, Вацлаў, няхай, калі зможа, закіне перад начальствам патрэбнае слова. Гэты раз матэрыялаў у газету было мала, і яны ўжо з дзевяці білі лынды, не ведаючы, куды сябе дзець. Вадзім дык пера-

чытаў, узяўшы з сакратарыята, усе свежыя газеты і цяпер, бліжэй к дзесяці, чакаў каманды разысціся па дамах. Але такой каманды не было і не было. Яшчэ не з'явіўся шэф, а без яго ніхто не асмеліўся б адпусціць дадому патрэбных людзей. У «Правде» Вадзім вычытаў, што рыхтуецца пленум ЦК КПСС па ўздыме сельскай гаспадаркі, і на ім з дакладам выступіць першы сакратар Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў. «Во тады ўжо будуць начныя «бдения», — падумаў з жахам. — Добра было б да гэтага часу перайсці на новае месца».

Галоўны рэдактар з'явіўся толькі пад поўнач і запатрабаваў да сябе машыністку Бэлу. «Ну, цяпер да раніцы не бачыць нам падушкі». Брала злосць на такія парадкі і хацелася — ат, што будзе, тое будзе — кінуць-рынуць усё і бразнуць дзвярыма. Але ўзяў одум: калі пераходзіць на іншую працу, то з падачы галоўнага могуць напісаць такую характарыстыку, што пасля нікуды не ткнеш носа. Таму, змірыўшыся, ён зайшоў у пусты кабінет і пачаў абдумваць новае апавяданне, звязанае з яго начнымі паходамі ў гарсавет. І толькі ў тры ночы іх нарэшце адпусцілі дадому. Гэты раз не было машыны развезці людзей, і давялося доўга галасаваць на праспекце, каб злавіць таксі. Нарэшце пашанцавала, і ўжо праз дваццаць хвілін Вадзім быў у сваёй кватэры. Жонка і дзіця спалі, і ён на дыбачках пацёгся ў кухню, каб чаго перахапіць. Люся, аднак, прачнулася, глянула на гадзіннік і жахнулася: было каля чатырох раніцы.

— Бедненькі мой, харошы, — яна прыціснулася да яго і пацалавала. — Няўжо ж гэтулькі работы ў вас, каб усю ноч трымаць?

— Дурнота, а не праца, — Вадзім, жуючы кавалак каўбасы, расказаў, як хадзіў у радыёкамітэт і што там яму прапанавалі.

— Дык гэта ж было б здорава! — няголасна ўсклікнула, каб не разбудзіць малую, жонка. — Хоць бы, як усе добрыя людзі, своечасова прыходзіў дадому.

— Ну, пры нашай прафесіі могуць быць любыя затрымкі, — запярэчыў ён. — Гэта на заводзе скончылася змена, і ўсе валам хлынулі на прахадную, а там, куды надумаў, могуць быць камандзіроўкі, розныя іншыя мерапрыемствы.

— І ўсё ж гэта лепей, чым сённяшняе тваё становішча.

— Я вельмі рады, што ты адабраеш мой выбар. Ты ў мяне разумніца. Заўтра ж пайду, паспрабую свайго шчасця.

Начных змен не было, і Вадзім, аналізуючы пісьмы (а іх прыходзіла вельмі шмат, асабліва заявак на тую ці іншую песню альбо на радыёпастаноўку), ужо на першым часе зрабіў некалькі абагульняючых аглядаў, якія выклікалі добры водгук з боку начальства. Работа яму падабалася, і ён з галавою акунуўся ў яе. Многае з недаробленага браў дадому і вечарам, калі родныя яму людзі спалі, на кухні пісаў, крэсліў, шукаў розныя варыянты падачы матэрыялу.

Неяк яго зацікавіла адно пісьмо, у якім жанчына апісвала сваё жыццё без усялякіх упрыгожанняў, жыццё суровае і праўдзівае. У ім, тым пісьме, расказвала пра калектывізацыю, пра раскулачванне, як вясковая галота захапіла ўладу і зжывала са свету самых лепшых і працавітых. Пад гэты прэс трапіла і аўтарка пісьма. Яна прасіла карэспандэнта радыё прыехаць у іхнюю вёску, яна раскажа такія жахлівыя гісторыі са свайго нядаўняга мінулага, якія і ў страшным сне не сасніш. А яшчэ раскажа, чым абярнулася для сялян тая гвалтоўная калектывізацыя, якая і сёння бокам выходзіць.

Пісьмо Вадзім, папрасіўшыся на прыём, рашыў паказаць старшыні радыёкамітэта, параіцца, як быць, ці можна з яго зрабіць якую перадачу.

Пісьмо начальства таксама зацікавіла, старшыня без ваганняў сказаў:

— Выпісвай камандзіроўку, бяры магнітафон і запішы на плёнку ўсё, пра што раскажа жанчына. Асабліва ўедліва распытай пра сённяшнія парадкі ў іхнім калгасе. Цяпер, напярэдадні пленума партыі, якая заклікае да выяўлення і бічавання адмоўных момантаў у жыцці грамадства, такія матэрыялы будуць вельмі дарэчы. Толькі не забывай праверыць кожны адмоўны факт. Інакш лыжка дзёгцю можа сапсаваць бочку мёду. Дзейнічай.

Старшыня падняўся з-за стала і падаў руку.

Акрылены, Вадзім памчаўся ў прыёмную выпісваць камандзіроўку, а пасля ў бухгалтэрыю атрымаць аванс. Паездка, ведаў Вадзім, будзе з нялёгкіх. Па-першае, далёка, у адзін з куткоў Палесся, па-другое, там яшчэ не сышла вада пасля дружнага снегатаяння, і дарогі, пэўна ж, раскіслыя, па якіх не прайсці, не праехаць. Як апрануцца ў такім выпадку, што абуць на ногі, дзе знайсці начлег? Калі ў той жанчыны, аўтаркі пісьма, то калгаснае начальства зжыве яе пасля са свету. Прасіцца ж да каго чужога ці выпадзе, бо людзі вельмі насцярожана ставяцца да прыезджых. Давядзецца ісці да старшыні сельсавета і прасіць прытулку.

За камандзіровачныя Вадзім набыў заплечнік, на складзе ў камітэце пад распіску атрымаў апаратуру для запісу, якая важыла мо кіло з дзесяць, купіў на ўсякі выпадак гумовікі, такога-сякога правіянту, бо, ведаў ад бывалых людзей, у дарозе, ды ў такой глушэчы, можна і скарынкі хлеба не знайсці. Заставалася толькі набыць білет. Вырашыў, што паедзе начным поездам да Пінска, а там, ужо раніцай, аўтобусам ці спадарожнай машынай будзе дабірацца ў гэты балотны край.

Ведаў бы ён, чым абернецца для яго тая паездка, нізавошта не паехаў бы. Да Пінска цягніком усё было нармальна. Прыехаў, у вакзале ў буфеце выпіў кавы з бутэрбродам і пайшоў шукаць аўтобусную станцыю. Глянуў на расклад руху аўтобусаў у напрамку да патрэбнай вёскі і засмуціўся: транспарт у тым накірунку меўся быць толькі пасля абеду. А куды дзецца цяпер, як змарнаваць вольны час? Пацёршыся між людзей, дазнаўся, што на малаказавод зранку прывозяць поўныя бідоны малака. Можа, і з гэтага калгаса хто будзе. Трэба толькі папытацца.

На малаказавод сапраўды пад'язджала нямала машын, да кабінкі запырсканых гразюкаю. Шафёры ў чарзе да сепаратараў стаялі групкамі, на чым свет клялі дарогу, курылі і брыдка мацюгаліся. Вадзім падышоў да адной з такіх групак і папытаўся, як даехаць да Ракаўшчыны.

— А ты хто такі будзеш? — змераў яго з ног да галавы блатнога выгляду дзяцюк у залатаных керзавых ботах, з адвіслай губой, на якой, як прыклееная, тырчала самакрутка.

Вадзім сказаў, што едзе па справе, што сам з Мінска і яму да абеду абавязкова трэба быць у Ракаўшчыне.

— З самой Ракаўшчыны машыны сёння не будзе, а вось блізка, за кіламетры тры ад яе, магу падкінуць. Толькі трэба пачакаць, — дзяцюк сплюнуў самакрутку і паклікаў паказаць сваю машыну.

Нейкая інтуіцыя падказвала Вадзіму не садзіцца да гэтага чалавека, ад якога да таго ж патыхала самагонным перагарам. Аднак не паслухаўся голасу свайго сэрца, аб чым пасля вельмі шкадаваў. Спачатку ехалі неблагой пясчанай дарогай, праўда, у частых выбоінах, пасля з гравійкі звярнулі яшчэ на адну, вузейшую, якая неўзабаве перайшла ў лясную. Шафёр, клюючы носам, не зважаў, куды і як едзе, трапляў у велізарнейшыя лужыны па самае днішча машыны. Яна натужна раўла, але ўсё ж неяк выцягвала на сушэйшае. Нарэшце лес скончыўся, пайшоў маладняк — бярозы, асіны, ядлоўцавыя кусты. Стала

больш святла і прастору. Паказаліся першыя хаты якойсьці вёскі пад саламянымі стрэхамі. Вадзім глянуў на ўсё яшчэ асалавелага вадзілу, папытаўся, як называецца гэта селішча. Той штось буркнуў і працягваў руліць далей. Праехалі з кіламетр, а п'яны шафёр зацята маўчаў.

— Нарэшце ты скажаш, дзе мы і калі спынімся? — у Вадзіма ўжо лопнула цярпенне гуляць у гэтую маўчанку.

— Дазнаешся, пачакай, — нешта злавеснае прагучала ў голасе дзецюка.

Праз некалькі хат спыніліся. Вадзім памкнуўся ступіць на зямлю, размяць ногі, але дзяцюк, ухмыляючыся, загадаў пасядзець, бо зараз паедуць далей. Ён шуснуў у двор прыземістай, урослай у зямлю хаціны, пастукаў у шыбку маленькага акенца. На ганак, як згледзеў Вадзім, ледзьве не на карачках вылез лахматы мужык магутнага росту і целаскладу. Абодва, пашаптаўшыся, падышлі да кабіны і, нічога не кажучы, груба вывалаклі Вадзіма з машыны. Адабралі заплечнік і, піхаючы ў спіну, павялі ў двор.

— Вы што сабе дазваляеце?! — уз'юшыўся Вадзім. — Я буду скардзіцца. Вось дабяруся да Ракаўшчыны, адтуль пазваню ў міліцыю. Вы хоць ведаеце, хто я?

— Ведаем, ведаем, — ухмыльнуўся вадзіла. — На рыле ўсё напісана. За цябе, гад, шпік амерыканскі, будзь здароў якую прэмію адбахаюць. Зараз праверым, што ты там за плячыма носіш. Ага, вось яна, апаратура нейкая. Панятненька. Прохар, давай яго ў склеп. І на замок, каб сядзеў як мыш пад венікам.

Звязаўшы Вадзіму рукі моцнай вяроўкай, піхнулі яго ў халоднае і сырое скляпенне, скрозь прапахлае гніллю, мышыным памётам, дзесьці разлітым дзёгцем. Знадворку, чутно было, замкнулі. Седзячы ў смуродзе, у поўным змроку, Вадзім усё яшчэ ніяк не верыў таму, што адбылося. Думалася, што гэта жарты, зараз выпусцяць, пасмяюцца разам і паедуць далей. Аднак час ішоў, а руху знадворку ні было ніякага. Яго пачалі прабіраць дрыжыкі, а звязаныя ззаду рукі аддавалі ныючым болем. Злаўчыўшыся, на ледзяных цэментных прыступках і павярнуўшыся задам, ён спрабаваў нагой выбіць дзверы, але, колькі ні грукаў, яны ані не паддаваліся. Тады ён пачаў крычаць, каб кінулі гэтую гульню ў шпіёнаманію і хутчэй клікалі каго з начальства.

Яго пачулі з вуліцы, і хутка ля склепа стоўпіліся цікаўныя. Хлапечы голас казаў некаму:

— Гля, Барыс наш хоць і п'янчужка, а шпіёна сцапаў голымі рукамі. Ну, цяперака пра яго напішуць. Можа, нават і грошай адваляць нямала. Гэта ж трэба. А дзе ён сам? Машына стаіць з расчыненымі насцеж дзвярыма. І ключы тырчаць.

— Дзе, дзе, — гэта ўжо другі голас, падобны на дзявочы, — жлукцяць у хаце. Абое рабое.

Вадзім, чуючы гэта, хацеў папрасіць каго з дзяцей збегаць, паклікаць дарослых, каб тыя ўмяшаліся і спынілі гвалт над чужым чалавекам. Аднак на ганак выйшаў, відаць, гаспадар хаты, накрычаў на малых, і тыя пырснулі хто куды.

— Адчыніце, чуеце, — карыстаючыся момантам, штомоцы закрычаў Вадзім. — Я карэспандэнт, прыехаў пісаць пра калгас, а вы мяне за некага прынялі.

Аднак адчайны яго голас разбіўся аб сцяну глухога маўчання. Цягнуліся доўгія гадзіны, а ніхто ў двары не з'яўляўся. Вадзім зноў пачаў грукаць нагамі ў дзверы, ды так, што знекуль зверху пасыпалася за каршэнь атынкоўка.

Нарэшце заскрыпеў у замку ключ, і той лахматы вадзіла стаў перад Вадзімам ва ўвесь рост. Ад яго, як з віннай бочкі, несла перагарам.

— Ты, падла, чо? Хочаш, каб па кумпале вось гэтым прэнтам заехаў? Сядзі да раніцы і не вякай. Яшчэ пагрукай мне, то ногі звяжу, а ў рот кляп засуну. Будзеш ведаць, варожына, як гадзіць савецкай уласці. — Ён зноў пайшоў, відаць, квасіць, а ў Вадзіма ўжо абарвалася сэрца. Як выйсці з гэтай тупіковай сітуацыі, ён не ведаў. Вядома ж, каб прыехалі хто з міліцыі ці сельсавета, то разабраліся б. Ён паказаў бы сваё пасведчанне карэспандэнта радыё, камандзіровачны бланк з пячаткай, і яго неадкладна выпусцілі б на волю. Але ж ніхто не едзе. Можа, тыя два п'янчугі заснулі ці захлынуліся ў віне? Што тады? Ён жа ноч тут не працягне. Хацелася піць, есці, ды і ад холаду здранцвела ўсё цела. Божа, якое ж беспрасвецце, якая дзікая глухамань! А вінаваты хто? Тая ж улада. Дзесяцігоддзі ўбівалі людзям у галаў, што кругом нас ворагі, шкоднікі, а з пачаткам халоднай вайны — і шпіёны, якіх плоймамі засылаюць на нашу тэрыторыю, каб выведваць сакрэты, ганьбіць наш лад. А цёмны люд лёгка паддаецца прапагандзе. Дзе ж шукаць выйсце? Трэба, відаць, зноў крычаць, зноў грукаць. Добра ж, калі тыя, што ў хаце, паснулі. А то раптам гэты бамбіза здзейсніць сваю пагрозу. Разаб'е галаву. І так па-дурному разаб'ецца яго жытка. Ну, ваяваў бы, пагнаўся б за якімі бандытамі і загінуў ад варожай кулі, то, можа, была б якая і павага. А гэта ж нейкая дурнота, пра якую нікому і не раскажаш. Двое з адпітымі мазгамі п'яніц затрымліваюць карэспандэнта і кідаюць яго ў халоднае цёмнае сутарэнне. А Люся ж заўтра к вечару будзе чакаць яго дома. А тут прапаў чалавек, як і не было яго. Калі пачуў на вуліцы рып калёс, не выцерпеў, на ўсе лёгкія закрычаў:

— Па-а-а-мажыце!

Нехта тпрыкнуў каню, прыслухаўся. Вадзім паўтарыў свой крык. Чалавечыя крокі наблізіліся да склепа, сцішыліся.

— Хто там? — пачуўся мужчынскі голас.

Вадзім, прыльнуўшы тварам да дзвярэй, расказаў, што ён работнік беларускага радыё, прыехаў на малакавозе ў мясцовы калгас, а яго шафёр з дружком, гаспадаром гэтага дома, упіхнуў сюды нібыта як злоўленага імі шпіёна.

— Пачакайце, — азваўся голас. — Мне акурат трэба ў кантору калгаса, то там скажу каму. А з гэтымі ваяваць дарэмная справа. Яны апошнія п'янтосы і бандзюкі.

Чалавек, чуваць было, паехаў. «Хоць бы тыя не пачулі? — палохаўся Вадзім. — А то перахаваюць да каго іншага, тады справы будуць зусім дрэнь. Ад гэткіх паганцаў чаго заўгодна можна чакаць». Вадзім, сціснуўшы нервы ў кулак, чакаў якое развязкі. Мінула яшчэ, пэўна, з гадзіну, а руху ні ў двары, ні на вуліцы не было. «Няўжо той дзядзька з іх кагорты? — трывожыла думка. Але ж, бач, спыніўся быў, падышоў». Нарэшце каля хаты рэзка затармазіла якаясь машына, па гуле матора чуваць было, што не грузавая.

— Ну, пакажы, дзе палонны? У склепе? — голас, яўна начальніцкі, абнадзеіў Вадзіма.

— Тут я, тут, таварыш. Не ведаю, хто вы па пасадзе, але выручайце. Хутка ў гэтым смуродзе задыхнуся. А яшчэ рукі звязаныя.

Пачалася валтузня з замком, які, аказваецца, быў толькі для відавоку накінуты на прабой. Дзверы расчыніліся, але ў поцемках Вадзім не адразу згледзеў сваіх збавіцеляў. Нарэшце ўшчыльную да яго падышоў рослы мужчына, прадставіўся:

— Старшыня сельсавета Сазонаў. А вы хто? Якая нячыстая заперла вас сюды?

Вадзім расказаў, як сеў у машыну малакавоза, як п’яны вадзіцель прыняў яго за шпіёна і разам з гаспадаром вось гэтага дома, — кіўнуў на самотную хацінку, — гвалтам завалаклі яго сюды, увапхнулі ў скляпенне.

— Ай дык боўдзілы! Зараз жа я іх пастаўлю на ногі, калі дрыхнуць, — абурыўся сельсаветчык. — Зрэшты, а дакументы ў вас маюцца? Пакажыце.

З ніжняй кішэнькі пінжака Вадзім выцяг пашпарт, камандзіровачнае пасведчанне.

— Пойдзем да машыны, — сказаў старшыня. — Там у мяне ліхтарык.

Пасвяціўшы, прачытаў і за галаву схапіўся:

— Цяпер жа нас на ўвесь свет абнясlавіце.

Вадзім супакоіў:

— Завязіце мяне куды трэба, а з гэтымі гаўрыкамі пасля разберацеся. А я са свайго боку нікому нічога не скажу, бо і з мяне пасмяюцца, хоць тут не да смеху было.

Ужо праз паўгадзіны яго даставілі ў сельсавет.

— Дзе ж вам пераначаваць? — азадачыўся Сазонаў. — Гасцініцы, як вы ведаеце, у нас няма. А трапіць абы да каго… Вось што — я паспрабую дамовіцца з адным настаўнікам, ён тут праз дзве хаты жыве. Чалавек прыстойны, гасцінны. У восьмых класах у Ракаўшчыне вядзе літаратуру, беларускую і рускую. Вам будзе з ім пра што пагаварыць. Пра аўтарку пісьма Вадзім пакуль што не заікнуўся.

## 6

Паездка, хоць і з прыгодамі, дала яму шмат. Вярнуўся дадому стомлены, разбіты, але поўны ўражанняў. Свет, які акаляў яго, быў недастатковы для пазнання многіх праяў жыцця, пра якія Вадзім не мог нават і падумаць. Аўтарка пісьма, жанчына немаладога веку, з якой ён сустрэўся на другі дзень у Ракаўшчыне, расказала гэтулькі, што матэрыялу хапіла б на добры раман. Вадзім ужо нямала чытаў, асабліва ў рускіх часопісах, успамінаў былых вязняў канцлагераў. На касцях лепшых людзей узводзіліся паселішчы, будаваліся водаканалы, заводы, гідраэлектрастанцыі. Рыгор расказваў пра сваіх бацькоў, але тады не так успрымалася трагедыя людзей, якія трапілі ў лапы нкусаўцаў. А тут жанчына без адзінай слязінкі (слёзы, відаць, даўно ўсе выплакала) разматвала нітку свайго жыцця, ад чаго, слухаючы, міжволі сціскаліся кулакі.

Яе аповед Вадзім старанна запісваў на магнітную стужку. Ужо ў сябе дома, калі паклалі малую спаць і самі павячэралі, ён уключыў магнітафон, каб паслухаць, што ў яго атрымалася. Люся ажно охала ды ахала, чуючы чужую споведзь. Запіс быў някепскі, але, ён добра ведаў, ніякая цэнзура не прапусціць у эфір гэтую суровую праўду. Вось пра здзекі фашыстаў — калі ласка, з дарагой душой, а пра зверствы энкавэдэшнікаў — ні-ні. Табу.

Вадзім вырашыў нейкім чынам перапісаць плёнку і для сябе, а гэту даць паслухаць старшыні радыёкамітэта. Хай вырашае, што можна з яе скарыстаць. Вядома, там ёсць разважанні старой жанчыны, як наладзіць справы ў калгасе, падняць надоі малака, як наогул палепшыць жыццё простых людзей. Гэтыя кавалкі, бясспрэчна, не выражуць, прымусяць усю перадачу весці ў гэтым ракурсе. Толькі яна будзе бяззубая, як і многія іншыя перадачы. Аднак сваіх парадкаў тут ніхто не навядзе.

Перш чым ісці да начальства, Вадзім стрэўся з Вацлавам Занько, расказаў пра паездку на Палессе, ні словам не абмовіўшыся аб сваіх дурных прыгодах.

Уключыў магнітафон і даў паслухаць чужую споведзь. Той таксама быў ашаломлены, але параіў, акрамя хіба старшыні, нікому пра плёнку не казаць і не даваць слухаць.

— Не паспееш і аглянуцца, як стане вядома тым, хто зацікаўлены, каб ты маўчаў, бы ў рот вады набраўшы. Канфіскуюць усе твае запісы, яшчэ і самога могуць куды ўпякчы, дзе і Макар цялят не пасвіў. Лепш паберажыся. І перапісваць з плёнкі на плёнку не раю. Пастарайся трымаць усё ў памяці.

З гэтымі довадамі Вадзім пагадзіўся. Плёнку не чапаў, даў начальству. Перапісаў да сябе ў блакнот толькі тыя мясціны, якія падыдуць для перадачы. Аднак і гэтай перадачы не далі ў эфір, хоць, здаецца, нічога крамольнага Вадзім там не пакінуў. Камандзіровачныя яму аплацілі, але не яны былі яго галоўным клопатам. Баяўся, што па сур'ёзнай справе яго нікуды больш не пашлюць. А тым часам і цешча падкінула яму клопату. Працуючы ў садова-агароднай брыгадзе, прадаючы час ад часу ў наймаемым у Радаве ларку памідоры, агуркі, пасля моркву, бульбу, яна шмат кантачыла з людзьмі, ведала ўсе парадкі ў калгасе, ці, лепш сказаць, беспарадкі. Асабліва абуралі паводзіны яго старшыні Петракова. Жывучы ў Мінску, маючы там шыкоўную трохпакаёвую кватэру, у вёску ён наязджаў як гастралёр і стала асталёўвацца тут не думаў. Праўда, дом з часанага дрэва, пад жалезным дахам выбудаваў чужымі і бясплатнымі рукамі як ляльку. Там жыла ягоная палюбоўніца і там часта ён наладжваў п'яныя оргіі, да якіх мелі дачыненне і князькі з раённага начальства. Да дома, размешчанага наводшыбе, на краі вялізнага саду, часта падкатвалі на машынах вясёлыя кампаніі. Усё было б цярпіма, каб рабілася нешта добрае для людзей. А то ж — поўны завал па ўсіх паказчыках як у раслінаводстве, так і на фермах. На працадзень атрымлівалі мізэр, таму і шчыраваць, іврваць жылы ніхто надта не хацеў. Брыгадзіры падбіраліся па прынцыпе адданасці кіраўніку гаспадаркі, і тыя таксама не прачыхаліся ад гарэлкі. Коля неаднойчы таксама прасіў Вадзіма вывесці на чыстую ваду п'янтосаў і зладзеяў, для якіх сорам і сумленне — пусты гук. І пачынаць трэба з галавы. Вадзім слухаў, спачуваў, аднак, заняты сваімі праблемамі, найперш з жыллём, усё адкладваў напісанне такога крытычнага матэрыялу. Цяпер жа, калі жыццё больш-менш усталявалася, а парадкі ў калгасе яшчэ больш пагоршыліся, ён вырашыў: годзе! Які з яго журналіст, калі не можа ўмяшацца і праз друк даць дыхту зладзеям і п'яніцам на чале з Петраковым. Толькі ж куды лепш такі матэрыял даць? Напісаць, ды каб востра, у форме фельетона, каб з нягоднікаў нават пух пасыпаўся. Такі матэрыял сама лепш падышоў бы для сатырычнага часопіса.

Вадзім яшчэ раз з'ездзіў у Жорнаўку (акурат быў выхадны дзень), у Колі і Лількі ўдакладніў некаторыя прозвішчы, тады яшчэ пагутарыў з цешчай і, вярнуўшыся ў Мінск, сеў за стол. Фельетонная манера пісьма яго захапляла. І калі матэрыял ажно на пяць машынапісных старонак быў гатовы, панёс яго да Генадзя Каўко, папрасіў адразу, у яго прысутнасці, пачытаць. Каўко не стаў марудзіць. Ён штосьці алоўкам падкрэсліваў, цмокаў губамі, ківаў галавой. Калі скончыў, сказаў безапеляцыйна:

— Фельетон добры, напісаны на ўзроўні, але ж... Баюся, што галоўны яго не прапусціць. Надта ж глыбока ты арэш, робіш шматзначныя высновы. Пасля такіх публікацый сама сабой напрошваецца думка распусціць к чорту ўсе калгасы, а зямлю падзяліць, аддаць сялянам. Хай поркаюцца на ёй самі, наводзяць свае парадкі. О, па галоўцы нас не пагладзяць за такія настроі. Карацей, пакінь фельетон, а другі экзэмпляр, а можа, наадварот, пакінь нам другі, а першы аддай у прыёмную ЦК. Там жа з сельскай газеты

былы адказны сакратар, як яго?.. Віктар Максімавіч у першага сакратара за памочніка.

— Во як!? — давольны за гэтага чалавека, радасна ўсклікнуў Вадзім. — Высока ўзляцеў. Але ён заслугоўвае таго.

— Дык вось, — гнуў сваё Генадзь, — рыхтуецца пленум па рабоце з кадрамі, то Віктар Максімавіч збірае і аналізуе факты разгільдзяйства з боку кіраўнічых органаў на месцах. Яму і адрасуй гэты матэрыял. Думаю, што ён скарыстае.

Акрамя сваёй новай гумарэскі, Вадзім не стаў рызыкаваць і фельетона не пакінуў. А на другі дзень поштай выслаў першы экзэмпляр на імя Віктара Максімавіча, не ведаючы, якая праз два тыдні заварыцца каша.

А заварыцца яна крута. Аднойчы, зайшоўшы ў абед у рэдакцыю, ён уключыў радыё і пачаў слухаць выступленне першага сакратара ЦК, якое транслíравалі ў прамым эфіры. Сярод фактаў заганнай работы з кадрамі ўзгадваўся Радаўскі райкам КПБ. Больш таго, першы працытаваў амаль дзве старонкі з фельетона Вадзіма Гурко, назваўшы і ягонае прозвішча. Слухаў Вадзім стаіўшы дыханне. Ён уяўляў, якая замарушка пачнецца ў Радаве, як стануць абельваць сябе тыя, каго тычылася гэтая крытыка, і, наадварот, чарніць «пісаку», які вынес смецце з іхняе хаты. Падумаў пра Колю і цешчу. Хаця б на іх не адыграліся, не зрабілі якую подласць. Коля, праўда, працуючы на льнозаводзе, пляваць хацеў на Петракова і яго хеўру, а вось у цешчы, калі дазнаюцца, чыя яна цешча, могуць быць непрыемнасці. Зграя, абараняючыся, можа пайсці на любую подласць. Трэба, відаць, папярэдзіць Вольгу Іванаўну, каб асцерагалася, была акуратная з выручкай за садавіну і агародніну, каб позна нікуды не выходзіла з хаты. Люся таксама непакоілася за маці. Вадзім зноў з'ездзіў да яе, пацікавіўся навінамі і перадаў свой і даччын неспакой. Аднак цешча трымалася малайцом. Наадварот, яна ўсім хвалілася, які ў яе разумны зяць, што нават самы вялікі ў Мінску начальнік паслухаў яго, даў дыхту Петракову і яшчэ розным там гарлахватам, якія толькі і ведаюць, што піць, разбазарваць не сваё дабро ды гуляць. Нават калі, прыдраўшыся да нейкай дробязі, яе пазбавілі ларка, цешча не засмуцілася, трымалася ваяўніча.

— Знойдзецца ўправа і на меншых служак хеўры, — казала яна кожнаму, хто выказваў ёй захапленне прамовай, якая была надрукавана ва ўсіх газетах, нават і тутэйшай, і адначасова абуралася несправядлівасцю ў адносінах да яе самой.

— Падумаеш, ларок. Як быццам я нешта мела з яго, акрамя галаўнога болю, — казала яна тым, хто прыходзіў да яе дадому, каб падзяліцца навінамі, так памянціць языкамі. — У калгас усё роўна не пайду, хай не думаюць. Я і ў магазіне за прылаўкам магу быць, і яшчэ дзе. Работа знойдзецца.

У Вадзіма было горай. Яго выклікаў старшыня радыёкамітэта і паўшчуваў, чаму, перш чым даваць нейкі матэрыял наверх, не параіўся з ім, не даў пазнаёміцца. Можа, і перадачу якую зрабілі б, а так — з плеч ды ў печ. А печ гарачая, — ён пакорпаўся сярод сваіх папер і даў пачытаць аддрукаваную на машынцы, на бланку райкама партыі скаргу на Вадзіма Гурко за прадузятае стаўленне да фактаў, выкладзеных у запісцы ў Цэнтральны Камітэт, за тое, што не ўзгадніў гэтыя факты з раённымі ўладамі. У той скарзе гаварылася пра этыку журналіста, партыйны падыход да асэнсавання разрозненых фактаў, якія зусім не адлюстроўваюць сапраўдную сутнасць з'явы. Прасілі старшыню радыёкамітэта паўздзейнічаць на журналіста і камандзіраваць яго ў Радава на партыйную канферэнцыю, дзе будзе гаварыцца і пра крытыку стылю работы раённых кіраўнікоў.

— Трэба ехаць, — сказаў старшыня, называючы дату і час правядзення канферэнцыі. — Можна нават уключыць і магнітафон, запісаць таго-сяго з выступоўцаў. А раптам спатрэбіцца?

— Карайце мяне як хочаце, — заўпарціўся Вадзім, — але на з'ядзенне ваўкам я не паеду. Вы ж добра ўяўляеце, як мне будзе сярод іх. Яны з костачкамі праглынуць. Там жа рука руку мые. Хай ужо капаюць на мяне ў Цэнтральны Камітэт. Але, думаю, што пабаяцца. Супраць таго, пра што я пісаў, яны не знойдуць аргументаў. Там усё выверана.

— Ну-ну, глядзі, — сказаў старшыня, — каб пасля не было праблем. Лепш на тыя дні падскоч куды ў камандзіроўку і затрымайся, а мы ў сваю чаргу апраўдаемся, што ў паездцы захварэў і не змог своечасова вярнуцца.

Ён устаў, працягнуў руку, і Вадзім, развітаўшыся, пайшоў да сябе.

Вечарам з Люсяй абмяркоўвалі сітуацыю.

— Шкода мамы, — сказала жонка. — Усё ж неблагая ў яе была работа. Пакуль знойдзеш новую. А можа, усюды будуць чыніць перашкоды. Пэўна ж, усё Радава ўжо ведае, чый зяцёк заварыў гэту кашу. А чыноўнікі салідарныя, не дапусцяць, каб у іх кола пралез нехта ненадзейны, які будзе пастаўляць факцікі для крытыкі.

— Тады мы возьмем яе да нас. Жыць ёсць дзе. Во, канапа пустуе. І дачушка наша будзе скакаць ад радасці.

— Рана маме яшчэ сядзець на нейчай шыі. Яна гэтага сабе не дазволіць.

— Але ж, — даводзіў сваё Вадзім, — і пра пенсію некалі трэба падумаць. У калгасе яна заробіць шышы. А пойдзе тут дзе на працу, то пасля старасць будзе забяспечана. Толькі спачатку прапісаць трэба.

— У нас жа метраў не хопіць, — выказала сумненне Люся. — А так добра было б.

Цешча прыехала да іх праз дзень, давольная, вясёлая. Сказала, што цяпер яе ўсё Радава ведае, а не толькі ў сваёй вёсцы. Пайшла была ў краму, то без чаргі адпусцілі селядцоў, а на вуліцы дык і зусім незнаёмыя пачалі здароўкацца. А Петракову ўжо вынеслі вымову і, казалі, будуць рыхтаваць сход, каб скінуць з пасады. З'ехала з харомін і палюбоўніца.

— Табе, зяцёк, — заключыла цешча, — пакуль што ў нас не варта паяўляцца. Усякія правакацыі могуць быць. Кажуць, Петракоў ужо і міліцыю падвучыў, што, калі ты з'явішся на радзіме, схапіць цябе нібы ўдрызг п'янага і кінуць у выцвярэзнік. А яшчэ там і косці паламаць могуць нібы за супраціўленне ахоўнікам парадку. Так што сядзіце тут і нікуды не рыпайцеся.

На прапанову застацца ў іх назусім Вольга Іванаўна адказала катэгарычным «не».

— Як жа я хату кіну, агарод? Тамака ж усё маё жыццё. А вам у вёску хіба не захочацца прыехаць? А ўнучачка, як падрасце, можа ў мяне цэлае лета бавіцца. Мне добра, і вам будуць рукі развязаны. А тут жа і сын неўзабаве мабілізуецца. А ўжо калі прыедзе з жонкай, ды яшчэ з дзіцяткам, тады можна будзе падумаць.

## 7

І ўсё ж у гэтай кватэры яны не затрымаліся. Надта ж была цёмная. З другога боку вузкай вуліцы ўзвышаліся дамы навейшай пабудовы, таму сонца амаль што не пранікала ў іхні пакой. Ім жа, а Ірынцы тым болей, патрэбна было дзённае святло, і Вадзім усё часцей і часцей пачаў падумваць пра абмен.

Толькі ці згодзіцца хто з добрага раёна перабрацца сюды, дзе і транспарт не вельмі рэгулярна ходзіць, пры тым заўсёды бітком набіты, і чыгуначны пераезд ад'еў усе пячонкі. Бывае, спазняешся на працу, і толькі аўтобус дапаўзе да пераезда, а тут перад саменькім носам чырвоны святлафор. Недзе манеўрує паравоз, пасвіствае, а ў цябе нервы згараюць ад нецярпення: калі ж ён адпыхкае парай і сыдзе куды?

Аб'яву ён знайшоў на слупе бліз свайго прыпынку. Адзінокая жанчына шукала пакой бліжэй да дзяцей. Вадзім адразу ж з аўтамата патэлефанаваў ёй па названым тэлефоне, але адтуль — ні гуку. Пахадзіўшы хвілін пятнаццаць, ён зноў набраў патрэбны нумар. Гэты раз хрыплы жаночы голас сказаў, што яна перадасць гаспадыні пакоя, толькі каб пакінулі свой адрас і калі, у які час можна паглядзець абменьваемае жыллё. Вадзім пачакаў, пакуль запішуць, і вярнуўся дадому, папрасіў жонку да яго прыходу з працы нікуды не адлучацца. Маўляў, прыйдуць на агледзіны, таму трэба абавязкова быць дома. Тую вуліцу бліз парку Чалюскінцаў Вадзім добра ведаў. Каб там удалося пасяліцца, ды яшчэ на трэцім паверсе, лепшага варыянта ён і жадаць сабе не мог. А калі жанчына запатрабуе даплату? Што тады? Дзе ўзяць грошы? Нейкую суму яны знайшлі б, а астатняе, калі жанчына згодзіцца пад распіску пачакаць, яны аддадуць цягам некалькіх месяцаў.

На рабоце не сядзелася, і Вадзім падумваў, як бы гэта ўвільнуць перад абедам і ўжо сёння не паказваць у радыёкамітэце носа. Сказаўшы, што пойдзе лячыць зубы, ён стрымгалоў памчаўся дадому. Жанчына акурат была ў іх, аглядвала пакой, калідор, кухню, ванную. Нават папрасіла запалак і ўключыла тытан. Калі пайшла цёплая вада, супакоілася.

— Добра, я згодная, толькі мне трэба памагчы перавезці рэчы. Дзе б наняць машыну?

— Але ж спачатку давайце афіцыйна пераафармім абмен, атрымаем ордэры. Тады ўжо.

На тым і пагадзіліся. Працэдура абмену аказалася не такой ужо і складанай. Недзе менш чым праз месяц яны былі ўжо на новай кватэры. Абое не маглі нарадавацца, што ім так пашанцавала. Пакой быў на трэцім паверсе, з яго выходзіў балкон, звонку абабіты фанерай.

— Ой, дык жа і на балконе можна многа чаго схаваць, скажам, санкі, лыжы. Яшчэ што, — Люся ажно свяцілася шчасцем.

Вадзіму яна нядаўна шапнула, што зноў зацяжарыла, і прасіла парады, як быць.

— То гэта ж выдатна! — усклікнуў Вадзім. — Тады ў нас будзе ўжо паўнацэнная сям'я. Добра было б яшчэ сынка прыдбаць, — ён, расчулены, туліў яе да сябе, горача цалаваў, мацаў жывот.

— Дурненькі, — шчасліва адказала яна. — Дык яшчэ ж вельмі рана. Грубай я стану к восені, калі ўсё будзе добра.

Другі пакойчык займала выхавацельніца дзіцячага дома Іда Адольфаўна, памяркоўная старая жанчына і, дзякаваць богу, здаецца, не канфліктная. Ужо наша малая чаго не вытварала ў калідорчыку проста пад яе дзвярыма, як ні шумела, а Іда Адольфаўна, наадварот, выходзіла да малой з якім-небудзь ласункам — цукеркай ці пернікам, частавала і брала да сябе на рукі. І каб слоўка калі нараканняў з яе боку. Ні Люся, ні Вадзім ніколі не лезлі ў душу гэтай старой жанчыны, хоць і хацелі больш ведаць пра яе. Яны здагадваліся, што Іда Адольфаўна перажыла ці перажывае якуюсь драму, бо часта чулі з-за дзвярэй яе прыглушаныя даўкія ўсхліпы. Ішла на працу яна вельмі рана, а вярталася позна ўвечары. Чым яна жыла, што мучыла, які камень ляжаў у яе на

душы, заставалася загадкай. У сябе на апошняй рабоце, у аддзеле пісьмаў Вадзім ужо сутыкнуўся з жанчынай досыць сталага веку, якая ў адзін дзень хавала абодвух дарослых сыноў. Яшчэ не жанатыя, яны вечарам пайшлі прагуляцца па праспекце, не ведаючы, што той шпацыр будзе каштаваць ім жыццяў. Каля кінатэатра «Цэнтральны» яны пачулі крык жанчыны, якая клікала на дапамогу. Падбеглі, а ў маладой дзяўчыны кроў з вушэй льецца. Аказваецца, двое рабаўнікоў сарвалі ў яе з шыі залаты ланцужок з крыжыкам, а ў дадатак яшчэ з усяе сілы сашмаргнулі з вушэй такія ж залатыя ўпрыгожанні.

— Вунь, вунь яны, пабеглі ў бок вакзала.

Хлопцы, не думаючы пра сябе (а былі яны спартсмены), наўздагон нагналі аднаго з бандзюкоў, павалілі на зямлю, а другі з іх, не доўга марудзячы, з усяго маху садануў фінкай між рабрын аднаго з братоў, трапіў акурат у сэрца. Цяпер ужо і другі, таксама з фінкай, кінуўся на безабароннага хлопца. Абодва паваліілі яго, мянташылі нагамі па галаве, а пасля фінкай таксама дарэзалі.

Як хавалі, маці іх зусім страціла розум, за адну ноч, што правяла з сынамі, ссівела да непазнавальнасці. У апошні момант, калі развітваліся, яна кінулася ў яму да меншага, прасіла закапаць разам з ім. Ледзьве вывалаклі яе адтуль.

Трагедый на сваім не такім ужо вялікім адрэзку жыцця Вадзім пабачыў нямала. Кожная з іх пакідала на яго сэрцы шрам. Помніцца, як прывалаклі з загумення застрэленага фашысцкімі карнікамі бацьку, а заадно і суседа праз вуліцу. Мужчыны вярталіся з лесу, дзе нарыхтоўвалі дровы, заадно перадалі партызанам весткі пра гарнізон у Радаве. Выканаўшы адно і другое заданні, яны падыходзілі ўжо да вёскі, як іх перастрэлі эсэсаўцы і, спытаўшы праз перакладчыка прозвішчы, ад’ехаліся на загуменне і расстралялі. Бацька, казалі, станавіўся на дыбачкі, каб убачыць сваю новую хату, якую пасля ўсеагульнага пажару ў вёсцы будаваў уласнымі рукамі. Яго прынеслі на посцілцы з дзіркай у чэрапе, на якім запяклася кроў. Маці тады рвала на сабе валасы, апантана прыціскала да сябе пяцярых аціхлых дзяцей, не ведаючы, што і яе праз два гады напаткае трагічны лёс. Калі фрыцы адступалі, жанчыны, у тым ліку і маці, кінуліся ў мястэчка на склад, дзе захоўваліся горы солі. Людзі, за гады вайны зведаўшы голад на соль, як апантаныя пачалі грэбці, дзяўбці закамянелую гару. У адну з нораў сунулася па пояс і маці. А з верху ашалела білі малаткамі, тапарамі, нават хтосьці прыцёг і лом. І гара не вытрымала, лопнула зляжалым пластом уніз, раструшчыўшы многія галовы, тулавы. Сярод іх была і маці.

Успамінаючы ўсё гэта, Вадзім зараз жахаўся, як перажылі яны, сіроты, адну і другую трагедыі, праўда, адзін з меншых братоў, Лёва, пасля сутыкнення з немцамі, якія, уцякаючы, рамантавалі насупраць іхняга дома машыну і, не далічыўшыся адной з вельмі патрэбных запчастак, абвінавацілі браціка ў крадзяжы і пасля стралялі ля ягоных ног, дык вось ён, Лёва, цяжка пасля гэтага захварэў і неўзабаве памёр. Памёр на іхніх вачах у страшных канвульсіях.

Вадзім мо як ніхто разумеў чалавечае гора і, пасяліўшыся пад адным дахам з суседкай, хацеў дакапацца да прычыны яе плачу. Але, ведаў, трэба на ўсё час, цярпенне.

З пачаткам цяпла Люся паехала з малой да бабулі, каб застацца там да халадоў. Вольнага часу ў Вадзіма стала болей, і ён засеў за аповесць, у аснове якой меў на ўвазе жыццё той палескай жанчыны. Ён ведаў, што калі і напіша, то надрукаваць яе, якую б мастацкую вартасць яна не ўяўляла, будзе пра-

блематычна. У гэтыя гады крытыкі, бы галодныя сабакі, нацкаваныя ўмелай рукой, грызлі славутага ўжо на гэты час празаіка Васіля Быкава, з якім яму і Рыгору пашчасціла разам быць у Доме творчасці, сядзець за адным сталом. А гэты ж чалавек, надзелены магутным талентам, піша самую суровую праўду пра вайну, якую ён прайшоў ад пачатку да канца, быў паранены і нават памылкова лічыўся ў спісе загінуўшых. Дык каму ж, як не яму, расказаць новаму пакаленню пра жахі гэтай бойні, пра няўмелых, а часам і баязлівых камандзіраў ніжэйшага і вышэйшага звяна, якім лёс салдата — гэта нішто, звычайнае гарматнае мяса.

Вадзім, ды і Рыгор, калі сустракаліся разам, абураліся такой аглабельнай крытыкай, нават напісалі ў падтрымку сабрату па пяры і паслалі ў Гродна сумеснае пісьмо.

Вось чаму Вадзім і баяўся брацца за вострую тэму. Хай там не вайна, але ж калектывізацыя, руйнаванне цэркваў, раскулачванне, іншыя праявы таго жыцця давалі пажытак для роздуму, для абагульненняў. Калі яму ўдасца напісаць такі аб'ёмны твор, ён будзе лічыць сваё творчае жыццё не марным. Раней ці пазней і надрукуе яго. Вось жа Быкава, як ні чыхвосцяць, а ўсё ж друкуюць, калі не тут, то ў Маскве ў перакладзе на рускую мову. Крытыканам нічога не заставалася, як ляскаць у бяссіллі зубамі.

Цяпер Вадзім, зарабіўшы трохі грошай, падумваў пра тое, як купіць сабе машынку для друкавання. Увесь час некага прасіць не выпадала. А тыя старонкі новага твора, які пісаўся пакуль што няблага, ён не хацеў даваць у чужыя рукі. Усялякія машыністкі бываюць. Ён ведаў, што многія з іх з'яўляюцца сакрэтнымі супрацоўніцамі пэўных службаў, і ў іхнія абавязкі ўваходзіць сачыць і запамінаць, хто і што ім дае для перадрукоўкі. Машынкі, аднак, колькі ні шукаў, не знайшоў. А яму ж трэба яшчэ з беларускім шрыфтам, а такіх і наогул не выпускаюць. Калі дастане, то ўсё роўна давядзецца шукаць майстра, які б перапаяў літары.

Служба на радыё, між тым, пачала ўжо надакучаць, і Вадзім усё больш і больш задумваўся, каб зноў памяняць работу. Добра было б трапіць у які тоўсты літаратурны часопіс, дзе працоўны дзень пачынаецца пасля абеду і заканчваецца вельмі рана. Во тады можна тварыць. А тут — сотні пісем у дзень. І на кожнае трэба даць адказ ці згадаць аўтара ў якой-небудзь перадачы.

Аднойчы, калі быў усесаюзны Дзень рэспублікі і па маскоўскім радыё гучалі беларускія песні, выступалі лепшыя харавыя калектывы, а ў эфіры не-не дый гучала беларуская мова, водгукаў з усіх куткоў вялізнай краіны прыйшло безліч. Беларусы, раскіданыя па ўсім свеце і ссумаваўшыся па радзіме, ахвотна раскрывалі свае сэрцы, прасілі паболей такіх перадач, дзе гучалі б песні на роднай мове, такія шчымліва-сумныя, як і само жыццё. І поўныя любові і пяшчоты да сваёй зямлі, Бацькаўшчыны, да магіл продкаў. Здзіўляла, а то і абурала тое, што са сваёй рэспублікі такіх водгукаў былі адзінкі. Якім жа трэба быць зашораным і затурканым, каб не шанаваць свайго роднага-кроўнага, здымаць шапку перад чужым, хоць сваё не горшае, а ў некаторых выпадках і шмат лепшае. Давялося ўсёй рэдакцыі пісьмаў папацець, каб даць аўтарам іх годныя адказы. А па некаторых зрабіць абагульняючыя перадачы. Гэта стаміла Вадзіма, тым больш што ад начальства ніякай падзякі, быццам і не было такой падзеі. Вось чаму ён і падумваў перайсці калі ўжо не ў часопіс, то наогул на вольны хлеб, пакуль будзе працаваць над вялікім творам. Яно, вядома, рэзка абмяжуе яго ў сродках, але ж нечым ахвяраваць трэба.

Вырашыў у выхадны дзень з'ездзіць у Жорнаўку, пагаварыць з жонкай. На папярэджанне цешчы, каб на радзіне нейкі час не з'яўляўся, ён махнуў рукой: ат, хай не палохаюць. Калі ўсяго будзеш баяцца, то і жыць на свеце не варта. Трэба было яшчэ пабачыць Колю. Той даўно намякаў, што трэба паправіць горбікі на магілах бацькоў, мо нават, купіўшы цэменту, выліць карытцы, зрабіць агародку. Вадзім ушчуваў сябе, што так рэдка наведваўся на могілкі, першы не выказаўся, каб што там памяняць.

Першая сустрэла яго Ірынка ў кароценькай сукеначцы ў зялёны гарошак, загарэлая, яна кешкалася ў пяску ля лаўкі, пякла з яго аладкі. Яшчэ здаля пазнала бацьку і, падхапіўшыся, раскінуўшы шырока рукі, памчалася насустрач.

— Татка, татка пліехаў! — радасна крычала яна як не на ўсю вуліцу. Ён нагнуўся, і дачушка моцна ашчаперыла яго шыю, прытулілася шчакой да яго шчакі. Люся і цешча былі ў спальні і, занятыя сваім, не заўважылі, як яны зайшлі.

— Татка пліехаў! — першая кінулася ў спальню малая, але, зачапіўшыся за парожак, упала, выцялася галоўкай.

Вадзім падхапіў дачушку, пацалаваў, пахукаў і выняў з партфеля вялікую ляльку, а заадно і шакаладку «Алёнка». Малая адразу ж забылася на боль, заскакала па ўсёй хаце.

Люся, калі Вольга Іванаўна выйшла на кухню, прыгарнулася да мужа.

— Як жа добра, што ты прыехаў! А мы тут ссумаваліся. Коля таксама ўжо пытаўся пра цябе.

Вадзіму карцела сказаць пра сваю задуму аб вольным хлебе, але вырашыў пакуль што ўстрымацца. Вядома, жонка была б радая кожную хвіліну бачыць яго побач, але ж скуль браць грошы на такую вольніцу. Спадзявацца на выпадковыя заробкі? За іх не пражывеш. Халасцяку яшчэ куды не ішло, можна было б выкручвацца. А калі ў цябе сям'я, ды яшчэ чакаецца папаўненне ў ёй, гэта зусім іншы каленкор. Не, трэба ўсё ж цярпець, а калі няўцерп, то шукаць іншае месца.

— Як там наша суседка? — папытала жонка. — Бачыла яе ў сне, быццам яна сварылася з табой, а пасля, зачыніўшыся на кухні, доўга плакала.

— Мала бачу яе, — сказаў Вадзім. — Нейкая яна вельмі скрытная.

Вольга Іванаўна паклікала абедаць.

— Ты, відаць, і не снедаў сёння. Як харчуешся без мяне? — турбавалася жонка. — Нейкі ты зблажэлы і пахудзеў.

— Былі б скура ды косці, а мяса нарасце, — засмяяўся Вадзім. — Зблажэлы, кажаш? Ведаеш, калі прабудзеш у памяшканні дванаццаць гадзін, ды без паветра, то не толькі зблажэеш, але і прытомнасць страціш. Асабліва гэтыя апошнія паўмесяца. Вядома, столькі пісьмаў. Завалілі з ног да галавы.

Ён і сапраўды прагаладаўся як воўк. Боршч з маладых бурачкоў са сваёй грады, запраўлены смажаным салам, высербаў да донца, нават аблізаў лыжку. На другое была таўканіца з салёным агурком. Цешча пакуль што не хацела абедаць, пайшла ў агарод. А Люся, салідарная з ёй, падпёршы шчаку рукой, глядзела на мужа і, здэцца, ажно свяцілася ад шчасця.

— Нам без цябе сумна. Асабліва ноччу. Лэпаю па пасцелі, шукаючы тваю руку. Не ведаю, ці доўга я так вытрываю, не бачачы цябе кожны дзень. Бедная мая мамачка! Здзіўляюся, як яна, застаўшыся такой маладой і прыгожай, жыла і жыве адна. І ўсё дзеля нас, дзяцей. Ці магла б я так?

Прыбегла з вуліцы Ірынка, палезла на калені да бацькі.

— Крывіначка мая харошая, — прыціснуў ён да сябе дачушку. — Радасць наша з мамай. А ты хацела б мець брацікa? Ну, які б цябе заўсёды абараняў ад сабак, ад тых, хто мог бы цябе пакрыўдзіць.

— Хацю, — радасна ўсклікнула Ірынка. — Хацю бацікa.

— Ну, навошта ж ты ёй загадзя ў вушы ўводзіш? — упікнула Люся. — А раптам будзе сястрычка?

Вадзім абняў жонку.

— Скажы, Ірышка, што і сястрычка будзе не горш.

Малая зноў выбегла на вуліцу, а Вадзім, глянуўшы на гадзіннік, пачаў збірацца да Колі.

— Ты ж, можа, не забавішся?

— Не ведаю, як атрымаецца. Сходзім на могілкі, паглядзім, што там.

— Можа, і нам з дачушкай падысці? — папытала Люся. — Хай ведае, дзе яе бабуля і дзядуля пахаваны, а таксама дзядзька.

Вадзім, аднак, адгаварыў іх.

— Іншым разам, калі прывядзём усё ў парадак. Там жа, можа, і зеллем усё пазарастала.

— Зелле я парву, — прапанавала жонка. — Мне гэта не цяжка. А вось з агароджай падумайце. Тут у мамы за хлеўчыкам ёсць трубы. То каб хто вымераў і зварыў, было б добра.

— А чаго? Гэта ідэя, — усклікнуў Вадзім. — Зараз схаджу і прыкіну.

Яны выйшлі разам. Трубы сапраўды аказаліся самы раз для агародкі. І Вадзім паспяшаўся да Колі, каб дамовіцца, як іх забраць і каго папрасіць, каб зварыў па размеры. Аднак ні брата, ні Лількі дома не аказалася. Трохі пасядзеўшы на вулічнай лаўцы бліз ліпы, ён хацеў пайсці, аднак нейкая неадольная сіла змусіла затрымацца. Чамусьці ні з таго ні з сяго прыгадалася дзяцінства, гэтая хата, недалёкі адсюль лог, дзе пасвілі коней, свіней і авечак, а ў маленькім раўчуку відэльцам, прывязаным да палкі, падпільноўвалі і наколвалі на яго сліжоў. Усе дзіцячыя забавы праходзілі ў логу. Тут у вайну і пасля яе сядзелі на кучах мін, нешта вывінчвалі, нікольки не думаючы аб небяспецы. Некаторыя з цяжкіх снарадаў цягнулі да ўскрайку лесу і, расклаўшы вогнішча, кідалі ў жар, а самі адбягаліся як мага далей, каб, калі ўзарвецца, не дастала асколкам. Гэтыя выбухі чулі дарослыя. Але ніякія вокрыкі, ніякія папярэджанні не маглі спыніць небяспечных забаў. Божа, як яны выжылі і засталіся цэлыя! Сёння пра такое падумаць і то дрыжыкі працінаюць усё цела. А гульня на вуліцы ў пікара ці свінку, альбо ў хованкі, — усё гэта ўспамінаецца з ціхім смуткам, як даўно адышоўшае і незваротнае.

Вадзіму чамусьці захацелася зноў праз недалёкую адсюль вулку схадзіць на лог, ужо быў падняўся, але здаля ўбачыў Колю, пачаў чакаць, пагладзіў рукой шурпатую кару ліпы, дзе дружна шчыравалі пчолы, і адчуў такую палёгку, якой даўно не ведаў. Коля абрадаваўся, убачыўшы брата.

— Даўно чакаеш? — папытаў, паціскаючы Вадзіму руку. — А я з могілак. Аглядалі магілы бацькоў і брата. Лілька яшчэ там засталася. Вырвала ўсю траву, а я вярнуўся, каб узяць сякеру. Гэта ж нарасло хмызу, і без сякеры з ім не справіцца.

— Во, і мы сёння з Люсяй гаварылі пра гэта. Я і прыехаў, каб нешта зрабіць.

— Агароджу трэба, — пачухаў патыліцу Коля. — А то стопчуць, зруйнуюць, што будзе не пазнаць, дзе хто пахаваны. Туды ж і жывёла заходзіць. Ведама, плоту няма. І што сельсавет сабе думае?

— Там такія ж нядбайныя, як і мы з табой. Да гэтага часу не ўпарадкавалі магілы родных. Няма нам апраўдання. А з агародкай можам вырашыць. Знайсці б толькі зваршчыка. Трубы ў цешчы ёсць. Па шляху назад можна забегчы, Люся пакажа.

На могілках корпаліся як не да вечара. Коля з Лількай, калі скончылі на сёння работу, клікалі да сябе, каб павячэраць і з нагоды сустрэчы ўзяць па чарцы. Аднак Вадзім, спаслаўшыся, што яму вечарам трэба ехаць, бо тое-сёе дапісаць патрэбнае для работы, рашуча адмовіўся.

— Іншым разам, — сказаў, развітваючыся. — У наступны выхадны прыеду.

Яму і праўда трэба было зрабіць адну перадачу. Але не сёння. Гэты вечар і ноч ён, ні аб чым не дбаючы, правядзе з сям'ёй.

## 8

У дзіцячым часопісе, куды яму дапамог уладкавацца Рыгор, які добра сябраваў з рэдактарам, Вадзіму падабалася найперш тое, што не трэба было прыходзіць з саменькага ранку. Вядома, у тоўстым літаратурным часопісе яшчэ вальготней жылося яго работнікам, але ж у параўнанні з радыёкамітэтам — і гэтая вольніца была б марай кожнага журналіста. Літаратурны аддзел узначальваў стары дзіцячы пісьменнік Васіль Шукевіч, які нядаўна папрасіўся на пенсію, бо ўжо адмаўлялі пакалечаныя ў вайну ногі. Больш за тры месяцы галоўны трымаў месца для блізкіх яму людзей. Але ніхто пакуль не адгукнуўся на яго прапанову. Рыгор дазнаўся пра вакансію і настаяў узяць Гурко. Сказаў, што той піша прозу і ў паэзіі разбіраецца, бо і сам яшчэ нядаўна друкаваў вершы. Галоўны чуў прозвішча Гурко, але асабіста не быў знаёмы. Яны сустрэліся ў рэдакцыі, абмеркавалі ўмовы, і Вадзім, адпрацаваўшы належныя дні на радыё, прыйшоў на новую працу.

Дзіцячая творчасць яго захапіла, і ён з галавой акунуўся ў новую для сябе справу. Вершаў і апавяданняў прыходзіла шмат. Вядома, пераважная большасць з іх была слабізна, і ніякая праўка, шліфоўка іх не выручыла б. Напісаць жа самому за аўтара і змясціць на старонках пад яго прозвішчам было б недаравальнай памылкай. Пакуль што абыходзіўся тымі творамі, якія па мастацкіх якасцях здавальнялі ўзровень часопіса. Былі сярод аўтараў і масцітыя пісьменнікі. З тымі праблем не было, аднак галоўны не вельмі гэта вітаў, прымушаў даваць ход пачынаючым. Яно, вядома, было б правільна, каб гэтых здольных пачынаючых хапала на кожны нумар. З паэзіяй было яшчэ туды-сюды, можна, крыху паправіўшы, наскрэбці пяць-шэсць вершаў, а вось над прозай даводзілася папацець. Апавяданні былі наіўныя, на ўзроўні школьных сачыненняў, і Вадзім здзіўляўся, як Васіль Шукевіч рабіў з іх досыць прыстойныя творы. Вядома ж, перапісваў, робячы дрэнную паслугу аўтару. У адным з апошніх нумароў Гурко прачытаў такое апавяданне і, пакорпаўшыся ў шуфлядцы пісьмовага стала, знайшоў арыгінал. Параўнаў два тэксты і за галаву хапіўся: ніводнага сказа ад аўтара не засталося. Дык навошта ж пладзіць графаманаў, якія, уявіўшы сябе пісьменнікамі, пасля калечаць сваё жыццё і атручваюць жыццё яго блізкіх. Цікава, ці ведае пра такія праўкі галоўны? Калі гэта ўзаконеная практыка, то ўсё, ты, Вадзім Гурко, уліп і з гэтай работай. Так перапісваць на свой капыл прозу ў яго няма ніякага жадання.

Рыхтуючы чарговы нумар, ён рашыў схадзіць да Сініцы, параіцца з ім. Рыгор, выслухаўшы сябра, шчыра паспачуваў яму, але сказаў, што трэба цярпець і, закасаўшы рукавы, рабіць так, як рабіў яго папярэднік.

— Зразумей, — казаў Рыгор, калі яны засталіся ў ягоным кабінеце адны. — Твой галоўны — чалавек успыльчывы, ледзь што не так, то і мацюкнуцца можа, і паслаць цябе к чортавай мацеры. У яго рабоў знойдзецца колькі заўгодна. А табе ж трэба карміць сям'ю, тым больш, як сам казаў, чакаеш папаўнення.

Вадзім паслухаўся добрай парады, засеў за праўку з усёй сур'ёзнасцю. Свае творчыя планы пакуль што закінуў да лепшага часу.

І ўсё ж канфлікт выспяваў. Аднойчы, калі галоўны гнеўна вярнуў назад адзін верш і два апавяданні, а замяніць больш не было чым, Вадзім адважыўся на сур'ёзную размову. Ён паказаў адно з апавяданняў, пакрэмзаных яго рукой, і сказаў, што лепшых у яго няма.

— Тады што, — узвіўся галоўны, — закрываць часопіс?! Не ўмееш весці справу, то такія работнікі нам не патрэбныя. Можаш хоць сёння падаваць заяву.

Вадзім не стаў спрачацца, забраў рукапісы назад і цэлую ноч карпеў над імі, усё перапісваючы нанава. Раніцой, перадрукаваўшы, зноў паклаў на стол галоўнаму. Той, бы нічога і не было, не чытаючы, падпісаў у друк. Вадзім з палёгкай уздыхнуў, але крыўда на самадура засталася. Не жадаючы ўскладняць з ім адносіны і ведаючы, што прыдзіркам не будзе канца, Вадзім сам напісаў заяву і паклаў на стол галоўнаму. Той быццам і чакаў гэтага кроку і, не гледзячы ў вочы, штосьць буркнуў і падпісаў паперу. Цяпер, атрымаўшы канчатковы разлік, трэба было думаць, як жыць далей. Была спакуса пайсці ў таварыства «Веды», падрыхтаваць якую тэму і паездзіць па рэспубліцы з выступленнямі. Ён ведаў, што некаторыя з універсітэцкіх аднакашнікаў, не схацеўшы ісці ў школу і каб не ехаць на сяло, здымалі жыллё ў сталіцы і зараблялі на лекцыях нядрэнныя грошы. Напісаць дзве-тры тэмы, добра вывучыць, каб не бэкаць па паперцы, і ты можаш у любым калектыве адчуваць сябе як рыба ў вадзе.

Таварыствы былі рэспубліканскае і абласное. Вадзім пайшоў у апошняе. Сустрэўся са старшынёй, які паказаў спіс тэм найбольш, на яго думку, цікавых слухачам. Гурко выбраў пакуль што дзве тэмы, абгаварыў тэрмін, калі распрацуе. Прынясе на разгляд. Вырашыў, што не паедзе ні ў Жорнаўку, ні ў Галаброды, пакуль не зробіць работы і не зацвердзяць у таварыстве.

Праца ішла марудна. Днямі седзячы ў бібліятэцы, ён перагортваў горы кніг, брашур, вышукваў цытаты з класікаў літаратуры, як айчыннай, так і зарубежнай, сістэматызаваў. Чытаючы на адзіноце ўслых ужо напісанае, ён засякаў час, бо ведаў, што кожная лекцыя не павінна перавышаць адной гадзіны, бо інакш, стаміўшыся, людзі не стануць слухаць. Каб сканцэнтраваць іх увагу, у тэкст устаўляў які-небудзь жарт з народнага гумару, каб можна было і пасмяяцца, што зближала б яго з аўдыторыяй. О, падбор гумару, ды не абы-якога, а таго, які быў прывязаны да тэксту, забраў у яго львіную долю высілкаў. Нарэшце, калі абодва тэксты былі гатовы, ён занёс іх машыністцы, папрасіўшы перадрукаваць у трох экзэмплярах у найхутчэйшы тэрмін. Для заахвочвання, акрамя добрай аплаты, купіў дзяўчыне вялікую шакаладку. Перадрукаванае занёс у таварыства, дзе паабяцалі разгледзець цягам дзесяці дзён. Гэта Вадзіма не засмуціла. Бо трэба ж было назубок вывучыць сваю пісаніну, ды так, каб нават ноччу, прачнуўшыся, мог з любога месца працягваць весці гаворку. Зубрыць тэкст вырашыў паехаўшы да сям'і. Яны будуць спакойныя, і яму не трэба думаць пра харч.

Вестку пра канфлікт з рэдактарам часопіса Люся ўспрыняла хваравіта, нават пачала ўпікаць, што ён, мусіць, пагарачыўся, што дзеля сям'і можна

было б і цярпець. А гэтая работа — выступленне з лекцыямі — нейкая няпэўная. Сёння яна ёсць, а заўтра — няма. Частыя адлучкі з дому яе таксама не здавальнялі.

— Не ў радасць будуць тыя грошы, якія заробіш, — казала яна. — Мне трэба, каб ты кожны вечар быў побачкі, каб маглі разам схадзіць у магазін, а выпадзе з кім пакінуць дзіця, то і ў кіно. Хутка ж я саўсім нікуды не змагу адлучыцца, як народзіцца маленькі.

— А ты ўпэўнена, што маленькі, а не маленькая? — Вадзім пачуваў сябе як бы трохі вінаватым, туліў жонку да сябе, угаворваў, што лекцыі — гэта часова, што як падвернецца добрая праца, ён, не задумваючыся, пойдзе, толькі б яна не хвалявалася.

Люся трохі адтаяла. А калі ён пачытаў на памяць абедзве лекцыі, усклікнула:

— Дык ты ж у мяне прафесар! Дарэмна я цябе ўшчувала. Слухаць будуць, раты разявіўшы.

За дзесяць дзён бесклапотнага жыцця ды яшчэ на свежым паветры ён пакруглеў і пасвяжэў. Праўда, два з іх, у суботу і нядзелю, Вадзім працаваў з Колем на могілках. Агародку брат у некага зварыў, на калясцы прывезлі да горбікаў з драўлянымі крыжамі ў галовах, пачалі закопваць у зямлю, а краі абмотваць дротам. Атрымалася зусім нядрэнна. Заставалася толькі пафарбаваць. А яшчэ большую работу — выліць з цэменту тры карытцы, мо нават абкласці іх пліткай, а пасля замест крыжоў паставіць помнікі, — гэты клопат вырашылі адкласці да восені, а то і да наступнага года. На гэта патрэбны немалыя грошы, а зрабіць самім — не хапала ўмельства.

У таварыстве ведаў сустрэлі яго прыхільна і далі зялёнае святло выступленням перад любой аўдыторыяй. Рэцэнзент, нейкі прафесар, які зубы з'еў на лекцыях, адзначыў у Гурко тыя новыя станоўчыя моманты, якія адсутнічаюць у іншых лектараў — уменне весці гаворку, абапіраючыся на народныя выслоўі, выкарыстоўваючы гумар як разрадку пры напружанні. Гурко далі магчымасць выбраць раён у межах вобласці, куды мог бы ўзяць камандзіроўку хоць заўтра. Вадзім не стаў марудзіць, бо яго фінансы спявалі ўжо рамансы. Ён назваў гарадок, у якім пачынаў сваю працоўную біяграфію, дзе з Люсяй уступілі ў шлюб, яна зрабіла яго шчаслівейшым чалавекам на свеце.

— Там жа амаль што няма прадпрыемстваў, а калгасы самі ледзьве выжываюць, ім пакуль што не да лектараў. Так што падумайце.

— Я падумаў ужо, — рашуча сказаў Вадзім. — Трэба ж бываць і ў мядзведжых кутках. Я не ганюся за колькасцю выступленняў, а камандзіроўку ў любым выпадку апраўдаю.

— Ну, што ж, пахвальна, — сказаў старшыня. — Вы першы, хто выклікаўся паехаць туды.

Вадзіма вабіла гэта глушэча. Хацелася зайсці ў рэдакцыю, пагутарыць з супрацоўнікамі, нават даць ім якую гумарэску ці кароткае апавяданне. Цікава, ці выпускаецца яшчэ літаратурная старонка, якой ён аддаў шмат сіл і часу. Да гаспадыні, у якой яны з Люсяй правялі першую ноч, таксама загляне. Трэба толькі купіць ёй які памятны сувенір і, вядома, гасцінец.

І вось зноў знаёмая дарога ў гэты лясісты партызанскі край, які паспеў палюбіць усім сэрцам. Калі абапал шашы, направа і налева, пацягнуліся ўгору гонкія меднастволыя сосны, адчуў, як радасна адгукнулася і запела на ўсё гэтае хараство душа. У гасцініцы яго пазналі, далі адзін з лепшых пакояў, у якіх, праўда, не было гарачай вады. Памыўшыся і трохі адпачыўшы

з дарогі, пайшоў найперш у райвыканкам, да старшыні. У прыёмнай сядзела ўжо другая сакратарка, а на дзвярах у старшыні — шыльдачка з іншым прозвішчам.

— А дзе ж Леў Барысавіч, куды яго перамясцілі? — папытаў Вадзім.

— А вы хто будзеце? — у сваю чаргу пацікавілася дзяўчына.

— Я — былы супрацоўнік вашай райгазеты, а зараз лектар таварыства «Веды». Маё прозвішча Гурко. Прыехаў вось у камандзіроўку. Мне б пагаварыць са старшынёй наконт выступленняў.

— Таварыш Пракопчык у Мінску, будзе позна ўвечары. А намеснік яго на рабоце. Прыходзьце заўтра.

Вадзім, не вельмі засмучаны, падаўся ў рэдакцыю. Насустрач яму ішоў, пазнаў яшчэ здаля, Лявон Галкін.

— Го, якім ветрам занесла сталічную птушку ў нашу цьмутаракань? — першы, падаючы руку, усклікнуў Лявон. — Можа, зноў да нас? Тады міласці просім.

— Як бачыш, Лявоне, які моцна сядзіць на сваім троне, да вас. Толькі ў камандзіроўку. Што ў вас новенькага? Можа, вярнуўся на сваё ранейшае месца Павел Іванавіч Галаўко? Гэта ж сцапалі чалавека і пасля як у ваду кануў.

— Выплыў, выплыў быў, а пасля зноў запраторылі немаведама куды. Адтуль, браце, не вельмі лёгка выкарабкацца, — Галкін сцішыўся да шэпту і агледзеўся па баках. — У гаўно як макнуць з галавой, то ўсё жыццё смярдзець будзе. Ну, а ты як?

Вадзім расказаў пра сябе, дачушку, пра тое, што мае ўжо ў Мінску неблагое жыллё.

— Бачу, браце, што ты раздабрэў, папаўнеў, сталічны лоск навёў. А мы тут па-ранейшаму мэнчымся, лодку нашу невядома куды нясе. Матэрыялу не хапае, мой загадчык ганяе мяне як Марка па пекле. Ды яшчэ і матацыкл зламаўся і не паддаецца рамонту.

— То, можа, прыходзь у гасцініцу, а вечарам сходзім куды разам павячэраем, — прапанаваў Вадзім. — Мне ж усё цікава пра вас ведаць. Зрэшты, дам у літстаронку новую гумарэску. Яна нідзе яшчэ не друкавалася.

— У гасцініцу зайду, а каб павячэраць, то выбач, да жонкі з Барысава прыехалі родзічы, давядзецца іх прывячаць. Іншым разам як-небудзь.

Ад няма чаго рабіць Вадзім, зайшоўшы ў гасцініцу, узяў каробку цукерак і прыгожую квяцістую хустку і падаўся да Варвары Вікенцьеўны. Карцела пабачыць гэтую цудоўную жанчыну, у якой спачатку ён адзін, а пасля і з Люсяй знайшлі надзейны прытулак. Варвара Вікенцьеўна была акурат дома, сядзела на ганку і нешта цыравала.

— А божачка, якая радасць! — усклікнула яна, усхапіўшыся і абдымаючы Вадзіма як роднага сына. — Хацела вам напісаць, ды не ведала адраса, думала, што ўжо не пабачу. А жонка ж дзе? Чаму не ўдваіх?

Яна сыпала адно пытанне за другім, пасля, расчыніўшы дзверы, запрасіла ў хату. Яна ўся свяцілася дабрынёй, зычлівасцю.

— Праходзьце, праходзьце. Я зараз згатую чаго. Вы ж, пэўна ж, галодны? То я хуценька чаго пастаўлю, бутэрброды зраблю.

— Не хвалюйцеся, Варвара Вікенцьеўна, — Вадзім не ведаў, як дзякаваць гэтай жанчыне. — Мне ж трэба хутка сустрэцца з патрэбнымі людзьмі. Яны прыйдуць у гасцініцу, а заўтра ў мяне будуць лекцыі, — ён ужо расказаў, дзеля чаго прыехаў сюды з Мінска. — Тады я ўсё-ўсё раскажу, што вас цікавіць. А вы мне пра сваё. Мо ў вас новыя кватаранты?

— Нікога няма, хата пустуе, — з непадробным сумам сказала Варвара Вікенцьеўна. — Каб добры чалавек трапіўся, як вы, то чаго ж. А то, бывае, словам няма з кім перакінуцца.

Аддаўшы падарункі, Вадзім сабраўся ісці, але Варвара Вікенцьеўна, успляснуўшы рукамі, спыніла яго як не на парозе.

— А божухны, я ж забылася сказаць, што знайшла канверт з вашымі фоткамі, ну, калі вы адразу пасля ЗАГСа сфатаграфаваліся на памяць. Пачакайце, я зараз прынясу.

— Вот дзякую, што захавалі. А мы з Люсяй ператрэслі ўсё на свеце, не ведаючы, дзе падзелі. Гэта ж і праўда памяць, ды яшчэ якая.

Ён выняў з канверта тры картачкі, палюбаваўся жонкай, такой юнай, шчаслівай, усмешлівай.

— То я адну вам падпішу, Варвара Вікенцьеўна, калі вы не супраць.

— Божа, ды я і не асмелілася прасіць, — усклікнула жанчына. — Я яе пад шкло пакладу, буду ўспамінаць.

— Ну, то яшчэ раз дзякую за ўсё, — Вадзім падняўся з-за стала, дзе падпісваў фотку, выйшаў на ганак.

Пачынала ўжо цямнець, і яму хацелася перад сном яшчэ раз прайсціся па вуліцах гарадка, які стаў для яго чамусьці вельмі дарагім.

## 9

Зімой, неўзабаве пасля Новага года, нарадзіўся і сынок. Нарадзіўся дома, чаго яны ніяк не чакалі. Люся адчувала сябе няблага і не спяшалася ісці ў бальніцу ці выклікаць хуткую дапамогу. Вадзім таксама быў дома — апошнія два тыдні, ведаючы жончын стан, ён нікуды не адлучаўся. Люся папрасіла яго схадзіць у аптэку, купіць ваты. З ватай было тугавата, і ён абабег ажно чатыры аптэкі, пакуль у адной, не вельмі блізкай ад дома, знайшоў патрэбны тавар. Вярнуўся, а Іда Адольфаўна, бледная, спалоханая, папрасіла яго хутчэй бегчы да аўтамата, званіць у хуткую дапамогу. Не распранаючыся, ведаючы, у чым справа, ён, пераскокваючы праз прыступку, памчаўся на вуліцу. На хаду абмацаў кішэні, шукаючы дробязь. Пасля, успомніўшы, што дапамогу можна выклікаць бясплатна, трохі супакоіўся. Першы стрэчны аўтамат быў сапсаваны, у другім наогул жыўцом адарвана трубка. З усіх ног пусціўся шукаць трэцюю будку, але там стаяла жанчына і доўга з некім сварылася па тэлефоне. Вадзім нецярпліва тупаў вакол, паказваў жанчыне на гадзіннік, але тая і вухам не павяла. Тады ён не выцерпеў, рвануў дзверкі на сябе, голасна крыкнуў:

— Мне хуткую дапамогу. Жонка раджае.

Гэта падзейнічала, і жанчына вызваліла месца ў аўтамаце. Вадзім, набраўшы патрэбны нумар, сказаў, па якой прычыне выклік, назваў свой адрас і прозвішча. Калі прымчаўся дадому, ля пад’езда ўбачыў карэту хуткай дапамогі. У яе на насілках некага заносілі два санітары.

— Люся! — роспачна крыкнуў Вадзім.

На двор выйшла апранутая ў паліто наапашкі Іда Адольфаўна і, пачуўшы голас Вадзіма, супакоіла:

— З сынком вас. Усё добра. Не трэба хваляваціца. Хлопчык ужо ў кабіне.

Перахваляваўшыся, Вадзім нават не падзякаваў гэтай жанчыне, якая на той час аказалася дома і зрабіла ўсё, што патрабуецца для парадзіхі. Вадзім хацеў зайсці ў салон, сказаць колькі ласкавых слоў жонцы, але яму забаранілі, баючыся якой інфекцыі (акурат у гэты час лютаваў грып). Машына паехала, і

Вадзім папікнуў сябе, што нават не спытаў, у якую бальніцу яе павезлі. Зноў жа выручыла Іда Адольфаўна:

— Там я запісала, — быццам адгадваючы яго думкі, сказала яна, — нумар раддома і тэлефон для даведак.

— Божа, а я ж так доўга бавіўся, — павініўся ён. — Каб не вы, то не ведаю, што і было б.

— Ваша жонка малайчына. Цярплівая, як ні адна, мусіць, жанчына. Вы яе беражыце.

Ужо на наступны дзень Вадзім памчаўся ў раддом, спадзеючыся, што яго пусцяць хаця б у калідор і пакажуць хлопчыка.

Аднак у прыёмным аддзяленні пасмяяліся з яго нецярплівасці.

— Яшчэ пабачыцеся і налюбуецеся. А зараз у нас каранцін. Так што ідзіце дадому, рыхтуйце пялёнкі, распашонкі. А з сынулем і мамай усё будзе добра, — сказала яму ў акенцы пажылая жанчына з павязкай на твары.

— А запіску можна перадаць? — папытаў ён.

— Гэта — з дарагой душой.

Вадзім сеў у крэсла, вырваў з блакнота чысты лісток, размашыста напісаў: «Люблю, сумую, цалую цябе і ў носік нашу крывінку. Трымайся. Ты — малайчына. Вадзім».

Выпісвалася яна праз паўмесяца. Дзеля такой нагоды Вадзім рашыў узяць таксі. Перад гэтым у пакоі, на кухні, у калідоры і ў ваннай усё старанна вымыў, выцер, каб нідзе не было ні пылінкі. Таксі рашыў злавіць бліз раддома, каб не плаціць лішнія рублі. Цяпер, пакуль паедзе ў камандзіроўку і заробіць, пройдзе нямала часу, не меней як месяц. Дзіця, захутанае ў ватнюю коўдрачку, ён нёс да машыны як самы дарагі скарб. Асцярожна намацаў нагамі сходцы, а ўжо на вуліцы, паколькі было слізка, ішоў як спутаны. У таксі было цёпла, і ён, трымаючы канверт на каленях, асцярожна адгарнуў коўдрачку і ўпершыню ўбачыў сынульку. Хацелася пацалаваць у носік, аднак Люся забараніла, каб не пабудзіў дзіцятка.

— Дома ўжо, дома нацешышся, — хілячыся да мужа, казала яна. — Плакса такі, што не ведаю, у каго ўдаўся.

— Не ў мяне ж, пэўна, — засмяяўся Вадзім.

У хаце было цёпла, і яны, распрануўшыся самі, расхінулі, каб часам не запарыўся, і малога. Той усё яшчэ соладка спаў, у сне цмокаў роцікам — відаць, прыспічыла ўжо есці, і Люся пачала рыхтавацца карміць дзіця грудзямі.

— У нас жа хлеба няма, — сказала, схадзіўшы на кухню. — Як ты толькі харчаваўся, бедненькі мой.

— Цяпер я ўжо багаты, — сказаў ён. — Трэба з'ездзіць па Ірынку, прывезці іх з бабуляй сюды. Яны ж яшчэ нічога не ведаюць. Во будуць радыя.

— А як мы размесцімся? — занепакоена агледзела куткі Люся. — Маме ж трэба асобная пасцель. А Ірынку куды пакласці? З калыскі яна ўжо хутка вырасце, і так ногі ў білкі ўпіраюцца. Але яна будзе для нашага сыночка.

— Мама ляжа на канапе, а для Ірынкі трэба нешта купляць новае, — сказаў Вадзім. — У мяне яшчэ трохі грошай ёсць. А заўтра ці паслязаўтра дадуць заробленае за снежань. Так што выкруцімся.

— Хіба што так, — павесялела жонка. — А маме цяпер было б добра ў цяпле пабыць. Там жа ў яе дроў, мусіць, некалькі бярэмаў засталося.

— Тым больш трэба хутчэй забіраць. Марозы ж, перадавалі па радыё, яшчэ больш узмацняцца.

Грошай гэты раз ён атрымаў менш, чым чакаў, відаць, за некаторыя лекцыі яшчэ не прыйшлі разлікі. Аднак, пералічыўшы ўсю суму, супакоіўся. На

месяц жыць хопіць, яшчэ набяжыць і на падлеткавы ложак, які можна паставіць у нагах да іхняга.

Наладзіць такі-сякі быт — справа не з лёгкіх. Вадзіму гэта ўдалося ў той меры, якую дазвалялі фінансы. Ён ужо аб'ездзіў амаль што ўсе раёны вобласці і ўдумаў вясной, як стане суха, падацца ў больш глыбінныя раёны рэспублікі. Зноў цягнула на Палессе, але пакуль не сыдзе вада, патыкацца туды няварта. Меў ужо горкі вопыт паездкі ад радыёкамітэта. Зараз ніхто яго ў карак не папіхае. Можа выбіраць любое месца і любы дзень паездкі.

Дзеці тым часам раслі, і з цяплом цешча ўсё часцей і часцей пачала гаварыць пра закінутую хату, падгаворвала і дачку разам з малымі паехаць у вёску. Вадзіму, калі праўду сказаць, хацелася ўжо цішыні, тым больш да цяпла меркаваў закончыць даўно пачатую аповесць. Гэта калі б удалося напісаць такі вялікі твор, надрукаваць яго ў часопісе, пасля выдаць асобнай кніжкай, быў бы стымул кінуць усялякія лекцыі, цалкам аддацца літаратурнай працы. А цяпер ён быў не супраць, каб дарагія яму людзі пабылі на свежым паветры, пад крыльцам маці і бабулі. Заадно падумваў, куды б гэта паехаць летам разам з дзецьмі, каб там былі рэчка ці возера, дзе маглі б загараць, плюхацца ў вадзе, лавіць рыбу. Самым прыдатным месцам лічыў, пакуль дзеці яшчэ зусім малыя, ваколіцы Мікуціч, дзе шырокай стужкай плыве Нёман, а вакол без канца і краю лясы, дзе шмат грыбоў і ягад. Яшчэ калі вучыўся ў школе, такое месца за тры кіламетры ад мястэчка яму паказалі хлопцы. Называлася яно Лядзіны. Там было некалькі хутароў, на якіх жылі старыя людзі, бо дзеці іх параз'язджаліся хто куды ў пошуках працы і лепшай долі. У ваколіцах Лядзін, на саменькім беразе Нёмана, расказвалі старыя людзі, праходзіў Першы ўсебеларускі з'езд настаўнікаў, на якім прысутнічаў і Якуб Колас. Пасля гэтага з'езда вядомага ўжо на той час паэта царскія ўлады на тры гады кінулі ў астрог. Там Колас не марнаваў дарэмна час. Сум па малой радзіме, па лясах, барах, неаглядных наднёманскіх далях даў яму імпэт і натхненне для напісання паэмы «Новая зямля».

У гэты благаславёны Богам кут яны і выедуць з дзецьмі, каб перад зімой зусім аздаравіцца. Што зніме які пакой, а то і два, ён ані не сумняваўся. Толькі трэба з'ездзіць загадзя, усё абгаварыць з гаспадарамі, папытацца, ці можна браць малако.

Люся з захапленнем прыняла гэтую прапанову, толькі папрасіла, каб хата стаяла трохі воддаль ад вады, бо ледзь не дагледзіш — і можа здарыцца непапраўнае. Довады гэтыя былі слушныя.

Сям'я паехала ў Жорнаўку ў другой палове красавіка, які ў гэтым годзе выдаўся надзвычай цёплым, нават спякотным. Маленькі Сяргейка — так назвалі сына па ўзаемнай згодзе — добра поўзаў, быў шустрык, якіх пашукаць трэба. Ужо некалькі разоў вылузваўся з калыскі і падаў долу. За такім трэба было глядзець, не спускаючы вачэй. У Жорнаўку паехалі ўсе разам, нагрузіўшыся як валы. Галоўны груз — разабраную калыску з матрасікам, а таксама гаспадарчую сумку з адзеннем, ядой, узяў у свае рукі Вадзім. Цешча і Люся таксама цягнулі ўсяго нямала. Дзіця па чарзе бралі на рукі то адна, то другая, гэта калі Сяргейка не хацеў сядзець у калясцы. Тады яе, ужо пустую, піхала перад сабой Ірынка. Так-сяк даехалі да вакзала, селі ў цягнік. Цяпер пачалі думаць, як дабрацца да Жорнаўкі. Спадзявацца на якую легкавую машыну не даводзілася. Вырашылі, што частку цяжкіх рэчаў здадуць у багажнае аддзяленне, а самі з дзецьмі паціху пойдуць пешкі. Пасля Вадзім збегае на станцыю і забярэ астатняе.

К абеду былі ўжо на месцы. Цешча хадзіла па нагрэтай ад сонца хаце і не магла нарадавацца. Нават не звяртала ўвагі на пыл, якога за паўзімы і вясну сабралася нямала. Вадзім схадзіў да студні, выцягнуў драўляную ражку чысцюткай, бы сляза, і халоднай вады, пераліў у свае два вядры. Не змог стрымацца, каб там жа, ля студні, не напіцца. Адчуў, як гаючая вадкасць прыемна студзіць разгарачанае цела. Дома, пакарміўшы і паклаўшы Сяргейку спаць, жанчыны пачалі выціраць пыл, драіць падлогу, выграбаць попел з печы і прыпечка. Пра абед і забыліся. Ірынка, якую былі адправілі на вуліцу, першая прыбегла і нагадала:

— Есці хачу, бабуля.

— Во, на свежым паветры і апетыт нагуляла, — парадавалася маці. — А так гэтага не буду, таго не хачу.

— Зараз, унучачка, зараз я што-небудзь згатую. Вось толькі кончым прыбірацца.

Вадзім думаў, як быць яму. Зараз, калі сям'я ў парадку, самы раз з'ездзіць некалькі разоў запар у камандзіроўку. Грошай заставалася мала, а трэба ж яшчэ пакінуць жонцы з дзецьмі, цешчы, бо сваіх запасаў, апроч бульбы ў склепе, буракоў ды салёных агуркоў, ніякіх няма. А трэба ж хлеб, алей, цукар, тлушчы якія, чаго без грошай нідзе не возьмеш. А дзецям яшчэ і малако вельмі патрэбна. Карацей, круціся, браце як уюн на патэльні, але раздабудзь самае патрэбнае для сям'і. Ён вырашыў, паабедаўшы, ехаць у Мінск, вечарам пасядзець над аповесцю, а ранкам, як толькі адкрыецца таварыства, папрасіць камандзіроўку. Гэты раз у раён з багатай прамысловасцю, дзе ахвотней прымаюць лектараў і ніколі не затрымліваюцца з пералічэннем грошай.

Пакарміўшы Ірынку, бо тая таксама захацела спаць, пачалі на керагазе варыць бульбу. Бульба за зіму захавалася нядрэнна, была сопкая і буйная, і цешча планавала частку ад той, якую трэба пасадзіць і пакінуць да новай, прадаць, каб мець у запасе лішні рубель. Паелі з агурком і салёнай кількай, якую ў слоіку прывезлі з Мінска. Вадзім падняўся з-за стала, падзякаваў і выняў з кішэні грошы, пакінуўшы сабе толькі на праезд.

— А за якія шышы ты паедзеш? — папытала Люся. — Табе ж і харчавацца трэба.

— Я заўтра камандзіровачныя атрымаю, вазьму аванс паболей, каб, вярнуўшыся, нешта яшчэ вам падкінуць.

— Хіба што так. Вой, як добра разам. Так бы хацела, каб ты нікуды не адлучаўся.

Люся выклікалася, пакуль дзеці спалі, трохі яго правесці. У бакоўцы Вадзім, зайшоўшы туды на дыбачках, яшчэ раз паглядзеў на сонных дзяцей, пацалаваў жонку, і яны разам выйшлі на вуліцу. Сонца па-ранейшаму пякло неміласэрна, што для гэтага месяца было нейкай анамаліяй. Пінжак ёй не стаў апранаць, надумаў несці ў руках. Вольга Іванаўна, усё ніяк не нарадаваўшыся, што вярнулася дадому, сядзела на лаўцы пры плоце, лушчыла гарбузовыя семачкі. Вадзім, падышоўшы, пацалаваў ёй руку, падзякаваў за ўсё, і яны з Люсяй падаліся ў завулак, які выводзіў на загуменне. Далёка ісці ён не дазволіў. Аглянуўшыся, ці няма каго паблізу, прыгарнуў яе да сябе, моцна пацалаваў. Люся нават гэты раз пусціла слязу.

— Не плач, мая харошая. Месяцы праз два-тры будзем доўга разам. Мне таксама без вас будзе вельмі маркотна. Ну, а табе яшчэ і цяжка. А бульбу калі саджаць, то як-небудзь накажыце. Рыгору скажы, у яго ж і дома ёсць тэлефон, а той з-пад зямлі мяне выкалупае. Трэба ж будзе і каня прыстарацца. А пасадзіць нам Коля паможа. Так што і маме скажы, каб не перажывала.

— Я за цябе перажываю, — Люся ўсё тулілася да яго, ніяк не адпускала ісці.

— Дурненькая, чаго? Ведаеш радкі ў Сіманава? «Жди меня, и я вернусь, только очень жди».

— Буду, буду чакаць, — жонка ціхенька падпіхнула яго ўперад і, не азіраючыся, пабегла ў завулак.

Дома ў паштовай скрынцы яго чакаў прыемны сюрпрыз — ганарар на прыстойную суму з сатырычнага часопіса. «Вось бы гэтыя грошы зараз жонцы. Хоць ты заўтра не едзь нікуды, а купляй прадукты і вязі сям'і». Але, разважыўшы, вырашыў, што на тыдзень яды ім хопіць. Іды Адольфаўны па-ранейшаму не было дома, бо з яе пакойчыка не было чутно ні гуку.

— Іда Адольфаўна! — на ўсякі выпадак гукнуў Вадзім, але адказу не пачуў.

Вадзім вырашыў з гэтага ганарару купіць ёй які падарунак, бо дасюль ніяк не выпадала належным чынам аддзячыць гэтай цудоўнай жанчыне. Вырашыў, што купіць ёй найноўшы прыёмнік, таму што радыё іхняе то працуе, то маўчыць. А па прыёмніку можна знайсці любую музыку, паслухаць радыёпастаноўку, усялякія навіны. Пісаліся апошнія старонкі аповесці з цяжкасцю. Да дзвюх ночы сядзеў на кухні не разгінаючыся, хіба што папіць гарбаты, і, адчуўшы, што і гэты раз не скончыць, згарнуў паперы і пайшоў спаць. Без жонкі і дзяцей было вольна, але тужліва.

Раніцай, афарміўшы камандзіроўку, ён ужо ехаў маскоўскім поездам да Гродна.

## 10

У сярэдзіне ліпеня яны ўсе ўчатырох былі ўжо ў Лядзінах. Ад поезда дабраліся аўтобусам да Мікуціч, а адтуль дзе лясной дарогай, дзе ўзбоч Нёмана ішлі да Лядзін. Люся не пераставала вохкаць ды ахаць, любуючыся такой прыгажосцю. Сяргейку везлі ў калясцы. Ён не спаў, імкнуўся вылузацца з яе, але ж ісці ён не змог бы, а несці аніяк не выпадала. Абедзве рукі Вадзіма былі занятыя вялізнымі сумкамі. Люся таксама несла гаспадарчую сумку, у якой была на першы час яда. Яны не спяшаліся, бо да вечара яшчэ было вельмі далёка. На беразе рэчкі паслалі посцілку, пасядзелі. Выпусцілі і малога жэўжыка, які, ледзьве апынуўшыся на волі, адразу папоўз да вады.

— Во шустрык, — Люся кінулася да яго і вярнула на месца. — За ім трэба вока ды вока.

Ірынка забаўлялася з вудачкай, якую ёй даручылі несці. Пасля, разуўшыся, пачала бегаць за рознакаляровымі матылькамі, спрабуючы хоць аднаго злавіць голымі ручкамі.

— Глядзі, на пчалу дзе не наступі, — Вадзім падышоў да дачкі, памог абуць сандалікі. — А то як дасць джала, то не так заскачаш. Бачыш, колькі іх тут на кветачках, як яны збіраюць мёдзік.

— А я люблю мёдзік, — Ірынка, ужо абутая, зноў занялася вудачкай. — Татачка, а ты лыбку зловіш? Вялікую, вялікую, — яна раскінула ручкі і паказала якую.

Яны з Люсяй рассмяяліся, давольныя і гэтым пагодным днём, і тым, што доўга будуць разам на такім прыволлі.

Гаспадыня, якая даўно пахавала мужа і жыла адзінока (родны сын працаваў у Мінску на станкабудаўнічым заводзе і паказваўся дома рэдка), стрэла іх з вялікай радасцю.

— Божа, — войкала яна, — як жа вы дабраліся з такім маленькім? Гэта ж зусім няблізка ад Мікуціч. А яшчэ з Мінска ехалі.

Яна выдзеліла ім вялікі пакой, у якім было тры акны, і ўсе глядзелі ў бок бярозавага гайка, атуленага з усіх бакоў плеценым з лазы парканам. Калі трохі разгрузіліся, Сяргейку паклалі спаць у калясцы на вуліцы, пайшлі аглядаць бярозкі і наогул увесь участак пры хаце пад гонтавым дахам. З боку лесу бліз склепа стаялі тры вуллі, дзе, чуваць было нават здаля, гулі пчолы, бліжэй да хаты месціліся грады, а на другім баку хаты, ад калодзежа і далей да плоту — бярозавы гаёк. Люся, нібыта тое дзяўчо, бегала і лічыла дрэўцы. Налічыла ажно сто тры прыгажуні. Нёмана адсюль не было бачна, хоць лёгкі вецярок прыносіў з тога боку пах аеру, надрэчнай мяты.

— Божа, ды тут жа лепш, чым у тым раі. — Яна абняла аберуч бярозку, прытулілася да яе. Век бы жыла тут.

Ірынка, у лёгкай сукеначцы ў зялёны гарошак, таксама лічыла дрэўцы, бегала, хавалася ад бацькоў, гукала, каб яе шукалі.

Гаспадыня сядзела на ганку, любавалася кватарантамі, зычліва ўсміхалася.

— Таццяна Пятроўна, — крыкнуў Вадзім, — чарвякоў тут я знайду дзе? Хачу схадзіць на рэчку, мо што злаўлю. Сто гадоў не рыбачыў. Тут жа, відаць, мала хто ходзіць з вудачкамі.

— Чаму, у выхадныя дні наязджае нямала, нават з Мінска. Адзін палкоўнік у адстаўцы з самой Масквы прыехаў. Другі месяц жыве па-суседску. Ён нямала цягае шчупакоў, язёў, акунёў, а малечы дык не злічыць. Усё сушыць, адсылае пасылкамі дадому. Вы пыталіся, як з чарвякамі? А во, зараз дам рыдлёўку, каля хлява, дзе быў гной, трэба ўкапаць, там і сын неяк корпаўся, набраў цэлую бляшанку.

Пакуль Люся з дачкой бегалі між бярозак, Вадзім і сапраўды набраў нямала тлустых чарвякоў. Цяпер трэба было падрыхтаваць вудачку, праверыць лёску, начапіць кручок.

Дачка, дазнаўшыся, што ён ідзе на рэчку, напрасілася ўзяць яе з сабой. Вадзім паглядзеў на жонку.

— Пытайся ў мамы, — сказаў не вельмі ахвотна. — Баюся, будзеш шумець, распудзіш мне ўсю рыбку. Ды і камары ля вады могуць пакусаць, у нас жа нічога няма ад гэтай поскудзі.

— Хачу лібкі, — заенчыла малая, і Люся не вытрывала, прынесла з хаты шапачку і плашчык.

— Гэта, — сказала, — калі будзе заедзь і стане халадаць. Ахінешся, шапачку на галаву і сядзі ціхенька.

Яны пайшлі нацянькі, праз поплаў, які кішэў пчоламі, матылькамі, стракозамі, конікамі. Высокая трава даставала Ірынцы да падбародка, але дачушка, якая сама напрасілася на рыбалку, мужна прадзіралася скрозь гэта густое разнатраўе, пакуль не выйшлі на калёсную дарогу і дыхнулі вальней.

— Больш сюдою не пойдзем, — ён агледзеў яе тварык, ногі, баючыся, каб дзе не трапілася была крапіва і не пасекла пісягамі скуру. Але ўсё абышлося, і яны пакрочылі далей. Да рэчкі выйшлі неспадзеўкі. Трохі завярнулі ўправа, зялёнай куп’істай прагалінай прайшлі да лазовых кустоў і ўбачылі стужку Нёмана. Ды ён быў вузкаваты, чысты, не запаскуджаны каравяком, і яны, прысеўшы на траву, пачалі рыхтаваць снасці. Ірынка трымала лёску, а ён прыладжваў паплавок, грузік і кручок. Нарэшце выбралі з бляшанкі самага тлустага чарвяка і надзелі на кручок. Вадзім, загадаўшы дачцэ моцна не тэпаць па беразе, кінуў вуду на глыбокае, пачаў чакаць. Тут, у заяміне, вада стаяла ціхая

і цёмная. Відаць, глыбіня была метр-два, калі не болей. Паплавок выплыў на паверхню, пачаў рабіць невялікія кругі. Раптам яго кудысь павяло, ды так імкліва, што ледзьве вудачку не пацягнула ў ваду. Ухапіўшыся за канец, ён падсек, пацягнуў на сябе, але ў глыбіні нехта аказваў шалёнае супраціўленне.

— Тата, лібка, мусіць, — запляскала ў ладкі Ірынка, не зводзячы вачэй з паплаўка.

Нарэшце, падцягнуўшы вуду вышэй, Вадзім згледзеў вялікага, можа, на грамаў трыста, акуня, прыгожага, пярэстага, трапяткога. Каб не сарваўся з кручка, Вадзім цягнуў рыбу паволі, баючыся зачапіцца за траву ці які корч. Але ўсюды было чыста, і хутка акунь аказаўся на беразе. Ірынка яшчэ гучней запляскала ў ладкі.

— Бач, ужо ёсць і здабыча, — парадаваўся і ён. — Мама таксама будзе рада.

Ірынка баялася чапаць рыбіну, бо яна і на траве яшчэ біла хвастом, вужакай выкручвалася, шырока разяўляла, хапаючы паветра, зубасты рот.

— Баюся лібкі, — адбеглася як мага далей малая. — Татка, а яна не памлэ?

— Мама вечарам яе падсмажыць. Будзем разам есці. Ведаеш, якая смачная.

— Ну якая?

— А вось пабачыш. Зараз яшчэ кінем вудачку ў ваду.

У той вечар яны вярнуліся не вельмі позна і шчаслівыя. Ірынка хвалілася, што ўжо не баіцца рыбкі, гатова ўзяць яе голымі рукамі. Калі гаспадыні ўзялі бязмен і зважылі, то атрымалася больш чым два кілаграмы. Далі тры акуні і Таццяне Пятроўне, якая, хоць і аднеквалася, узяла пачастунак з удзячнасцю.

— А я вам свежанькага малака зараз прынясу, — сказала яна. — Карова дае столькі, што і няма дзе дзяваць. Бярыце колькі хочаце, рабіце сыры, біце масла. Калгас часам забірае ў нас малако, але то машыны няма, то бензіну, то яшчэ нейкай трасцы. Ведама, няблізка ехаць, ды яшчэ лесам. Думала ўжо здаваць нашу Лыску. Ды тут вы аказаліся. То, мяркую, хай яшчэ з годзік пабудзе. Пашы ж хапае. А сена неяк і за плотам накашу і высушу.

— Мы вам паможам, — сказаў Вадзім. — Праўда, касец з мяне не вельмі, але касу трымаць у руках магу.

— Дармо ўжо, — падзякавала гаспадыня, — але ж неяк да гэтага часу ўпраўлялася, то і зараз не застануся без корму. Вам адпачываць трэба, дзетак глядзець.

І ўсё ж сумленне не дазволіла Вадзіму застацца ў баку ад сенакоснай справы. На другі ж дзень, раніцай, пачуўшы шоргат мянташкі аб лязо касы, ён падхапіўся з пасцелі, працёр вочы і, папіўшы вады, выйшаў на ганак. На свежым паветры пацягнуўся, дыхнуў на поўныя грудзі і агляну́ўся, шукаючы вачыма, скуль ішоў гэты звон. Гаспадыні блізка нідзе не было, і ён, вярнуўшыся ў залу, дзе жонка з дзецьмі яшчэ соладка спалі, надзеў кашулю, знайшоў гумавыя боты і падаўся за хлеў. Было росна, з вечара прайшоў добры грыбны дожджык, і паветра, насычанае пахамі зямлі, блізкага лугу, ранішняй волкасцю, незвычайна бадзёрыла, надавала пругкасць рукам і нагам.

За хлявом, прывязаная доўгай вяроўкай да сасны, пасвілася Лыска, а трошкі далей, кінуўшы на траву кофту, прымервалася стаць у новы пракос Таццяна Пятроўна. Вадзім падышоў, павітаўся, як бы вінавата сказаў:

— Добрыя людзі працуюць, а мы, лайдакі, спім у шапку, акурат пшаніцу прадаўшы.

Яна, усміхаючыся, дала касу, Вадзім папрасіў мянташку, падвастрыў і, стаўшы на пачаты пракос, узяў касу ў рукі. Калі трава лягла роўным шнурам, спазнаў такую асалоду, якую даўно не адчуваў ад фізічнай працы.

— О, дык жа ў вас добра атрымліваецца, — пахваліла гаспадыня. — А прытварыліся, што не ўмееце.

— Я ж сялянскі сын. У вайну, як не стала бацькоў, усё даводзілася рабіць — баранаваць, часам касіць, накладваць вазы. Жыццё ўсяму вучыла.

— І жонка ваша, адчуваецца, працавітая жанчына.

— А то як жа! Інакш бы развод, — засмяяўся Вадзім. — Яна таксама спазнала ліха. Гадавалася без бацькі, рана пайшла на цяжкую працу. Так што мы аднаго поля ягадкі.

— То шчасця вам. Хоць цяпер пацешцеся адно адным. І дзеткі вашы будуць харошыя. А ў майго няма дзіцяці. Жыў з адной, пасля з другой звязаўся, а яна, зязюля, якіх свет не бачыў. Толькі і ведае, што строі, губная памада, смачна паесці і доўга паспаць. Дачка нейкага маёра. Прыехала неяк да нас з сынам і ўсё носам чмыхала: музыкі няма, якую б хацела, яда вясковая, не па ёй, то пчолы раздражняюць. І хоць бы які грыб падняла. А іх было процьма — падасінавікаў, баравікоў, сыраежак. Дык жа не, нагінацца трэба, а пасля чысціць, мыць. Усё сын рабіў. Упікала яго, што не паехалі ў Крым, а завёз яе на час адпачынку ў глушэчу несусветную. Таццяне Пятроўне даўно, відаць, карцела выказацца пра тое, што муляла, цяжкім каменем ляжала на душы. Пакуль ён вёў пракос, яна ішла побач, любавалася яго хваткай і спавядалася:

— Пра дзіцянё, калі мой Віця заікнуўся, то і слухаць не схацела. Кажа, буду маладосць сваю губіць, пэцкацца з пялёнкамі, ночы не дасыпаць. Тады яна бразнула дзвярыма і праз лес пачасала ў Мікуцічы на аўтобус. Уцякла ў Мінск. Ён, пахапаўшы такія-сякія рэчы, — услед. Кажу, пабудзь, сынок, дзе дзенецца, як міленькая прыбяжыць назад. Ды дзе там? Кажа, не магу, мама, без яе, люблю. Хай яна спрахне, з такой любоўю. Некалі мой, царства яму нябеснае, на руках мяне насіў, але ж я і гадзіла яму, выконвала любое жаданне. На край свету магла б пайсці за ім, не тое, што гэтая шалахвостка. Божа міласэрны, уродзяцца ж такія.

Пакуль яна расказвала, Вадзім скасіў немалы ўчастак і ўжо трохі змакрэў. Таццяна Пятроўна спахапілася, забрала касу.

— Я зубы загаворваю, а вы работу робіце. Ідзіце, паглядзіце, як там вашы. Прачнуцца, спахопяцца, а вас нямашака. І вуды на месцы. Не будуць ведаць, дзе і што.

Покуль сняданак, ён рашыў схадзіць на раку. Чарвякі яшчэ засталіся з учарашняга дня, так што капаць не давядзецца. Вечарам яны зноў схадзілі з дачкой разам, зноў прынеслі нямала рыбы. Гэты раз, калі зловіць, аддасць частку гаспадыні, астатняе пачне саліць і сушыць. У яго ўжо добрая торбачка сабралася такой рыбы. А пасля абеду сходзіць у Мікуцічы, мо ўдасца купіць там піва. Зноў жа карцела даведацца пра лёс дырэктара школы і яго сям'і, а таксама сяброў сваіх, аднакашнікаў і іншых, якіх ноччу схапілі невядома за што і звезлі, пэўна, чорт ведама куды. Бо ў Мінску нікога з іх не знайшоў, колькі ні рабіў спробаў адшукаць хоць якія сляды нявольнікаў. Ужо ж была амністыя, дык няўжо яна не тычылася палітычных, бо што ўсім ім шылі палітыку, гэта бясспрэчна, як двойчы два. Дзе цяпер Тамара Пятроўна? Куды лёс закінуў яе? Як ні добра было Вадзіму, але напамінак пра гэтых людзей не-не дый адгукаўся ў ім пякучым болем. А Аляксею Мітрафанавічу ён так і не паспеў вярнуць пазычаныя грошы. Хто ж тады ведаў, што іх наступная стрэча расцягнецца на гады?

У Мікуцічы ішоў лясной дарогай, не ведаючы, што праз тры дні ён подбегам будзе шыбаваць па ёй зноў жа ў мястэчка, пытаючыся, дзе які медпункт ці амбулаторыя. На руках будзе несці свайго сыночка. А зараз у Мікуцічах, куды ён выйшаў ля цагельні, было пустынна і глуха. Быў той пасляабедзенны час, калі цягнула на дрымоту, а хто і не спаў, хаваўся ў хаце ці на вуліцы ў ценю дрэў, каб пераждаць лютую спякоту недзе за трыццаць, якая валіла з ног і сабак, і людзей. «І чаго ў такую задуху мяне паперла сюды? — думаў Вадзім. — Там пры лузе, сярод бярозак, гарачыня так не даймае». Выпусціўшы тэніску паверх штаноў, каб разгарачаную спіну хоць трохі кранаў ветрык, ён дайшоў да школы, пры якой у часе летніх канікул было пуста, зазірнуў у двор, дзе яны некалі маршыравалі на ваеннай падрыхтоўцы, і дзе зачынаў песню «В далекий край товарищ уезжает…» нязменны запявала Янка Шакурны, а яму пасаблялі Коля Горчак і Валодзя Родзік. «Дарагія і мілыя сябры! Дзе вы? Якімі ходзіце зараз сцяжынамі, як складваецца ваша жытка?» Не думаў Вадзім, што гэтак балесна нахлынуць на яго ўспаміны, гэтак растрывожыць сэрца. Ён зайшоў у туалет, дзе некалі быў намаляваны вершнік з высока ўзнятай шабляй, быццам ён адну за адной касіў долу галовы ворагаў Бацькаўшчыны. Вядома, ад тых малюнкаў і надпісаў зараз не засталося і следу. Вабіў да сябе мост, на якім увечары яны збіраліся разам, зноў жа спявалі песні, глядзелі, як унізе чарнее і пеніцца нёманская плынь, разбіваючыся аб палі. Мілыя сэрцу краявіды і незабыўныя ўспаміны! Ён не ведае, колькі так стаяў, абапёршыся аб парэнчы, пасля, яшчэ раз акінуўшы поглядам наваколле, паціху пайшоў назад. У краме яму пашанцавала. Купіў учора завезенае піва, ажно пяць бутэлек, малым цукерак, тры селядцы, два боханы досыць ужо нясвежага хлеба, і пайшоў, нікога не стрэўшы са знаёмых, назад, у свае Лядзіны. Спёкі ўжо амаль не адчувалася, таму ішлося лёгка. Ён зноў падаўся лесам — хацеў па шляху знайсці колькі грыбоў, каб вечарам адварыць і падсмажыць. Люся ўжо чакала яго, баязліва паглядаючы на яблыню бліз іхняга акна, на якім нешта клубком чарнелася. Гаспадыні не было, пайшла ў лес, і жонка не ведала, што рабіць з тым клубком.

Вадзім адразу ацаніў абстаноўку.

— То ж рой вылецеў. Трэба хуценька браць рэшата, сетку на галаву і які ручнік. Зараз будзем зграбаць, каб рой не паляцеў куды далей. Доўга ён тут не затрымаецца. У швагра бачыў, як той аднойчы ўпраўляўся з роем, які заляцеў да іх, таму пачаў рабіць усё так, як бачыў у Юзіка. Спачатку накінуў на галаву драцяную сетку, апырскаў венікам, памачыўшы яго ў вядры з вадою, затым адзеў рукавіцы (дзякаваць богу, што ўсё патрэбнае гаспадыня не хавала далёка) і пачаў нахіляць галінкі і страсаць у падстаўленае рэшата. З вялікім клубком, туды, відаць, трапіла матка, бо пчолы пасля гэтага самі пачалі падаць да астатніх. Вадзім акуратна акрыў рэшата ручніком, завязаў па баках і занёс у цёмную кладоўку. Люся з Ірынкай наглядалі за яго работай здаля, баючыся ўкусу выпадковай пчалы.

Гаспадыня, калі дазналася пра рой і што яго злавілі, вушам сваім не паверыла. А калі схадзіла ў кладоўку і глянула, вочы яе засвяціліся ад радасці.

— Вы мне цэлы вулей уратавалі. Ну, з мяне магарыч, але, паколькі вы не п'яце, то трохлітровы слоік мёду, лічыце, ужо зарабілі. Хутка буду вымаць рамкі і качаць. У мяне ж медагонка ёсцека.

У той вечар усе былі шчаслівыя.

А праз два дні Сяргейка моцна параніў правую руку. Поўзаючы каля адной з бярозак, ён натрапіў на пабітую бутэльку і калі ўдумаў стаць на ножкі, вострае шкло зрэзала яму на далоні, бліжэй да кісці, ладнаваты кавалак жывога мяса, якое завісла на адной шкурцы. На сынаў крык і енк прыбегла мама і, глянуўшы на руку, ледзь не страціла прытомнасць. Вадзім гэты раз не рыбачыў, быў акурат дома і таксама падбег да Сяргейкі.

— Божа, што ж рабіць? — роспачна ламала пальцы Люся. — У нас жа ні ёду, ды і бінт ці ёсць. Трэба хуценька ў бальніцу. А хто адвязе?

Рану прамылі кіпячонай вадой, завязалі чыстай анучкай.

— Я хутка дамчу яго ў Мікуцічы. Там ёсць фельчарскі пункт, — супакоіў Вадзім жонку. — Усякае бывае.

Аднак Люся не знаходзіла сабе месца:

— А як заражэнне крыві? Я тады таксама памру.

Вадзім не стаў марудзіць і з сынам на руках пусціўся праз лес да мястэчка. Баяўся, хаця б медпункт не быў зачынены, хаця б там хто быў. Прыбег запыханы і абрадаваўся: народу нікога не было, і стары, у акулярах фельчар, паглядзеўшы рану, супакоіў:

— Вы, малады чалавек, прыбеглі ў свой час і ў патрэбнае месца. Ёсць яшчэ магчымасць, пакуль не засохла, прышыць шкурку, што мы зараз і зробім, толькі спачатку дэзінфіцыруем.

Сын, на шчасце, не вельмі крычаў, бо таксама быў напалоханы і не ведаў, што дзядзя робіць з яго ручкай. Калі ўсё было зроблена і забінтавана, фельчар раптам ні з таго ні з сяго папытаў:

— Вы часам не той Гурко, які вучыўся ў нас, а зараз піша гумарэскі і апавяданні?

Вадзім здзівіўся, што і дасюль даходзяць яго творы і нехта іх чытае. Сціпла адказаў:

— Так, гэта я. Але ж я так мала напісаў.

— Мала, ды ўдала, — адказаў фельчар. — Рады быў пазнаёміцца.

Вадзім хацеў спытаць у яго пра Аляксея Мітрафанавіча, але зайшла акурат пажылая жанчына з дзяўчынкай, ды і сын моцна захныкаў, і ён, падзякаваўшы і цёпла развітаўшыся, пайшоў у Лядзіны тым жа самым шляхам. Люся з Ірынкай сустрэлі іх на паўдарозе. Убачыўшы сынка жывым і здаровым, яна зацалавала яго, узяла на рукі, прытуліла да грудзей.

— Я месца сабе не знаходзіла, сыночак мой родненькі. — І ўжо да мужа: — А добра ачысцілі рану? І што з той шкуркай?

Вадзім супакоіў:

— Вопытны фельчар трапіў. Ён прамыў ранку, адарванае прыклаў на месца і зашыў, сказаў, каб праз тыдзень паказалі. А зараз нельга трывожыць, каб нічога не парушыць. І мачыць не трэба.

— Я буду берагчы цябе, сынулька мой любы. І ты, дочачка, прыглядвай за ім, калі я куды адхінуся. Ён жа такі яшчэ маленькі.

— А я ўжо вялікая, — пахвалілася Ірынка. — І ваўкоў не баюся.

— Іх тут няма, — сказаў тата. — Яны жывуць далёка, у цёмным лесе.

Гаспадыня, сустрэўшы іх, павінілася:

— Гэта ж я вінаватая, што не ўбачыла тога бітага шкла. Нейкі п’яніца, відаць, шпурнуў бутэльку, якая і разбілася аб ствол. Я ўжо ўсё абшнарыла, каб болей не было асколкаў.

У той вечар, як ні хацелася, на рыбалку ён не пайшоў, быў з сынам.

## 11

Два месяцы праляцелі бы адзін дзень. Люся з дзецьмі вярнулася да маці, а Вадзім пачаў шукаць сталую працу. Дні стаялі гожыя, без дажджу і ветру, але ўжо адчувалася недалёкая восень. Лістота ўвачавідкі жаўцела, падала долу, а ў небе не-не дый з’яўляліся кліны жураваў, якія, тужліва курлыкаючы, клінам адплывалі кудысь у райскія краіны. Была тая пара, калі дзеці рыхтаваліся да школы, бацькі куплялі ім сшыткі, пеналы, новую форму, бо са старой яны ўжо вылузаліся.

Пасля Лядзін у горадзе дыхалася цяжка, неставала паветра, і Вадзім, не вытрымаўшы адзіноты, не знайшоўшы пакуль што нічога абнадзейваючага, паехаў у Жорнаўку. Хацелася яшчэ хоць пару дзён пацешыцца воляй, да якой прывык у Лядзінах, бо, ведаў, пасля як упражэцца, то ўсё летняе будзе здавацца яму казачным сном, нерэальнасцю. Рупіла папоўніць кашалёк, бо з прыездам сюды выдаткі на ўсё патроіліся. Гэта там было ўдосталь бясплатнай рыбы, малака, а тут толькі і паспявай бегаць у магазін. Ехаць жа ў камандзіроўкі ад таварыства «Веды» чамусьці не хацелася, тым больш напярэдадні дажджлівай восені, затым зімы. Але ж нястача грошай вымушала не лічыцца з сабой. Пабыўшы два дні з жонкай і дзецьмі, ён зноў апанурана падаўся ў Мінск. Перш чым зайсці ў таварыства, рашыў наведаць Рыгора. У таго ўжо быў свой кабінет, абстаўлены неблагой мэбляй: паўкруглы стол з бліскучай паверхняй, пры ім — тумбачка, ля сцяны — прасторная шафа, з другога боку — скураная канапа, на якой можна было, зачыніўшыся, нават і ўздрамнуць.

— Го, цябе, браце, ужо і раскулачваць пара, — вітаючыся і разглядаючы абстаноўку, сказаў Вадзім. — Відаць, павысілі, пакуль я на хутары лынды біў.

— Толькі што біў, ну і многа набіў?

— Чаго?

— Лындаў сваіх, чаго ж. А ты тут быў патрэбен. Свінчук, не падаў і гуку за ўсё лета. Не ведаў, дзе цябе шукаць. Фартовая прапанова была.

— Гэта ж хто ўспомніў пра маю грэшную душу? — здзівіўся Вадзім. — Жыву мірна, сяджу як мыш пад венікам, а тут, бач, некаму спатрэбіўся. Ай, Рыгорка, каб табе было не горка.

— Вось што, годзе лясы тачыць. Вось табе тэлефон, ідзі на пошту і звані. Можа, яшчэ не позна, — Рыгор пакорпаўся ў шуфлядцы стала, выняў паперку і аддаў сябру.

— А ад цябе што, нельга? І хто мне там, па гэтым надта ж доўгім нумары, адкажа? Нейкія загадкі.

— Ад мяне нельга, па міжгорадзе нас не звязваюць, а з пошты — калі ласка.

— Нават так. Міжгорад? Ці не Нью-Ёрк? — Вадзім усё яшчэ не верыў у рэальнасць слоў Рыгора.

— Бяжы, бяжы. Папрасі Салаўёва Пятра Якаўлевіча і скажы, хто ты і што, хто паслаў. Пасля зойдзеш.

— Дзялы, — пачухаў патыліцу Вадзім і пайшоў на праспект, да бліжэйшага аддзялення сувязі. Ён ніяк не мог даўмецца, каму ён спатрэбіўся. Што за сюрпрыз? Каб не памыліцца ў наборы, ён заказаў размову на пяць хвілін праз тэлефаністку і пачаў чакаць. Калі па гучнай сувязі абвясцілі Маскву і нумар кабінкі, ён і не крануўся з месца. Тады паўтарылі нумар маскоўскага тэлефона, і ён зразумеў, што гэта выклікаюць яго. У сёмай кабіне, запаліўшы святло,

ён зняў з рычага трубку і алёкнуў. На другім канцы провада азваўся хрыплаваты мужчынскі голас, папытаў, хто звоніць. Вадзім, як падказваў сябра, назваў сябе і па чыёй рэкамендацыі ён гэта робіць.

— А-а, хорошо, что мы вас разыскали. Короче говоря, мы вас рекомендуем на должность в Москву. Есть такое издательство «Советский писатель». Нам позарез нужен человек из Беларуси.

Вадзім слухаў, затаіў дыханне. Такога павароту ў сваім лёсе ён аніяк не чакаў. Набраўся рашучасці і папытаў:

— А з сям'ёй як? Я ж не адзін. У мяне з жонкай дачушка і сын.

Голас на тым канцы провада супакоіў:

— Несколько месяцев поживете в общежитии литинститута. Слышали о таком? Если согласны, то скажу адрес, куда через полмесяца нужно будет приехать.

— Я згодзен, толькі з умовай, што калі-небудзь будзе асобная кватэра.

— Я уже сказал, что будет. Издательство наше — не шарашкина контора, чтобы обманывать.

— Усё зразумела. Дыктуйце адрас і дакладную дату, калі ў вас быць.

Яны цёпла развіталіся, і Вадзім адчуў, якая вялікая гара звалілася з ягоных плеч. Няўжо, няўжо і ён выб'ецца ў людзі, пааціраецца сярод цікавых асоб, забяспечыць неабходным сям'ю? Ён тут жа пайшоў да Рыгора, пачакаў, пакуль той вернецца ад галоўнага рэдактара.

— Ну што, што з Масквой? — папытаў Рыгор, сядаючы ў сваё крэсла. — Як я цябе сасватаў, га? З цябе, браце, каньяк. Дык пра ўсё дамовіўся?

Вадзім, не хаваючы шчасця, кіўнуў галавой.

— Сказалі нават, што і кватэру дадуць. Во дзялы! А каньяк… Пайшлі хоць зараз куды-небудзь, возьмем па чарцы.

— Не магу, дружа, я за рулём.

— Ты што, машыну ўжо маеш? — усклікнуў Вадзім. — Ну, недарэмна я казаў, што раскулачваць цябе пара. То і машыну замачыць трэба.

— Прыходзь вечарам да мяне дадому, замочым. Паліна даўно пыталася, дзе ты прапаў.

Падумаўшы, Вадзім сказаў:

— Сёння вечарам — не. Памчуся на ўсіх крылах у Жорнаўку, падзялюся навіной з жонкай і цешчай. Яны ачумеюць ад такой неспадзеўкі.

Яны ўжо спалі, калі Вадзім пастукаў у акно. Першая падбегла, паўзіраўшыся ў шыбку, Вольга Іванаўна.

— Хто там? — няголасна, каб не абудзіць малых, спытала ўстрывожана.

Пазнаўшы голас зяця, пашлэпала ў сенцы, адкінула завалу. На кухні ўключыла зыркае святло.

— Нешта, відаць, адбылося, што раніцай паехаў, а цяпер так позна назад.

— Пачакайце, — распранаючыся, сказаў Вадзім. — Адбылося. І нешта вельмі важнае адбылося.

Прыйшла Люся, якую позні прыезд мужа таксама нямала напалохаў.

— Пакарміце, тады буду спавядацца. На галодны страўнік і язык не павернецца ў горле.

— Мой ты зяцёк, не цягні жылы. А пакарміць я нешта знайду. Тут, во, бульба вараная ёсцека, дык я на патэльні са скваркай падсмажу, яйка ўзаб'ю, чаю пастаўлю.

Люся пайшла ў спальню накінуць на сябе цёплую кофту. Дачакаўшыся яе, Вадзім як не агламошыў іх:

— Хутка ўсе паедзем у Маскву. Запрашаюць на працу. Спачатку адзін падамся, а як дадуць асобную кватэру, прымчуся па вас. Так што рыхтуйцеся.

— І што гэта за кантора такая, каб адразу і працу, і кватэру? Ты, відно, зяцёк, жартуеш, на ноч гледзячы.

Люся таксама пакуль што не верыла, што казаў муж. Аднак калі ён удакладніў, што гэтая кантора — выдавецтва «Советский писатель», яны абедзве ажно за галовы схапіліся.

Цешча не магла стрымаць сваіх эмоцый.

— Во пазайздросцяць у вёсцы, калі дазнаюцца. Гэта ж не жартачкі, — яна ўвіхалася з ядой, каб дагадзіць зяцю.

— А як ты думаеш, якую кватэру нам могуць даць? — гэта ўжо Люся прыкідвала, як яны ўчатырох размесцяцца ў новых сценах.

— Пэўна ж, не пакой і не аднапакаёўку. На чатырох ужо мае быць як мінімум двухпакаёвая.

— Божа, няўжо гэта будзе? У мяне сэрца выскоквае ад радасці.

Паеўшы, Вадзім прапанаваў, нягледзячы на позні час, прагуляцца. Угаворваць жонку не трэба было. Яна хуценька апранулася як мага цяплей (ноччу абяцалі замаразкі), адпаведным чынам абулася, і абое выйшлі ў двор, пад зоркавае неба. Адразу за парогам Люся прытулілася да мужа, пацалавала ў вусны.

— Ты паглядзі, паглядзі, — яна паказала на знічку, якая, зрабіўшы ў небе вогненны след, знікла за гарызонтам.

— Няўжо і мы такія знічкі? — пыталася на вуліцы, не зводзячы вачэй з неба, усеянага мірыядамі большых і меншых зорак. — Гэта ж ходзіш па зямлі, хвалюешся, гадуеш дзетак, а прыйдзе час — і ў адзін міг ты, як тая зорачка, мільганеш апошні раз і недзе згарыш. Крыўдна. А ведаеш, сэрца мне падказвала, што ты прыедзеш сёння. Вось жа ёсць нейкая інтуіцыя. Хто б разгадаў гэту таямніцу.

— Я думаў пра цябе і вельмі расхваляваўся, дазнаўшыся пра такую навіну. Вось ты кажаш — інтуіцыя. Яна мяне сёння і давяла да Рыгора. Аказваецца, ён шукаў нас, а мы сядзелі на хутары і ў вус не дзьмулі.

Выйшлі на сценку, як удзень асветленую поўняй. Вёска спала, толькі бліжэй да рову перабрэхваліся сабакі.

— Трэба ўжо бульбу капаць, — сказала яна. — Мама начамі не спіць, усё думае, як быць з канём, хто разгоніць.

— Я заўтра да Колі схаджу, мо ён што прыдумае. Сабе ж таксама будзе разганяць. То ўжо заадно, — супакоіў жонку Вадзім. — А ўбіраць і насіць у склеп буду таксама. Некалькі дзён пабуду з вамі.

— Добра было б, — Люся мацней прыціснулася да яго.

Далей рову не пайшлі, вярнуліся ў хату. Цешча яшчэ і не думала класціся.

— Вы што, мама, — занепакоілася дачка. — Мы адно, а вам спаць даўно пара. Усё ж добра.

— Не магу ўявіць, як буду жыць без вас, дзеткі, без унукаў сваіх. Яно і радасна за вас, але ж у мяне ўсярэдзіне як абарвалася што. Месца сабе не знаходжу.

— Мы вас, мама, возьмем да сябе. Хай толькі кватэру дадуць.

— Ой, дзеткі, што я буду рабіць у тых чатырох сценах? Гэта ж хутка вынесуць мяне ўперад нагамі. Не, лепш ужо тут застануся. Маё месца — у вёсцы.

Раніцай Вадзім пайшоў да брата. Трэба было расказаць пра свой хуткі

ад’езд, а заадно папрасіць і каня. Яму пашанцавала — Коля якраз уводзіў у двор буланага, а Лілька ля склепа вытрасала мяшкі.

— Во, паспеў ухапіць. Добра, што рана пайшоў. З зубамі давялося вырываць.

Брат схадзіў у сенцы, прынёс у вядры абіркі ад бульбы, даў каню.

— Даўно цябе не бачыў, — сказаў Вадзіму. — Відаць, усё па камандзіроўках ездзіш?

Яны прыселі на ганак.

— Больш не паеду, — сказаў Вадзім. — Хутка ў Маскву падамся. Бяруць туды на працу. Так што прыйшоў і развітацца, і папрасіць, каб заадно разагнаў і цешчы.

Навіна Колю таксама ўразіла. А калі Вадзім расказаў, што дадуць і кватэру, і дзе будзе працаваць, той ажно языком зацмокаў:

— Хто б мог падумаць, што сама сталіца запросіць?

Гаварыць доўга не выпадала. Адразу ж пасля сябе Коля абяцаў пад’ехаць да Вольгі Іванаўны, разагнаць праз градку ўвесь участак.

— Толькі каб картапляніку не было, — ён падаўся да каня.

У прызначаны дзень ад’езду ў Маскву яго праводзілі Люся і Рыгор з Палінай. Рыгор прыйшоў з бутэлькай шампанскага, са сваімі шклянкамі. Пеністы напой разлілі ў посуд проста на пероне. Чокнуўшыся з усімі і абдымаючы жонку, Вадзім сказаў:

— Дарагія мае! Вы не ўяўляеце, як мне цяжка пакідаць вас. Што чакае наперадзе, не ведаю. Але добра ведаю тое, што буду сумаваць па родных, блізкіх, па мясцінах, дзе хадзілі мае ногі і якія будуць сніцца па начах. Бацькаўшчына заўсёды была ў мяне асновай усяго, і я як мог дбаў пра яе. Думаю, што і там, у другой сталіцы, я чым магу паслужу ёй. Беларус заўсёды застанецца беларусам, і родную мову з мяне ніхто і ні чым не вытравіць. Ведаю, што гавару пафасна, але ж зразумейце стан маёй душы. Я доўгія гады біўся як рыба аб лёд, пераходзіў хісткія кладкі і ўсё ж, думаю, выкараскаўся на сухі бераг. Раздарожжа, на якім я стаяў і не ведаў, у які бок пайсці, думаю, засталося ззаду.

*2009 г.*



Юрка ГОЛУБ

# З КНІГІ «АБЕРУЧ»

## ДАЛЕЧ

Перакулена зброя. Збан
Разлятаецца ўдрузг, як пырскі.
Каб не звесці надзею ў зман,
Падымаюць яе, як з прыску.

Ледавік тут слязу згубіў,
І яна валуном апала.
Кропляй-баграю, бы з губы,
Тут зара на Пятра і Паўла.

Тут на жыва на ўсе часы
Абнавіўся абраз іконны,
Каб і зрэнкі, і галасы
Свет іначылі шматваконна.

Знік варон езуіцкі збор:
Атрасалі з вяршалін лямант.
Ён пажадна раздзёр бугор,
А палянам пакінуў плямы.

Горыч згорнута. Далячынь
Заручыла сябе наперад,
Адлучылася ад лучын
І аблокі згрэбла, як пер'е.

...Ёй аберуч свой лёс панёс.
Небасхілы спрыялі. Нанач
Падаў, каб падымацца, лёс.
Адчыняла айчыну далеч.

## СЦЕЖКА

Шукалі сцежку днём з агнём.
Знайшлі, на шчасце, каб не збэсціць,
Каб дакрануцца паднябесся,
За ёй панесліся бягом.

Ды сцежку плёткі аплялі.
Душу дашчэнту засушылі.
Апала сцежка на палі
І шлях наземны завяршыла.

А свет сінечай набракаў
І быў шчымліва недасяжным.
Згубіла сцежка небакрай
І больш дзівосаў не пакажа.

---

***Голуб Юрый Уладзіміравіч** нарадзіўся 20 кастрычніка 1947 года ў вёсцы Горна Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1970). Працаваў на Гродзенскім абласным тэлерадыёаб'яднанні, у газеце «Гродзенская праўда».*

*Аўтар паэтычных кніг «Гром на зялёнае голле» (1969), «Дрэва навальніцы» (1973), «Векапомнае поле» (1976), «Помню пра цябе» (1983), «Сын небасхілу» (1989), «Поруч з дажджом» (2001), «Зажураны камень» (2002), «Брама зімы» (2004), «Багра» (2006) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (2000).*

## СЕЦІВА

Зыход. Нападоймішча кніг.
Між вокладак горычы скрутна.
Хаўтуры ў натуры. А міг
Лятучай слязою пакутны.

Зрываюцца з жахам з-пад стрэх
Старонак стрыжы. А пергамент
Не здольныя лоўчыя стрэць:
У сеціве — бездань з прагалаў.

Прымусіць Люцыпар сілом,
Каб кнігу, як жуйку, зжавалі.
Вунь «Слова...». А ў ім васілёк:
У схове — сінеча жывая!

Гаруюць рэлікты. Як жвір,
Крамсаюцца россыпы літар.
Апостраф, пакуль што жывы,
Пад горла пагрозай заліты.

Сплываюць старонкі. Святар
Нябёсы міранам чытае.
...Нібы напачатку, буквар
Хаваю з адчаем.

## ПАД ФЛЮГЕРАМ

Дзе парк эдэмскі бушаваў —
Пустая плошча.
Ірвуцца воблакі па швах —
Трашчаць, як мошчы.

Рука мінуўшчыны аб дол
Шчытом не бразне.
Шпурнуў вунь поўню дыскабол:
У перлах гразне.

Адзін з раз’юшаных грамiл
Мілосна плакаў:
Пераўвасобілі ў граніт —
Сцягнулі з плахі.

Нарэшце прарасла праз дах —
Як комін — мара.
Калісьці пару ў паяздах
Вазілі марна.

Друкуе драму дрэмны час
З забойчых вестак.
Адама з Евай мкнецца Спас
Ад саду звесці.

Налёг пітак, як на стырно,
На куфаль глюгай.
Прыгонны чатырох старон —
Слугуе флюгер.

Пытаюць вершніка наконт:
Ці верхам латва?
У стайню выстаўлены конь:
А ён — крылаты!

## ГАСЦІНЕЦ

Зэльвенскі шлях. Памаўчым.
Вытокі і вусце.
І мае прычыну на чын
Гаркота на вуснах.

Здабудзем святло не ў заган —
У Радуніц продкаў.
Насыпала памяць курган —
Не стала кароткай.

Абапал — як вокам дастаць —
Узгоркі ў шынельным.
А там, дзе ядловец прыстаў,
Завеі шалелі.

Падкова надзейна капыт,
Як лёс, абдымала.
А квет, калі сад закіпіць,
Дык кіпнем даймае.

Здавалі іспыты, як кон,
І кніга, і торба.
Фіранку дзявочых акон
Нячысцік не торгаў.

…Прысталі, дзе дождж церушыў,
Бо хмарка кіруе.

Мы з ёю амаль спарышы:
Аклад і карунак.

Пра што ты задумаўся, брат,
На сцежцы да бацькі.
Сябе ўжо адсюль не забраць:
Пазначана Збаўцам!

Разбегліся згадак сляды:
Адразу не вернеш.
Захліствае зашмаргай дых
Вясёлка з-пад вербаў.

## СКВЕР

Сорам — прыгод не мець:
Сквер нашэптвае плошчы.
Бліскала трубаў медзь —
Клікала на любошчы.

Свеціць ліхтар ілбом.
Дзесьці гайдае сферы.
Зводзіла свет любоў —
Тайна вядома скверу.

Клаўся на вечнасць шлях.
Ступіў на яго — не кайся.
Шалеў несмяротны пах,
Залучаны ад акацый.

Смялела жады рука.
Жарсці смылела скура.
А подзвігі папракаць
Гатовы хіба што дурань.

Іскры — карысць — красаць.
З карысці апухлі вусны.
Пісьмова не расказаць —
Прыспічыць — прамовіш вусна.

Ноч адплыла ў ладдзі.
Росна трава набракла.
Знік па сабе маладзік —
Хаўруснік у небаракаў.

…Тапырыць скверу каўнер:
Шугае восень з гракамі.
Лісце грабуць. І цяпер
Пах ягоны гаркавы.

## ПРЫВАТНЫЯ ЗГАДКІ З МЁРТВАГА СЕЗОНА

Згубіў званіцу пчольны звон
І ў вуллі ціхама канае.
А клёны — восені заклён —
У бронзу лісце акунаюць.

Квітнеў палетак, як кірмаш.
Трубу трымаў вясёлы колас.
Цяпер тут голасу нямаш,
А ў сонца сплюшчанае кола.

І завязаў віры мянтуз
Трывожным вусікам на вузел.
А лёд яму прыцісне вус
Стальніцай, зверху заскарузлай.

Стаміўся шлях. Зацяўся гай.
Зышоў да неба подых рутвіц.
Завея сцежку як мага
У барановы рог закруціць.

Абняў тым часам сны вятрак.
Стральцы не бавяцца куркамі.
І толькі служка ваш (дзівак!)
На марны лёс не наракае.

## ВОСЕНЬ У ЦЯГНІКУ

Кастрычніку замоўлены пралог —
Ліст прыпаў да вераснёвай брамы,
Бы разведчык похапкам прылёг:
Сам на лаве, а пад лавай браўнінг.

Ды да д’ябла скусы праз экран,
Побач — толькі дападзі вачыма
(Непрытомна не хапай стоп-кран) —
Багра! Адхіліцца немагчыма!

Крэсліць сцежкі напал перагон.
Напамінак восені — паўстанак.
І яна імчыцца праз агонь,
І дражніць яго не перастане.

Змог шлагбаум абозы закілзаць.
А дарога лёс не затуліла,
І цяпер не можа адказаць:
Колькі жарсці нанач затаіла.

Збоч нябёс і каляі наўзбоч
Вунь дымы жывыя скамянелі.
А на колах бавілася ноч.
Восень невыносна палымнела.

## АБ ЛУБІНЕ

Па аблоках яздок,
Не балючы аблiччам,
Сіні лубін. Вазок.
Бляск калёс бліскавічны.

Байкі бубну — набок.
Безліч дзён самапасам.
Лубін. Вабна. Лубок.
Лоб жарэбчыка. Ясны.

Росаў ранішні хруст.
Косы клепле дзядзінец.
Рос і косаў хаўрус.
Дзённа дзеецца дзіва.

Сухазем’я карсар:
Вастрыём не скалечыць.
Лубін. Любна. Краса
Ахвяруе сінечай.

## З ДАРОГІ

Сябе аднойчы перамог,
І жыць наперад палягчала.
І з поўнай выкладкай дарог
Спацела кайстра за плячамі.

А злоснік стаў адным з заік.
Здзівіўся, мусібыць, паплечнік.
І ўсё таму, што ты з-за іх
Закінуў роспач у запечча.

Світае ранак. Дзень пяе.
Цвіркоча коніка напільнік.
Раней ён быў амаль паэт,
Цяпер — паэзіі прыхільнік.

Ці варта бавіцца з нудой?
Вяршыцца без прыпынку жытка,
Бо зорка асвятляе дол,
А васілёк злятае ў жыта.



Ніна РЫБІК

# ВЕЧАР ПЕРАД РАЖСТВОМ

*Апавяданне*

— Гэй, дзяўчаткі, прымайце папаўненне! Новенькую да вас зараз прывяду, — з парога гукнула санітарка Зінаіда, і «дзяўчаткі», малодшай з якіх днямі споўнілася семдзесят, прыціхлі. Што значылі іх штодзённыя размовы пра адно і тое ж, бо ўсё даўным-даўно перагаворана, у параўнанні з такой навіной, ад якой залежала іх далейшае жыццё, іх з горам папалам уладкаваны паўсядзённы быт? Новенькая — гэта сур'ёзна.

Гэтая палата сястрынскага догляду, як афіцыйна называлі іх старэчую багадзельню, была, па сутнасці, іх домам. І кожны новы чалавек, якога тут пасялялі, воляй-няволяй станавіўся членам іх сям'і, з якім давядзецца доўга ці коратка, але знаходзіцца разам дні і ночы. Яны ўтраіх ужо больш-менш прыцярпеліся, прыцерліся адна да адной. Звыкліся з тым, што бабка Любка — нават для старэйшых за сябе каляжанак яна была «бабкай» — храпе ноччу, а Міхайлаўна, як усе яе называюць, нават доктар, любіць камандаваць, што ляжачай Сцепанідзе трэба часта мяняць памперсы… А які характар у той, новенькай? Хто яна такая? Ці ўжыўчывая, ці не скандальная, ці пры памяці, ці «дружыць» з галавой? Усялякіх прайшло цераз гэтую палату, розных пабачылі яе доўгажыхаркі…

— Зіначка, а адкуль яна? — паспрабавала выведаць падрабязнасці пранырлівая Міхайлаўна, пакуль санітарка спехам перасцілала ложак.

— Ой, не ведаю, дзяўчаткі, самі потым распытаецеся. Адно скажу: на сваіх нагах, хоць і слабенькая. Дачка яе на машыне даставіла — круце-еннай! Як каралеву, — закаціла вочы пад лоб санітарка. — Цяпер паперы афармляюць. Пасцель во сваю прывезла, новенькую. І яшчэ дзве на змену. А сумак прыцягнула — нібы ў санаторый.

Зіначка выпырхнула з палаты, а жанчыны засталіся ў трывожным чаканні новай суседкі.

Неўзабаве дзверы расчыніліся — і на парозе ўзнікла маладжавая жанчына

---

*__Рыбік Ніна Аляксееўна__ нарадзілася 16 студзеня 1962 года ў вёсцы Уласы Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці (пасля аварыі — у зоне адчужэння). Скончыла Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум (1980) і факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта (1990). Працавала ў хойніцкай раённай газеце «Ленінскі сцяг». З 1989 года жыве ў Астраўцы, працуе ў рэдакцыі раённай газеты «Астравецкая праўда», з 1992 года — галоўны рэдактар газеты.*

*Аўтар кніг апавяданняў — «Права на адсяленне» (2001) і «Свае і чужыя» (2008).*

ў шыкоўным норкавым футры да пят, з прыгожай прычоскай, якая беражліва вяла пад руку старэнькую жанчыну.

— Ну вось, мамачка, гэта твой ложак. Бачыш, бялізна чысценькая, свежая — я спецыяльна прывезла некалькі новых камплектаў у бальніцу, каб табе своечасова мянялі. І сяброўкі ў цябе тут будуць, не тое, што на тваім хутары — і загаварыць няма з кім. А тут вам разам весялей. Да таго ж пад прыглядам урачоў, а то ты ў адзіноце зусім абяссілела, прадуктаў поўны халадзільнік, а ты нічога не ясі…

Маладуха без упынку шчабятала, спрытна выстаўляючы ў тумбачку яркія пачкі і пакецікі.

— Тут табе на першы час хопіць, а я потым прывязу яшчэ, не турбуйся. А калі чаго захочаш, то грошы я пакінула ўрачу, папросіш, табе купяць — я дамовілася. Еж, не шкадуй сабе нічога.

Старая моўчкі глядзела на тое, як мітусілася дачка, і маўчала.

Калі тая ўжо ўсё спарадкавала і прысела на ложак, ціхенька, нібы баючыся, абазвалася:

— А мо б мы, дачушка, перачакалі хоць бы святы? Так не хочацца на Каляды ў гэтую бальніцу… Каб дома — там, здаецца, і сцены грэюць…

— Мама, ну колькі можна, — пыхнула чырванню маладуха. — Мы ж з табой ужо сто разоў усё перагаварылі, пра ўсё дамовіліся. Ну што, скажы, ты будзеш рабіць адна ў хаце на гэтае свята? Ды яшчэ з тваёй галавой… Я прыехаць не змагу — я ж казала табе, што ў адпачынак на Канары з Валодзем едзем. А потым, як вярнуся, у мяне пачнецца гадавая справаздача, баланс — зноў будзе цяжка вырвацца. А так ты будзеш пад наглядам, з людзьмі. І табе лепш, і мне спакайней. — Убачыўшы матчыны павільгатнелыя вочы, крыху змякчыла тон.

— Мамачка, ну не сярдуй, калі ласка. Я ж таксама маю права на асабістае жыццё. Я б даўно забрала цябе, але пакуль з Валодзем усё так няпэўна… Баюся, што калі стану разрывацца паміж табой, Волечкай і ім, то ён кіне мяне і сыдзе да той, якая ўвесь час будзе прысвячаць толькі яму — павер мне, такіх хапае. А такія мужыкі, як Валодзя, на дарозе не валяюцца. У мяне, можа, апошні шанс уладкаваць асабістае жыццё — не забывай, колькі мне гадоў. А тут ты са сваімі капрызамі… Я ж не пакідаю цябе — прашу пажыць тут крыху, пакуль я ўладкую свае справы. Думаеш, мне лёгка было дабіцца гэтага месца?

— Ды не, я нічога…— хуценька выцерла вочы бабуля. — Не звяртай увагі — гэта ўжо старэчае. Едзь адпачывай, абы табе было добра.

Дачка, спехам чмокнуўшы маці ў шчаку і кінуўшы жанчынам у палаце на развітанне: «З надыходзячым вас святам! Не хварэйце!» — знікла за дзвярыма, пакінуўшы пасля сябе водар дарагога парфуму, які толькі падкрэсліваў пах Сцепанідзіных памперсаў.

У палаце на нейкі мамант завісла цішыня, у якой чулася толькі ціхенькае пахліпванне навенькай.

— Ну што, суседка, давай знаёміцца — нам, падобна, яшчэ доўга давядзецца жыць разам, — як звычайна, узяла ініцыятыву ў свае рукі і парушыла маўчанне Міхайлаўна.

І прадставілася:

— Я — Таццяна Міхайлаўна, але ўсе проста Міхайлаўнай клічуць — і ты так заві. У былым — партыйны работнік. А зараз вось, як і ўсе тут, — нікому непатрэбна: ні партыі, ні народу… Ля акна ляжыць Сцепаніда, гаротніца наша…

Старая, пачуўшы, што размова ідзе пра яе, наколькі магла, павярнула галаву і кіўнула ў знак вітання.

— А там вось — Любаша, хоць усе яе бабкай Любкай клічуць. А цябе як завуць? Адкуль прыехала? Ты не супраць, калі мы без цырыманіялаў, адразу на ты будзем — усё ж мы тут не проста суседзі, а, можна сказаць, сужыцелі, хе-хе.

— Якое там, канешне ж, не супраць, — хліпнула новенькая. — Вера я. Адсюль, з нашага раёна, з хутара. Хаціна там мая засталася, і сабачка, — гучней заплакала бабуля.

— Вось ужо і сапраўды кажуць: дай бог дзеці — і шчасце ў дзецях, — ці то шчыра паспачувала, ці захацела выклікаць на размову Міхайлаўна.

— Вы што, пра маю дачку, пра Галечку? — адразу перастала плакаць Вера. — Не трэба яе асуджаць — яна харошая.

— Ды ўжо ж, бачылі, якая харошая. Маці перад святам у багадзельню спіхнула, а сама на Канары з палюбоўнікам рванула, — у Міхайлаўны «пачакай» не было, яна заўсёды і ўсім рэзала «праўду-матку» ў вочы, не зважаючы, што можа некага пакрыўдзіць ці зняважыць.

— Ну што вы такое гаворыце? — замахала рукамі Вера. — Што вы ведаеце пра яе і пра мяне, каб так гаварыць?

— А што тут ведаць? Вядома, такі сакрэт… Маці, пэўна, начэй не дасыпала, апошнюю капейку ціснула, каб ёй такое футра справіць, а яна зараз гэтымі заграічнымі цукеркамі ды пернікамі хоча адкупіцца.

— Міхайлаўна, супакойся, — прымірэнча абазвалася са свайго ложка бабка Любка. — Ці зайздросна, што табе такіх пернікаў і цукерак ніхто не прывозіць? Дык Вера, раз такую багатую дачку мае, з намі падзеліцца сваімі прысмакамі. Праўда, суседка?

— А як жа — дзе ж я адна столькі з’ем! Тут на ўсіх хопіць, — узрадавалася Вера, што можа хоць неяк рэабілітаваць дачку ў вачах суседак па палаце.

— А пра Галечку вы не гаварыце так — яна харошая, — працягвала жанчына абараняць сваю крывінку ад нападак. — Толькі лёс у яе нешчаслівы… Я саграшыла ў маладосці, яе без шлюбу нарадзіла — вельмі ж дзіцятка хацела. Не пабаялася ні Божага суда, ні людскіх языкоў. Мужа мне Бог не даў, думала — хай хоць дзіцятка будзе, суцяшэнне на старасць гадоў…

— Ну вось і суцешылася, — зноў не змоўчала, хмыкнула Міхайлаўна.

— Яна добрай, спагадлівай расла,— нібыта і не чула тых слоў Вера. — Заўсёды мне дапамагала, раілася, дзявочыя сакрэты свае расказвала. Вучылася добра, пасля школы ў інстытут паступіла, вывучылася. На вялікай фірме цяпер працуе, самым галоўным бухгалтарам. З работай у яе ўсё добра, паважаюць яе, грошы добрыя плацяць. А жыццё вось не склалася — як і ў мяне. Таксама ў дзеўках дачушку нарадзіла. Я ўжо так Бога маліла, каб паслаў ёй пару. Вымаліла, вочы б мае яго не бачылі… — у Веры ажно твар перасмыкнуўся ад успаміну пра даччыну «пару». — Начальнік яе. Бачыла я яго — прыязджалі аднойчы разам. Адно слова — хлышч. Не дзіва, што і замуж за такога ніхто не пайшоў — калі б добры быў, то ці хадзіў бы да сарака гадоў бабылём? Даўно ўжо нехта да рук прыбраў бы. Адна мая дурнічка ўтрэскалася, вочы ёй засланіў, свету белага за ім не бачыць… А што — умее падысці культурна, словы розныя гаворыць, якіх я і не чула ніколі. Толькі мяне не правядзеш! Я ж бачу, што нічога сур’ёзнага ў яго ў галаве няма. Пабавіцца з маёй дачушкай дый прагоніць. Добра, як толькі са сваёй спальні, а калі яшчэ і з работы? Але што ты ёй скажаш, хто цяпер нас, старых, слухае? Яны ж, маладыя, лічаць,

што ўсё лепш ведаюць. Як толькі завяду размову, адразу: «Мамачка, ты нічога не разумееш. Я яго кахаю, ён мяне кахае — не перашкаджай мне будаваць сваё шчасце». Кахае, як жа… Ды я жывая ў зямлю палезла б, каб ведала, што гэта яе шчасце! Ато ж глупства адно. Ну скажыце, калі любіш чалавека, то ці ж можа замінаць яго родная маці? Ці дачка? А то Волечка і школу толкам не закончыла, у тэхнікум паступіла ды ў інтэрнат пайшла, каб ім не перашкаджаць. Мяне вось у гэтую бальніцу па блаце ўпіхнула, каб клопату не мець. А ў саміх адны любошчы ў галаве. Я ведаю — той чорт дамовіўся, яна б сама да такога не дадумалася. І грошай такіх не мела, і знаёмых… Не будзе з гэтага яе кахання толку, ох, чуе маё хворае сэрца, што не будзе. А яна, мая Галінка, яна добрая, вы не думайце. Толькі ў людзях не разбіраецца, таму і падманваюць яе ўвесь час… То той, ад каторага Волечку панесла, то гэты вось прайдзісвет… Няўжо за мае грахі дачушка расплачваецца? Даруй, Госпадзі, мне маё аддай, не перакладвай на дзіцятка маё.

— Ды ёй, падобна, і свайго хопіць — яшчэ і ўнукам застанецца, — не вытрымала, перабіла яе маналог Сцепаніда.

— Ды я і не паехала б нікуды, сядзела б у сваёй хаце, — працягвала Вера. — Ну і што, што адна? Я ўсё жыццё адна, прывыкла ўжо. Але ногі ўжо не ходзяць, дроў прынесці — і тое цяжка, за дзень па тры паленцы ледзь нацягаю. А найгорш, што забывацца стала ўсё чысценька. Вось як маладой была, як на вячоркі хадзіла, як з Паўлікам сваім любілася — усё памятаю да драбнічкі. А ці ела сёння — ніяк успомніць не магу. Бывае, прачнуся — і не магу зразумець: ці то развідняе за акном, ці змяркаецца? Пастаўлю чайнік на газ — і забудуся, а ён кіпіць, кіпіць... Ці печ выпалю, а юшку не закрыю… Страшна неяк — і ёй, і мне. Вось і ўгаварыла: едзь, кажа, мама, да людзей, а я цябе праведваць буду. Толькі, напэўна, не хутка я яе дачакаюся, — зноў усхліпнула бабуля.

— Не плач, Вера, не адна ты такая. Шчаслівыя тут сваю старасць не дажываюць, у кожнага сваё гора… — рыпучым, як у дзеркача, голасам, прарыпела ад акна Сцепаніда. Цяжка перавярнулася на другі бок, тварам да людзей і прадоўжыла:

— У цябе хоць ёсць дачка, унучка, ёсць каго чакаць у госці, ёсць за каго маліцца, на што спадзявацца. А я дык на самай справе ўсё жыццё адна… Памру — і следу майго на зямлі не застанецца. А ўсё з-за сваёй дурной галавы…

— А што ж такога нарабіла? — падзівілася Вера.

— Дык жа якраз і не нарабіла. Ты вось граху не пабаялася, нарадзіла дачушку, а я дык не асмелілася. А сястра мая нічога і нікога не баялася, нараджала аднаго за другім — ажно траіх. І ўсё ад розных бацькоў. Шабутная яна была, гуляла напрапалую. Навадзіла поўную хату малечы, а карміць, адзяваць-абуваць за што? Галеча… Да работы яна ніколі асабліва не рвалася, усё больш у пагулёнкі. А дзеткі ў чым вінаватыя? Яны ж есці-піць хочуць. І такія ж харошанькія ўсе — як анёлкі. Шкадавала я іх. Глядзела, пакуль сястра з мужыкамі мілавалася. А потым неяк да мяне ўдавец пасватаўся — паглядзеў, мусіць, як я з чужымі дзецьмі важдаюся, не кожная маці так сваіх глядзіць. Ды адмовіла я яму: падумала — а пляменнікаў куды дзяваць? Усё ж родная кроў… Іх з маці-зязюляй пакінь — дык прападуць зусім. Так і гадавала іх. Харошыя выраслі, прыгожыя, разумныя. Павывучваліся ўсе, раз’ехаліся, хто куды. Пакуль маці жывая была, то прыязджалі — і ёй падарункі везлі, забыліся, як яна іх глядзела. І мяне праведвалі, нічога не скажу. А як яна памерла…

Дый не крыўдую я на іх. Ну як ім ехаць: адзін у Расіі, другі — у Літве, дзяўчына, тая ўвогуле замуж за ваеннага пайшла, па ўсім свеце за ім матаецца… Ды і на што мне наракаць — не свае ж… Дзякуй богу, што пенсію плацяць, палата вось гэтая ёсць, дык хоць накормяць добрыя людзі ды абмыюць — не даюць гніць зажыва, а так у сваёй лядашчай хаціне даўно ад холаду ды голаду скалела б… Але часам думаю: пайшла б тады за таго ўдаўца, выгадавала б яго дзетак, а там, можа, Бог і сваё даў бы — глядзіш, і не ляжала б тут з вамі, не капціла паветра…

— Гэта яшчэ бабка надвае варажыла, — абазвалася бабка Любка. — Я вось і пайшла, і глядзела, як родных, а ўсё роўна — тут, разам з вамі…

— А чаму, Любачка? — прыўзняла галаў Сцепаніда. — Ты і не расказвала ніколі…

— Дык пра што расказваць? Пра сорам свой, пра ганьбу? Маладая была, агністая, баявая — цяпер і ўявіць мяне такой цяжка. Зямля пад нагамі гарэла. На танцах мне роўнай не было. Гарманіст чубаты да мяне прывязаўся. А мне сямнаццаць гадоў, ніколі ні з кім за руку не патрымалася. Закахалася, як звар'яцела. А ён: «Любачка, мілая, ты адна такая ў свеце, у суботу сватоў зашлю. А сёння, ластаўка мая, давай пабудзем разам». Пабылі… Яго назаўтра і след прастыў, а я з пузам засталася… Спалохалася — што будзе? Бацькі ў мяне строгія, набожныя, пабаялася, што такой ганьбы мне не даруюць… Сяброўка параіла: «Зрабі аборт, ніхто і ведаць не будзе пра твой грэх. Я цябе да сваёй цёткі ў горад адвязу, яна некалі акушэркай працавала, для сваіх людзей можа і дома гэтую справу зрабіць». Зрабіла… Ледзь з таго свету выкараскалася. Вядома, без бальніцы не абышлося, і ўсё наверх вылезла. Доктар адразу сказаў, што пра дзяцей мне і марыць не варта. А як жа не марыць, дзеля чаго ж тады на свеце жыць? Я і ў садок нянечкай працаваць пайшла, каб хоць чужых дзетак за змену на руках патрымаць, выцалаваць ды пачмякаць. А сама ж прыгажэнная — сёння, вядома, у гэта цяжка паверыць, а тады… І адзін за мной увіваецца, і другі сохне… А я што ж? Я — бяздзетная, нашто ж мне некаму свет завязваць? Усім ад варот паварот даю. А тут у аднаго чалавека з нашай вёскі, парторгам ён у калгасе працаваў, жонка ад родаў памерла, двое дзетак засталося. Хлопчыкі-пагодкі да нас у садок хадзілі. Як пабачаць мяне — бягуць, ручкі раскінуўшы: «Цёця Люба, цё-ё-ця Люба!» Неяк старэйшы падышоў, прытуліўся і мамай назваў — у мяне сэрца ад пяшчоты і жалю зайшлося. Калі ён сватацца прыйшоў, я аднаго баялася: занадта малады ён для мяне. Мне пад саракоўку бралася, а ён толькі трыццатнік размяняў. А ён: «Якая розніца, каму колькі гадоў? Мне лепшай, чым ты, маці для сваіх дзяцей не знайсці». Пайшла, хоць і пабойвалася. І не дарэмна. Пакуль дзеці раслі ды я маладзейшай была, усё толкам ішло: сям'ю глядзеў, мяне шанаваў. А потым дзеці выраслі, раз'ехаліся… Мне ж за клопатамі, за дзецьмі, за гаспадаркай не было калі за сабой асабліва глядзець: твар памыла — дый добра. А тут маладая аграномша ў калгас прыехала: туфлі на абцасах, стан — як перашчыкнуць, у вачах чорцікі скачуць… Вядома, я супраць такой — старая… Ну, яму чорт у рабрыну і стрэліў. Спачатку ўпотайкі да яе бегаў. А потым прыйшоў, слязьмі просіцца: «Жыць, — кажа, — без яе не магу. Даруй». Даравала — не даравала, а ён усё роўна да той пайшоў, я сама-адна засталася. Ды ён, праўда, таксама нядоўга са сваёй маладухай нажыў: абабрала яна яго да ніткі, а потым, як на пенсію пайшоў, гэткі ж крэндзель выкінула, як і ён са мной: у горад з маладым палюбоўнікам уцякла. Каб ён да мяне вярнуўся, папрасіўся, я прыняла б... Шкадавала яго, дурня гэткага. А ён рукі на сябе налажыў. Ганьбы не вынес.

Ці мо і сапраўды так моцна кахаў тую фіфу? Дзеці? А што дзеці — я ж ім не родная. Не, не забываюцца: пісьмы пішуць, пасылкі шлюць да святаў. Ды яны і не ведаюць, што я тут, не пісала я нічога — навошта? Забраць да сябе яны мяне ўсё роўна не забяруць, ды і не паеду я: што мне там рабіць, у іх Маскве? Я лепш тут, сярод сваіх людзей. Вось на лета паеду назад у сваю вёсачку, прыбяруся ў хатцы, пасаджу цыбульку ды гурочкі. А на зіму зноў сюды стану прасіцца: цяжка адной зімаваць…

— А ты, Міхайлаўна? — павярнулася баба Вера да іх актывісткі, якая стала сама на сябе непадобная: унурыла голаў і думала пра нешта сваё..

— Што — я? — з выклікам перапытала тая.

— Ты чаго тут жывеш? Бяздзетная ці забытая?

— І не бяздзетная... І не забытая… Грэшніца вялікая. Большая, чым вы, чым кожная з вас і ўсе разам. Не адмаліць мне свой грэх — дый маліцца я не ўмею, не навучылася за жыццё. І не адплакаць, колькі жыць буду, — па шчоках «жалезнай лэдзі» пакаціліся слёзы. І так нязвыкла было бачыць гэтую жанчыну, заўсёды ўпэўненую ў сабе і ў тым, што яна робіць, заплаканай, што ўсе прыціхлі ў прадчуванні, што і яна зараз раскажа сваё, патаемнае.

— Такога, як я, ніхто з вас не ўтварыў. І я за справы свае тут век дажываю. І яшчэ мала мне гэтага, мне не такія пакуты трэба трываць, каб кроў у сэрцы запяклася…

— Госпадзі, ды што ж ты такога зрабіла?!

— Што? Дзіця сваё на той свет звяла — вось што. Ніколі нікому пра гэта не гаварыла, але раз ужо ў нас сёння такі вечар…

Міхайлаўна крыху памаўчала, нібы разважала, працягваць далей ці не варта. Ды, відаць, і ёй трэба было хоць раз у жыцці паспавядацца — калі не святару, то хоць суседкам па палаце. А затым бясколерным голасам, без усялякіх эмоцый, стала расказваць:

— Дачушка ў мяне была, адна-адзіная. Больш я нараджаць не схацела, хоць муж і прасіў. Мне не да таго было, у мяне грамадскія справы, кар’ера: мяне то ў дэпутаты выбіралі, то сакратаром партарганізацыі прызначалі... А пачнеш дзяцей нараджаць ды ў дэкрэтах сядзець, то пра цябе за гэты час і забудуцца ўсе — так я вырашыла. Падумала: хай яна ў мяне адна, але затое ў яе будзе ўсё. У яе і сапраўды было ўсё, ніхто з яе равеснікаў і блізка таго не меў. Але расла яна не эгаісткай, была ціхай, паслухмянай, стараннай, вельмі сціплай. І закрытай — нічога мне пра свае дзявочыя таямніцы не расказвала. Я выпадкова, ад чужых людзей, даведалася, што яна сустракаецца з суседскім хлопцам. А той толькі з турмы вярнуўся: яшчэ старшакласнікам узяў у бацькі матацыкл пакатацца, дзяўчыну пасадзіў ззаду — і перакуліўся. Яму нічога, а дзяўчына загінула. Яму нямнога далі, але ж з каго турма чалавека зрабіла? А тут — мая адзіная дачушка, мая надзея, толькі школу закончыла! Я адразу сказала: нізавошта! А яна, такая спакойная і паслухмяная, заўпарцілася. Кахае яна яго — ці бачылі вы такое?! Я і па добраму, і крыкам — нішто не дапамагае: кахаю і замуж за яго пайду! Ну, тады я так прама і рубанула: толькі цераз мой труп! Бо гэта — канец маёй кар’еры: хто мяне куды пусціць з такім зяцем? А значыць — і становішчу нашай сям’і, дабрабыту. Урэшце, канец і яе бліскучай будучыні, якую я ёй прыгатавала. А яна так дзіўна паглядзела на мяне і сказала: «Не, калі праз твой труп, то не трэба. Не варта маё шчасце такой цаны». Я ўзрадавалася — думала, адумалася яна, паслухала мяне, як і заўсёды. А яна ноччу павесілася ў сваім пакоі! На паяску ад халаціка. Тоненькі такі паясок, нейлонавы — халацік я ёй з Балгарыі прывезла, ні ў кога такога не было…

Муж мне даваранць не мог, ён з самага пачатку казаў: не перашкаджай ёй, хай жыве сваім жыццём. Перажываў моцна і ўсяго праз год памёр: сэрца. А ў мяне яно, мусіць, жалезнае, калі ўсё гэта вытрымала — і да гэтага часу б'ецца, ніякая халера яго не бярэ. Так што ты, Вера, паслухай маёй парады, нічога сваёй дачцэ не кажы: хай жыве, як знае, як сэрца ёй падказвае…

— Што вы, дзяўчаткі, святло не запальваеце? — адчыніліся дзверы палаты і на парозе ўзнікла Зінаіда з маленькай штучнай ёлачкай у руках. — А я вам свята прынесла, прымайце! — паставіла яна ёлачку на падаконне і ўключыла зіхатлівыя агеньчыкі. Іх рознакаляровы бляск, здаецца, зачараваў усіх: жанчыны ў палаце прыціхлі і моўчкі глядзелі на прыбраную ёлку, нібы ўпершыню ў жыцці бачылі такі цуд. І кожная думала пра сваё…

— Зараз вячэру прынясу, — працягвала Зіначка. — Яна ў нас сёння царская, святочная. Дачка бабы Веры столькі прысмакаў навезла — на ўсю бальніцу. Нават па кілішку каньячку вам дзеля свята налью са свайго гасцінца — для расшырэння сасудаў.

І дадала жартам:

— Толькі не буяньце потым, не выдайце доктару. А то выпруць мяне з бальніцы, і вас заадно — што тады рабіць будзем, дзяўчаткі мае, сяброўачкі? А пакуль я вам тут парадак святочны навяду, каб вам лягчэй дыхалася. І весялей, весялей, маладухі вы мае, нечага нюні распускаць. Вось убачыце — усё будзе добра!

І хоць цяжка было паверыць у Зінчын аптымізм, але ж усім так хацелася… І ёлачка так чароўна пабліскваля… Міхайлаўна праз слёзы паспрабавала ўсміхнуцца, Вера палезла ў тумбачку па гасцінцы, бабка Любка стала прыграбаць грабеньчыкам растрапаныя валасы, а Сцепаніда пастаралася прыўзняцца на падушках…

Набліжалася Ражство…

## Анатоль ЗЭКАЎ



### ЯНКАВА КАЛЫСКА

Пад столлю да крука прывязана —
пад матчыную калыханку
гайдаецца калыска ў Вязынцы,
сябе люляючы і Янку.

Рыпіць калыска, быццам жаліцца,
што адпачыць і ёй бы трэба.
У сценах чатырох гайдаецца,
нібы паміж зямлёй і небам.

А Янка носікам пасопвае —
і звычна быццам, і рытмічна,
хоць для яго — і столь высокая,
і свет — пакуль што таямнічы…

* * *

З гэтым нельга не згадзіцца —
недарэмна ж показка жыве:
лепей у руцэ сініца,
чым высока ў небе журавель.

---

*__Зэкаў Анатоль Мікалаевіч__ нарадзіўся 20 студзеня 1955 года ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна. Пасля заканчэння гісторыка-філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1977) працаваў карэспандэнтам гомельскай раённай газеты «Маяк», у камсамольскіх арганізацыях, рэдакцыях газет «Чырвоная змена» і «Книга и мы». Рэдагаваў газету «Добры вечар», штотыднёвік «Сталіца» і «Беларускую лясную газету», быў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Вожык», рэдактарам аддзела прозы часопіса «Полымя». Цяпер — у часопісе «Вясёлка».*

*Выдаў кнігі паэзіі «Боль сумлення» (1989), «Аварыя сумлення» (1996), «Лісты да цябе» (2005), «Чарнобыльскі вецер» (2006), «Промнік позірку твайго» (2008), сатыры і гумару «Дуэль» (1994), «Дуэль-2» (1995), «Кругі ў галаве» (2007), «Каханне на снезе» (2011), прозы «Вясельнае падарожжа ў Стамбул» (2000), «Генеральскі нумар» (2011), для дзяцей «Чатыры зярняткі» (2000), «На арэхавым кані» (2003), «Мянтуз сярод мядуз» (2007), «Зязюля Гулюля» (2011).*

Я ўзіраўся ўвысь —
                              і ў хмарах
жураўля вачыма ўсё шукаў.
Жураўля злавіць я марыў,
хоць сініцу з рук не выпускаў.

Ды дарэмна я ўглядаўся
у сінечу неба.
                    Журавель
мой
      на крылы не ўзнімаўся,
а хадзіў у лузе па траве.

Вось ён, пабач, тут як быццам,
назірай — хоць зблізку, хоць здаля.
Цешыла ў руцэ сініца,
хоць злавіць імкнуўся жураўля.

Я пра тое марыў вельмі,
а пабачыў гэткае калі,
то навошта журавель мне
той,
      які не ў небе —
                              на зямлі.

* * *

Памерла маці, і ўжо тата
асірацеў, як мы, таксама.
Як быццам бы і тая хата,
але й не тая ўсё ж — без мамы.

Напаліць цёпла грубку нанач,
уключыць тэлевізар пультам.
Вачэй не зводзячы з экрана,
сядзіць, бы да яго прыкуты.

Глядзіць камедыю ці драму,
як баявік ідзе — плюецца,
а думае тымчас пра маму,
і так баліць і ные сэрца.

* * *

Мінулага не выракайся,
яно ж усё адно — тваё.
Жыві цяпер,
жыві й не кайся
ты за мінулае сваё.

Пражыў не так, як мог, як марыў.
Ды што рабіць, калі пражыў,
і што пра тое думаць марна
і над сабою суд вяршыць?

Яно было, і з ім ты квіты,
не даць, як кажуць, і не ўзяць.
Жыві сягоння, так жыві ты,
каб потым меней шкадаваць.

* * *

Як шмат зрабіць не паспяваю
з таго, задуманага мной.
А час ляціць,
час не чакае,
не загадаць яму: «Пастой!»

У мітуслівасці будзённай
я штосьці і раблю нібы,
аднак жыццёвыя загоны
чакаюць іншае сяўбы.

І я шчырую, як умею,
і ў тым віры зямных турбот
калі змагу пабольш засеяць, —
шчадрэйшы будзе і ўмалот!

* * *

Ці па снезе ты, ці па марозе —
і, якая б ні была ўжо доля,
не спыняй хаду на паўдарозе,
як усю дарогу не адолееў.

Паўдарогі як-ніяк асіліў,
і яшчэ вось засталося столькі.
Па пяску альбо па вязкай гліне
ты ідзі, адлічваючы золкі.

Ты ідзі, ідзі, ды толькі ведай,
зубы сцяўшы, аж да самай змогі,
што аднойчы скончыцца і гэта
самая нялёгкая дарога.

* * *

Бывае, так затужыцца
па вёсцы роднай мне,
аж галава закружыцца
і ў сэрца штосьці кальне.
І паляцець захочацца
туды, да тых прысад,
дзе плотам касабочыцца
маленства далягляд,
дзе конікам сваволіцца,
жыццё наўкол вірыць,
дзе й мне — такая вольніца,
што толькі тут і жыць.

## МЯДЗВЕДЗЕВА

Думкі назва развярэдзіла —
і адкуль з’явіцца ёй такой,
вёсцы з назваю Мядзведзева,
тут, каля Патапаўкі маёй?

Як падумаеш, то дзіва ўсё,
бо і лес тут — не гушчар зусім,
у якім нам не блудзілася.
Ды й ці можна заблудзіцца ў ім?

І звяроў мы тут не бачылі,
хіба зайца мо гады ў рады.
Як жа вёсачку пазначылі
назваю мядзведжаю тады?

А яна не выпадковая.
І мядзведзі, мабыць, тут былі,
толькі — згадку выпрабоўваю —
продкі нашы, пэўна, іх звялі.

Гэта ж так, відаць, стараліся,
на прыроду наступалі спрэс,
што мядзведзі паўцякалі ўсе,
перабеглі ў больш гусцейшы лес,

лес, што меней развярэджаны
гаманою галасоў людскіх.
Вёска ж з назваю мядзведжаю
засталася памяццю пра іх.

І прывычнай стала, роднаю,
быццам рэха з векавых далін,
дзе было ўсё першародным і
дзе мядзведзі некалі жылі.

* * *

Няма Таісы Бондар, Коўтун Валі,
даўно няма Янішчыц Жэні.
Яны ў зямным жыцці адвершавалі,
каб чэрпаць вечнасці натхненне.

І хоць сыход, на жаль, заўчасны іхні,
ды ў тым хіба супакаенне,
што засталіся ўсё-ткі з намі кнігі
Таісы,
Валянціны,
Жэні.

* * *

Я аднойчы налягу на вёслы,
паплыву па рачным вадаграі

у маленства далёкага вёсны,
што па сёння душу саграваюць.

Шлях туды, разумею, далёкі —
і ўжо з кожным грабком адчуваю,
што і поўдзень жыццёвы высока,
і плыву я —
нібы адплываю...

* * *

Люблю на беразе азёрным
у ціхі вечар пастаяць,
калі ў ваду з нябёсаў зоры
у мройным одуме глядзяць,
а ветрык гойдае-калыша
у прыбярэжжы чараты,
і навакол — такая ціша,
што свет увесь пачуеш ты.

* * *

Зазвоніць тэлефон — я схамянуся,
нібыта ў бездань палячу.
І голас твой пачуць хачу,
і разам з тым пачуць яго баюся.

Што голас твой у трубку нагаворыць:
ці ў холад кіне ён мяне,
ці варам раптам ахлыне,
ў гуморы ён цяпер ці не ў гуморы?

То падыду, то зноўку адхінуся,
змагаюся з самім сабой.
Хачу пачуць я голас твой,
і разам з тым пачуць яго баюся.

* * *

Як да мяне, так і пасля мяне —
у тое верыцца бясконца! —
зямля з арбіты звычнай не каўзне
і над зямлёй не згасне сонца.
І будуць зелянець наўсцяж лугі,
а лес — люляць на голлі птушак,
і будуць рэчкі біцца ў берагі
і лодкі, як калыскі, гушкаць.
І хоць прагрэс усіх бярэ ў палон
і душы прагматызмам студзіць,
ды будуць так,
аднак,
як і здавён,
да хараства гарнуцца людзі.



Іван КАНАНОВІЧ

# ВЕПРАЎЦЫ

*Апавяданне*

## I

Лета выдалася такім невыносна-спякотным, што лісты на дачных клёнах заўчасна пажоўклі, паскручваліся, сталі падобныя на гаванскія цыгары. Паветра, неміласэрна распаленае сонцам, нагадвала задуху на сталеплавільным участку, калі там разліваюць метал, і дачнікі, ратуючыся ад невыноснай спёкі, шукалі прахалоды ў цяньку, дзе яе амаль не было, ці хаваліся ў паграбы, бо ў хатах не знаходзілі паратунку. Спёка канчаткова, нібы луску з рыбы, злушчыла фарбу з назвы шыльды садова-дачнага таварыства «Вепры», агаліўшы бляклую фанеру. Наспела пара мяняць яе.

Не звяртаючы ўвагі на спёку, дачнікі, абліваючыся потам, рупліва мацавалі над уязнымі варотамі новую, якая ў пранізлівых сонечных праменнях пералівалася ўсімі колерамі вясёлкі. Новую шыльду з густам адштукавала дачная мастачка Тадорка Вепраўская, ураджэнка гэтых прыгожых гістарычных мясцін. Пад яе непасрэдным кіраўніцтвам актывісты таварыства старшыня Ігнат Забаўскі, яго намеснік Віцёк Галапузік і нястомны працаўнік Пракоп Кішэня, раз-пораз змахваючы пот, мацавалі над варотамі сапраўдны твор мастацтва.

На шыльдзе, акрамя старанна выпісаных літар, падобных на кітайскія іерогліфы, красаваліся жыхары дзікай прыроды — ласі, дзікі, лісы, зайцы і шматлікія птушкі, якія спрадвеку жылі і множыліся ў навакольных лясах.

Акурат у гэты момант насупраць абновы спыніўся аўтобус. З яго пачалі паспешна выкульвацца дачніцы. Неўзабаве яны, згінаючыся пад цяжарам заплечнікаў, валісак і хатулёў заспяшаліся да сваіх агародаў. Але нечакана яны пачалі спыняцца перад Тадорчыным творам мастацтва, які красаваўся над варотамі.

---

***Кананові́ч Іван Іванавіч*** *нарадзіўся 10 мая 1938 года ў вёсцы Кукавічы Капыльскага раёна Мінскай вобласці.*

*Скончыў Баранавіцкае вучылішча сельскай гаспадаркі (1956), факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1968).*

*Працаваў трактарыстам на асваенні цалінных зямель, слесарам на Мінскім аўтазаводзе, рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура».*

*Выдаў кнігі прозы «Заводскія світанні» (1978), «Белы чыгун» (1981), «Цёплы камень» (1985), «Асобая зона» (1991), «Старыя званы» (2008).*

Дачніцы ўбачылі яго яшчэ з аўтобуса і цяпер, разглядаючы нечаканую абнову, прыцмокваючы ад задавальнення, на ўсе лады расхвальвалі мастачку. Жаночую пахвалу мастачцы сарокаю прастракатала зіркатая Іда Закаханка, прыгажуня з гнутка-лазовым станам:

— Людцы мае! Во наша Тадорка размахнулася — такой прыгажосці, як у нас, ва ўсім свеце не знойдзеш, дзякуй табе, сяброўка. — Іда акінула спакуслівым позіркам стомленых нядаўняй работай і нясцерпнай гарачынёй маўклівых мужчын і па-камандзірску абвясціла: — Хадзем, дзяўчонкі, а то ў царкву спознімся — званы гукаюць.

Па яе камандзе дачныя прыгажуні яшчэ раз паправілі заплечнікі і шчыльным гуртам падаліся ў свае, як яны называлі, маёнткі.

Тут, сярод прыезджых, быў і мужчына з усмешкай на загарэлым твары. Тадорка, як даўняя знаёмая, кінулася да яго, засыпала пытаннямі:

— Даўненька, Герадот Мадэставіч, не бачыліся. Што да нас, пэўна, у госці завіталі?

— Так яно і ёсць, Тадора Іванаўна, — сказаў ён і ў сваю чаргу пацікавіўся ў сімпатычнай жанчыны: — Хто ў вас старшыня таварыства?

— Во — ён, наш дачны ўладар, — кіўком галавы паказала на Забаўскага.

Той акінуў прыезджага падазроным позіркам з галавы да ног, пацікавіўся:

— Які клопат маеце?

— Звычайны — хачу купіць тут дачу ці ўчастак. Прозвішча маё Іваноўскі, працую ў Акадэміі навук, завуць Герадот Мадэставіч.

Дачны начальнік прыязна павітаўся з мужчынам інтэлігентнага выгляду, звярнуўся да свайго намесніка:

— Віктар Міхайлавіч, да нас завітаў вучоны з самой акадэміі! Хоча стаць членам нашага таварыства. Пакажы яму тыя маёнткі, што прадаюцца, ці адмерай, калі ён захоча, пляцоўку для будаўніцтва.

— Гэта мы магём, — ахвотна згадзіўся той, — паважаю людзей навукі. Сам доўга супрацоўнічаў з акадэміяй, укараняў у вытворчасць іх распрацоўкі.

Мужчыны, на чале з Тадоркай, рушылі выбіраць вучонаму дачу. Забаўскі як афіцыйная асоба, ішоў паперадзе, астатнія — следам. Неўзабаве ён спыніўся, насцярожана зірнуў на свайго намесніка:

— Да мяне павінен прыехаць пажарны інспектар, пайду сустракаць, і дадаў: — А вы, хлопцы, памажыце вучонаму вырашыць яго праблему. Спатрэблюся — званіце, буду на месцы.

Паведамленне Забаўскага аб прыездзе пажарнага інспектара насцярожыла Віцьку Галапузіка і напужала, аж кроў у скронях закіпела. Адной іскры хопіць, каб Вепры запалалі парахавой бочкай. Непакоілі яго забытыя людзьмі і Богам участкі, якія гадамі не кранала рыдлёўка дачніка. Яны шчыльна параслі старым і новым пустазеллем — акурат адмысловая падпалка для агню. Гэтая акалічнасць не надта палохала Віцька. Насцярожвала іншае — стан супрацьпажарнага начыння і вадзяных басейнаў. Пажарную помпу не заводзілі гадоў пяць з той пары, як згарэла ў адначассе сядзіба самагоншчыка. Тады лета выдалася дажджлівае, запусцелыя ўчасткі добра прамачыла — пажар затушылі дачнікі да прыезду пажарнікаў, і агонь далей не рушыў. Ад сядзібы засталіся адны галавешкі і сумная памяць пра падкага да грошай гаспадара, які доўгі час актыўна займаўся вытворчасцю сівухі, разліваў яе ў бутэлькі, на якія наклейваў прывабныя этыкеткі «Дачны бальзам». Бутэлькі былі з заводскімі закруткамі, як у краме. Каля яго хаты, бывала, выструньвалася чарга па гэты экзатычны напой — аматары выпіць з усяго наваколля сцякаліся сюды ручаём. Спажыўную «кропку» ведалі нават шафёры, якія ездзілі па цэнтральнай трасе,

што знаходзілася побач з дачным кааператывам. Некаторыя з іх заязджалі сюды, нібыта да свайго дома. Толькі да пары збан ваду носіць — згарэла ў адначассе дача разам са сваім гаспадаром. І планам яго, Галапузікавай, жонкі Жаначкі, якая марыла стаць мільянеркай, не суджана было збыцца: яны «згарэлі» пры пажары. А да гэтага яна абразліва-прымусова нацкоўвала свайго мужа: «Займіся, смаркаты інжынер, даходным рамяством — будзеш заўсёды мець свежую капейку. А то хутка станеш жабраком».

Акурат насупраць былой самагоншчыкавай сядзібы Галапузіка схапіў прыпадак задышкі і кашлю: ці то ад невыноснай спёкі, ці то ад непрыемнага ўспаміну, а можа, і ад смуроду, які прыносіў вецер: у суседняй дзяржаве з вясны гарэлі лясы, патушыць іх не маглі даць рады. Віцёк ад задушлівага смуроду гарэлага спыніўся і, прыклаўшы да грудзей далонь, доўга адкашліваўся і непакоіўся за лёс хат, хацінак і замкаў, якія раслі тут як грыбы пасля дажджу. Канечне, перш за ўсё ён хваляваўся за сваю хібару, некалі збітую на скорую руку з дошак і ўцепленую шклаватай. Ад невыноснай спёкі ў любы момант чакай бяды. У яго аж закалола ў сэрцы як згадаў, што басейны перасохлі — нават жабы некуды збеглі.

Каб спыніць плынь назойліва-маркотных думак, спытаўся ў госця:

— Чаму вы, прафесар, абралі наша таварыства — дач вакол горада шмат і землі там лепшыя?

Іваноўскі ў гэты момант надзвычай актыўна нешта абмяркоўваў з Пракопам, і той, паказваючы на сваю будыніну без страхі, пэўна, дзяліўся сваімі планамі як яе ўзнавіць і распавядаў пра нядаўні буран. Той раптоўны віхор адным рыўком пазрываў стрэхі з будынкаў ці не ва ўсіх вепраўцаў і пазаносіў невядома куды, быццам закінуў на іншую планету. Пракоп разам з небаракамі-суседзямі аблазіў увесь лес — нідзе і кавалка шыферу не знайшлі.

А Віцёк ніяк не мог адолець задушлівага кашлю і падумаў, што прафесар не пачуў яго пытання. Той пачакаў пакуль сунімецца кашаль, са шчырай усмешкай на задаволеным твары растлумачыў свой намер наконт дачы тут, у Вепрах:

— Я родам адсюль, з Веправіч. Тут жылі мае бацькі, дзяды і прадзеды. Старэйшы брат прадаў хату. А я, калі доўга быў у замежнай камандзіроўцы, засумаваў па радзіме. Дамоў як магнітам пацягнула, у родную вёску, тут жа прайшло маё дзяцінства.

— Тады ўсё зразумела, — паспачуваў прафесару дачны функцыянер, — у нас, а, дакладней, у вас, цудоўныя мясціны: у лесе процьма ягад, грыбоў, рака і возера побач. А паветра — не надыхацца. Лячу ім свае бранхіты, набытыя некалі на заводзе. Сяду пад смалістай хвояй, падыхаю яе лекавым азонам, і кашаль — прападае.

— Я з вамі згодзен — лепшага месца не знойдзеш, — пахваліў Іваноўскі Віцька. У таго ад радасці і кашаль прапаў.

Мужчыны колькі хвілін гаманілі, разглядаючы ацалелы зруб без экзатычна-мудрагелістай мансарды-шпакоўні, назаўсёды збрытай буранам. Пракоп пахваляўся госцю архітэктурнымі вартасцямі былой будыніны, якую ён наважыўся ўзнаўляць з небывалымі задумкамі і размахам.

Пакуль Пракоп танклявым галаском, як верабей, чырыкаў госцю пра сваю разбураную будыніну, у Віцька аваднём зазужмерыў мабільнік:

— Ігнат, я цябе слухаю. Пытаеш, дзе мы — разглядаем з прафесарам Пракопаў узор дачнай архітэктуры — мо чалавек упадабае і закажа сабе такі праект. Агледзелі ўсе фазэнды, нават сярод выкрутасістых маёнткаў нашых алігархаў нічога не выбраў — пайду намераю ўчастак, няхай будуецца і прыводзіць з сабой яшчэ ахвотнікаў.

Ён выключыў мабільнік, і той на развітанне казытнуў нервы гаспадару — каротка дзынкнуў аваднём. Гэтую застрашальную мелодыю, седзячы днямі на Ігнатавай лаўцы, прыдумала яго любімая Жаначка. У сёлетнюю невыносную спёку на Жаначку, аблітую потам з галавы да пят, зляталіся хмарамі камары і машкара. Яна мазала і пырскала прывабнае для заедзі цела айчыннымі і замежнымі сродкамі — ніякага паратунку. Доўга думала і прыдумала — адпужваць нахабаў зумканнем аваднёў. Выдала падобны гук — разляцеліся. Тады і прымусіла Віцька запісаць гэту мелодыю на мабільнікі. Ні мухі, ні камары да яе і блізка не падлятаюць. Цяпер у яе на Ігнатавай лаўцы пад дубам не жыццё — Божы рай…

Не паспеў Галапузік адключыць мабільнік, як ён зноў адгукнуўся. Ігнат хрыплаватым голасам распарадзіўся:

— Вы доўга не баўцеся, колькі часу ўжо, а мы вучонага голадам морым, абедаць пара. І накіруй сюды рухавую Ізаўру, бо тваёй балерыне не ўправіцца. Усе суседкі ў царкву пабеглі.

— Толькі на могілкі зойдзем, прафесар хоча пабачыць графскія скляпенні — гэта нядоўга, — запэўніў свайго дачнага шэфа намеснік.

Насупраць Тадорчынага маёнтка, адгароджанага ад дарогі густымі зараслямі пустазелля і трывала змацаваным зялёным павоем, дачнікі спыніліся. Гаспадыня растлумачыла госцю:

— Не пужайцеся, Герадот Мадэставіч, майго плоту-сцяны, запрашаю паглядзець мой замак і ўсё астатняе.

Гаспадыня першай прасунулася ў вузкі праход, які быў зачынены з сярэдзіны сплеценай з лазы брамкай. Прафесар рушыў за гаспадыняй, астатнія па чарзе.

Гаспадынін драўляны замак, зрублены некалі Забаўскім па яе асабістым праекце, свяціўся мядовым колерам сцен і патанаў у моры рознакаляровых духмяных кветак, якія выклікалі раптоўны прыступ кашлю ў Галапузіка. Пакуль ён адкашліваўся, трымаючыся рукой за грудзі, Іваноўскі пільна разглядаў кветнік і тое, што там было намалявана таленавітай мастачкай.

На фоне рознакаляровых кветак ярка вымалёўваўся немалых памераў партрэт мужчыны з прывабным задуменным позіркам, светлым тварам, кароткімі бародкай і вусікамі, шырокі лоб і белая густая шавялюра пацвярджалі здагадку Іваноўскага — гэта хтосьці з графскага роду Вепраўскіх. Бо адзін з іх нашчадкаў акурат перад самым ад'ездам са Штатаў і прасіў наведаць магілы продкаў — быў, як дзве кроплі вады, падобны на інкруставаны Тадоркай кветкавы партрэт.

Поруч з графам красавалася яснавокая, з доўгай важкай касой, закінутай на прыгожыя поўныя грудзі, маладая жанчына — вылітая Тадорка.

— Твая радня? — для пэўнасці пацікавіўся прафесар.

— Мая самая, хоць і дужа далёкая, — з гонарам азвалася аўтарка кветкавых партрэтаў, — ува мне віруе кроў продкаў, якая і натхняе на творчасць.

— А з чаго ты іх так удала змалявала? — яшчэ больш разабрала цікавасць Іваноўскага да сваёй былой аспіранткі.

Яна на імгненне кінулася ў хату і вынесла пісаную алеем карціну ў прыгожа аздобленай пазалочанай раме. Кветкавая інкрустацыя на ўчастку і арыгінал былі падобныя, як блізняты.

«Трэба ж так размахнуцца таленту», — разглядаючы карціну на агародзе і арыгінал, з гонарам падумаў пра сваю былую аспірантку прафесар і ў душы шчыра пажадаў поспехаў.

Маўклівы Пракоп, агледзеўшы жывапісны малюнак, заікнуўся ад убачанага:

— Прывяду сваю ненаглядную на экскурсію, няхай палюбуецца прыгажосцю, а то з рання да вечара ў градах кешкаецца — зелле шукае. А ў Тадоркі і зелля нідзе няма.

— Хапае, Пракопе, гэтай радасці і ў мяне — матычу часта і цяпер, у спёку, палiваю зрэдзь. Ліні вады — пустазелле вышэй маёй загарадзі пойдзе, — зычліва азвалася прыткая гаспадыня і запрасіла:

— Зайдзіце, госцікі, у хату — паглядзіце, як я жыву-гарую.

Галапузік з начальніцкай мінай на распаўнелым твары з абвіслымі шчокамі паказушна-нехаця заўпарціўся:

— У нас, Тадора Іванаўна, багата клопатаў і, выціраючы пот ад нясцерпнай спёкі, пагадзіўся: — Хоць у цяньку пабудзем хвіліну.

— Гаспадынін замак сустрэў іх доўгачаканай прахалодай. Прадбачлівая Тадорка з раніцы ўключыла кандыцыянер, і прахалода адчувалася і ў невялічкай верандзе. Ды і хваёвы кругляк, з якога зрублена хаціна, быў трывалым ізалятарам ад спёкі.

Невялікая звонку, у сярэдзіне хата выглядала прасторнай і ўтульнай, з густам абстаўленай — ніводнай лішняй рэчы. Ложак, канапа і драўляны, адпаліраваны да жаўцізны, прывабны стол, накрыты вышытым пеўнікамі ручніком. Абапал стала — самаробныя крэслы, як здагадаўся Віцёк, Забаўскага работы. Падобныя ў яго бачыў.

Гаспадыня прытка арганізавала паходную закусь — гуркі, памідоры, кілбасу, непрыкметна, пакуль госці разглядалі ўбранне хаты і сумесны партрэт яе далёкіх знакамітых сваякоў, упрыгожыла стол армянскім каньяком і крыштальнымі кілішкамі з квяцістымі ўзорамі, падобнымі на тыя, якія мужчыны хвіліну назад бачылі на агародзе. І прывабна-прыемным галаском запрасіла:

— Налівайце, мужчыны, не саромцеся — чым багата, тым і рада.

Галапузік на правах дачнага гаспадара напоўніў чаркі і выціснуў з хрыпатых бронхаў тост:

— За нашу нястомную працаўніцу, за яе стараннасць і прыгажосць, за яе мастацкі талент.

Госці тройчы прыгубілі чаркі і пачалі збірацца. Тадорка ўмольным галасам перапыніла іх намер.

— Пасядзіце крыху, аддыхайцеся, пэўна, прытаміліся, пакуль замацоўвалі шыльду, — і пацікавілася: — Ці хоць добра намалявала?

Ацаніў яе творчасць прафесар:

— У вас, Тадора Іванаўна, надзвычай тонкі мастацкі густ — звычайную шыльду ўвасобілі ў мастацкі твор, малайчына.

— Не шыльда — цуд, ні ў адным таварыстве ў нашых суседзяў не ўбачыш — будуць глядзець як на дзіва, — выказаў захапленне стараннем Тадоркі вечна маўклівы Пракоп.

Мужчыны, расхвальваючы на ўсе лады гаспадыню, выкуліліся з лагоднаўтульнай прахалоды на невыносную спёку, маючы намер зайсці на могілкі. Гарачае, як свежы попел, паветра ў Галапузіка выклікала прыпадак задышкі. Адкашляўшыся, дачны камандзір ледзь чутна азваўся:

— Ты, Тадорка, прыхапі з сабой кветак — ушануем нябожчыкаў.

Рухавая гаспадыня апранулася па-святочнаму, у квяцісты сарафан, які надзвычай удала аблягаў яе мурашыную талію і выразна прасвечваў звабліывыя выпукласці грудзей на загарэлым да каштанавага колеру целе. Яе прыгажосць дапаўняла модная кароткая стрыжка аналагічнага колеру.

Мужчыны не паспелі добра разгледзець звонку гаспадынін замак з асляпляльна-зіхоткім на неміласэрным сонцы цынкавым дахам, як Тадорка з буке-

там кветак паўстала перад імі ва ўсёй сваёй прыгажосці. Колерамі вясёлкі пераліваліся ружы, флёксы, гартэнзіі, бальзаміны і безліч іншых экзатычных раслін, назвы якіх ведала толькі яна адна.

— Хадзем, — уладарна распарадзілася дачная прыгажуня, падала кветкі Пракопу: — Нясі, а то мне на шпільках нязручна ісці, яшчэ ўпаду.

Замаскіраваны кветкамі, як разведчык, ён рушыў на дарогу, за ім — астатнія. Шэсце замыкалі Віцёк з прафесарам, кідаючы позіркі на фазэнды, якія з раніцы не паспелі агледзець.

Галапузіка заінтрыгаваў прыезд прафесара. Калі ішлі на могілкі, яго, Галапузіка, ажно распірала цікавасць: што тут трэба вучонаму, гэтаму чалавеку са спакойным прыемным голасам. Яго словы выпраменьвалі дабрыню і шчырасць, выклікаючы прагную цікавасць у падначальніка. Ён сцішана папытаўся:

— А якая мэта такой працяглай вашай камандзіроўкі?

— Вывучаў дзейнасць Крэмніевай даліны ў Штатах, сустракаўся са свяціламі навукі і там, і ў многіх іншых дзяржавах. Вы ж ведаеце, падобны цэнтр ствараецца і ў нас — спраў наперадзе багата. Кажуць: «твары, прапаноўвай, эксперыментуй…»

— Зразумела, Герадот Мадэставіч, — пагадзіўся з суразмоўцам запалены цікавасцю Віцёк, — цяпер, каб утрымаць эканоміку на плаву, без навукі і не туды, і не сюды.

— Яно так, Віктар Міхайлавіч, працягваў размову вучоны, — галоўнае вызначыць прыярытэтныя накірункі, забяспечыць іх фінансаванне — і вынік будзе. У перадавых краінах, дзе мне давялося вывучаць іх вопыт, навука пракладае дарогу прагрэсу.

Лагодна гамонячы, суразмоўцы няспешна ішлі нешырокай, як размінуцца легкавушкам, дачнай вуліцай, прыпыняліся насупраць дамкоў, на якія госць глядзеў як на музейныя рэліквіі. Ля старых, пастаўленых яшчэ пры сацыялізме будынкаў, зарослых бур'яном, асіннікам і бярэзнікам, вучоны прызнаўся:

— Мне, Віктар Міхайлавіч, як кажуць, зручней з чыстага ліста пачынаць.

— І я так мяркую, — пагадзіўся з вучоным Віцёк і прапанаваў: — Ёсць у мяне неблагое месца непадалёк ад графскага маёнтка, хадзем — кінеце вокам.

Яны спыніліся насупраць узаранага ўчастка, на якім густой шчоткай выпіналася дробнае пустазелле. Віцёк, убачыўшы занядбалую зямлю, засаромеўся, пачаў тлумачыць прафесару:

— Я меркаваў дачцэ паставіць якую хаціну, а то цеснавата ў маім дамку: як усе з'едуцца — нельга павярнуцца. І паскардзіўся: — Адмовілася дачка — маладыя цяпер любяць спажываць гатовае. А мне высільвацца з будоўляй ніяк не выпадае — жонка хворая, на леках трымаецца, ды і ў самога здароўе, як бачыце, не спартанскае.

Не надта вясёлыя развагі субяседніка пра сям'ю навялі Іваноўскага на думку, што яго працяглая замежная камандзіроўка ўкараціла жонцы жыццё. Колькі разоў прасіла: «Паехалі, Герадот, на радзіму, бо я тут доўга не працягну». Ён, як мог, супакойваў, суцяшаў. Ды невылечная хвароба, падмацаваная смуткам па радзіме, заўчасна зрабілі сваю справу — не стала любімай Нэлечкі, з якой кахаліся яшчэ са школы. Колькі гадоў прайшло, а ён увесь час адчувае сваю віну за смерць жонкі.

Раніцай, па прыездзе сюды, Іваноўскага ўразіў гурт жанчын рознага ўзросту — старэнькіх бабуль, энергічных статных маладух і надзвычай рухавалёгкіх дзяўчат — і нікога з мужчын, толькі тыя, што прымацоўвалі шыльду.

Прафесара ўсю дарогу непакоіла пытанне — чаму адны жанчыны? Спытаўся ў дачнага намесніка:

— У вас, Віктар Міхайлавіч, хіба жаночае таварыства — мужчын нідзе не відаць.

— А вы, Герадот Мадэставіч, угадалі. Няма мужчын — наша тройца і Забаўскі ў прыдачу — і ўсе мужчыны. Астатнія заўчасна сышлі ў нябыт.

— Чаму? — здзівіўся прафесар.

— Прычыны розныя. Жыццё ёсць жыццё. Хто спіўся, хто спрацаваўся, хто, як кажуць, знасіўся. Вунь, напрыклад, вазьмі тых, хто рабіў у ліцейцы. Там быць сталяварам, заліўшчыкам, нават майстрам, як мне, дзе хутка і здароўе пакладзеш. Вунь ніяк пасля ліцейкі з бронхаў не магу выкашляць.

— Зразумела, — паспачуваў Віцьку вучоны і дадаў: — Застарэлая тэхналогія згубіла людзей — у перадавых краінах, дзе мне давялося пабываць, шкодная вытворчасць пакладзена на плечы камп'ютара – чалавек толькі кантралюе працэс.

— Нашым заўзятым ліцейшчыкам, якія высільваліся ў свой час, каб дагнаць і перагнаць Штаты, — працягваў размову дачнік, — апошнім часам паскорыў хаду на той свет наш знакаміты Самагоншчык — так яго звалі ва ўсім наваколлі.

— Усе мы пад Богам ходзім — колькі Усявышні адмерае, столькі чалавек і жыве, — выказаў сваю думку вучоны, — часам і мы не беражом здароўе — харчуемся няправільна, парушаем рэжым дня. Дый шкодныя звычкі не спрыяюць даўгалеццю.

— Я з вамі згодзен, — пацвердзіў думку вучонага Віцёк, якога зноў пачаў дзерці ўдушлівы кашаль — узнагарода ліцейкі, дзе працаўнік самааддана паклаў здароўе. А цяпер не ратуе і лекавае дачнае паветра…

На могілках запыніліся каля пачарнелых за вякі чыгунных крыжоў над фамільнымі скляпеннямі графскіх продкаў. На крыжах зіхацелі букецікі кветак на блакітных стужках — пастаралася няўрымслівая Іда Закаханка, якая іх апярэдзіла. Кветкамі занялася Тадорка і з мастацкім густам аздобіла крыжы, ад якіх даўнейшы чыгун адразу пасвятлеў.

Прафесар, аддаючы павагу былым уладарам навакольных абшараў і просьбе іх замежнага нашчадка, тройчы перахрысціўся. Гэта няўмела здзейснілі былы партыйны бязбожнік Галапузік і яго адзіны на ўсе фазэнды памагаты Пракоп.

Царкоўны звон нечакана перапыніў іх экскурсію — вернікі рэдзенькім ланцужком вярталіся ў свае маёнткі. З няшчыльнага гурту вылучылася статная мадэль з неардынарнай знешнасцю, супрацоўніца аднаго з інстытутаў акадэміі, надта руплівая Іда, якая апярэдзіла іх з кветкамі і імкліва цурыла да мужчын, пэўна, прачула цераз жаночае радыё аб прыездзе прафесара. Шчыльная майка і кароткая светлая спаднічка-шорты падкрэслівалі прыгажосць яе маладога цела.

Яе спакуслівa-зваблівы позірк запыніўся на Іваноўскім. Пісаная прыгажуня салаўінай трэллю запела:

— Цудоўны наш, Герадот Мадэставіч, колькі зімаў і летаў не бачыліся — скуль вы ўзяліся?

— З камандзіроўкі прымчаўся — і адразу сюды. Між іншым, даведаўся, што вы, Іда Ізольдаўна, у царкву ходзіце.

Дачная топ-мадэль, жвава падправіўшы пасму медна-рыжых кучаравых валасоў, асвятліла госця белазубай спакуслівай усмешкай:

— Каб уратавацца ад такой спёкі, пан прафесар, не толькі ў царкву пойдзеш, але і на Святую зямлю лётам паляціш прасіць паратунку ў Госпада.

Іда Ізольдаўна на хвіліну змоўкла, як бы збіраючыся з думкамі, і праз хвіліну загадным тонам накінулася на мастачку:

— Ты, Тадорка, калі мой партрэт намалюеш? Трэба было даўно намаляваць, поруч з шыльдай павесіць. Яе ты адштукавала будзь здароў — мы ўсе гуртам не маглі наглядзецца.

Мастачка адказала з усмешкай:

— Прыходзь на маю фазэнду — аполеш кветнік, а я цябе за гэты час намалюю. Ды не ведаю як — партрэт, у поўны рост, ці па пояс, або як якую мадонну… Падумай і кажы. Але такой спёкай не абяцаю — фарбы перасыхаюць, няхай надвор’е зменіцца.

Тадорчын напамінак пра надвор’е зноў распаліў у гаварухі цікавасць да вучонага. Яна зачырыкала:

— Можа, прафесар, вы са сваімі замежнымі калегамі знайшлі выйсце, каб прадбачыць прыродныя катаклізмы: засухі, як у нас сёлета, буры, патопы, землятрусы, пажары?

— Навука многае прадказвае, папярэджвае, але не ўсе да гэтага прыслухоўваюцца — таму катастрофы чарадой ідуць па ўсёй планеце. Немалаважны і чалавечы фактар, асабліва пры ўзнікненні пажараў, — з усмешкай адказаў прафесар.

Гэтая пеўчая птушка пачала надакучаць Галапузіку, і каб хутчэй ад яе адчапіцца, перадаў шчабятусе распараджэнне Забаўскага:

— Топай, красуня, да Ігната, ён толькі што званіў, паможаш маёй гаспадыні стол накрыць — да гэтай пары ў нас з рання парушыніны ў роце не было.

Іда паслухмяна джгнула да Ігнатавай хаты, мужчыны тым часам завяршылі абход могілак і збіраліся рушыць услед за няпісанай прыгажуняй, як іх намер перапыніў голас Пракопа, які лічыўся маўчуном.

— Во, прайдоха, пяць мужыкоў ухайдохала і ўсё ніяк не ўтаймуецца: свой рабенькі тварык рознымі амброзіямі даглядае, каб шостага звабіць. У яе хватка жалезная — падхопіць некага.

— Пракопе, гэта неўтаймаваная прага да кахання ў іх родзе па жаночай лініі, як хвароба, яна перадаецца з пакалення ў пакаленне. Надта спрытнымі да гэтай справы былі яе маці, бабуля і прабабуля. Яны нейкім чынам абміналі біблейскія запаведзі, і хаця не думаю, што яны іх ведалі, умудраліся, як і іхняя Іда, па некалькі разоў выходзіць замуж. Пра гэта мне старажылы распавядалі, — ціхім, задушлівым ад кашлю голасам растлумачыў жыццёвую з’яву Віцёк.

За Іду заступілася Тадорка, дакараючы мужчын:

— А што ёй, маладой і прыгожай рабіць? — сядзець у сваім недабудаваным замку самотніцай як мыш пад венікам, ды цешыць душу тым, што трэба палоць градкі? Дык агарод у яе чысцейшы, чым у іншай забындохі хата.

Мужчыны ўсміхнуліся шчырай заступніцы і папраставалі да Ігнатавай хаты.

## II

У нядзелю, як і кожнага дня, вепраўцы па даўнейшай вясковай завядзёнцы, захаванай з калгаснага ладу жыцця, кучна расселіся на Ігнатавай лаўцы, як пчолы на лятку, і гучна гаманілі. Раней сюды нацямочку прыбягаў брыгадзір. Ён вывешваў на дубе разнарадку, згодна з якой кожны ведаў, дзе яму сёння трэба будзе працаваць. Людзі тую разнарадку чыталі, потым бралі каму што патрэбна. Ім пастаянна ўдзёўбвалі ў галовы, што яны будуюць светлую будучыню — камунізм, і яна зусім блізка.

Цяпер тут дачы. Але іх уладальнікі традыцыю захоўваюць. Сядзяць пад разгалістым дубам, ратуючыся ад невыноснай спёкі ў цяньку, абмяркоўваюць дачныя і міжнародныя навіны і, найперш, тэлевізійныя фільмы, якія, быццам па заяўках прагных гледачоў, бясконца плылі па мутных экранах ва ўсім наваколлі. Ці тут была нейкая касмічная перашкода, ці вепраўская зямля выпраменьвала заганныя хвалі са схаваных вякамі радовішчаў — ніхто толкам не ведаў. Дарэмна ламалі галовы тэлемайстры, бачнасць не паляпшалася. Непераборлівыя вепраўцы так прызвычаіліся да гэтага, што сутнасць фільмаў і іх мастацкія вартасці разумелі па гуку.

Часам, невядома чаму, здаралася на экранах прасвятленне і бачнасць была яркая і выразная, як зоры ў начным жнівеньскім небе. Чаму так здаралася — ніхто не мог уцяміць і растлумачыць, нават вучоныя, якія мелі тут, у Вепрах, па чатыры, пяць ці болей сотак тарфяной няўдобіцы.

І во — дзіва. Акурат у тыя дні, калі паказвалі надзвычай цікавую і ўразлівую для вепраўцаў «Рабыню Ізаўру», экраны неспадзявана ярка і выразна засвяціліся. Гледачоў было не адагнаць ад экранаў. Душашчыпальны фільм глядзелі ўсім скопам у Ігнатавай хаце, бо гаспадар па тым часе адным з першых набыў тэлевізар шырокага фармату. Пасля, паглядзеўшы які фільм, вепраўкі, заінтрыгаваныя ўбачаным, ледзь не ўсю ноч сядзелі на лаўцы і падрабязна пераказвалі і каменціравалі яго змест. Давалі свае характарыстыкі героям.

Здаралася, і нярэдка, жанчыны называлі вепраўскіх мужчын імёнамі герояў фільмаў. Гэта гучала смешна і недарэчна: так Ігнат станавіўся Франсіскам, а Мікола, ці яшчэ хто, Бобам або Білам… Не засталіся ў крыўдзе жанчыны і дзеці: маладзейшых і статных пачалі зваць Ізаўрамі, пажылых і мажных — Жанурыямі, а дачныя хаты, хацінкі і раскошныя асабнякі ў адначассе сталі фазэндамі. Кіношныя мянушкі надзвычай дакладна і адмыслова характарызавалі знешнасць і сутнасць інтэлекту кожнага.

Спрадвеку навакольныя землі — лясы і дрыгвяністыя абшары балотаў — належалі графскаму роду Вепраўскіх. З іх каранёў выйшлі знакамітыя генералы і адміралы, якія ўдзельнічалі ў гістарычных бітвах і нядаўніх войнах. Таму і не дзіва, што назвы навакольных вёсак захоўваюць памяць пра іх — Малыя, Сярэднія і Вялікія Веправічы, Вепраўка і шмат іншых.

У пасляваенную нішчымніцу і галадуху вепраўцы кінуліся ў недалёкі разбураны горад узнаўляць яго, будаваць новыя фабрыкі і заводы. З навакольных вёсак на машынах-буданах вазілі туды вепраўцаў. Абжыліся, акватэрыліся і пачалі забываць мясціны, дзе іх пуп закапаны.

Ды іх бесклапотна-соннае жыццё ўскалыхнуў сусветны крызіс. Вытворчасць у горадзе затухала — вепраўцы сталі непатрэбныя, вярталіся ў бацькоўскія хаты. Акурат пачалася ліхаманка на садова-дачныя таварыствы. Яна і паддала вепраўцам ахвоты да зямелькі-карміліцы. Сабраліся на сход. Вызначаючы назву, доўга спрачаліся, крычалі да хрыпаты пакуль Ігнат Забаўскі камандзірскім голасам не суняў крыкуноў і даў канчатковую назву таварыству — «Веправа». Спрачальнікі аціхлі і аднагалосна абралі яго старшынёй.

Ігнат акурат выйшаў на сваю сталяварскую пенсію, жыў адзін — жонкі даўно не стала. Сын і дачка ў горадзе мелі кватэры і нядрэнны грашовы занятак, а па выхадных, на пацеху дзеду, прывозілі ўнукаў. Ён старанна абрабляў агарод, трымаў пчол і цешыўся ўнукамі.

Кожнага дня, як і сёння, першымі з’явіліся муж з жонкаю Галапузікі і занялі свае каронныя месцы на сярэдзіне лаўкі. Ад іх цяжару — высокага шыракаплечага Віцька з постаццю штангіста і пульхнай, распаўнелай Жаначкі, падобнай на гумовую надзьмутую лялькугу бегемота — лаўка прагнулася

траха не да зямлі. Твар у кабеты поўны, акруглены, ад празмернага тлушчу вочы прыпухлі і на Божы свет глядзелі праз вузкія, як танкавыя трымплексы, шчыліны. А паходка — заглядзенне: кожны крок даецца з намаганнем, валюхаючыся ў бакі. Яе выразную знешнасць і постаць дапаўнялі распаўнелыя ногі, звужаныя ў каленях, і мясістыя пяты, раскінутыя ўшыркі. Яе постаць аблягаў кавалак кваццістага паркалю з глыбокімі выразамі спераду і ззаду, як паратунак ад нясцерпнай гарачыні.

Няспешна набліжаліся да лаўкі муж і жонка Кішэні — драбнатвары, худзенькі Пракоп са сваёй паўнагрудай Броняй. Незнаёмым яны здаваліся, як сын з маці, таму часцяком прыезджыя пыталіся ў Ігната: «Хто яны?»

Сёння дачнага гаспадара чакаў пільны клопат — замацаваць над дачнымі варотамі новую шыльду, над якой старанна карпела Тадорка і некалькі дзён не прыходзіла на яго лаўку на пасядзелкі. Збіраючы ў гаражы патрэбнае начынне, глянуў на штатных седакоў і заспакоіўся — Віцёк і Пракоп былі на месцы. Неўзабаве пачуў і зычны Тадорчын воклiч: «Шыльда гатова — можаш забіраць!»

Мужчыны як па камандзе падняліся і пайшлі да Тадорчынага замка, каб забраць карціну-шыльду. На яе Ігнат звярнуў увагу яшчэ тады, калі Тадорка толькі пачала маляваць. Ён і заходзіў да гаспадыні, каб праверыць, у якім стане ў яе гаспадарцы супрацьпажарная ахова. Шчыра кажучы, ніякіх там супрацьпажарных сродкаў не было, адно расквечаная аранжарэя, агароджа з сушняку: не дай бог упадзе сюды іскрынка — успыхне пажар. Зрэшты, у такім супрацьпажарным стане былі ці не ўсе запусцелыя фазэнды. Ён моцна перажываў, слухаючы паведамленні пра пажары, якія ахапілі суседнюю дзяржаву, іх з вясны да зімы тушылі і ніяк не маглі адолець. Не раз папярэджваў мастачку, нават сам быў падахвоціўся скасіць і вывезці на звалку сушняк, ды ўпартую Тадорку не парайначыш — упёрлася рогам за сваю дэкаратыўную агароджу. Нават пакрыўдзілася, траха не адмовілася ўзнаўляць шыльду. Ігнат змірыўся з яе крыўдай і больш не нагадваў пра яе парахавую бочку — чакаў змены надвор’я і дажджу…

— Нешта нашых прыгажунь сёння з рання не відаць, — азваўся Забаўскі.

— Яны на мінулым тыдні сiганулі ў горад запасацца харчамі, — адказаў Пракоп, — толькі мая не ездзіла, нам сын правізіі навёз.

Ігнат нёс бляшаную скрынку з начыннем, Пракоп з Віцькам — карціну-шыльду, на хаду разглядваючы мастацкі твор. Тадорка замыкала шэсце і ўсю дарогу бедавала, ці прыедуць сёння яе дачныя сяброўкі, засумавала па іх — не было з кім словам перакінуцца…

Мужчыны прыставілі драбіну і ўзяліся за работу. Тадорка раз-пораз падавала слушныя каманды — кіравала працэсам…

## III

Іваноўскі ў суправаджэнні вепраўцаў доўга разглядаў звонку царкву. Убачыў на паперці святара і папрасіў дазволу зайсці. Той ветліва запрасіў і распавёў гісторыю яе ўзнікнення пасля перамогі на Куліковым полі. У бітве ўдзельнічала і дружына графа Вепраўскага, многія ваяры не вярнуліся з той мясарубкі. У іх гераічную славу і ўзвялі царкву, як сімвал перамогі над чужынцамі.

Царква і графскі маёнтак былі разбураны рэвалюцыйнай віхурай. Царкве дасталося больш за ўсё ў тыя часы, калі паўсюль ішло змаганне з «рэлігійным дурманам». Вызначыліся ў гэтай марнай справе актывісты з Малых Вепры-

каў на чале з важаком вясковых галадранцаў фарсуном-балтыйцам Шэйнам. Матрос у падранай цяльняшцы і палапленым шырачэзным клёшы прывёў атрад бязбожнікаў і ўзяліся нішчыць царкоўную маёмасць. Пачалі з каланчы — паскідалі долу старасвецкія званы, якія на развітанне падалі жалобны няўпэўнены звон, як апошні ўздых хворага перад смерцю.

Пасля ўзяліся за крыжы. Залезлі да першага — спілавалі, другі выламалі жыўцом, трэці доўга не паддаваўся. Прывязалі вужышча і пацягнулі параю коней. Зляцеў з макаўкі і трэці разам з балтыйскім актывістам, пакінуўшы пра яго ва ўсім наваколлі агідную памяць. Вяскоўцаў з Малых Вепрыкаў пачалі дражніць Шэйнамі, і для нагляднасці паказваць пальцамі крыжык. Гэта іх абражала і абражае цяпер. Кожны раз яны злуюць, і нават гатовы кінуцца ў бойку.

Разрабавалі і павыбівалі з перагародак цэглу для печаў і ў графскім маёнтку, ды не ўсюды яна паддавалася, трывала змацаваная даўнейшым вапнавым растворам. Таму сцены знадворку ўцалелі.

Прыехаў адзін з вепраўскіх нашчадкаў, сумна паглядзеў на разбураную бацькаўшчыну, наняў будаўнікоў-шабашнікаў і ўзнавіў яе. Графская сядзіба зноў засвяцілася на пагорку белымі сценамі і цынкавай бляхай даху, быццам помнік старажытнай архітэктуры.

Гэты ўчынак былога ўладара маёнтка, змена грамадскіх накірункаў абразумілі вепраўцаў, вярнулі да веры. Адразу хадзілі маліцца ў разбураную іх рукамі царкву, пасля ўзяліся ўзнаўляць яе. Дапамог і ён, Іваноўскі, сваімі ганарарамі ад паездак за мяжу і навуковых адкрыццяў.

Мужчыны развіталіся са святаром. Той няспешна сеў у легкавік і рушыў у горад. У гэты момант у пякельную спёку раптоўна ўварваўся струмень прахалоды, падхапіўся вецер і стаў шкуматаць і гнуць дрэвы, зрываючы пажухлую ад працяглай спёкі лістоту — увачавідкі хістаючы Пракопавы металічныя стойкі пад новую мансарду. Над недалёкім, рукой падаць, лесам разляглася чорна-рудая хмара. Удоўж і ўпоперак раскрэсленая маланкамі, яна паступова набліжалася. Артылерыйскім залпам грымнуў гром, пырснулі рэдкія кроплі — прадвесніцы доўгачаканай навальніцы. Дачніцы-ўдовы, якія яшчэ хвіліну назад гуртаваліся тут, пабеглі ў свае фазэнды. Пракоп, зірнуўшы на свае разгайданыя ветрам металічныя арматурыны, захваляваўся:

— Пабягу, хлопцы, і я, а то не дай бог мае рыштаванні віхор спляжыць. — І кінуўся наўздагон дачніцам.

— І нам, панове, трэба шукаць лепшага прытулку, — па-гаспадарску распарадзіўся Галапузік і кіўнуў шавялюрай у кірунку дачнага раю.

Забаўскага лаўка пад разгалістым дубам была цалкам занята дзяўчатамі-дачніцамі. Птушкай падхапілася са свайго седала Іда-Ізаўра і да прафесара:

— Прысаджвайцеся, Герадот Мадэставіч, бо неўзабаве дождж ліне.

Вучоны падзякаваў былой аспірантцы і прапанаваў:

— Няхай Тадора Іванаўна адпачне, а то мы яе стамілі сваімі экскурсіямі.

Тадорка ў гэты момант пачула на двары голас Забаўскага:

— Заходзьце, госці-суседзі, у хату, пакуль дождж не лінуў.

— Пад тваім дубам, Ігнат, як пад парасонам, не прамокнем, хоць прахалодай надыхаемся ўдосталь пасля такой невыноснай спёкі, — азвалася маўклівая Тадорка.

Не паспелі дачніцы перамовіцца, як аглушальна, са злавесным трэскам, гаўбічным залпам грымнуў гром. Маланка прыцэльна смальнула ў Пракопавы металічныя рыштаванні — фазэнда ўспыхнула парахавой бочкай. Пракопаву Броню як ветрам змахнула з лаўкі — прытка пайшла на дапамогу свайму асілку.

Ігнат, не звяртаючы ўвагі на палахліва-ўстрывожаных дачніц, кінуўся да тэлефона выклікаць пажарных. Гэта не першы пажар у «Вeпрах». Фазэнды тут гараць пастаянна, кожны год, але не ў такі сухмень як сёлета. І яму ўпершыню ў жыцці стала страшна, аж нядобра скрабянула пад сэрцам ад думкі, што на гэты раз агонь не абміне і яго дзедаўскую хату. Калатнула нервовая дрыготка, і па целе прабегла процьма снежных мурашак. Не вытрымаў, павысіў голас на няпрошаную госцю і кінуў у прыпол пажарны рыштунак — куртку і засцерагальны шлем.

Іда-Ізаўра пацягнулася як спрасоння, соладка пазяхнула і лянівa ўстала:

— Хадзем, калі так просіш.

Ён схапіў каламашку з пажарным прычындаллем і бегма кінуўся на пажар.

Рухава падхапілася і Тадорка. У памагатыя ёй падахвоціўся прафесар, бо акурат у гэты момант, нягледзячы на лівень, закурылася гаспадыніна экзатычная загарадзь.

Згарэла фазэнда і Кішэневых. Ад яе засталіся галавешкі, ды сіратліва чарнела печ. Пракоп з Броняй шчыравалі на сваім участку, з агародніх шлангаў памагалі дажджу заліваць галавешкі. Убачыўшы Забаўскага, гаспадыня забедавала:

— Во, Ігнатка, усё, што гадамі нажывалі, дзякуючы стаpанням майго Архімеда, да неба пайшло. — І разнервавана патлумачыла: — У ягоныя жалезныя ражны і пацэліла маланка, а я казала: не стаў, без іх прыладзіш мансарду, не паслухаў упарцік. Дак ад нас агонь на суседзяў перакінуўся: Ідзіна шпакоўня хутчэй за нашу запалала і ад хвалёнай халупы — толькі попел і вясёлая слава пра выскачку-гаспадара засталіся.

— Іда-Ізаўра, пазяхаючы, раўнадушна сузірала сваё і суседнія папялішчы і пачала супакойваць разнерваваную Броню і раўнадушнага да нечаканай бяды Пракопа:

— Ты, гаспадынька, плюй на ўсё і беражы здароўе. У твайго Пракопа залатыя рукі — новую змайструе, яшчэ лепшую за былую.

— А дзе грошай набрацца? — засумнявалася суседка ў Ідзінай парадзе.

— Вой! — Такой той бяды, страхоўку атрымаем, людзі памогуць. А мне дак напляваць: — Знайду новага мэнжа — няхай будуе, не сядзіць панам, — натхняла суседзяў і сябе дачная аптымістка.

Тадорка з прафесарам шчыравалі ў мастацкай аранжарэі, залівалі ўпарты агонь, які з адмысловай агароджы паволі перапаўзаў на кветкавыя партрэты графаў Вепраўскіх. Памагаў ім Забаўскі з Галапузікам — адсякалі агонь бензапомпай і змочвалі сцены арыгінальнага замка, каб не дабраўся да ўтульнага жытла руплівай гаспадыні.

Прыехалі пажарнікі і жвава ўзяліся тушыць на пажарышчах галавешкі і паліваць зарослыя пустазеллем, забытыя і пакінутыя агароды, куды ад Пракопа непрыкметна пракраўся агонь.

Пачало змяркацца, дождж гэтак жа, як і хлынуў, раптоўна суняўся, толькі парывы ветру страсалі з дрэў апошнія кроплі, разганялі хмары, вызваляючы неба для чарговай спёкі. У вячэрнім змроку пажарныя машыны бліснулі на развітанне чырвонымі сігнальнымі агнямі — паехалі. Закругліліся з тушэннем і вепраўцы — пачалі гуртавацца каля Тадорчынага маёнтка.

На правах камандзіркі з натоўпу вылучылася Іда-Ізаўра, усмешліва паскардзілася, акінуўшы раўнадушным позіркам рэшткі сваёй сядзібы:

— Во дажылася — пераначаваць няма дзе!

— Не гаруй, красавіца, мая хата ўцалела — усім месца хопіць, — азваўся Забаўскі, складваючы ў каламажку пажарнае начынне.

Пагарэльцы цішком рушылі ў знаёмым кірунку.



Таццяна МУШЫНСКАЯ

# «ГЭТА СВЕТЛАЕ ШЧАСЦЕ — ЧАКАЦЬ І КАХАЦЬ...»

* * *

Зялёнае воблака — дрэва ў акне...
Твой самы кароткі шлях — да мяне.
Твой самы кароткі шлях — па вясне.
Наяве.
У сне.
Да мяне.
Па вясне.

* * *

Як добра пачувацца закаханай —
Шчаслівай і смяшлівай, маладой!
І валасы зноў пахнуць дурнап'янам —
Было ўжо гэтак даўняю вясной.

Як добра ўміг забыць самотны вопыт
І крыўд старых палынны, горкі смак!
На аптымізм заўжды вялікі попыт,
З гадамі не знайду яго ніяк.

Зялёны май — гаючыя вытокі...
Як добра пачувацца мне ў вясне!
Бо раптам забруяцца жыцця сокі
Ў зямлі, бярозе, клёне, ува мне.

---

***Мушынская Таццяна Міхайлаўна** нарадзілася 26 чэрвеня 1958 года ў Мінску. Скончыла факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1981). Працавала ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». З 1991 года — рэдактар аддзела музыкі часопіса «Мастацтва».*

*Піша на беларускай і рускай мовах. Аўтар паэтычных кніг «Я вандрую ў стагоддзях» (1998), «Рабро Адама» (1999), «Сны кахання» (2006), «Души ожиданье» (2006), кнігі прозы «Доўгае развітанне» (1997), кніг для дзяцей «Калі тата — Дзед Мароз» (2000), «Свята печанай бульбы» (2003) і інш.*

* * *

Чаму між радасцей зямных
Жыве ў душы трывога?
Чаму малітваю прашу
Спакойлівасці ў Бога?

Чаму не спіць, бурліць рака,
Пакутаю любоў завецца?
Трымценне кожнага лістка
У сэрцы адгукнецца.

* * *

Калі над зямлёю вясёлка паўстала,
Дык ведай, я проста цябе прыгадала.

І колеры скажуць вясёлкі-дугі,
Што я — дарагая... І ты — дарагі.

Як сонца абшары зямныя кране,
Нядолю прагоніць і шчасце гукне, —

Тады здагадайся — усё гэта я...
У сонечным промні ёсць сіла мая.

* * *

Мне прыемна з табой нават проста маўчаць,
Мне прыемна з табой светлы ранак страчаць
І па жытняй сцяжынцы з табою ісці.
Там валошкі пяшчотай нам будуць цвісці.

Мне прыемна з табой сум і радасць дзяліць,
Пра бясконцасць любві Пана Бога маліць.
Мне прыемна цябе на дарозе чакаць...
Гэта светлае шчасце — чакаць і кахаць!

* * *

Чым больш зіхатлівая мая мара,
Тым з большай асалодаю
Руйнуе яе рэальнасць.
Часам — з халодным раўнадушшам,
Часам — з саркастычнай усмешкай.

* * *

Як сказаць,
Калі трэба маўчаць?
Як любіць —
І больш не страчаць?

Прыхінуцца —
І не цалаваць?
Спадзявацца —
І больш не чакаць?

* * *

Маладая трава ўпарта і радасна
Прабіваецца праз старую лістоту,
Парыжэлую, скурчана-непатрэбную.

А старая лістота некалі была
Маладым, шчаслівым, трапяткім лісцем.
Было трапятанне — засталося смецце.

Старое лісце вясной зграбуць і спаляць.
Вільготнае ад дажджу, яно будзе
Гарэць марудна, нібыта проці волі.

Але ў рэшце рэшт яго ўсё роўна спаляць.
Гэтак я спалю некалі твае даўнія лісты.

* * *

Як вярнуцца назад, як вярнуцца,
На мінулае не азірнуцца?
Як вярнуцца, жыццё распачаць
І ніколі цябе не страчаць?

Як вярнуцца, скажы, да сябе
І ніколі не ўбачыць цябе?
Як вярнуцца назад, як вярнуцца
І душой болей не страпянуцца?

* * *

Жанчыны і кветкі
Таемная сувязь.
Цвіценне і росквіт —
Агульная сутнасць.

Бутон і пялёсткі —
Пяшчоты трымценне…
А потым... лістоты
Сухой шапаценне.

* * *

І няхай шмат гадоў праміне,
Адыдуць хваляванні, трывогі,
Ён паўсюль адшукае мяне —
Горкі прысмак расстайнай дарогі.

* * *

Я колісь думала —
Твая любоў уратуе.
Я колісь верыла!
Ды ўжо даўно не веру...

Жыву і думаю:
Дзе, ад каго дазнацца,
Як ад сваіх
Пачуццяў ратавацца?

* * *

Што значыць шчасця міг або гады,
Што значыць боль, знявагі, мукі
Прад тайнаю знікнення назаўжды,
Прад безданню заўсёднае разлукі?



## Мацiя БЕЧКАВIЧ

*Мацiя Бечкавiч (1939 г. н.) — адзiн з самых вядомых пiсьменнiкаў былой Югаславii, лаўрэат больш як дзесяцi лiтаратурных прэмiй, акадэмiк Сербскай акадэмii навук i мастацтваў. З-пад яго пяра выйшлi кнiгi паэзii «Вера Паўладольская», «Куля-бадзяга», «Так гаварыў Мацiя», «Казаў мне адзiн чалавек», «Мяжа Вука Апантанага», «Вой-вой i ая-яй», «Два светы», «Паэмы», «Богаяўленне», «Служба святому Саву», «Косава — найдаражэйшае слова сербскае», «Бацькоўства», «Трэцяя рука», «Будзем спрачацца яшчэ», «Хлеба i мовы» i iнш. Самае аўтарытэтнае выдавецтва краiны — «Сербская лiтаратурная супольнасць» — у 2003 годзе выдала дзевяцiтомны збор яго паэтычных твораў. Ён таксама публiцыст (зборнiкi «Пра мiжчассе», «Пра Негаша»), драматург (п'есы «Чэ — трагедыя, якая працягваецца», «Цягнiк, якi насiў акуляры», «Кароль па сумяшчальнiцтве») i перакладчык.*

*Даўно ведаючы творчасць Мацii Бечкавiча i маючы гонар быць знаёмым асабiста, дазволю сабе выказацца, чым, на мой погляд, ён асаблiва цiкавы.*

*Перш за ўсё, бадай, сваiм магутным талентам, дзякуючы якому ствараецца непаўторны паэтычны свет. Прычым ён настолькi арыгiнальны, што перакладу амаль не паддаецца. Ды гэта не арыгiнальнасць дзеля арыгiнальнасцi. Яго карцiна свету — не выштукаваная, а глыбiнна ўкаранёная ў нацыянальныя традыцыi, у розныя пласты народнай свядомасцi.*

*Iстотна тое, што Бечкавiч заўжды цвёрда стаяў за ўсе тыя каштоўнасцi, якiя дасталiся яму ў спадчыну, i нiколi не хаваў сваiх поглядаў дзеля таго, каб дамагчыся прыхiльнасцi ўлад, узнагарод цi прывiлей, роўна як i таннай папулярнасцi.*

*Асабiста мне ён блiзкi тым, што не «прадаў веру за вячэру» (яго выраз), як гэта зрабiла большасць прадстаўнiкоў яго пакалення, а паслядоўна заставаўся праваслаўным, што i сведчыў адкрыта, не зважаючы нi на якiя ўмовы.*

*Важна таксама, што Бечкавiч-чарнагорац не абрывае агульнасербскую сiстэму каранёў, умацоўваючы такiм чынам кожны корань паасобку i ўсе iх разам.*

*Карацей кажучы, гэта ў сапраўдным сэнсе слова iнтэлiгент i пiсьменнiк-грамадзянiн, высокай годнасцi прадстаўнiк свайго роду-народа i роднага пiсьменства.*

***Iван ЧАРОТА***

## ТЫ Ж НЕ МАЛЫ ЎЖО

Выразам, з дапамогай якога праз усё жыццё мяне суправаджала маці, быў: «Ты ж не малы ўжо!»

І калі мне было трэба згадаць першыя пачутыя словы, гэта былі матчыны словы: «Ты ж не малы ўжо!»

У вайну маці стала ўдавою. Пасля вайны, як пасмяроцце, нарадзілася мая сястра. І тады я, найстарэйшы, страціў права на званне і статус дзіцяці. Матулі больш, чым мне, хацелася, каб я хутчэй вырастаў.

— Ты ж не малы ўжо!

Табе хутка ў школу!

У нашай хаце малых няма!

Няма як тут быць малым!..

І я вельмі чакаў, калі ж вырасту і сапраўды не буду малым у асяроддзі тым, дзе ўсе вялікія і дзе няма як быць малым.

— Ты ж не малы ўжо!

Вось бачыш, які ты вялікі!

Ведаеш, колькі табе гадкоў?

Ведаеш, што ў тваіх гадах калісьці рабілі? Твой дзед меншы быў, калі сіратою застаўся, і ўвесь дом на сваіх плячах трымаў. Ды не толькі дзед, але і ніхто з твайго роду не быў за дзеда старэйшым, калі без бацькі заставаўся і чалавекам станавіўся.

Я рана сеў на ганаровае мужчынскае месца, а стан старэйшага сына цягне за сабою таксама іншыя тытулы, якія абавязваюць: нашчадак, гаспадар, распарадчык, пачэсны госць, дзядзька, дзевер, кум, сват... А той, хто ма́е ўсё гэта і яшчэ шмат іншага неназванага, не можа быць малым.

— Як гэта ты сядзіш?

Куды гэта пазіраеш?

Апраніся!

Ты ж не малы ўжо!

Маці яшчэ трохі памучыцца, а тады яе ты заменіш. Ведаеш, што і дзявяты брацік на цябе глядзіць.

І калі я вырас, амаль нічога не змянілася. Я ўжо студэнтам быў, а маці казала:

— Як гэта ты ясі?

Чаго ты смяешся?

Выпраўся, нашто згорбіўся!

Ты ж не малы ўжо!

Я ажаніўся, бацькам стаў, галава ўжо сівая, а ў маці не было патрэбы мяняцца:

— Сядзі спакойна!

Паводзь сябе прыстойна!

Будзь сур’ёзны!

Ты ж не малы ўжо!

Так мая маці трымцела нада мною, сачыла за маімі словамі і рухамі, аж пакуль не закрыла навек вочы.

Кажуць, у маці няма ўзросту. Няма і школы значнейшай за матчыну. І кожны чалавек — дзіця, пакуль жывая маці яго.

Таму загалоўкам майго жыццяпісу мог бы стаць рэфрэн, якім маці мяне перасцерагала:

«Ты ж не малы ўжо!»

## ПЕСНЯ ЗНЯВОЛЕНАГА

Вязень, нечакана выпушчаны на волю,
Стаіць на грудку перад турмою і захіляе сонца рукою.
Быццам госць, пра якога не згадваў ніхто,
Ён з’явіўся, і, як грому ў дзень ясны, яму ўсе дзівяцца.
Зямля ўся цалкам перад ім, пад яго нагамі,
Аднак яму страшна быць занадта цікаўным,
І ён разглядае тое, што побач.
На тых некалькіх кроках вакол сябе прыкмячае,
Што былінка кожная па-свойму непаўторная.
Кожная парушынка і на сцяне драпіна яго ўражваюць як значныя.
Лісточак кожны, і найдрабнейшы,
Настаўляецца на яго ўсёй веліччу.
Нават матылёк нейкі яго заўважае
І з неабсяжнага неба на плечы злятае.
Даўно ў жыцці вязня нічога больш значнага не здаралася.
Ён адчувае радасць і разгубленасць разам.
Яму здаецца, што нехта вачэй з яго не зводзіць,
І, азірнуўшыся, пераконваецца: на самай справе
Сланечнікі з гародчыка непадалёку за ім сочаць —
Спачатку доўгія стрыбулі павысоўвалі з-за плота,
А потым і галовы!
Утаропіліся жоўтымі абечкамі,
А пад імі буйныя чорныя семечкі!
Ды тут яшчэ ў вязня на вачах
На сланечнікі наляцела птушак чарада.
Гэта было занадта ўжо,
І ён вочы працёр.
А што казаць тады пра дзьмухаўцы, якія маліліся
Каля шэрых ног вязня былога,
І пра ўсю зямлю, якая іх парадзіла.
Хто апіша пагляды арэха старога
Ці пераглядкі яго з дубам, які побач,
А тым болей усяго свету пагляд праз тысячы розных з’ яў,
Нібы тысячы гарматных ствалоў,
Наведзеных на чалавека аднаго, —
Які цяпер дзівуецца, чаму ж сабе ўсяго не адкрыў тады,
Калі вольна хадзіў па зямлі малады, калі
Ў найгусцейшых лясах, поўных незвычайнага жыцця, быў раўнадушны,
Калі не заўважаў нічога меншага за гару і за птушку,
А цяпер здаецца, што на пёрка кожнае не наглядзецца.
І тут да вязня даходзіць, што ў яго бачаць толькі вочы,
А ў навакольным свеце відушчыя ўсе прадметы,

І кожны з іх усёй сваёй істотаю глядзіць.
Колеры прыроды ў чалавеку сваё знаходзяць:
Блакітам успрымае блакітны, жоўтым жоўты, чорным чорны,
Нават безназоўны нейкі лічыць патрэбным
Вылучыцца і на яго глядзець са сваёй няпэўнасцю.
Ён заплюшчвае вочы і спрабуе засяродзіцца.
І раптам нявольнік былы, якога ніхто не чакаў пасля турмы,
Жахнуўся ад думкі, што свет навакольны зноў у яго адбірае волю,
Што волю перамагае ягонае замілаванне,
Што ён цяпер становіцца вязнем усяго бачнага,
Змянілася ж хіба што толькі месца няволі,
І што чалавек сапраўды ганаровы не можа быць гэтак паланёны.
Адчуў сябе зноў вязнем, нікчэмным рабом —
У полі, якое ў турме лічыў за волю.
І тады на вачах усіх тысяч раслін ён упаў тварам да зямлі.
Побач, за гэтулькі год упершыню, цень выцягнуўся,
І вязень рэштаю сілы яго да сябе прытуліў.
Уся прырода ані не зводзіць свайго наглядчыцкага вока
З няўрымслівага, які дагэтуль шмат год не ведаў пра свой зрок,
Аж пакуль зямля сырая цела яго не схавае.
Яго галава ўпала на той бок, дзе горы,
А за гарамі, як выбух, распасціралася мора,
Якому даводзілася бачыць падобнае неаднаразова
І якое даўно залегла ў свае ўяўныя межы,
Каб дачакацца няўрымсліўца сапраўднага, годнага,
Каб яму служыць і не даваць
Упасці.
Пакуль само яно не знікне, прынамсі.

## РАЗМОВА З ГОЙЯМ

«Немагчыма ведаць, чаму» —
Напісаў Францыска Гойя
Пад адным сваім малюнкам
З серыі «Ваенныя непамыслоты»,
На якім паказаў бясконцыя рады дрэў
З павешанымі на іх людзьмі.

Ды як жа, дон Францыска,
Немагчыма ведаць, чаму,
Калі ўсё лёгка прачытваецца
З таго, што намаляваў ты сам?
Трэба толькі паставіць у сувязь
Галлё з вяроўкамі,
Петлі з шыямі —
І на пытанне: «Нашто?» —
Адказаць: «Вось таму».

## НА МАГІЛЕ АЙЦА ЮСЦІНА

На магіле айца Юсціна
Пры манастыры Чэліі
Манахіня кветкі саджае
І шэпча, каб хутчэй раслі.

Бач, кажа мне чарнарызец Амфілохій,
Ава не меў дзяцей па плоці,
З той пары, як стаў плакаць за Хрыстом,
Нічым на зямлі не мог суцешыцца,
Ды ў яго тут безліч дзяцей духоўных.

Яны пагорачак грэюць слязьмі сваімі,
Кветкі з палёў носяць замест павялых,
Свечцы няўцешнай не даюць, каб згасала.
А колькіх бацькоў пры дзецях народжаных
Магілы забытыя хмызняком парастаюць.

## ЯПОНІЯ, ЯВА, МАЛЬЁРКА, МАДАГАСКАР

Не смею згадваць Японію, Яву, Мальёрку і Мадагаскар,
Бо сам іх ніколі не бачыў
І не веру наогул, што нешта існуе так далёка.
Гэта метафары, выдуманыя дзеля забавы.
Тыя, што дабраліся туды, убачылі прорву
І дамовіліся астатніх падманваць.
Калі там жывуць людзі, я не ведаю іх,
І яны не могуць быць сведкамі, што я некалі жыў,
А тым больш, што мы жылі разам у адзін час.
Нават калі яны існуюць,
Ніхто ў будучым не паверыць, што мы былі незнаёмыя,
Гэтак, як я цяпер не веру,
Што не былі знаёмымі сучаснікі
Дантэ і Даменціян!
Калі ж я там не жыў,
То чаго мне быць там мёртвым?
Калі буду мёртвым толькі там, дзе жыў,
То, пры існаванні гэтых краін,
Я б у іх жыў нанова і нанова памёр.
Толькі тады б мяне тут не было.
Калі ёсць яшчэ недзе жыццё, я ж яго не пражыў,
Клянуся,
А чаго ж тады мне ўсюды быць мёртвым,

Калі ўсюды не быў я ніколі жывы?!
Калі б існавалі Японія, Ява, Мальёрка, Мадагаскар
Ды іншыя цуды,
Я б перасяляўся з адной краіны ў другую,
Жыў бы і паміраў там па-markознаму,
Пад іншымі зорамі і імёнамі
І ведаў бы кожную пакінутую краіну так,
Як ведаю вось гэтую.
І дзе б я ні апынуўся пасля смерці, мне б казалі:
«Шаноўны, ваш век — восемдзесят гадоў,
А ўсе восемдзесят гадоў вы тут не жылі.
Пражывіце тое, што ваша,
І адпраўляйцеся далей».
І так бы я перасяляўся з адной прасторы ў другую,
Але ж няма ніводнай іншай краіны,
І нідзе нельга жыць так, як у сваёй.
А інакш бы вялікая крыўда была
Ў адносінах да незлічоных нябожчыкаў.

***Пераклад з сербскай Івана ЧАРОТЫ.***

Ірына ШМАТКОВА

# БЕЛАРУСКАЯ ЖАНОЧАЯ ПАЭЗІЯ: ДА ПЫТАННЯ ЭВАЛЮЦЫІ

Тэрмін «жаночая паэзія», як і «жаночая літаратура», у беларускім літаратуразнаўстве на сённяшні дзень з'яўляецца прадметам дыскурсу, адносіцца да разраду паняццяў хутчэй літаратурнай крытыкі, чым навуковых, хаця ў рускім і замежным літаратуразнаўстве ўведзены яшчэ ў канцы 1980-х — пачатку 1990-х гг. [1, с. 42]. Межы дыскурсу вагаюцца ад катэгарычнага адмаўлення падзелу літаратуры па палавой прыналежнасці аўтара са сцвярджэннем, што літаратура можа быць толькі добрай або дрэннай, да поўнага прызнання паняцця як культурнага феномена. Доўгі час тэрмін увогуле ўжываўся з ацэначнай канатацыяй другараднасці. У гэтым сэнсе першасным з'яўляецца мужчына-творца; у беларускай літаратурнай крытыцы можна сустрэць, напрыклад, такія ацэнкі творчасці жанчын: «Энергетыка вершаў Галіны Булыка — мужчынская, <...> улічваючы далёкі ад сантыментаў вобразны лад «Сінтэзу» і выверанную нежаночай логікай музыку «Турмаліну» [2, с. 82]. Атрымліваецца, што жанчына-аўтар можа быць прызнана толькі як здольная паэтэса з мужчынскім стылем.

Праблема жаночай літаратуры не можа быць вырашана толькі ў межах літаратуразнаўства. Феномен «жаночага» стаў аб'ектам гендарных даследаванняў у гісторыі, культуры, сацыялогіі, філасофіі, псіхалогіі і г. д. На Захадзе тэорыю гендарнай стратыфікацыі (як адной з падсістэм сацыяльнай) распрацавала Дж. Хубер [3, с. 83]. У Расіі гэтай праблемай займаецца Маскоўскі цэнтр гендарных даследаванняў. Навукоўцы яго, развіваючы тэорыю Дж. Хубер, даказваюць, што гендар стварае іерархію сацыяльных адносін і роляў паміж мужчынамі і жанчынамі. Калі Фрэйд сцвярджаў, што «пол — гэта лёс», то гендар — гэта сацыяльная і культурная «абалонка» біялагічнага полу. У Беларусі адной з першых даследчыц гендарных праблем у літаратуры стала Т. А. Фіцнер, якая прыходзіць да высновы: «Гендар кожнага творцы абумоўлены (у рамках адной этнічнасці) гістарычным часам, культурным кантэкстам, полам, адукацыяй, узростам» [4, с. 73].

Гендарны падыход адкрыў новыя магчымасці ў інтэрпрэтацыі літаратурных твораў, аналізе тэксту з пункту гледжання ўяўленняў аб паняццях жаночае — жаноцкае (фемінное — фемінінное) і мужчынскае — мужнае (андрагіннае — маскулінное). Увогуле, станаўленне гендарнага аспекту гістарычна звязана з асэнсаваннем жаночай эмансіпацыі. Вектар развіцця жаночага пытання накіраваны ад выяўлення жаночага, фемінінага да гендарных даследаванняў.

Феміністкі падыход да вывучэння літаратуры як галіны акадэмічнай навукі зарадзіўся ў канцы 60-х — пачатку 70-х гг. XX стагоддзя ў англійскай літаратуры [Б. Фрыдан «Таямніца жаноцкасці» (1967); К. Міллет «Сексуальная палітыка» (1970); М. Элман «Разважаючы аб жанчынах» (1968)]. Аб'ектам даследавання стаў жаночы вопыт, жаночая гісторыя. У 1981 г. амерыканская даследчыца Элейн Шоуолтар у кнізе «Да праблемы феміністкай паэтыкі» ўводзіць тэрмін «гінакрытыка» (gynocritics) — даследаванне жаночай літаратуры і, увогуле, творчасці, зыходзячы з жаночага вопыту і гісторыі жаночай культуры. Галоўны аб'ект — шматгранны вопыт і шляхі яго рэпрэзентацыі ў творах. Асноўныя задачы феміністкай крытыкі ў «вызначэнні месца жаночай літаратуры ў агульным літаратурным працэсе, у вяр-

танні беспадстаўна забытых або праігнараваных крытыкай імён жанчын-пісьменніц, у вывучэнні адлюстравання жаночага вопыту ў творах жанчын» [5, с. 244].

Адкрыццём стала распрацаваная Э. Шоуолтар універсальная трохэтапная тэорыя развіцця любой субкультуры, у тым ліку і фемінізму [5, с. 240]: этап імітацыі (жаноцкі) — жанчына-пісьменніца ўсведамляе сябе слабой, залежнай, падпарадкаванай мужчынскаму свету і яго каштоўнасцям; перыяд імітацыі мужчынскаму дыскурсу, перыяд вучнёўства; этап пратэсту (уласна феміністкі) — пратэст супраць прыніжэння праў жанчын, супраць двайных стандартаў грамадства ў адносінах да жанчыны ўвогуле і да жанчыны-пісьменніцы, у прыватнасці; этап самаадкрыцця (жаночы) — усведамленне сябе часткай грамадства, якое складаецца з мужчын і жанчын, спроба самаідэнтыфікацыі, творчага дыскурсу, вольнага ў роўнай ступені як ад перайманняя, так і ад гневу.

У далейшым гэта тэорыя неаднаразова прымянялася пры аналізе жаночай літаратуры іншых краін, у тым ліку і беларускай (С. Калядка).

Вядомы гісторык жанчын у Германіі А. Кун, якая сваё прызначэнне бачыць у вяртанні гістарычнай самасвядомасці жанчын. Дзякуючы яе ініцыятыве апублікавана шматтомная серыя «Жанчыны ў гісторыі». У рускім літаратуразнаўстве распрацоўкай гэтага феномена займаюцца Т. Ровенская, К. Таратута, І. Саўкіна, М. Шопава і многія іншыя. Адметная з'ява — кнігі серыі «Жаночы почырк» (выдавецтва «Вагрыус»). На Украіне біяграфічны энцыклапедычны слоўнік «Жанчыны Украіны». Для беларускай жаночай літаратуры, ды і культуры ўвогуле, стала знакавай Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Таленавітыя жанчыны Беларусі ў культурнай, навуковай і мастацкай прасторы свету» (Мазыр, 24—25 мая 2007 г.) [4], якая аб'яднала каля 70 навукоўцаў.

Увогуле, беларускія даследчыкі ўнеслі значны ўклад у вывучэнне жаночай літаратуры. Так, Т. Усманава звяртае ўвагу на адсутнасць жанчыны ў гісторыі заходняга мастацтва і культуры да XX стагоддзя. Т. Паваляева вывучае англійскую жаночую прозу XX стагоддзя.

Т. Фіцнер у даследаванні «Гендэрныя праблемы ў беларускай літаратуры XX стагоддзя» (2003) абгрунтоўвае залежнасць гендарных узаемаадносін, стэрэатыпаў жаноцкасці, сацыяльных роляў жанчын у творах асобных аўтараў XX стагоддзя ад іх гендара. Адзін з падраздзелаў прысвечаны супастаўляльнаму аналізу творчасці У. Ф. Радзівіл і С. Русецкай-Пільштыновай, характарызуецца жаночая літаратура XIX стагоддзя, выяўляецца яе адметнасць: «звышпачуццёвасць, афектыўнасць, увага да жаночых вобразаў і сітуацый» [6, с. 7]. Карысны для далейшых даследчыкаў будзе аналіз Т. Фіцнер суадносін дзвюх катэгорый: «тапалогія» (агульныя якасныя ўласцівасці) і «гендарнасць» (унікальнасць, своеасаблівасць), якія «спрыяюць спасціжэнню спецыфічнасці, своеасаблівасці жаночай творчасці ў параўнанні з мужчынскай, адначасова аспрэчваюць еднасць і аднолькавасць жанчын, сцвярджаюць адрозненні паміж імі» [6, с. 3].

У беларускім літаратуразнаўстве 1970—1980-х гадоў з'явілася шэраг прац, прысвечаных творчасці паэтэс другой паловы XX стагоддзя. Пра творчасць Е. Лось — найбольш пасля артыкула А. Лойкі «Паэтэса пакалення» (у яго кнізе «Паэзія і час»); В. Каваленкі «Ад сакавіка да ліпеня...» (кніга «Жывое аблічча дзён»). В. Каваленка ўжо ў 1978 годзе гаварыў пра «жаночую паэзію» як адметную эстэтычную з'яву. Ён, у прыватнасці, пісаў: «Паэтэса адчувала шырокія філасофска-эстэтычныя магчымасці жаночай лірыкі і спадзявалася, што іх ажыццяўленне прывядзе да ўзбагачэння беларускай паэзіі» [7, с. 200]. «Ад сакавіка — да ліпеня...» назваў свой артыкул у кнізе «Прад высокаю красою» і В. Бечык. А яшчэ артыкул «З душы адкрытай» у кнізе В. Бечыка «Выбранае»; У. Гніламёдава (кніга «Як само жыццё»), А. Бельскага («Беларуская літаратура XX стагоддзя: гісторыя і сучаснасць») і «Я жыву за дажджом, за вясёлкаю...»; асобныя артыкулы і рэцэнзіі Л. Тарасюк, Я. Семяжона, А. Зарыцкага, М. Арочкі, Я. Усікава.

Творчасць Я. Янішчыц стала аб'ектам даследавання Д. Бугаёва — артыкул «Пачынаецца ўсё з любві...» («На стрыжні часу»), «Усхваляванае слова паэтэсы»

(«Талент і праца»). У. Гніламёдаў прысвяціў ёй артыкул «Разгадваючы тайны быцця» («Ля аднаго вогнішча»). Суадносіны творчай індывідуальнасці Я. Янішчыц і літаратурнага працэсу другой паловы ХХ стагоддзя даследуюцца ім у кнізе «Сучасная беларуская паэзія: творчая ідывідуальнасць і літаратурны працэс». Згаданы артыкул адметны з пункту гледжання адкрыцця ў беларускім літаратуразнаўстве паняцця «жаночая паэзія». У. Гніламёдаў у 1983 годзе сцвярджаў: «Ёсць у літаратуры паняцце «жаночая лірыка». Яна мае свае вяршыні ў сусветнай паэзіі. Леся Украінка, Марына Цвятаева, Ганна Ахматава, Саламея Нерыс... Па-рознаму праяўляецца ў іх жаноцкасць...» [8, с. 235]. Прычым жаноцкасць даследчык выявіў, адштурхоўваючыся менавіта ад першай кнігі паэтэсы «Снежныя грамніцы» (1970): «Жаноцкасць у паэзіі Янішчыц звязана якраз з музычнасцю яе верша, некаторай ідэалізацыяй рэчаіснасці, інтымнымі інтанацыямі, унутранай даверлівасцю, схільнасцю да эмацыянальнага абжывання свету» [8, с. 236]. Тут жа У. Гніламёдаў спрачаецца з Д. Бугаёвым наконт «кволасці і безабароннасці» маладой Я. Янішчыц, у якой навуковец не адмаўляе наяўнасць «кволасці» (як яго апанент), а характарызуе яе па-жаноцку «эстэтычна змястоўнай» [8, с. 236]. Зацікаўленасць феноменам жаночай літаратуры выявілася ў У. Гніламёдава і ў 1987 годзе: артыкул «Высокі сэнс быцця (Пра «жаночую» паэзію)» у яго кнізе артыкулаў, нарысаў, старонак успамінаў «Класікі і сучаснасць».

Як бачым, тэрмін вынесены ў падзагаловак артыкула, хоць і ўзяты ў двухкоссе; у самім артыкуле таксама прысутнічае агаворка: «Жаночая паэзія — выраз даволі ўмоўны» [9, с. 240]. Даследчык на матэрыяле творчасці Я. Янішчыц, В. Коўтун і Р. Баравіковай фармулюе адну з вядучых адметнасцей (больш дакладней сказаць «звышзадач») жаночай лірыкі: «абвастраць маральную патрабавальнасць, адкрываць высокі сэнс жыцця!» [9, с. 241], вытокі якой бачыць у паэзіі Цёткі (па-мужчынску манументальнай, плакатнай, агітацыйнай і адначасова па-жаночы пяшчотнай, пранікнёнай, багатай на любоў і дабрыню). Яшчэ адну стрыжнёвую адметнасць «жаночай» паэзіі вылучае Р. Семашкевіч у аднайменным з назвай свайго зборніка «Выпрабаванне любоўю» (1978) артыкуле, прысвечаным творчасці Я. Янішчыц, — жанчыны цалкам у апяванні любоўнага пачуцця [10].

Звяртае на сябе ўвагу артыкул А. Лойкі «Тут рука дрыжэла ў хваляванні...», прысвечаны адной з паэтэс «старэйшага пакалення» Н. Тарас. Не надаючы, праўда, намінатыўнага значэння як рыс жаноцкасці, ён вызначае ў яе лірыцы «моцны бок», заключаны «ў даверлівасці інтанацый, выяўленні душы тонкай, чалавечай, адкрытай» [11, с. 213]. Характарызуе творчасць Н. Тарас як «нешматгранную», слабую з пункту гледжання вобразна-выяўленчых сродкаў, але моцную пачуццёвасцю, сціпласцю, жаночай слабасцю, ранімасцю, чуллівасцю.

Правёўшы паралель з «кволасцю, безабароннасцю» Я. Янішчыц, атрымаем адзін з доказаў прысутнасці жаночай адметнасці ў творчасці аўтараў-жанчын. Хаця, канечне, багацце вобразна-мастацкага свету Я. Янішчыц не выклікае сумненняў літаратуразнаўцаў.

Тамара Чабан у даследаванні «Крылы рамантыкі: рамантычныя тэндэнцыі ў сучаснай беларускай паэзіі» (1982), аналізуючы творчасць беларускіх паэтаў-рамантыкаў, выдзяляе ў гэтай сувязі Я. Янішчыц і В. Вярбу. Зразумела, рамантычнасць і жаноцкасць — паняцці не ідэнтычныя, але ў асобнай канатацыі суадносныя. Т. Чабан, характарызуючы лірыку паэтэс, адзначае «эмацыянальны пачатак», адвяргаючы «прагматызм, рацыяналізм». Лірычнай гераіні В. Вярбы, на яе думку, уласціва «жаноцкая (звярніце ўвагу — жаноцкая, а не жаночая. — **І. Ш.**) кволасць, пяшчота да ўсяго жывога, душэўная ранімасць» [12, с. 138]. У працы Т. Чабан, акрамя пералічаных рыс жаноцкасці, характэрных паэзіі В. Вярбы (якія суадносяцца з азначэннямі У. Гніламёдава па паэзіі Я. Янішчыц і А. Лойкі па творчасці Н. Тарас), выяўляюцца прыклады змяншэння лагічна-рэчыўнага пачатку: «гранічна эмацыянальныя, суб'ектыўныя, неадназначныя эпітэты («засмучаныя далі», «строгі маладзік, «позні кароль», «перабалелы дзень» і г. д.), непрадбачаныя, ірацыянальныя параўнанні («рух ласкавых рук — як міг

і недарэчнасць»), катахрэза — непаслядоўнасць у развіцці паэтычнага вобраза» [12, с. 139]. Усё гэта дае магчымасць пры дапамозе «недагавораных» слоў і сімвалічных вобразаў звяртацца да чытача, як бы «мінуючы логіку». Тут дарэчы прывесці вядомы выраз пра «жаночую логіку» ці пра яе адсутнасць, а дакладней сказаць, пра поўнае яе непаразуменне супрацьлеглым полам.

Творчасць Н. Мацяш не абыходзіць увагай У. Калеснік у кнізе «Усё чалавечае», а Р. Семашкевіч у артыкуле «Адчуванне шляху», змешчаным у яго зборніку «Выпрабаванне любоўю», аналізуе дзесяцігоддзе творчай дзейнасці паэтэсы. Да яе творчасці звярталіся таксама Т. Дасаева, У. Гніламёдаў, В. Бечык, Л. Тарасюк, Т. Чабан і Я. Гарадніцкі, маладыя навукоўцы С. Калядка, В. Смаль.

Творчая індывідуальнасць асобных паэтэс разглядаецца ў манаграфіях: С. Калядкі «Паэзія Я. Янішчыц: станаўленне творчай індывідуальнасці», А. Петрушкевіч «Паэзія Д. Бічэль-Загнетавай. Праблема лірычнага героя», В. Смаля «Мастацкі свет паэзіі Н. Мацяш як экзістэнцыйная сістэма».

Але не ўсялякі твор, аўтарам якога з’яўляецца жанчына, адносіцца да жаночай літаратуры. Аб гэтым сведчыла яшчэ ў 1852 годзе англійская пісьменніца Дж. Г. Льюіс: «Істотныя прыкметы гэтай літаратуры заключаюцца не ў палавой прыналежнасці аўтара, а ў мэце творчасці, у аўтарскай пазіцыі, у аўтарскай самасвядомасці і ў тым, якім чынам яна ўвасабляецца ў творы. Фарміраванне жаночай традыцыі, жаночай эстэтыкі — гэта, уласна, і ёсць гісторыя жаночай літаратуры» [13, с. 34].

Выяўленню менавіта жаноцкага ў «жаночай» паэзіі другой паловы XX стагоддзя прысвечаны даследаванні А. Петрушкевіч, І. Штэйнера, Т. Нуждзіной і інш. Так, Т. Нуждзіна ў артыкуле «Эвалюцыя самавыяўлення мастацкага «я» жанчыны-творцы ў беларускай паэзіі 60—70-х гг.» адзначае яе вялікі ўклад у айчыннае прыгожае пісьменства, але тут жа заўважае, што «застаецца пакуль па-за ўвагай даследчыкаў канцэптуальна-сістэмнае вывучэнне праблемы быцця жанчыны-творцы ў літаратурнай справе, характар стасункаў не толькі з талентам, творчым працэсам, але і з крытыкай, мужчынскім літаратурным асяроддзем. Свет жаночай паэзіі, прыродная абумоўленасць таленту жаночай сутнасцю, як правіла, вывучаецца ў агульным рэчышчы літаратурнага развіцця, у агульным кантэксце. У такім выпадку многае страчваецца ў разуменні, напрыклад, спецыфікі трансфармацыі жыццёвай праўды ў мастацкі вобраз у творчым вопыце жанчыны-пісьменніцы» [4, с. 243]. Важны акцэнт — вылучэнне пытання ўзроставай мяжы на прыкладзе творчасці Е. Лось і Я. Янішчыц. Сапраўды, цяжка аспрэчыць факт асаблівай балючасці гэтай тэмы для жанчыны.

У эсэ «Ніхто гадоў сваіх не лічыць...» Я. Янішчыц, якая сябравала з Е. Лось, пісала: «Ведаю, што, як і кожная жанчына, Еўдакія Якаўлеўна Лось баялася старасці...» [14, с. 243]. Лірычная гераіня В. Вярбы падсумоўвае: *«Як гэта цяжка быць дарослай, // Як гэта цяжка быць жанчынай <...> А потым старасць, потым восень, // Хаваеш першыя маршчыны»* [15, с. 41—42]. У Т. Бондар думкі аб пражытых гадах напоўнены іншай канатацыяй — медытатыўным роздумам аб сэнсе жыцця: *«Кожны — грэшны перад чысцінёй // Вобраза свайго... Цана сталення — // Тых гадоў, што ўздыблены сцяной, // З-за якой не выбрацца ўяўленню»* [16, с. 13]. Р. Баравікова тэму ўзросту ўздымае сінкрэтычна — то ў адным з вершаў не па-жаночы адкрыта дэманструе свае гады: *«Страчанае, забытае, // з цяперашнім упрыкус, // за маіх 42 здабытае, // ці заўсёды патрэбны груз?»* [17, с. 348], акцэнтуючы ўвагу на карысці набытага вопыту, то, наадварот, гарэзліва і адначасова сумна піша пра ўзрост сталай жанчыны: *«Раптоўны жар... І ўсё няпроста... // Хвалюе дотык Ваш няўзнак, // а не пахвалішся ўжо ўзростам, // хоць і ўслаўляў яго Бальзак»* [17, с. 421].

Ала Петрушкевіч у нататках «Хай будзе свята!», прысвечаных 8 Сакавіка, выступае супраць фемінізму як філасофіі адстойвання роўнасці, некалькі скажонай у савецкі час: «Жаночая роўнасць у тым, каб жаць, будаваць, а то і араць, прыручыўшы жалезных коняў? <…> Хто гэтага прагнуў? Услед за вялікім

Л. М. Талстым, які сцвярджаў, што фемінізм — з'ява ілжывая, антыжаноцкая, з усёй адказнасцю сведчу: так, антыжаноцкая, бо яна накіравана супраць жанчыны ў жанчыне» [18, с. 16—17]. Даследчыца бачыць прызначэнне жанчыны не ў змаганні за ўсеагульнае шчасце, а ў тым, каб ствараць яго ў сваім гняздзечку — «каханы, кухня, дзеці» (Д. Бічэль). Салідарызуючыся з В. Вярбой, яна горда адказвае разам з гераіняй паэмы «Снежная горка» (у артыкуле названа недакладна — «Альфа»): *« — Што ты зрабіла для народа?.. // Я гадавала вам дзіця»* [19, с. 290]. Тут жа прыводзяцца радкі Л. Геніюш, у якіх заключана яе бачанне сэнсу жаночай долі: *«Наша доля — кудзеля, лён, // нітку віць з недапрадзенай шпулі, // вартаваць адвечны агонь — // казкі, песні забытай бабулі. // Дом — адвечная доля жанчын...»* [18, с. 19].

Як бачна, не з усімі сцвярджэннямі А. Петрушкевіч можна пагадзіцца — гісторыя жаночай літаратуры паказала, што фаза пратэсту, адстойвання роўнасці — толькі адзін з этапаў фемінізму і не можа цалкам адлюстроўваць увесь сэнс канцэпцыі жаночага руху. Але з тым, што ў беларускай літаратуры, у тым ліку і ў жаночай паэзіі другой паловы XX стагоддзя, «вобраз жанчыны ўзвышаны, авеяны арэолам загадкавасці, таямнічасці, бо яна зберагае не толькі матэрыяльныя сімвалы дабрабыту пакаленняў, але і яго духоўныя здабыткі, культуру, мову» [18, с. 19], — не пагадзіцца нельга.

Адметнай з'явай у спасціжэнні феномена жаночай паэзіі стала манаграфія С. Калядкі «Беларуская сучасная жаночая паэзія: мастацкія канцэпцыі «жаночага шчасця», у якой разглядаецца інтымная лірыка ў свеце сучасных гендарных тэорый. Адкрыццём стала спроба структуралізацыі жаночай паэзіі, якая да гэтага часу выглядала «асіметрычнай». Аўтар вызначае шляхі самаідэнтыфікацыі вобраза лірычнага героя: «Калі паэты першай паловы XX ст. стваралі калектыўныя вобразы лірычнага героя, то паэзія другой паловы XX — пачатку XXI ст. зарыентавана на індывідуалізацыю вобраза, адпаведнага свайму часу. <...> Сучасная жаночая паэзія прадстаўлена не адзінкамі (як гэта адбывалася ў першай палове XX ст.), а дзясяткамі імёнаў творчых індывідуальнасцей. Таму партрэт сучасніцы ствараецца не праз мастацкія мадэлі зборных вобразаў (гэта немагчыма здзейсніць у поліфункцыянальнай шмат'яруснай мастацкай сістэме літаратурных напрамкаў, жанраў, стыляў і г. д.), а праз філасофска-псіхалагічна-культурныя тыпы (формы і спосабы) раскрыцця жаночай суб'ектыўнасці, абумоўленыя шырынёй кругагляду аўтара, яго светапогляднымі пазіцыямі, магчымасцямі таленту» [1, с. 4]. Тым самым сцвярджаецца як уласная эвалюцыя даследчыцкай канцэпцыі (ад аналізу асобных творчых індывідуальнасцей да вызначэння магістральных напрамкаў літаратурнага працэсу), так і агульная тэндэнцыя развіцця беларускага літаратуразнаўства. С. Калядка дэманструе жаночую паэзію як феномен «высокай культурнай велічыні, з чым нельга не лічыцца і тым больш адмаўляць іх наяўнасць» [1, с. 67]. Асобныя падраздзелы даследавання прысвечаны творчасці Я. Янішчыц («Фемінінасць і фемінінасць у вобразах лірыкі кахання») і Р. Баравіковай («Мадэль «жаночага шчасця» Раісы Баравіковай: класічныя і нацыянальныя традыцыі ў інтымнай лірыцы»).

Аднак, на наш погляд, канцэпцыя С. Калядкі патрабуе некаторых удакладненняў. Так, кніга, па-сутнасці, прысвечана разгляду жаночай інтымнай лірыкі, бо «ў жаночай паэзіі любоўная тэматыка займае дамініруючыя пазіцыі». Але ж любоўныя гісторыі зусім неабавязкова з'яўляюцца цэнтральнай тэмай паэтычных твораў (асабліва напрыканцы XX стагоддзя). У адрозненне, напрыклад, ад «дамскіх раманаў», тэматычны дыяпазон іх значна шырэйшы, сучасныя жанчыны прымаюць удзел у розных галінах сацыяльнага жыцця грамадства, заклапочаны рознымі яго праявамі. Адна з задач феміністкай крытыкі якраз і заключаецца ў тым, каб зламаць стэрэатыпы аб жаночай творчасці, сярод якіх — тэма кахання не адзіная.

Аналіз «жаночай» паэзіі з пункту гледжання жаночай крытыкі выяўляе наступную гісторыю. Большасць даследчыкаў бачаць вытокі жаночага феномена

яшчэ ў біблейскім часе, ад нашай прарадзіцельніцы Евы, «якая сваім учынкам прадвызначыла экзістэнцыяльнае размежаванне роляў у вечнасці і па сутнасці абазначыла гендарную асіметрыю ролевых мадэлей» (С. Калядка «Жаночае» ў сацыяльным (па творчасці Г. Каржанеўскай)) [20, с. 150]. Руская даследчыца С. Кайдаш, наадварот, лічыць, што «першая жаночая эмансіпацыя прыйшла ў Еўропу разам з хрысціянствам. <...> Менавіта Дзева Марыя — Багародзіца ўвасабляе Жаночы Пачатак у хрысціянстве. <...> Хрысціянства праслаўіла не толькі вышыню Багародзіцы, яе маральную дасканаласць, але і святых жанчын, мучаніц за веру» [21, с. 194—195]. Сапраўды, праваслаўныя жыція святых (напрыклад, «Жыціе Еўфрасінні Полацкай») — адзін з узораў высакародных і самаадданых характараў. Беларускі фальклор жанчыну прадстаўляе неадназначна: гэта і захавальніца родавага агню, і маці, сімвал Радзімы, увасабленне працавітасці, нестамляемасці, розуму, але і адначасова крыўдлівае «жончына дарога — ад печы да парога» [4, с. 26]. Т. Фіцнер робіць высновы пра беларускую жаночую літаратуру да ХХ стагоддзя «як дакумент, што зафіксаваў гендарную асіметрыю пэўнай эпохі» [4, с. 74], але адзначае яе фрагментарны характар. Яна ж лічыць, што аб агульнай канцэпцыі развіцця беларускай «жаночай літаратуры» можна гаварыць з пачатку ХХ стагоддзя, з прыходам у паэзію Цёткі, К. Буйло, Л. Геніюш. Хаця фемінннасць некаторых, у тым ліку і названых, аўтараў стала прадметам палемікі даследчыкаў. С. Калядка вызначае як «маскуліннае» паэтычнае слова Цёткі, Н. Тарас, а затым і Д. Бічэль, у супрацьлегласць фемінннасці Е. Лось, Г. Каржанеўскай [20, с. 150]. А. Петрушкевіч адстойвае жаноцкасць Алаізы Пашкевіч — «вытанчаная пані, такі тонкі псіхолаг, цудоўны празаік, шчырая беларуска», якую «чырвоны міф беларускага савецкага літаратуразнаўства зрабіў цалкам паэткай-рэвалюцыянеркай» [18, с. 15]. Т. Фіцнер даказвае, што «андрагіннасць», «агульнанацыянальнасць», «усебеларускасць» (У. Іваноў) Цёткі, К. Буйло, Л. Геніюш з'яўляецца вынікам наследавання мужчынскай традыцыі пісьма» [6, с. 9], тым самым акрэсліваючы ў беларускім літаратуразнаўстве па тэорыі развіцця жаночай літаратуры Э. Шоуэлтар яе першы этап — імітацыі.

Сярод пісьменнікаў пакалення «дзяцей вайны» даследчыкамі згадваецца толькі адно жаночае імя — Е. Лось. Т. Нуждзіна, аналізуючы яе перапіску з рускім паэтам, празаікам, перакладчыкам У. Смірновым, распавядае пра нараканні Е. Лось на тагачасную крытыку і сваіх калег па пяры [4, с. 244], якія гучаць і ў вершах: «У век жаночай роўнасці з усімі // і крытыку мы дзелім чын па чыну...» [4, с. 247]. С. Калядка прыходзіць да высновы, што стратыфікацыйная карціна беларускай жаночай паэзіі другой паловы ХХ стагоддзя «не мае ўпарадкаванасці і іерархічнай залежнасці» [1, с. 67]. У 1950—1980-х гг. літаратура папоўнілася вялікай колькасцю імёнаў. «Класічныя тэндэнцыі ў аснове паэтычнага самавыражэння аб'ядноўвалі паэтэс розных пакаленняў і надавалі гэтай еднасці сваю храналагічную сузалежнасць, якая пэўным чынам і структуравала творчую дзейнасць у межах паэтычных плыняў, напрамкаў, пошукаў і г. д. «Жаночая» паэзія ў адрозненне ад «мужчынскай» у другой палове ХХ ст. была надзелена сінергетычнай цэласнасцю і развівалася на традыцыях паэзіі Е. Лось, В. Вярбы, Д. Бічэль-Загнетавай і інш.», — зазначае даследчыца [1, с. 67]. У 1970-я гады з'явілася новая паэтычная плеяда, у якой хараша заззяў зорны жаночы россып: Я. Янішчыц, Н. Мацяш, Г. Каржанеўская, В. Коўтун, Т. Бондар, В. Іпатава, Р. Баравікова, Н. Загорская, Н. Тулупава і інш. Інтымная лірыка набывае «масавы» характар. Але, заўважае і С. Калядка, «жаночы голас у вялікім шэрагу паэтычных галасоў гучыць у своеасаблівым нотным рэгістры. Чым гэта абумоўлена? У першую чаргу тым, што прырода паэтычнага таленту жанчыны-паэтэсы, як і яе існасці, мае фемінны/фемінінны характар; па-другое, жанчыны-паэтэсы не сапернічаюць з мужчынамі, а шукаюць свае эстэтычныя эквіваленты рэчаіснасці, свае спосабы самаідэнтыфікацыі ў мностве школ, кірункаў і плыняў» [1, с. 43]. Т. Фіцнер выяўляе новыя бакі жаноцкасці ў інтымнай лірыцы В. Коўтун, Р. Баравіковай, якая «акцэнтуе ўвагу на прафесійнай дзейнасці жанчын, сцвярджае магчымасць

сумяшчэння прыватнага, грамадскага і творчага, узаемазалежнасць закаханых і ўплыў узросту на адносіны да кахання» [6, с. 15—16]. Аналізуючы творчасць Л. Рублеўскай, Т. Фіцнер раскрывае канцэпцыю паэтэсы ў адносінах да мужчын, вартасць якіх тая вызначае праз адносіны да жанчыны.

Аналіз названых даследаванняў, нашы ўласныя назіранні дазваляюць зрабіць выснову аб слабавыражанасці другога этапу фемінізму — этапу пратэсту — у беларускай жаночай паэзіі другой паловы XX ст., у процівагу, напрыклад, еўрапейскай і амерыканскай гэтага ж перыяду. Сярод магчымых прычын — наша спрадвечная талерантнасць, традыцыйная славянская пакорлівасць жанчыны, выхаваная народнай этыкай, праяўленне якой так ярка выяўляе фальклор.

Трэці этап фемінізму — самаадкрыцця — увасобіўся, на наш погляд, у 1990-я гады, калі атрымалі развіццё жанравыя разнавіднасці феміністкага творчага крытыцызму: жаночая літаратура, жаночае чытанне, жаночае пісьмо, жаночая аўтабіяграфія [6, с. 5]. Паэтэсы сталі адкрыта ўздымаць «жаночую» тэму ў сваіх творах. У В. Вярбы імя жанчыны — лёгкае, як сонца [26; 40], у супрацьвагу ёй для лірычнай гераіні Т. Бондар — *«Жаночы ненавісны лёс, // Замкнуты ў вечным крузе болю!»* [16, с. 21]; у Г. Булыкі жанчына — таямніца, калі *«Сцяжынка месячнай начы — // Сумоўца лініі жаночай»* [22, с. 39]; Я. Янішчыц па-свойму асэнсоўвае феномен жаночай і мужчынскай паэзіі: *«Мужчынская лірыка... А ці не ў ёй, // Як чайка, крыляе жанчына?»* [23, с. 208]; Р. Баравікова ў кароткай форме фармулюе сутнасць канцэпцыі фемінізму: *«Жанчына я. І ў гэтым — грэх!»* [17, с. 114], сярод яе твораў — верш-пасланне «Да вобраза сучаснай жанчыны» і г. д. Акрамя таго самі паэтэсы сталі даследаваць феномен таленту сваіх калег па творчасці (В. Коўтун «Вялікая беларуская будзіцелька» — пра Цётку), увогуле, асэнсоўваць гендарнае пытанне ў літаратуры (Л. Рублеўская «Жаночы міф як частка беларускага міфа паэзіі XX стагоддзя»).

Н. Паваляева акцэнтуе ўвагу на моўнай адметнасці жаночых твораў: «У феміністкай тэорыі прынята лічыць, што гендар як катэгорыя, якая вызначае культурныя практыкі, асацыіруецца з канкрэтным полам, канструюецца пры дапамозе мовы. У сувязі з гэтым шэраг прадстаўніц феміністкай крытыкі рабілі спробы трансфармацыі мовы такім чынам, каб яна не магла больш выкарыстоўвацца для сцвярджэння перавагі аднаго гендара над другім» [24, с. 149]. Такія спробы трансфармацыі мовы ўласцівыя ў 1990-я гг. і беларускім паэтэсам. Так, напрыклад, Н. Артымовіч піша без знакаў прыпынку, усе словы — з малой літары, стыль цалкам адпавядае постмадэрнісцкаму накірунку: *«над антыкварыятамі выказаных слоў // плывуць бронзавыя хмары // час продажу надзеі ўжо мінуў // у бяспальцых руках самотная іржа // сляды без слядоў»* [25, с. 38]. Л. Сільнова ўвогуле выдала кнігу «Рысасловы», дзе тэкст зашыфраваны ў малюнку-матрыцы; вершаваны праект прысвечаны беларускім літарам, якія, «нягледзячы на сваю бясконцую, касмічную мажлівасць выяўлення, выклікаюць адзіную ўстойлівую асацыяцыю паэтэсы» [26, с. 35].

Такім чынам, беларуская жаночая паэзія стала аб'ектам вывучэння пачынаючы яшчэ з 70-х гадоў XX стагоддзя. Развіццё жаночай крытыкі ў Беларусі ў другой палове мінулага стагоддзя ўвогуле адпавядае ўніверсальнай трохэтапнай тэорыі стаўлення фемінізму Э. Шоуолтар, за выключэннем некаторых аметнасцей (слабавыражанасці іншага этапу, адсутнасці сістэмнай еднасці), на якія паўплывалі нацыянальна-культурныя асаблівасці, менталітэт беларусаў. У канцы XX стагоддзя «жаночае пытанне» перайшло ў стадыю постфемінізму. Галоўным ужо застаецца не канфрантацыя палоў, а правільнае размеркаванне ў грамадстве мужчынскага і жаночага пачаткаў. Для навукоўцаў важным застаецца прыняцце факта наяўнасці гендарнай адметнасці твораў, існавання «жаночай літаратуры», уліку дадзенай спецыфікі ў далейшых даследаваннях, — і, нягледзячы на ўсё гэта, вядучая задача літаратуразнаўства — усебаковы аналіз твора, з улікам усіх адметнасцей асобы аўтара, якія не могуць абмяжоўвацца толькі полам ці гендарам.

## Літаратура:


1. Калядка, С. У. Беларуская сучасная жаночая паэзія: мастацкія канцэпцыі «жаночага шчасця» / С. У. Калядка. — Мінск: Беларус. навука, 2010. — 163 с.
2. Булыка, Г. З Галінай Булыка гутарыць Леанід Дранько-Майсюк / Г. Булыка // Крыніца. — 1994. — № 7. — С. 82—90.
3. Хубер, Дж. Теория гендерной стратификации / Дж. Хубер // Антология гендерных исследований. Сб. пер. / сост. и коммент. Е. И. Гаповой и А. Р. Усмановой. — Минск: Пропилеи, 2000. — С. 77—98.
4. Таленавітыя жанчыны Беларусі ў культурнай, навуковай і мастацкай прасторы свету: зб. матэрыялаў Міжнар. навук.-практ. канф., Мазыр, 24—25 мая 2007 г. / Мазырскі пед. ун-т імя І. П. Шамякіна; адк. рэд. А. У. Сузько. — Мазыр: УА МДПУ, 2007. — 251 с.
5. Поваляева, Н. С. Англо-американская феминистская критика: история и некоторые теоретические аспекты / Н. С. Поваляева // Проблемы истории литературы. Вып. 18; под ред. А. А. Гугина. — Москва—Новополоцк, 2004. — С. 236—244.
6. Фіцнер, Т. А. Гендэрныя праблемы ў беларус. літ. ХХ ст.: аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.01.01. / Т. А. Фіцнер; Гомельскі дзярж. ун-т імя Ф. Скарыны. — Гомель, 2003. — 20 с.
7. Каваленка, В. А. Жывое аблічча дзён: літ.-крытыч. арт. / В. А. Каваленка. — Мінск: Маст літ., 1979. — 304 с.
8. Гніламёдаў, У. В. Сучасная беларуская паэзія: творчая індывідуальнасць і літаратурны працэс / У. В. Гніламёдаў. — Мінск: Навука і тэхніка, 1983. — 304 с.
9. Гніламёдаў, У. В. Класікі і сучаснасць / У. В. Гніламёдаў. — Мінск: Маст. літ., 1987. — 288 с.
10. Семашкевіч, Р. Выпрабаванне любоўю: эсэ, арт. / Р. Семашкевіч. — Мінск: Маст. літ., 1982. — 206 с.
11. Лойка, А. А. Паэзія і час: літ.-крытыч. арт., творч. партрэты / А. А. Лойка. — Мінск: Маст. літ., 1981. — 254 с.
12. Чабан, Т. К. Крылы рамантыкі: рамантычныя тэндэнцыі ў сучас. беларус. паэзіі / Т. К. Чабан. — Мінск: Навука і тэхніка, 1982. — 176 с.
13. Поваляева, Н. С. Английская женская проза ХХ века: материалы и методические рекомендации по спецсеминару для студентов отделения английской филологии / Н. С. Поваляева. — Минск: РИВШ, 2005. — 55 с.
14. Янішчыц, Я. «Ніхто гадоў сваіх не лічыць...» / Я. Янішчыц // Дзень паэзіі 1979. — Мінск: Маст. літ., 1979. — 272 с.
15. Вярба, В. Апошні верасень. Выбранае: вершы і паэмы / В. Вярба. — Мінск: Маст. літ., 1995. — 270 с.
16. Бондар, Т. Хачу назваць цябе каханым: вершы, лісты розных гадоў / Т. Бондар. — Мінск: Маст. літ., 1991. — 269 с.
17. Баравікова, Р. А. Сад на капялюшыку каханай: лірыка / Р. А. Баравікова. — Мінск: Маст. літ., 1997. — 486 с.
18. Петрушкевіч, А. Іду па слядах: літ.-крыт., публіц. арт. / А. Петрушкевіч. — Гродна: Абласное аддзяленне Беларус. фонду культуры, 1997. — 150 с.
19. Вярба, В. Белыя пісьмы: вершы, паэмы / В. Вярба. — Мінск: Маст. літ., 1987. — 430 с.
20. Гендер и проблемы коммуникативного поведения: сборник материалов II Межд. научн. конф. — Полоцк: ПГУ, 2005. — 168 с.
21. Феминизм: Восток. Запад. Россия. — М.: Наука. Издат. фирма «Восточная литература», 1993. — 243 с.

22. Булыка, Г. Турмалін: вершы / Г. Булыка. — Мінск: Маст. літ., 1994. — 94 с.

23. Янішчыц, Я. І. Пачынаецца ўсё з любві...: вершы, паэмы / Я. І. Янішчыц. — Мінск: Маст. літ., 2008. — 339 с.

24. Поваляева, Н. С. Дженет Уинтерсон, или Возрождение искусства лжи / Н. С. Поваляева. — Минск: РИВШ, 2006. — 281 с.

25. Артымовіч, Н. З Надзеяй Артымовіч гутарыць Тэрэса Занеўская // Крыніца. — 1994. — № 12. — С. 31—32.

26. Сільнова, Л. Рысасловы / Л. Сільнова. — Полацк, 1994. — 33 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 21 верасня 2011 г.

## Ірына Шматкова
## «Беларуская жаночая паэзія: да пытання эвалюцыі»

## Рэзюмэ

У артыкуле даследуюцца праблемы станаўлення беларускай жаночай паэзіі, яе вывучэння літаратуразнаўцамі ў свеце гендарнай і феміністкай тэорый. Асаблівая ўвага надаецца пытанню выяўлення жаноцкасці ў творах беларускіх паэтэс другой паловы XX стагоддзя. Аўтар на аснове літаратурнага матэрыялу робіць спробу вызначэння асноўных этапаў развіцця фемінізму ў Беларусі.

## Irina Shmatkova
## «The Belarusian Women's Poetry: The Question of Evolution»

## The Summary

In this article the author are researching the problem of the formation of the Belarusian women's poetry. The particular attention is paid to the identification of femininity in the works of Belarusian poets of the second half of the twentieth century. The author attempts to define the main stages of the feminist development in Belarus on the basis of literary material.

**Валерый МАКСІМОВІЧ**

# ЗАСТАЦЦА ЛЮДЗЬМІ

У навуковых публікацыях і выступленнях прадстаўнікоў навуковай і творчай грамадскасці ўсё настойлівей сцвярджаецца думка, што сучаснае грамадства ўступіла ў тую фазу развіцця, якая напрамую суадносіцца з гуманітарнай катастрофай, антрапалагічным крызісам, «цывілізацыйным зломам», культурна-цывілізацыйным калапсам і г. д. Пры ўсёй катэгарычнасці і безапеляцыйнасці ацэнак усё ж даводзіцца канстатаваць, што сапраўды наступіла эпоха глыбінных планетарных зрухаў, якія тычацца не толькі соцыума, але і кожнага канкрэтнага чалавека. Рэаліі нашага часу, дзе ўсё менш застаецца месца звычайным чалавечым — зямным — радасцям і дзе ўсё часцей даводзіцца перажываць душэўную трывогу, разгубленасць, адчуванне мімалётнасці і крохкасці зямнога існавання, — няўхільна прыводзяць да самых няўцешных роздумаў і разваг. Мы жывём у няпросты час, калі надзвычай ускладніліся сацыяльныя і гуманітарныя праблемы, і, што не можа не насцярожваць, набірае моц неабарачальны працэс дэгуманізацыі сацыяльных і міжасобасных адносін, дэвальвацыі агульнапрынятых норм сужыцця ўвогуле. І што б мы ні гаварылі, якія б аргументы ці контраргументы ні прыводзілі, па ўласнай ахвоце або міжволі віною ўсяму стаўся чалавек, не без удзелу якога само жыццё, існаванне прыроды і соцыума апынулася ля небяспечнай мяжы.

Адбываецца каардынальная змена не толькі светапоглядных і традыцыйных духоўных каштоўнасных установак, норм маралі, этыкі, паводзін, нораваў, звычаяў, але і ўсяго ладу жыцця, які фарміраваўся вякамі. Балюча і горка гэта ўсведамляць. Нашчадкі сейбітаў і ратаяў, мы добраахвотна зракаемся сваёй кроўнай генетычнай спадчыны, векавечных традыцый, запаветаў продкаў, — усяго таго, што павінна ляжаць у аснове нацыянальна-культурнай ідэнтычнасці, вызначаць сутнасць чалавека ўвогуле. Культ спажывальніцтва і накаплення замяніў усе зямныя дабрачыннасці. У пагоні за матэрыяльным дабрабытам, у пакланенні залатому цяльцу мы спакваля пачынаем забываць пра сваё існае зямное прызначэнне, пра сваю духоўную, крэўна-зямную прыроду. Праявы духоўна-маральнага крызісу можна назіраць на звычайным побытавым узроўні, у сферы паўсядзённых зносін.

У чым, спытаеце вы, прычына той нясцерпнай раздражнёнасці, азлобленасці, што назіраецца ў грамадстве і асабліва ў асяродку маладых людзей? Хтосьці наўпрост бачыць у гэтым прамое следства глабалізацыйных працэсаў, якія істотным чынам уплываюць на свядомасць людзей, іх дзеянні і ўчынкі. Іншыя даводзяць, што татальнае пагаршэнне ўнутранага самапачування сучаснага маладога чалавека ідзе ад пачуцця пратэстуючай незадаволенасці, ад жадання набыць цэлае суквецце задавальненняў, прыкладаючы дзеля гэтага мінімум намаганняў або проста чакаючы дабротаў як манны нябеснай, не ахвяруючы дзеля гэтага абсалютна нічым. Філасофія «лёгкага жыцця», марнатраўства і паразітуючага геданізму марудна, але паступова раз’ядае маладыя душы, аддаляючы іх ад вякамі правераных, здаровых асноў жыцця. Уседазволенасць — найперш у плане ўнутранай разбэшчанасці — становіцца гіпертрафіраванай самамэтай, самазададзенасцю. Моладзь з-за свайго юначага максімалізму імкнецца сцвердзіць сябе

праз усёадмаўленне, гіперкрытыцызм, ігнараванне агульнапрынятых нормаў грамадскага сужыцця. Але, як здаецца, гэта даволі неабачлівы, рызыкоўны, а то нават і шкодны прыём і спосаб вызваліць сябе ад усіх абавязкаў — унутрысямейных, сяброўскіх, грамадскіх, грамадзянскіх нарэшце. І нічога не прапанаваць пазітыўнага ўзамен.

Даволі характэрным у гэтай сувязі выглядае эпізод з драмы «Бліндаж» вядомай рускамоўнай пісьменніцы А.Паповай, дзе маладая гераіня, спартсменка Марына, кідае папрокі старэйшаму пакаленню і, адначасна, выяўляе сваю жыццёвую пазіцыю: «Вы тут завязнулі, а нам якая справа? У нас ужо ўсё другое… Мы ўсё іншае любім! Мы музыку другую любім! Усё іншае! Мы — іншыя, мы — сябе любім, мы для сябе жывем! Для сябе! Мы хочам добра жыць… І на ўсіх астатніх нам напляваць!» Цытуючы гэтыя словы ў сваёй новай кнізе «Класіка і літаратурная сучаснасць: духоўны патэнцыял чалавека» (2011), вядомы беларускі літаратуразнавец В. Жураўлёў задае рэзоннае пытанне: «Аднак ці магчыма трапіць у гэты новы і светлы час, маючы толькі адно палкае жаданне ўвайсці ў яго, не прыклаўшы напружаных намаганняў у яго пабудове і выяўляючы негатыўнае стаўленне да яго духоўна-інтэлектуальных асноў?»[1]

Прыведзены эпізод лішні раз сведчыць пра тое, што праз татальнае адмаўленне ўзрошчваецца самы што ні на ёсць сацыяльны паразітызм, нежаданне і няўменне знайсці сваё месца ў жыцці і зрабіць штосьці карыснае для грамадства. Самае страшнае, што катастрафічна страчваецца пераемнасць часоў, пакаленняў, родаў, слабее і рвецца сямейная повязь. Іх замяняе або індывідуалістычная асабістая замкнёнасць, або тусовачны ці нейкі іншы групавы інтарэс, які далёка не заўсёды нясе ў сабе пазітыўную інтэнцыю. Ніхто ні аб чым сур'ёзна не задумваецца: жыццё ва ўспрыманні маладых набывае падабенства гульні-забавы, дзе шмат месца адведзена бесшабашнаму эскапізму і групавым разборкам, слэнгаваму пустаслоўю і бязмэтаваму баўленню часу.

У страце чалавекам чалавечага аблічча, у здрабненні і дэградацыі (=) уніфікацыі) чалавека, у яго духоўным збядненні перадусім бачацца праявы антрапалагічнай катастрофы. Яна выяўляе сябе і ў рэзкім абвастрэнні сацыяльна-псіхалагічнага клімату, маральнай разбэшчанасці, дэвальвацыі нацыянальных традыцыйных устояў, паступовай страце жыццёвага інтарэсу, ігнараванні грамадзянскага і проста чыста чалавечага абавязку. Усё гэта прыдатная глеба для рознага роду маніпуляцый свядомасцю людзей, іх замбіравання, навязвання паталагічных ідэй з мэтай спарадзіць масавы псіхоз, скепсіс, выклікаць пачуццё адчужанасці, варажнечы і давесці да духоўнай амнезіі. Красамоўным дапаўненнем сказанаму можа стаць думка вядомага філосафа Ч. Кірвеля, які слушна заўважае: «Народ, які страціў жыццёвыя арыенціры, адарваўся ад сваіх духоўных каранёў і пазбавіўся свайго маральнага зместу, нават пры ўмове матэрыяльнага багацця і эканамічнага росквіту становіцца безабаронным, не здольным адстаяць свае інтарэсы ў сучасным, складаным і супярэчлівым свеце»[2].

Не патрабуе асаблівых доказаў сцвярджэнне, што самай датклівай сферай нацыянальна-дзяржаўнай бяспекі з'яўляецца духоўная сфера. Пра гэта сведчаць і шматлікія творы нашай нацыянальнай класікі і, у прыватнасці, творчасць выдатнага пісьменніка-псіхолага Кузьмы Чорнага. Паглыбляючыся ва ўнутраныя структуры псіхікі чалавека, ракрываючы пэўныя псіхалагічныя комплексы, мастак слова меў на мэце прымусіць задумацца кожнага, каму не абыякавы свой лёс, лёс сваёй сям'і, лёс роду чалавечага. Асаблівая небяспека бачылася яму ў звярыным, неўтаймаваным, разбуральным пачатку, які пры пэўных умовах здольны быў выйсці з-пад кантролю чалавечага розуму. К. Чорны выдатна ўсведамляў, якую мог уяўляць небяспеку гэты пачатак, набыўшы жахлівыя памеры, шматразова павялічыўшы сваю сферу распаўсюджання ў маштабах не толькі адной краіны, але і ў маштабах усёй планеты. Таму ён з такой апантанасцю, з такой рашучасцю імкнуўся засцерагчы чалавека ад смяртэльнай пагрозы татальнага расчалавечвання. Толькі кіруючыся гэтай высакароднай задачай, «пісьменнік

імкнуўся эмацыянальнымі сродкамі абудзіць у чытача сардэчную прыхільнасць да беларускага вясковага жыцця з яго псіхалогіяй і этыкай, бытам і народнымі марамі, перадаць адчуванне яго светлых перспектыў, радасць ***чалавечага*** (выдзелена намі. — ***В. М.***) быцця на зямлі»[3].

Таму, выводзячы на старонках сваіх твораў вобраз «трапяткога, баязлівага гаваруна», К. Чорны зусім не праследаваў мэту пакрытыкаваць ці адмовіць аджыўшыя, патрыярхальныя нормы жыцця. І да такога гаваруна, як ні дзіўна, мы пранікаемся асаблівым замілаваным пачуццём, сімпатыяй, зрэдку глядзім на яго з лёгкай іроніяй. І не больш. Чорнаўскі герой кіруецца сумленнымі маральнымі крытэрыямі, не спяшаецца прыняць на веру пустазвонства і дэмагогію, выяўляе здаровы народны практыцызм, разважлівасць, уменне жыць у ладзе і згодзе з прыродай, з зямлёю, з людзьмі. Пісьменнік не забывае «прысуседзіць» свайго героя да таго, што блізка і родна яму з маленства, а яго чалавечнасць правярае праз здольнасць бачыць «вакол людзей», «жоўтыя кветкі на высокіх сцяблах», прыкмячаць «задумёнасць жоўтых далей апусцелага поля і трывогу шуму сініх кустоў», чуць, як «ветры спяваюць, і сонца свеціць», праз уменне спасцігаць магутную і неабдымную радасць зямлі.

Героі Чорнага яшчэ жывуць па інерцыі (у добрым значэнні гэтага слова), згодна з заведзеным ходам жыцця. Перадусім яны — дзеці сваёй зямлі-маткі, і ўвесь іх клопат палягае ў беражлівым, паважлівым да яе стаўленні. Агульны інтарэс зблізіў гэтых людзей. Кожны з герояў Чорнага адчувае сябе сваім сярод сваіх; дзесьці ў глыбінях іх «зямной» памяці яшчэ моцна жыве думка пра крэўную іх чалавечую сваяцкасць, роднасць, занядбанне якіх роўна страшнаму злачынству. Гэта — няпісаны закон жыцця, які ў роўнай ступені прызнаюць усе. Натуральнасць, павага, добразычлівасць — вось чым кіруюцца гэтыя людзі ў сваім стаўленні адзін да аднаго. Яны моцныя адзінай праўдай — праўдай зямлі. Зямля для іх — тое адвечнае, нездрадлівае, святое, што не толькі множыць матэрыяльны дабрабыт, але і мацуе дух і волю чалавека, прымушае памятаць пра таго, хто побач. Яны зжыліся, зрадніліся са сваёй зямной доляй, якая стала іх жыццёвым лёсам, іх сутнасцю. Іншай долі для сябе ніхто з іх не мог і чакаць.

Вопыт пройдзенага гістарычнага шляху яшчэ і яшчэ раз пераконвае ў тым, што ўнутранае чуццё не здрадзіла герою Чорнага. Ён чуйна ўлоўліваў, прадбачыў — хай сабе і на падсвядомым узроўні — тую небяспеку, якая магла здарыцца ў выпадку поўнага расчалавечвання, страты здольнасці думаць і разважаць, быць гаспадаром на зямлі. Як адзначае Дз. Бугаёў, пісьменніка вельмі хвалявала тое, «наколькі паслядоўна ўвасабляюцца ў рэальным жыцці гучна дэклараваныя гуманістычныя прынцыпы, <...> іначай бы ён так настойліва не гаварыў пра небяспеку занядбання жывой душы»[4]. Спадзявацца на тое, што перакосы і дэфармацыі хутка будуць выпраўлены чыёйсьці дбайнай рукой, не даводзілася. Увесь ход жыцця сведчыў пра адваротнае. Просты чалавек з народа, які мог супрацьпаставіць усяму наноснаму, нежывому толькі сваё незаплямленае сумленне і сваю прывязанасць да зямлі, заставаўся гарантам захавання права на жыццё і праўды жыцця.

Кузьма Чорны добра разумеў, што арганічнае ўспрыманне факта пераемнасці (родавай, гістарычнай, культурнай і г. д.) пры адпаведных умовах актывізуе творчы пачатак чалавека, яго імкненне ўсвядоміць сваё месца, сваё прызначэнне ў жыцці, сэнс чалавечага існавання ўвогуле. Пераемнасць на любым узроўні, згодна з мастацкай канцэпцыяй пісьменніка, выступае фактарам засцерагальным, кансалідуючым, аб'яднальным, бо дазваляе знітаваць у адзінае цэлае розныя часткі сацыяльнага арганізма. Больш за тое, гэта ёсць жыватворная крыніца паспяховага функцыянавання і развіцця грамадства.Чорнаўская думка зводзіцца, урэшце, да адной істотнай высновы: жыццё чалавека і народа толькі тады не выклікае якой бы там ні было перасцярогі, калі ў ім усё мэтазгодна і арганічна суладжана, спалучана і дзе назаўсёды выключана магчымасць актывізацыі разбуральных сіл, уключаючы і тыя, што парушаюць псіхалагічны баланс, згубна дзейнічаюць на глыбінныя структуры свядомасці. Толькі пры ўмове паўнавартаснага задзейні-

чання ўсіх наяўных механізмаў этнакультурнага кантэксту магчыма дасягненне паўнаты жыцця, спалучанага з гармоніяй побытава-паўсядзённага і ўзвышана-сакральнага, прыватнага і агульназначнага, нацыянальнага і ўніверсальнага.

Мастацкая канцэпцыя Чорнага даволі актуальная і ў наш час. Ніхто не будзе аспрэчваць тое, што спрычыненасць да агульнапрынятых прынцыпаў і норм, перакананняў і ідэй, якія складаюць аснову, базіс грамадскай структуры (калектыўны сімвалічны капітал), дазваляе сцэментаваць, злучыць у адзінае цэлае розныя часткі сацыяльнага арганізма, кансалідаваць грамадства, актывізаваць працэс нацыянальнай самаідэнтыфікацыі, а тым самым і дасягнуць духоўнага адзінства. У сённяшняй сацыякультурнай прасторы з яе імклівым разгортваннем працэсаў глабалізацыі праблему нацыянальнай ідэнтычнасці варта аднесці ў разрад праблем асобага стратэгічнага кірунку. Пры шматвектарнасці падыходаў і трактовак (часам неадназначных, а то і палярных) відавочна тое, варта пагадзіцца з тым, што чалавек у XXI стагоддзі не павінен стаць «закладнікам», а тым больш «ахвярай» глабальных працэсаў, наўпрост звязаных з небяспечнымі праявамі нівеліравання, стандартызацыі асобы як носьбіта індывідуальнага пачатку. Выказаная перасцярога набывае асаблівае значэнне і першаступенную важнасць ва ўмовах духоўна-культурнага крызісу, глыбокай сацыяльнай дыферэнцыяцыі і палярызацыі, дэвальвацыі і размывання гістарычна ўсталяваных (канстытуяваных), выпрацаваных у працэсе культурагенеза сацыяльных каштоўнасцей і грамадскіх практык. Іх вольнае або міжвольнае ігнараванне або адмаўленне непапраўна ўплывае на ўнутрана-псіхалагічны стан чалавека, які, пазбаўлены надзейнага духоўнага апірышча, паступова мімікрыруе, звыкаецца з адсутнасцю цвёрдага жыццёвага стрыжня, незаўважна для сябе адаптуецца, прыстасоўваецца да інертнага ладу жыцця, успрымаючы свой стан як аб’ектыўную дадзенасць, і, у выніку, дэградуе, страчваючы сваю самаідэнтычнасць. Адмаўленне ад прынятай грамадствам сістэмы каштоўнасцей у выніку разбурэння сацыяльна-культурных міфалагем вядзе да пазбаўлення калектыўнай сацыяльнай памяці, парушэння арганічнай узаемасувязі традыцый і інавацый як асновы культурна-гістарычнай пераемнасці грамадства ў цэлым.

Нельга пагадзіцца з навязлівай ідэяй новага сусветнага беспарадку, узрастання хаосу як праяў «свабоднага», альтэрнатыўнага развіцця грамадства і асобы. Падобныя заявы пярэчаць сутнаснай прыродзе чалавека, у якім жыве адвечная невыкараняльная імкнёнасць да ўгрунтаванасці, стабільнасці, устойлівасці светабудовы і ўласнай суверэннасці. Успрыманне свету як упарадкаванай і структурна арганізаванай цэласнасці, што развіваецца па сваіх аб’ектыўных законах і заканамернасцях, дабратворна ўплывае на біяпсіхалагічны статус індывідуума, дапамагае яму ўсвядоміць сваё месца ў сістэме грамадскіх і сацыякультурных адносін. Менавіта прытрымліванне родава-генетычных «культурных праграм» як базавых механізмаў самазахавання і самаўзнаўлення гістарычнага вопыту дазваляе пэўным чынам структурыраваць, алгарытмізаваць свядомасць, актывізаваць яе стваральную дамінанту, надаўшы ёй каштоўнасны змест і сэнс, выпрацаваць аптымальную стратэгію дзеянняў і паводзін.

Вось чаму ва ўмовах істотных трансфармацый сучаснага грамадства такая вялікая ўвага надаецца праблемам інтэграцыі асобы ў сацыякультурны кантэкст. Характар і вынікі сённяшніх інтэграцыйных працэсаў у многім залежаць ад дзейснасці сістэмы грамадскіх каштоўнасцей і структуры архетыповых каштоўнасных матрыц, якія выступаюць у якасці асновы пабудовы «карціны свету» — як грамадскай, так і асобаснай[5]. І адным з найгалоўнейшых механізмаў сацыяльнай адаптацыі, які неадрыўна звязаны з момантам пераемнасці і ўстойлівасці пры адначасным засваенні сацыяльнай і культурнай спадчыны, выступае тая ж традыцыя. Спецыялісты ў галіне культуралагічных стратэгій небеспадстаўна гавораць пра ўзрастанне ролі сацыякультурнага неатрадыцыяналізму, які «ўяўляе сабой узаемаабумоўлены працэс, з аднаго боку, безупыннага ўзнаўлення традыцыі, з другога — яе адаптацыі да сучасных умоў за кошт інкарпарацыі навацый»[6].

У ролі апошніх часта выступаюць знешнія іншакультурныя канструкты, якія далёка не заўсёды заключаюць у сабе характарыстыкі, закліканыя папоўніць, удасканаліць духоўны змест асобы.

На жаль, ва ўмовах кардынальных сацыяльных трансфармацый «выразна заявілі пра сябе пагрозы ўнутранага характару, абумоўленыя характарам і ўзроўнем развіцця сацыяльна-маральных адносін у грамадстве, якія непасрэдна залежаць ад настрояў, арыентацый, учынкаў канкрэтных людзей»[7]. У шэрагу шкодных, абсалютна непрымальных, небяспечных з'яў можна ўказаць на такую ганебную, як духоўны тэрарызм, які стаў сацыяльнай рэчаіснасцю. Гэта асобага роду агрэсіўная, разбуральная псіхалагічная экспансія, мэта якой — псіха-эмацыянальнымі сродкамі, уключаючы розныя брутальныя тэхналогіі і прыёмы маральнага прэсінгу, ачарніцельства, нагавору, фарміравання негатыўнай грамадскай (карпаратыўнай) думкі вывесці чалавека з душэўнай раўнавагі, духоўна падавіць, зняважыць, навязаць комплекс непаўнацэннасці, заганнасці. Мэта такой антыгуманнай, антыэтычнай дзейнасці адна — дасягнуць сваіх карыслівых мэт і сцвердзіць сваю перавагу — насамрэч удаваную, падманную. На жаль, гэтая заганная з'ява нярэдка знаходзіць сваё месца ў асяродку творчай і інтэлектуальнай эліты, якая часам не грэбуе прыбягаць дазабароненых тэхналогій, чорнага піяру.

Адной з прычын такой даволі распаўсюджанай маральнай карозіі сталі тыя ж агрэсіўна-спажывецкія адносіны да жыцця, жаданне ўзаконіць для сябе лепшае месца пад сонцам за кошт іншых, не вельмі клапоцячыся пра выбар сродкаў дасягнення мэты. Дэструктыўныя дзеянні і паводзіны несумленных людзей з хваравітымі амбіцыямі шкодныя для працэсу кансалідацыі грамадства, яны падрываюць ролю ўзаемавыручкі і партнёрства, ствараюць сітуацыю нестабільнасці, падазронасці і адчужанасці. Усё гэта, у сваю чаргу, згубна ўплывае на культуру даверу, пад якой разумеюць «увасобленую ў сумесных ідэалах, сэнсах, каштоўнасцях, нормах пэўна скіраваную звычку сэнсавага напаўнення салідарнага дзеяння, новую традыцыю гарманічнага ўзаемадзеяння, норму зносін, якая абумоўлівае ўстанаўленне новых сацыяльных сувязей»[8]. Духоўная інтэграцыя без умацавання культуры даверу як сістэмаўтваральнай уласцівасці грамадства, без узаемапавагі, прызнання самакаштоўнасці аксіялагічных прыярытэтаў *Іншага* немагчымая.

Мы звычайна сарамліва замоўчваем, мякка кажучы, неэтычныя, антымаральныя праявы. Але яны не такія бяскрыўдныя і дробязныя, як можа падацца на першы погляд. Наадварот, іх варта аднесці да пагражальна дэстабілізуючых, дэструктыўных фактараў, якія згубна ўплываюць на псіха-эмацыянальны баланс асобы як аб'екта духоўнага тэрарызму, груба парушаючы яго жыццёва важныя інтарэсы і правы як чалавека і грамадзяніна. І гэта пры тым, што этычныя прынцыпы прызнання фундаментальных правоў, свабод і годнасці чалавека адносяцца да непарушных агульначалавечых каштоўнасцей. Нацыянальная бяспека з улікам маючых месца ў нашым жыцці каштоўнасна-светапоглядных, ментальных трансфармацый, звязаных з нізкім узроўнем духоўнасці, не павінна зводзіцца толькі да неабходнасці абароны ад знешніх пагроз. Сапраўды стратэгічнае значэнне набывае ў гэтай сувязі ўласна форма, умовы і характар развіцця сацыяльных і міжасабовых адносін, іх ступень адпаведнасці этычнаму кодэксу. Ва ўмовах нарастаючай дэгуманізацыі адносін, зніжэння ўзроўню духоўна-маральнай культуры важна ўзмацніць гуманістычную дамінанту, вярнуць чалавеку яго сапраўдную сутнасць і прызначэнне, скіраваць на шлях духоўнага ўдасканалення і ўзвышэння.

Маральна-псіхалагічны, духоўны кампанент, несумненна, з'яўляецца адным з істотных складнікаў антрапалагічнай і нацыянальнай бяспекі. Ён істотна ўплывае на ўзровень і якасць функцыянавання міжасобасных стасункаў, служыць пэўным індыкатарам грамадскага жыцця. Функцыянаванне грамадства немагчыма без пастаяннага засваення дасягненняў матэрыяльнай і духоўнай культуры, удасканалення і абагачэння міжасобасных адносін і наладжвання дыялагічных, канструктыўных адносін з акаляючым светам. Сёння відавочна, што «грамадства як асобая, гранічна складаная, космапланетарная сістэма здольная выжыць і нар-

мальна функцыянаваць як цэласны арганізм толькі ў форме культуры, сцвярджаючы духоўны тып светаадносін»[9].

Сімптаматычна, што дзяржаўныя дзеячы, прадстаўнікі навукі і культуры ўсё часцей пачынаюць гаварыць пра неабходнасць фарміравання гарманічнага грамадства, у аснове якога павінен ляжаць духоўны пачатак як яго найважнейшы структураўтваральны складнік. Духоўнасць жа ў самым шырокім значэнні слова мусіць ахопліваць усе сферы дзейнасці грамадства — ад міжасабовых, сямейна-бытавых адносін да палітычных і дзяржаўных структур, ад гаспадарча-эканамічных да нацыянальна-этнічных і канфесійных узаемастасункаў.

Прадстаўнікі творчых прафесій павінны заставацца партнёрамі і аднадумцамі ў светапоглядным дыялозе і супрацоўніцтве, у выпрацоўцы ўзважаных падыходаў і рашэнняў па забеспячэнні стабільнага і ўстойлівага развіцця сацыякультурных сфер грамадства, актыўна ўдзельнічаць у фарміраванні грамадскай свядомасці. Як ніхто іншы яна мусіць аб'яднаць свае намаганні па дзейсным уплыве на айчынную сістэму адукацыі, маральнага і грамадзянска-патрыятычнага выхавання, а таксама на сучасныя сродкі масавай інфармацыі як важнейшы інструмент фарміравання грамадскай свядомасці з мэтай распаўсюджвання высокіх узораў культуры, сацыяльных паводзін, агульначалавечых маральна-этычных норм, якія мацуюцца на гістарычных традыцыях і хрысціянскіх каштоўнасцях.

Дзеячам навукі і мастацтва належыць першынство ў місіі выхаваўчага ўздзеяння на масавую свядомасць: арыентаваць увагу грамадскасці не толькі на паўсядзённыя пытанні сацыяльна-эканамічнага жыцця краіны, але і на глабальныя праблемы гуманітарнага развіцця, а таксама на тое, што дазваляе ў сучасным зменлівым свеце заставацца індывідуальнасцю, а культуры — захоўваць і актуалізаваць узоры сапраўднай духоўнасці, высокай маральнай чысціні. Паспяховасць гэтай місіі залежыць перадусім ад самога чалавека, яго здольнасці і гатоўнасці паказваць асабісты прыклад адказнасці за кожнае сказанае слова і здзейснены ўчынак. Без гэтага немагчымы абнаўляльны рух ва ўсіх сферах жыцця грамадства. Без гэтага немагчыма і само жыццё.

---

[1] Жураўлёў В. П. Класіка і літаратурная сучаснасць: духоўны патэнцыял чалавека. — Мінск, 2011. — С. 124.

[2] Кирвель Ч. Социогуманитарное образование как фактор национальной безопасности /Ч. Кирвель, Л. Мельникова, В. Карпинский. // БД. — 2007. — № 5. — С. 43—49.

[3] Пяткевіч А. Сюжэт. Кампазіцыя. Характар. — Мінск,1981. — С. 41.

[4] Бугаёў Дз. Праўда і мужнасць таленту: Выбранае. — Мінск, 1995. — С. 346.

[5] Гл.: Языков К. Г. Психосемантические пространства ценностей личности при нарушении психического здоровья // Вестник ТГПУ. — 2006. — Выпуск 2 (53). — С. 115 — 118.

[6] Мадюкова С. А. Социокультурный неотрадиционализм в обрядах жизненного цикла (на примере женщин тюркских этносов Южной Сибири). Дис… канд. филос. н. — Новосибирск, 2008. — С. 166.

[7] Павловская О. А., Павловская С. В. Человек как объект и субъект глобальной безопасности // Безопасность Беларуси в гуманитарной сфере: социокультурные и духовно-нравственные проблемы. — Минск, 2010. — С. 21.

[8] Кожем'якіна О. М. Культура довіри як цінність громадянського суспільства // Практична філософія. — 2008. — № 1. — С. 93—99.

[9] Большой энциклопедический словарь: философия, социология, религия, эзотеризм, политэкономия. — Минск, 2002. — С. 7.

**Вячаслаў РАГОЙША**

# ВЯРШЫНЯ БЕЛАРУСКАГА ТРЫГЛАВА

*Багдановічазнаўчыя эцюды*

Калісьці выдатны ўкраінскі паэт Паўло Тычына вобразна назваў Янку Купалу «першай вяршыняй беларускага Эльбруса паэзіі». Аднак, як вядома, кожнае параўнанне «храмае». Самая высокая «гара» беларускай паэтычнага хрыбта XX ст. не двухвяршынная, накшталт каўказскага Эльбруса, а трохвяршынная, што нагадвае славацкі Трыглаў. Да вяршынь Янкі Купалы, Якуба Коласа арганічна і непарыўна далучаецца і вяршыня Максіма Багдановіча. Зразумела, кожная з іх мае свой воблік, свае характэрныя рысы, хоць усе яны для нас раўназначныя і раўналюбныя. Спынімся на асобных абрысах, якія вызначаюць профіль вяршыні М. Багдановіча, яго асобы і творчасці.

## З жыццяпісу

У Мінску на доме па вуліцы М. Багдановіча, што побач з будынкам Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі, можна ўбачыць мемарыяльную дошку з выявай профілю паэта. Надпіс сведчыць, што на гэтым месцы калісьці стаяла хата, у якой 9 снежня 1891 г. нарадзіўся будучы класік беларускай літаратуры М. Багдановіч. Дарэчы, каля тэатра, амаль насупраць ад месца нараджэння паэта, узвышаецца велічны помнік яму, а літаральна праз сотню метраў, бліжэй да Свіслачы, знаходзіцца Дзяржаўны літаратурны музей М. Багдановіча. Так годна ўшанавала беларуская сталіца свайго вернага сына. Можа, пражыў ён у ёй усё сваё жыццё? На жаль, не. Праз год пасля нараджэння Максіма яго сям'я пераязджае ў Гродна. Не споўнілася яму і пяці год, як ад сухотаў у маладым узросце памірае ягоная маці. Бацька з дзецьмі пераязджае ў Ніжні Ноўгарад, дзе знаёміцца, а потым і родніцца з Максімам Горкім (яны былі жанатыя на родных сёстрах Волжыных). Пасля заканчэння гімназіі Максім паступае ў яраслаўскі Дзямідаўскі ліцэй, які паспяхова заканчвае ў 1916 г. і вяртаецца ў Мінск. Але пажыць яму тут доўга не давялося. Ён вымушаны быў паехаць на лячэнне ў Ялту, дзе 25 мая 1917 г. і памёр у адзіноце, у найманым пакойчыку на беразе Чорнага мора, пакінуўшы на кавалку паперы радкі:

Ў краіне светлай, дзе я ўміраю,
У белым доме, ля сіняй бухты,
Я не самотны — я кнігу маю
З друкарні пана Марціна Кухты.

Гэтай кнігай быў адзіны прыжыццёвы зборнік паэта «Вянок», надрукаваны віленскім друкаром М. Кухтам у 1913 годзе.

Такая кароткая біяграфія паэта. Аднак колькі стаіць за гэтымі скупымі радкамі!

Усё жыццё Багдановіча — гэта суцэльнае пераадоленне. Пераадоленне абставін. Іншых людзей. Самога сябе. Пачнём з таго, што з васямнаццаці год сухоты

сталі каварна падточваць яго сілы. Максім ведаў пра гэту спадчынную хваробу, прадчуваў свой хуткі канец. Але страх смерці пераадолеў думкай пра бяссмерце сваёй роднай Беларусі, духоўнаму і матэрыяльнаму адраджэнню якой прысвяціў усё сваё жыццё.

Жыццёвыя абставіны яшчэ ў раннім дзяцінстве разлучылі Багдановіча з Бацькаўшчынай. На жаль, у асобе свайго бацькі, вечна занятага грамадскімі справамі, пошукамі сродкаў для ўтрымання вялікай сям'і, юны паэт не знайшоў свайго аднадумца. І ўсе ж, як потым напіша з адабрэннем Адам Ягоравіч у сваіх успамінах пра сына, Максім «не пайшоў па лініі найменшага супраціўлення: не стаў пісаць па-руску. Ягоныя пераклады сваіх жа вершаў сведчаць, што ён і па-руску мог бы пісаць нядрэнныя вершы. Але ён гэты лёгкі шлях яшчэ з дзяцінства адхіліў і смела вырашыў пераадолець агромністыя цяжкасці, каб авалодаць роднаю мовай сваіх продкаў… Якія цяжкасці ён пераадолеў на гэтым шляху, сведчаць яго рукапісы і сшыткі: колькі там выпісак са слоўнікаў, зборнікаў і старадрукаў! Хто з паэтаў, што ўсмактаў беларускую мову з малаком маці, паднімаў гэты цяжкі, карпатлівы, крыхаборскі клопат? А ён, слабагруды, кволы, падняў». Сапраўды стаічная натура!

Максіма Багдановіча, як Янку Купалу і Якуба Коласа, усю беларускую літаратуру пачатку XX ст., вынесла на паверхню сацыякультурнага жыцця рэвалюцыйная хваля 1905—1907 гг. Ёсць нешта дзівоснае ў той немінучай заканамернасці, з якой на небасхіле беларускай літаратуры, што перажывала ў той час перыяд свайго паскоранага развіцця, з'явіліся амаль адначасова тры зоркі першай велічыні: у 1905 г. свой першы твор апублікаваў Янка Купала, у 1906 г. — Якуб Колас, у 1907 г. — Максім Багдановіч. Адразу — цэлае сузор'е! Гісторыя быццам бы кампенсавала тое, што беларуская літаратура «не дабрала» раней. Сёння нават цяжка сабе ўявіць, як бы развівалася новая беларуская літаратура, каб не было ў яе Багдановіча, чалавека не толькі перадавога светапогляду, геніяльнай адоранасці, але і энцыклапедычных ведаў, здзіўляльнай працаздольнасці. Уся яго творчая спадчына — паэзія, проза, публіцыстыка, пераклады, крытыка, гісторыя і тэорыя літаратуры, лісты — змяшчаецца ў тры кніжныя тамы Поўнага збору твораў (1992—1995). Аднак гэта сапраўды залатыя тамы! Гэта своеасаблівы «пашпарт на інтэлігентнасць» (І. Франко*)* беларускага народа.

Янка Купала, Якуб Колас і Максім Багдановіч рабілі, па сутнасці, адну справу: надзялялі родны народ эстэтычнымі скарбамі сусветнага ўзроўню, абуджалі яго ад векавога «летаргічнага сну» (выраз Багдановіча), садзейнічалі сацыяльнаму вызваленню і нацыянальнаму адраджэнню беларусаў. Але рабіў гэта кожны па-свойму, зыходзячы са сваіх жыццёвых і творчых магчымасцей, ведаў, майстэрства. Як справядліва адзначыў рускі паэт і перакладчык Ігар Паступальскі, было б недарэчным падстаўляць пад вершы рэвалюцыйнага дэмакрата Багдановіча «лозунгі і праграмы тых ці іншых палітычных партый перадкастрычніцкіх год», але лепшыя ўзоры яго грамадзянскай лірыкі («Мае песні», «З песняў беларускага мужыка», «Эмігранцкая песня», «Мяжы», «Народ, Беларускі Народ!..», «Пагоня» і інш.) — «усё гэта творы, якія ўтрымліваюць сапраўды рэвалюцыйныя ідэі, звернутыя супраць сіл прыгнёту — царызму з яго русіфікатарскай палітыкай, панскага ладу, капіталізму, што асуджае людзей на непасільную працу, галечу, уцёкі з родных мясцін». Менавіта вуснамі Багдановіча маладая беларуская літаратура заявіла, што «не на грашовых справах трымаецца яна і ніколі не пойдзе чысціць боты капіталу!»

Шырока вядома выказванне, што толькі чалавек, які жыў бы на Марсе, не заўважыў бы нацыянальна-вызваленчых памкненняў беларусаў у пачатку XX ст. (зрэшты, як і іншых народаў царскай Расіі). Імкненне мас да авалодання сваёй

мовай і літаратурай было з'явай прагрэсіўнай. Багдановіч садзейнічаў абуджэнню нацыянальнай свядомасці беларусаў, сцвярджэнню іх нацыянальнай годнасці, чалавечай вартасці, услаўляў родную мову, культуру, ганьбіў розных рэнегатаў, адшчапенцаў, «абруселых іншародцаў». І сёння паэтавы коннікі імчацца за рознымі пярэваратнямі, адрачэнцамі, якія забылі родны край, адракліся ад яго. Да такіх паэт, вялікі гуманіст, бязлітасны:

Бійце ў сэрцы іх — бійце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць...

Ён і сябе не шкадаваў, не бярог — у імя той жа Бацькаўшчыны:

Маці родная, Маці-Краіна!
Не усцішыцца гэтакі боль...
Ты прабач. Ты прымі свайго сына,
За Цябе яму ўмерці дазволь!..
*(«Пагоня»)*

Сёння, калі мы ўмацоўваем аўтарытэт нашай Рэспублікі Беларусь ва ўсім свеце, вяртаем беларускай мове яе законнае месца ў дзяржаўным і грамадскім жыцці, з разуменнем успрымаем багдановічаўскія радкі, у якіх гучыць трывога за лёс роднага слова — так, як яна гучала яшчэ ў вуснах Францішка Багушэвіча:

Народ, Беларускі Народ!
Ты — цёмны, сляпы, быццам крот.
Табою ўсягды пагарджалі,
Цябе не пушчалі з ярма
І душу тваю абакралі, —
У ёй нават мовы няма.
Збудзіўшысь ад грознай бяды,
Ўвесь поўны смяротнай жуды,
Ты крыкнуць не вольны «Ратуйце!»
І мусіш ты «Дзякуй» крычаць.
Пачуйце жа гэта, пачуйце,
Хто ўмее з вас сэрцам чуваць!

Гарачы патрыятызм у Багдановіча спалучаўся з сапраўдным інтэрнацыяналізмам. Талент паэта сілкаваўся не толькі з крыніцы роднай культуры, але і культур іншых нацый, перш за ўсё рускіх і ўкраінцаў. Актыўна друкуючыся ў беларускіх, рускіх і ўкраінскіх выданнях, адгукаючыся на важнейшыя падзеі культурнага і грамадскага жыцця трох усходнеславянскіх народаў, беларускі пісьменнік — адзін — дзеля развіцця ўсходнеславянскіх літаратурных кантактаў зрабіў столькі, колькі ні да яго, ні пасля яго не зрабіў ніхто.

Багдановіч як мастак слова вырас найперш на рускай культуры, на паэзіі XIX ст. (Пушкіна, Лермантава, Фета, Майкава, Цютчава, Палонскага, Някрасава). Нядрэнна ён быў знаёмы і з польскай літаратурай, у арыгінале чытаў Міцкевіча, Красінскага, Славацкага, Сыракомлю, Канапніцкую. Што да ўкраінскай паэзіі і прозы, то ў ёй ён ведаў літаратараў не толькі буйных, але і другарадных. Рускіх і ўкраінскіх аўтараў (Пушкін, Майкаў, Крымскі, Чарняўскі, Алесь) Багдановіч перакладаў на беларускую мову, а беларускіх (Янка Купала, уласныя вершы) і ўкраінскіх (Шаўчэнка, Франко, Стафанік, Самійленка, Крымскі, Алесь, Кацюбінскі) — на рускую. Багдановіч унёс адчувальны ўклад у вывучэнне і прапаганду творчасці асобных рускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў. Арыгінальныя і трапныя яго назіранні, што датычацца «навуковай паэзіі» Ламаносава («Поэзия гениального ученого»), генезісу асобных паэтычных вобразаў у Пушкіна («Две заметки о стихотворениях Пушкина») і А. К. Талстога («К генеалогии одного стихотворения»),

Бядуля праявіў сапраўдную самаахвярнасць, калі запрасіў да сябе Багдановіча і жыў з ім пад адным дахам, ці, як выказвалася ягоная суседка, «нібы ў бальнічнай палаце» з рызыкай самому заразіцца і заразіць небяспечнай хваробай сваіх сясцёр. Аднак не хацеў, як яму раілі, адпусціць Багдановіча ў бальніцу, бо быў упэўнены, што без працы на службе і без творчай працы Максім «загіне ад нуды».

Не выклікае сумненняў, што Бядуля аблегчыў жыццё М. Багдановічу ў Мінску, чым па-сяброўску спрыяў ягонаму служэнню роднай зямлі і роднаму слову, ягонаму дыханню паветрам Бацькаўшчыны. Бядулеўскі прытулак дапамог паэту здзейсніць запаветную мару — жыць і працаваць на Беларусі, акунуцца ў жывую плынь мілагучнай беларускай мовы.

Бядуля і ягоныя сёстры ўважліва клапаціліся аб сваім сужыцелю па дому, шчыра трывожыліся за ягонае здароўе, стваралі яму зручныя ўмовы для творчасці, што таксама спрыяла блізкаму збліжэнню пісьменнікаў.

Багдановіч, нягледзячы на слабае здароўе, штодзённыя недамаганні, увесь аддаўся грамадскай працы, старанна выконваў ускладзеныя на яго абавязкі, пры гэтым сам праяўляў ініцыятыву, каб зрабіць як мага больш для бежанцаў і іх дзяцей. За час сумеснага жыцця, сведчыў Бядуля, ён ні разу не прыкмеціў, каб Максім сядзеў хвіліну без працы. Можна толькі схіліць галаву перад інтэнсіўнай грамадзянскай самааддачай паэта, які «да апошніх дзён сваіх дбаў не аб сабе, але аб долі гаротнага народа свайго».

Вольны час пасля службы, на якой вельмі стамляўся, Багдановіч праводзіў у Пушкінскай бібліятэцы. Многа чытаў. Цікавіўся беларускай народнай паэзіяй, даследаваў асаблівасці яе метрыкі і рытмаў. Актыўны ўдзел прымаў у вечарынках, якія праводзіліся ў Беларускай хатцы, выступаў перад моладдзю з рэфератамі ці дакладамі альбо дэкламаваў уласныя вершы. «Гаварыў ён заўсёды натхнёна, з уздымам і вельмі красамоўна».

Сябрам было цікава быць разам, праводзіць час у абмеркаванні надзённых пытанняў і творчых праблем. Іх адносіны, што грунтаваліся на роднасці душ, вызначаліся прыхільнасцю і чуласцю адзін да аднаго. Бядулева сястра Соф'я пазней згадвала, што ў Багдановіча і ў яе брата «было шмат агульнага, і збліжала іх шмат агульнага. Праўда, Максім Багдановіч быў гарадскім чалавекам, а Змітрок Бядуля вясковым, але гэта зусім не перашкаджала іх сяброўству. Абодва вельмі любілі родную Беларусь, абодва не толькі марылі пра яе светлую будучыню, але і змагаліся за яе. Абодва служылі роднай літаратуры, і служылі натхнёна».

Творчай жа працай Багдановіч займаўся ў начны час. Звычайна заседжваўся да 3-4 гадзін ночы. Каб не перашкаджаць спаць таварышу, які ахвяраваў яму свой начны час для працы, бо за адным сталом двум было немагчыма працаваць адначасова, абстаўляў лямпу з трох бакоў кнігамі Г. Гейне, Т. Шаўчэнкі і іншых славутасцей, каб стварыць спрыяльныя ўмовы для адпачынку дружбаку. А на стале побач з кнігамі і рукапісамі — бутэлечкі з мікстурамі, пачачкі таблетак, якія трэба было паэту, што заседзеўся за поўнач, прымаць, хаця звычайна ён забываўся на лекі і ў дзённы час, і даводзілася яму пра іх настойліва нагадваць.

Увогуле для Багдановіча, паводле ўспамінаў сучаснікаў, характэрны былі сціпласць, тактоўнасць і спагадлівасць да людзей, палкае жаданне дапамагаць ім пераадольваць жыццёвыя цяжкасці. Ён мала ўвагі звяртаў на сябе. «Не толькі да лячэння, але наогул да ўсіх спраў, што датычылі яго самога, адносіўся дзіўна абыякава», — успамінала Верас. У сталоўцы пры Беларускай хатцы яго вымушаны былі амаль сілком карміць — адмаўляўся ад страў, бо хваляваўся пра тое, ці ўсім хопіць прыгатаванага, клапаціўся пра тое, каб больш засталося іншым. Чай прынцыпова піў без цукру. Лічыў, што не можа дазволіць сабе такую раскошу, «калі мільёны людзей гінуць на франтах, калі сотні тысяч бежанцаў — жанчын, старых, дзяцей — церпяць голад і холад на дарогах, у чыстым полі». І ніякія ўгаворы не дапамагалі пераканаць яго ў неабходнасці непакоіцца аб сваім здароўі. Ён тлума-

чыў, што хоча пакутаваць разам з народам. Сваю невялічкую казённую зарплату раздаваў направа і налева, а да сябе адносіўся бездапаможна, як малое дзіця. Не звяртаў асаблівай увагі не толькі на яду, але і на адзенне: звычайна хадзіў у старой студэнцкай тужурцы.

На першы погляд, Багдановіч здаваўся суровым і замкнёным, на справе гэта быў надзвычай добры і ўважлівы да людзей чалавек, якога некаторыя нават успрымалі як ідэаліста-фанатыка. Бядулю ўражвала тая стойкасць, з якой ён пераадольваў неймаверныя цяжкасці, якія выпалі на ягоную долю: «А колькі ж патрэбна яму сілы волі, каб заўсёды здавацца вясёлым, энергічным, бадзёрым, здаровым, каб не выклікаць да сябе пачуццё жалю і нікога не палохаць сваёй хваробай». Вось чаму, «сардэчны, скромны і просты М. Багдановіч адразу заваяваў агульную сімпатыю /.../. Здавалася, што ён даўно з намі, што ўсім блізкі, дарагі».

Бядуля ўпэўніўся ў тым, што багдановічаўскія паэтычныя творы цалкам гарманіравалі з уласным жыццём іх творцы, які заставаўся паэтам і ў звычайным, штодзённым жыцці. Умеў Багдановіч падгледзець цікавае, не цураўся жартаў. Так, звярнуў увагу на паэтычныя здольнасці бядулеўскіх бацькоў, якія далі сваім дачкам зарыфмаваныя імёны: Рэня і Геня. Жартаўліва называў іх сваімі «рыфмаванымі цётачкамі», якія ў сваю чаргу ў кішэню па слова не лезлі і аджартоўваліся: «Ужывайце цукар або варэнне да чаю і завіце нас хоць бабулькамі». Багдановіч любіў слухаць спевы сясцёр, імкнуўся забаўляць іх як малых дзетак. Чытаў ім казкі.

Але і ў самай звычайнай сітуацыі Багдановіч заставаўся паэтычнай натурай. Так, гледзячы на зоркі, якія ў вячэрнія часы дружна высыпаліся на небе, тлумачыў сёстрам, што зорачкі з’явіліся таму, бо дзяўчына збірала на небе маліну, незнарок выпусціла з рук свой кошык, ягады рассыпаліся і ператварыліся ў зорачкі.

«Паэзія, — адзначаў Бядуля, — была найлепшай уцехай яго жыцця. Пры ёй ён забываўся аб сваёй хваробе, забываўся аб тым, што дні яго жыцця злічаны...» Бядулю ўражвала не толькі здзіўляючая працавітасць свайго паплечніка, але і ягоныя энцыклапедычныя веды, філасофская глыбіня роздумаў і іх трапнае адлюстраванне ў вершаваных радках.

Асабістае знаёмства з аўтарам «Вянка», высокія чалавечыя якасці ягонага стваральніка спрыялі Бядулю яшчэ больш захапляцца зместам і арыгінальнымі формамі багдановічаўскіх вершаў, якімі той узбагаціў беларускую паэзію і якімі даказваў маляўнічае багацце і бязмежныя магчымасці беларускага слова. Яго, самога надзвычай замілаванага народнымі казкамі, паданнямі, міфамі, легендамі, персанажамі з якіх насяляў свае творы, уражвала разнастайнасць колераў багдановічаўскіх вершаваных радкоў, трапнае выкарыстанне казачных вобразаў народнай фантазіі і народных сімвалаў (лясун, русалка, сонца, месяц, зоркі і г. д.). З захапленнем ён ставіўся да метафар, параўнанняў і эпітэтаў, якія трапна выкарыстоўваў М. Багдановіч: «Возера — люстэрка альбо чаша віна. Зоркі — пацеркі, нябесная рунь, сняжынкі, кветкі. Маланка — агністы меч. Крыніца — грукае серабром».

Не меншае ўражанне зрабілі на Бядулю і суровыя рытмы Багдановіча: «...Грозныя песні беларускага мужыка... Каменная сцяна між бедным і багатым... Разрытая магіла гаротніка... Межы драпежніцкіх уласнікаў». Ён ставіўся да іх аўтара, як да вернага саратніка ў змаганні «за лепшую, светлую долю для роднага беднага брата», «для краіны, у якой панавалі «здзекі, пакуты і гора».

Тут жа, у Мінску, была напісана славутая «Пагоня», прасякнутая непамерным клопатам пра лёс роднай краіны, якой паэт заклікаў самааддана служыць, каб Бацькаўшчына была незалежнай дзяржавай, магутнай, высокаразвітай, самадастатковай. Менавіта Бядулю мы ўдзячны за тое, што ён занатаваў для нашчадкаў вытокі нараджэння гэтага выключнага для беларускай самасвядомасці верша — адпаведнае прызнанне ягонага аўтара на адным з Максімавых рэфератаў у Мінску ў 1916 годзе, словы якога і праз дзясяткі гадоў не выходзілі з памяці. «Я, — прызнаваўся М. Багдановіч, — быў пад Вострай Брамай (у Вільні. — **Ц. Л.**)... На Браме красуецца герб старога Бел/аруска/-Літ/оўскага/

Княства — Пагоня: узброены рыцар сядзіць на скачучым кані і размахвае мячом. Перад маімі вачыма рыцар вырастае ў вялікія размеры, і меч яго пападае якраз у маё сэрца... Я ранены і запаланёны навекі...»

Дзякуючы Бядулю, мы даведаліся таксама, як узнікла задума ў М. Багдановіча стварыць паэму «Страцім-лебедзь». Яе аўтар прызнаваўся сябру ў тым, што паслужыла штуршком да яе напісання: «Я задумаў твор на тэму біблейскага міфа. Гэту тэму навеяла мне вайна, гібель мільёнаў і мой уласны лёс».

Пакінуў нашчадкам Бядуля велічны ўспамін з горкім асадкам аб першым чытанні Багдановічам паэмы «Страцім-лебедзь», якая заключнымі радкамі і Максімавым каментарыем да іх узрушыла ягоную душу, як і ўзрушвае па сённяшні дзень сэрцы чытачоў: «Праз некалькі дзён, калі «Страцім-лебедзь» быў напісаны дробным, бісерным почыркам, Максім чытаў мне гэты верш. Ён чытаў усхваляваным глухаватым голасам. Канцоўку ён прагаварыў надломаным тонам:

Ад усіх цяпер патомкі ёсць,
Ды няма адных — Максімавых.

Ён запнуўся і тут жа паправіўся:

Ды няма адных — Страцімавых.

Усхваляваны, я выйшаў на ганак пакурыць. Узварушыў маё сэрца сумны канец «Страцім-лебедзя». Я адчуў, што Максім Багдановіч інакш пісаць не мог. Ды без трагічнай канцоўкі прапала б ігра колераў гэтага дасканалага твора, паблякла б рамантычная гераіка вобраза, пададзеная ў класічным стылі».

Бядуля і яго сёстры абагаўлялі Багдановіча, дапамагалі яму, чым толькі маглі. У значнай ступені, дзякуючы ім, апошнія месяцы жыцця паэта былі па тым часе больш-менш уладкаванымі, прайшлі ў спрыяльнай для яго атмасферы.

Чамусьці ў апошні час зрабілася модным спасылацца на Зоську Верас, што ўспаміны Бядулі не адпавядаюць сапраўднасці, што паэты не жылі ў адным пакоі, што яна «ўспаміналa іншае» («Беларусь сегодня». 23.06.2006. № 116). Але яна ў сваіх успамінах, што напісаны ў 1967 годзе нічога не адмаўляла з паведамленняў Бядулі. Вось яе сцвярджэнне: «Кватэра /.../ мела тры пакоі: два займаў Бядуля з сёстрамі, а трэці — вялікі, светлы, з асобным уваходам — цалкам стаяў пусты».

У Бядулі таксама ідзе размова пра тры пакоі, упамінаецца і той самы пакой, пра які піша Верас: «Сёстры адразу пайшлі спаць у бакавы пакойчык. Я і Максім засталіся ў сталовай, дзе мы з ім спім. Тут мой і Максімаў «кабінет». Тут мы прымаем гасцей. Гэты пакой — самы сонечны. Але ён прахадны з двух бакоў. Злева — мае сёстры, справа бежанская сям'я: маці і дачка». З далейшага тэксту становіцца зразумелым: маці і дачка — гэта Сівіцкія: Верас і яе маці. Бядулевы ўспаміны надрукаваны ў 1941 годзе. Дык чаму Верас нават у 1967 годзе не выказалася дакладна, што не жыла ў 1916—1917 гадах у адным доме з Бядулем і ягонымі сёстрамі, тым больш адкрытым тэкстам зняла б са сваёй маці абвінавачванні ў тым, што тая настойліва раіла выселіць Багдановіча, бо баялася заразіцца сама і трывожылася таксама за сваю дачку. Неяк сарамліва адзначыла мімаходзь у дужках: «У гэтым пакоі я пасля (?) жыла некалькі месяцаў са сваёй маці». А мела ж прамую магчымасць рэабілітаваць, «абяліць» сваю маці, хаця ні словам не заікнулася пра тое, што, маўляў, Бядуля несправядліва яе абвінаваціў.

Дарэчы, увогуле выклікае здзіўленне, чаму Верас можна верыць, а Бядулю — нельга. Чым жа гэта яе аўтарытэт перавешвае? І да слова сказаць, Бядулеў «Страцім-лебедзь» не проста ўспамін, а мастацкае апавяданне. Мастацкае ж апавяданне, нават на гістарычным матэрыяле, нешта ж іншае, чым дакладныя ўспаміны, хаця яно і грунтуецца на канкрэтных фактах, адпаведных рэальнаму жыццю. Зараз лічыцца, паводле слоў Верас, што Бядуля ўступіў Максіму свой пакой — вялікі светлы пакой з асобным уваходам. Цікава, калі ў кватэры тры пакоі: у адным жыве Бядуля, у другім — ягоныя сёстры, а ў трэцім — Сівіцкія ці бежанцы, то дзе тады асобнае месца для Багдановіча?..

Але няхай будзе нават так: Багдановіч меў асобны пакой. Хіба ў такім разе можна адмаўляць у самаахвярнасці гаспадару кватэры, які рызыкнуў пусціць пад агульны дах чалавека з адкрытай формай туберкулёзу? Не проста чужога чалавека, а чалавека агульных поглядаў, з якім сустракаўся, гутарыў, абмяркоўваў гарачыя праблемы дня і справы літаратурныя.

Заўважым, што сам Багдановіч, будучы яшчэ навучэнцам Яраслаўскай гімназіі, на занятках літаратурнага гуртка, калі кіраўнік, на падставе ўспамінаў нейкай сучасніцы аўтара «Героя нашага часу», абвінаваціў М. Лермантава ў тым, што той «быццам прытрымліваўся легкадумнага вобраза жыцця», заступіўся за любімага паэта, доказна сцвярджаў, што «пры ацэнцы паэта нельга грунтавацца на запісках не зусім аб'ектыўнай жанчыны, што трэба меркаваць пра паэта па яго творах...» Так што да ўспамінаў З. Верас, як і іншых мемуарыстаў, нядрэнна было, падыходзіць з такіх разумных пазіцый.

Светлы вобраз Багдановіча не выходзіў з памяці Бядулі да апошніх ягоных дзён. Бядулева сястра Соф'я, якая прыехала ў Мінск пасля ад'езду паэта, успамінала як Змітрок, так і яе сёстры Геня і Рэня адзываліся з вялікай павагай пра яго, Багдановіча, які, паводле іх слоў, «быў вельмі прыгожы малады чалавек», якому «хвароба далася ў знакі» — /.../ «сёстры расказвалі аб велізарнай павазе Бядулі да Максіма», які ставіўся да хворага як да брата.

У газеце «Вольная Беларусь» (25.05.1917) Бядуля адгукнуўся на смерць сябра некралогам «М. А. Багдановіч», у якім вызначыў стваральніка «Вянка» як аднаго з «найлепшых, найшчырэйшых сыноў Беларусі». Ягоная карэспандэнцыя «У гадаўшчыну смерці М. А. Багдановіча» была надрукавана ў газеце «Беларускі шлях» (25.05.1918). Бадай, ці не першым, ён назваў Багдановіча «нашым вялікім песняром», у творчасці якога беларусы будуць знаходзіць «тую асвяжаючую крыніцу, каторая дадае сілы для далейшай працы». 26 мая 1918 года таксама «Вольная Беларусь» змясціла разгорнуты бядулеўскі артыкул «У гадаўшчыну», у якім адзначаюцца высокія якасці і адметныя рысы вясёлкавай багадановічаўскай паэзіі з яе яркай вобразнасцю і рэльефнай выразнасцю.

Да гэтай ж даты быў напісаны і з'явіўся ў друку верш Бядулі «М. Багдановічу» («Вольная Беларусь», 26.05.1918), у якім апета палымянае сэрца паэта, якое «супакою не знала». Бядуля адным з першых вызначыў сталае значэнне багдановічаўскай спадчыны для Беларусі. Зноў жа адным з першых заявіў аб бессмяротнасці песняра, творы якога «Вясновай лірай, чароўнай лірай, На раніцы гралі аб сонцы» і не пакідалі хваляваць сыноў гора і тугі. Бядуля прароча прадказваў: «На скрыжалях адраджэння роднага краю яго імя будзе ззяць у небе Беларусі светлай зоркай навекі!»:

Паэта душа супакою не знала,
Бо думкі да высі імчаліс;
Імчаліс да пушчы, да рэчнага вала.
Іграў ён, а струны ўсё рваліс...
Са струнамі ліры і струны душы
Парваліс...
...Далёка ад роднай мяжы
Пайшоў наш паэт той адвечнай дарогай,
Што йдзець аж да Самага Бога.
Бо полымя сэрца паліла — не грэла.
Ў тым полымі сэрца згарэла...
А песні паэта на нашай зямлі
Спявае сын гора, тугі....
І людзі іх слухаюць — слухаць іх будуць,
Ніколі аб іх не забудуць.

Пасля амаль чатырохгадовай разлукі Купала сустрэўся з Бядулем у 1919 годзе, калі разам з жонкай прыехаў у Мінск са Смаленска. Уладзіслава Луцэвіч успамінала: «Першае, аб чым загаварыў Бядуля, — гэта аб страце свайго вялікага

друга Максіма Багдановіча, з якім ён частку 1916 і 1917 года пражыў на адной кватэры. Бядуля і яго сёстры Рэня і Геня былі сапраўднымі апекунамі хворага пісьменніка. Бядуля часта і пасля расказваў аб жыцці паэта, прыпамінаў розныя, нават дробныя факты, паўтараў словы нябожчыка. Смерць Багдановіча балюча адбілася на настроі Бядулі, ад кожнага ўспаміну веяла глыбокім сумам».

У вялікім артыкуле «Натхненне і гармонія. (К 3-й гадаўшчыне смерці М. Багдановіча)» («Рунь». 1920. № 5-6) Бядуля характарызуе паэта як «шчырага жраца хараства з святлейшых людзей нашага народа», які «за кароткі час сваёй творчасці выведаў тайну гармоніі, вывучыў карты роднай красы і вянкамі вясновых паэтычных кветак аздобіў ніву беларускага адраджэння /.../ На беларускай ліры ён выпрабаваў розныя тоны, розныя акорды паэзіі, паказваючы гібкасць і меладыйнасць жывой беларускай мовы, на якой можна выказаць самыя, чуць улоўныя, размаітасці думак і пачуццяў».

У 1923 годзе Бядуля напісаў і змясціў у газеце «Савецкая Беларусь» (16.06) свае ўспаміны пра Багдановіча, якія дапамагаюць уявіць перыяд жыцця славутага аўтара бессмяротнага «Вянка». Бадай, гэта ці не першыя друкаваныя ўспаміны пра паэта.

Яскравым сведчаннем адданасці Бядулі памяці сябра служыць таксама ягоная перапіска з А. Багдановічам, якому ён імкнуўся дапамагаць у вырашэнні як жыццёвых праблем, так і ўвекавечвання памяці пра сына. Падтрымаў Адама Ягоравіча ў неабходнасці напісання ўспамінаў пра Максіма. Клапаціўся пра тое, каб узвесці яму высокамастацкі помнік на ялцінскіх могілках. І ў трыццатыя гады, калі аўтара «Вянка» штучна адносілі да «нікчэмных» дэкадэнтаў і хрысцілі спеваком упадніцтва, Бядуля не змяніў сваім поглядам на творы Багдановіча, у якіх адчуваў вялікую красу і глыбіню думак і лічыў неабходным вывучэнне ягонай спадчыны, якая торыла дарогу беларускім паэтам.

Між тым, калі ў канцы 30-х гадоў мінулага стагоддзя Бядуля задумаў напісаць серыю апавяданняў-успамінаў пра выдатных людзей, з якімі яму даводзілася мець зносіны і працаваць на ніве беларускага адраджэння, то першае сваё апавяданне (на жаль, жыццё яго абарвалася ў 1941 годзе, і гэты твор застаўся адзіным завершаным) ён прысвяціў Багдановічу — «Страцім-лебедзь», што служыць яскравым сведчаннем таго, што і праз чвэрць стагоддзя працягваў успрымаць смерць аўтара «думак шчырых і чуцця» як свежую і балючую рану. Ён імкнуўся данесці праменны вобраз свайго паплечніка да нашчадкаў ва ўсёй сваёй прывабнасці, за што яму шчыра ўдзячны прыхільнікі багдановічаўскай паэзіі. М. Аўрамчык адзначаў, што ўжо пры з’яўленні ў друку Бядулева «апавяданне надзвычай уразіла студэнтаў». Такое ж уздзеянне яно робіць на ўсё новыя пакаленні.

Вытокі паразумення, сяброўства, жыццёвага і творчага дачынення Багдановіча і Бядулі бачацца ў першую чаргу ў іх інтэлектуальнай сугучнасці, у іх высокай душэўнай сутнасці, гуманнай і чулай, у тым, што яны абодва непакоіліся аб лёсе Радзімы, імкнуліся не толькі прадбачыць яе светлы дзень, а рабіць усё магчымае для таго, каб наблізіць яго прыход. Яны горача верылі ў бязвоблачнае будучае Бацькаўшчыны, бо гэта былі людзі, у якіх «сэрца /.../ Аб радзімай старонцы баліць». Трапяткая памяць Бядулі пра свайго пабраціма, жыццё якога абарвалася дачасна, пацвярджае, што няма на свеце нічога вышэй духоўнага братэрства.

У той жа час абодвух radніла творчае натхненне, гарачае захапленне беларускім словам і вера ў тое, што яно можа адкрываць людзям вочы і дапамагаць шукаць і знаходзіць праўду. Думкі іх натхнёных радкоў, у якіх праламляліся народныя пачуцці, як урадлівыя зярняткі праraслі буйным коласам на роднай зямлі.

І яшчэ. Іх зблізіла тое, што яны былі людзьмі светлай душы і адкрытага сэрца. А такім людзям, людзям унутранага радства, заўсёды лёгка знайсці адзін у аднаго паразуменне, спачуванне, падтрымку, тым больш, калі яны служаць агульнай высакароднай справе. Беларусы ганарацца сваімі вернымі сынамі. Сяброўскія адносіны паміж якімі могуць быць запісаны залатымі літарамі на старонах беларускага прыгожага пісьменства.

Казімір КАМЕЙША

# І ВЫСОКАЕ, І ЗЯМНОЕ

Не хацелася б верыць у старыя словы, што час бяжыць вельмі хутка. Хоць сам іх услед за іншымі я прамаўляў неаднойчы. І як быццам пераконваўся, што і на самай справе гэта так. Але ж ці праўда тое? Час рухаўся спрадвеку аднымі і тымі ж крокамі хвілін, гадзін, сутак, гадоў. А нам напачатку заўсёды здаецца, што ён занадта марудлівы, а потым пачынаеш думаць, што вельмі паспешлівы. Але хто ж, як не мы, людзі, прыдумалі і колы, і хуткасці, каб ляцець за часам напярэймы і нават апераджаць?! І ўсё ж як ні хітруй, гадзіннік часу на свой лад не перавядзеш. У яго ўласны, прыродай заведзены механізм. Гэтаксама і з жыццём. Няма нічога мудрэйшага ў свеце, чым мудрыя яго законы. Таму і не дзіўна, што перажытага часта ў жыцці бывае больш, чым пражытага. Гэта думка прачыталася ў адным з вершаў Міколы Маляўкі ў яго нядаўняй кнізе «Старая зямля» («Пражыта шмат, а болей — перажыта») і адразу засталася ў памяці.

Сем дзясяткаў — гэта той узгорак, зірнуўшы з якога можа сапраўды закружыцца галава ад пройдзенага і перажытага, з якога сёе-тое засталося ў вершах, а іншае яшчэ ўсё тлее ва ўспамінах і просіцца ў новыя радкі.

Цяпер з ветэранамі песні
Спяваю, бывае, адны
І я — пасівелы равеснік
Вялікай Айчыннай вайны.

Мне лёгка згадваць яго маладым, высокім, статным, з добрай хмарыстасцю смаляністай чупрыны, якім і пабачыў тады, летам 1960 года ў Стоўбцах, калі мяне, пачаткоўца, вучня Дзераўнянскай школы, паклікалі на пасяджэнне літаб'яднання пры райгазеце «Голас селяніна», дзе потым пашанцавала і працаваць. Міколу можна было пазайздросціць: ён часта друкаваўся ў рэспубліканскіх выданнях, вялікія нізкі яго вершаў змясціў часопіс «Маладосць». Ды і за плячыма ў маладога паэта ўжо мелася свая пэўная жыццёвая школа: пасля дзесяцігодкі паспеў папрацаваць у раённай газеце, потым зведаў смак рабочага мазаля на лесанарыхтоўках у Карэліі, а ў Стоўбцы завітаў ужо будучы студэнтам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, куды рвалася і маё пушчанскае сэрца. Таму кожнае слова аўтарытэтнага калегі, а гаварыў ён якраз пра нашы пачаткоўскія практыкаванні, слухалі ўважліва, нават унутрана перажываючы за свае відавочныя хібы. Сярод прысутных я, здаецца, быў самы маладзейшы, але, магчыма, самы шчаслівейшы на той сустрэчы: як жа, заўважылі і мае творчыя высілкі.

Пасля пасяджэння літаб'яднання яго кіраўнік, вясёлы і хаўрусна-даверлівы Дзіма Супрун, прыдумаў нават невялічкае застолле ў прывакзальнай сталоўцы, і дамоў мясцовыя паэты вярталіся ў адпаведна прыўзнятым настроі. А восенню мы сустрэліся з Міколам Маляўкам у калідоры ўніверсітэцкага інтэрната па вуліцы Свярдлова, на гэты раз як студэнты і добрыя знаёмыя.

Жылі студэнты, як і скрозь у свеце, дружна і весела, а яшчэ гэтае жыццё прыемна дапаўняла паэзія. Мы, зялёныя першакурснікі, выпіналіся адзін перад адным, пісалі слабенькія вершыкі пра сваё «басаногае дзяцінства», пра бярозкі, узгоркі ды лагчыны родных мясцін. А ў Міколы ўжо была свая выразна акрэсле-

ная творчая пазіцыя, яго вершы трымаліся на біяграфіі і жыцці, што надавала ім і вагу, і адметнасць. І не толькі гэта. Мікола Маляўка нейк адразу займеў, адшукаў і выпрацаваў свой уласны паэтычны почырк, сваю інтанацыю, сваю графіку страфы. Як гэта яму ўдалося, не ведаю. Але думаю, што выбар такі падказала сама душа. Таму і сам даўно прытрымліваюся той думкі, што сапраўдная паэзія — гэта рух душы. Калі душа ў паэта адключана, калі пяром яго водзіць інерцыя халоднага вершатворства, тады і вершы атрымліваюцца штучнымі і безаблічнымі або правільна-інкубатарнымі. Таму і раствараюцца яны ў агульным паэтычным патоку, таму іх цяжка вылучыць і лёгка згубіць у гэтым патоку. Вершы ж Міколы Маляўкі ніколі не зблытаеш з чыімі-небудзь іншымі, у іх свой твар, свая адметнасць. Гэта добра адчуваецца ўжо ў першай кнізе паэта «Едуць маразы». Спашлёмся да прыкладу хоць бы на гэтыя радкі:

Пахнуць дажджамі, туманамі,
Пахнуць сырым чарназёмам,
Пахнуць вуснамі нецалаванымі
З травяністых урочышч за домам
Белыя ландышы.

Да яго меладычна-запаволенага, а часам і нечакана спыненага радка чытачу, магчыма, трэба было прывыкаць. У пачатку шасцідзясятых, таго ўжо стагоддзя, яшчэ цвёрда і звычна гучаў традыцыйны галоп ямба і харэя. Новыя рытмы палохалі. Трэба сказаць, што творчай манеры сваёй Мікола Маляўка не здрадзіў і праз гады. Апраўдала яна сябе і ў яго дзіцячых вершах, якія займаюць таксама значнае месца ў творчасці паэта. Почырк ёсць почырк. Памяняць яго нельга, нават падрабіць цяжка.

Бесспрэчна, карэльскі цыкл Міколы Маляўкі ў тамчаснай нашай паэзіі быў з’явай прыкметнай. Упершыню рабочая тэма гучала ў такім лірычным і эмацыянальна пранікнёным выкананні.

Паўзуць з дарогі ў роў
Глыбокіх трэшчын змейкі,
І нават ля кастроў
Не грэюць целагрэйкі.

Бярозы леглі ніц —
Для кніжных шаф, калысак,
І б’е з-пад рукавіц
Не пілавінне — прысак.

Мароз яшчэ званчэй
У соснах раскашуе,
А нам ужо з плячэй
Карціць сарваць кашулі.

І сёння помняцца вершы таго цыкла: «Дарожная брыгада», «Танцы», «Чаму я люблю навальніцы»... І сёння стаіць перад вачыма малюнак з верша «Танцы», дзе кружыцца «завіруха — адна жанчына на ўсю брыгаду». А верш «Едуць маразы», які даў назву першай кнізе, студэнты цытавалі па памяці:

Чую галасы —
Недзе за гародамі
Едуць маразы
З белымі бародамі.

Снег глыбокі, лёд.
Коні пртаміліся,
Ля маіх варот
Маразы спыніліся.

У лёгкім песенным, эмацыянальна насычаным радку і сапраўды чуецца і скрып палазоў, і бег коней, і белае марознае дыханне прасторы.



*Мікола Маляўка (першы справа) з Міколам Чарняўскім і Уладзімірам Ліпскім.*

Былі ў карэльскіх вершах і настальгічныя матывы. Зусім натуральная для паэта рэч. Славячы паўночную красу, Мікола Маляўка аддаваў перавагу красе сваёй, прынёманскай. У вершы «Пер'е падае» ёсць радкі, дзе аўтар звяртаецца да выраю:

— Спусціце мне па пяру
З асенняга неба, птахі.
Я крылы з пер'я збяру
І дома звіну іх пад пахі.

У іншых радках паэт настальгічна сумаваў па родных прынёманскіх краявідах. Такія вось матывы ўстрывожылі сяготага з суайчыннікаў на заходняй радыёстанцыі. На падставе гэтага і было зроблена заключэнне, што аўтар у высылцы, адбывае тэрмін, працуючы на паўночным лесапавале. І вось неўзабаве яго, студэнта, паклікалі ў замежную рэдакцыю Беларускага радыё і папрасілі праз эфір растлумачыць суайчыннікам, што хваляванне іх дарэмнае — ён на волі і вучыцца ў вышэйшай навучальнай установе.

Першая кніга Міколы Маляўкі «Едуць маразы» мела пэўны рэзананс у айчыннай паэзіі. Яна засведчыла, што ў літаратуру прыйшоў новы таленавіты і арыгінальны паэт са сваім светабачаннем, выяўленчымі магчымасцямі. Яму б і ўвагі хоць крыху адпаведнай. На жаль, з боку той жа крытыкі падтрымкі належнай так і не знайшлося. Выходзілі кніга за кнігай, а імя паэта як знарок замоўчвалася. Ні добрага, ні дрэннага слова. Але даруем крытыкам. Маўчанне іх не самае горшае, што можа чакаць паэта на творчым шляху. Галоўнае, каб не замаўчаў сам паэт, як гэта здаралася з іншымі творцамі, яго і не яго аднагодкамі. Тыя як быццам і заявілі пра сябе аднойчы, а потым неяк непрыкметна і назаўсёды зніклі з паэтычнай арэны. Універсітэцкае ж аб'яднанне «Узлёт», якім кіраваў любімы выкладчык, паэт і крытык Алег Лойка, памагала стаць на крылы толькі дужэйшым. Малады паэт, зямляк Якуба Коласа, быў з тых, дужэйшых.

Гады студэнцтва, напэўна, самая шчаслівая і вясёлая старонка ў жыцці чалавека. Нават і сёння, у самую сталую пару, там можна пазычыць і аптымізму, і няўседнасці, і маладога задору. Пра тыя гады паэт з добрым гумарам напіша ў паэме «Ліверная каўбаса», якая, думаю, прыйдзецца да густу і студэнту сённяшніх дзён. А некалі гэтую паэму ведалі напамяць усе філфакаўцы БДУ.

А жыццё рухалася наперад. І распараджалася яно наступным чынам. Пасля ўніверсітэта была настаўніцкая праца ў глыбіннай школцы, потым — служба ў арміі, журналісцкія будні ў нясвіжскай раёнцы «Чырвоны сцяг». А яшчэ пазней запрасілі ў Мінск, на Беларускае радыё. Калі суха, па-анкетнаму, дык яно і вельмі проста, а ў жыцці ўсё куды складаней. Горад не спяшаўся прымаць у свае абдымкі. Знайшлася праца, не было жылля, прытулку. Былі і тулянні па вакзалах, цеснае кватараванне ў сяброў. Мікола па натуры чалавек сціплы, але і мужны. Усё гэта з мужнасцю і вытрымаў. А пасля, звыклы да цеснаты яшчэ з гадоў студэнцтва, ён і сам неаднойчы даваў прытулак іншым. У яго невялікай мінскай кватэры начавалі і паэты, і студэнты, і шмат які заезджы зямляцкі ды сваяцкі люд. Дабрыня

і сціпласць суседнічалі ў характары паэта. Гэтыя дзве чалавечыя якасці заўсёды прысутнічалі і ў яго творчасці.

Праца ў Карэліі, як здалося мне, не часова прапісалася ў паэзіі Міколы Маляўкі. Для яго, тады юнака, учарашняга школьніка, яна сталася сапраўдным жыццёвым выпрабаваннем. У кнізе «Старая зямля» пацвярджэннем гэтаму знаходзім такія радкі:

Не выпала з жыцця майго яна,
Карэлія… Не эпізодзік нейкі,
Дзе цешыў спеў начнога салавейкі.
На эстакадзе мы, сям'я адна,
Кацілі бервяно да бервяна:
Ад інею сівелі бровы, вейкі,
А мы з плячэй скідалі целагрэйкі, —
Работа ў снежні грэла, як вясна.

Будзе ў творчасці паэта і паэма «Эстакада», дзе малюнак лесапавалу паўстане найбольш поўна і рэльефна, з характарамі людзей, з абрысамі часу і трагічнасцю людскіх лёсаў.

Армейскае жыццё адклала свой след на характары паэта і яго паэзіі. Сам Мікола ніколі ў жыцці не насіў і не прызнае гальштукаў — душы заўсёды была ўласціва вольнасць і лёгкасць, а тут змушаны быў зашпіліцца на ўсе гузікі і аплікі строгіх армейскіх статутаў. Ад таго, пэўна, і смаліста-густы чуб праз год службы стаў значна радзейшым. Пра суровую армейскую службу, пра салдацкае сяброўства потым напішацца паэма «Каранцін». Было і тут сваё нешанцаванне. Анатоль Вялюгін падрыхтаваў яе для публікацыі ў часопісе «Полымя». Аўтару толькі прапанавалі памяняць назву. Спыніліся на «Блакітнай роце». Аднак і назва твор не выратавала — у часопісе ён не з'явіўся.

Перачытваючы сёння паэму, я спыніўся на наступных радках:

У кожным лёсе
Ўсё, што пераджыта,
Праб'ецца потым, як з-пад снегу жыта,
Праб'ецца з-пад ападу дзён, гадоў
Дзе — плёнам спраў,
Дзе — пустацветам слоў,
Дзе — горыччу,
Дзе — слодыччу пладоў…

У вершах паэта, як заўважылася, прабіваецца зноў і зноў праўдаю і тое, што пераджыта не толькі ім асабіста, а і нашымі бацькамі, старэйшымі братамі і сёстрамі. У кнігах яго знаходзіш шмат вершаў пра апошнюю вайну, пра яе жахі і ахвяры. І гэта не халодныя занатоўкі пачутага ці вычытанага, тут усё суперажытае разам з народам, разам з айчынай. Можна цытаваць і цытаваць радкі з вершаў ваеннай тэматыкі, але, думаю, будзе дастаткова і гэтых, прысвечаных паэтам, што загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны:

За чатыры гады да зямлянак
Не данеслі бацькі
Пацалункаў, надзей, калыханак.
Цяжка паверыць пасля Перамогі
У мемарыяльныя некралогі:
Вершы праз кулі,
Праз міны
Усё яшчэ вяртаюцца
У кніжныя магазіны.

Сённяшнія нашы маладзейшыя сябры апантана кінуліся адкрываць мінулае, часцей за ўсё бездапаможна слізгаючы пяром па акамянелым грунце забытасці. Усё гэта патрэбнае і ўдзячнае, калі яно не падробна-самазамілаванае ды без дылетанцкага прыўсхліпу. А нам не давалі і такога права. Больш таго, творы пра сучаснасць, дзе хоць на макавае зярнятка агалялася святая праўда-матка, бяз-

божна выкідвалі з кніг і выдавецкіх планаў. Верш Міколы Маляўкі «Вуліца Бескароўная» быў катэгарычна выкраслены з кнігі «Аднавякоўцы». А ў выдавецкім калідоры доўга вісеў загад аб пакаранні рэдактара за страту пільнасці і непатрабавальнасць. Дзякуй богу, паправіў усё сам час — верш надрукаваны ў зборніку «Зімні дождж». Давайце ж пачытаем хоць некалькі радкоў з яго:

Дамы пад шыферам, утульныя.
Уздоўж платоў —
Прысады роўныя.
І ёсць імя ў прыгожай вуліцы,
А называюць —
Бескароўная.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І сам я знаю, сумны,
Не абыходзячы двароў:
Мышамі пахнуць гумны,
Хлявы астылі без кароў.
Калі прызнацца шчыра,
Рыкае толькі два хлявы:
Адзін — у брыгадзіра,
Другі — у Веркі, удавы.

Ды гэта ж і ёсць наша горкая праўдачка, дарагі чытач. Цяпер жа мы ўсе плачам і крычым пра нашы бескароўныя вуліцы і нашы бязлюдныя хаты. А бяда, як і Масква, слязам не верыць.

Даўнюю кнігу «Зімні дождж» можна з поўным правам назваць кнігай сучаснасці. У ёй шмат чалавечага болю за гэтую зямлю, за яе людзей, за яе будучыню. Паэт не можа быць спакойным, пакуль на яго вачах знішчаюцца чалавечыя каштоўнасці, дэвальвуецца сумленне, чыніцца гвалт над прыродай і чалавекам. Спыняюся на вершы «Дом састарэлых». Пабудаваны ён на дыялогах, на простых перамовах ссівелых жыхарак гэтага сумнага дома. Нельга застацца раўнадушным ад жудаснай праўды, якая зыходзіць з вуснаў бабуль. « — Мая не п’е… Скажы, Альбіна, а ты вярнулася б да сына, каб сын пазваў? — О Божа збаў! Лепш сяду ў полі пры дарозе, сканаю ціха на марозе. Ды сын і так не знае недзе, што я жыву яшчэ на свеце». Ці вось такое: « — І я забытая, а ўсё ж пайшла б па снезе басанож, пабегла б ноччу да вакзала, каб хоць на дзень дачка пазвала…»

А ёсць у сэрцы паэта і боль іншага, больш маштабнага плана, як у вершы пра пасляваенны воз сельскай гаспадаркі:

Як жыць?
Начальнікі вялікія,
Суровыя, але без галавы,
І пугай пастаноў, і крыкам
Той воз пасля выцягвалі з дрыгвы.

А воз пусты хаця, ды цяжкі,
І асядаў паціху ўсё глыбей.
З нішчымным каласком, як з цацкай,
Гуляў на ім галодны верабей.

Вялізны горад, які неахвотна прымаў нас, вяскоўцаў, гэтак жа неахвотна адпускае са сваіх каменных абдымкаў. І таму кожы раз, гледзячы на сумнаватую гарадскую шэрасць, шукаеш нейкіх суцяшальных вясковых асацыяцый. У выраўненых пад шнурок і модна падстрыжаных дрэвах заўсёды бачыш падабенства з вясковымі прысадамі, а будаўнічыя краны ўсё настойлівей нагадваюць нам дзюбы калодзежных жураўлёў, але ад гэтага не лягчэй. Што засталося сённяшняму і заўтрашняму маладому гараджаніну ад былой гаючай водарнасці роднай прыроды? Хіба што слабаваты пах скошанай травы ў парку ці скверы з характэрным бензінавым перагарам, ад якога не схаваешся нідзе — ні на зямлі, ні на небе.

Вось жа і прызнаўся неяк адзін гараджанін вясковага паходжання: «Прыязджаю ў вёску, хаджу па родным лесе — дык баліць, расколваецца галава. Вяртаюся ў горад — і адразу становіцца лёгка». А жыве ён, дарэчы, у самым забруджаным індустрыяльным кутку сталіцы. Экалагічная бяда болем прайшлася праз кожнае сэрца, а праз сэрцы паэтаў найперш. Вось і чытаем у Міколы Маляўкі:

Дзе яны, птахі, сягоння гняздзяцца?
Гіне свет без вайны:
Меліярацыя,
Хімізацыя,
Радыяцыя —
Скрозь наступаюць яны!
………………………..
Дзіўна і цяжка знізу глядзець,
Як паднялася бяда:
У буслянцы, нібы на градзе,
Вырасла лебяда…

Як жа зрабіць так, каб уся зямля наўсцяж не стала мёртвым полем, задумваецца паэт і не знаходзіць адказу.

Бясспрэчна, у кожнай зямной і чалавечай бядзе ёсць і чыясьці канкрэтная віна. Паэт якраз і не праходзіць міма розных «глушыцеляў», душыцеляў і глумліўцаў усяго святога на зямлі, людзей, якія заўсёды з краю чалавечай бяды. «Захоўвайце ў душы святло! — звяртаецца ён да чалавецтва. — Захоўвайце ў душы святло, каб заўтра цёмна не было».

І ў вершах публіцыстычнага плана Мікола Маляўка застаецца пранікнёным лірыкам, з уласцівымі яму непасрэднасцю, цеплынёй і лаканізмам. Яго голас рэдка зрываецца на крык, а калі такое і здараецца, ён не траціць ні сваёй абаяльнасці, ні пераканаўчасці.

З ім, земляком, мы доўгі час працавалі разам у літаратурнай рэдакцыі Беларускага радыё, сядзелі ў адным пакоі, займаліся адной журналісцкай справай і, мабыць, па-новаму ўзаемна адкрывалі для сябе адзін аднаго. Мяне крыху здзівіла, як працуе зямляк. Калі ён садзіцца за рукапіс, ніштo, нават наймоцная рэдакцыйная гамана не можа пазбавіць яго засяроджанасці. На пэўны час ён адключаецца ад усяго іншага і аддаецца толькі аркушу з тэкстам. Нават сяброўскім рогатам, вострым анекдотам якога-небудзь госця не выбіць яго са стану засяроджанасці. Звычка такая паходзіць ці не з гадоў студэнцтва.

З рэпарцёрскім магнітафонам аб'ехаў Мікола Маляўка некалі ўсю Беларусь, напісаў і выдаў у эфір не адзін дзясятак мастацкіх нарысаў. Яны маглі б скласці даволі аб'ёмную кнігу, але аўтар, як чалавек патрабавальны, не сабраў іх разам і не аднёс у выдавецтва.

Апошнім часам у нашай паэзіі стаўся запатрабаваным жанр санета. Пачалі адзін за адным з'яўляцца вянкі, а то і вянкі вянкоў санетаў. Не дай бог шукаць у гэтым намёк чагосьці заганнага. І ўсё ж такая творчая зададзенасць не заўсёды ідзе на карысць твору, у гэтым «вянкапляценні» часта ўсё губляецца ў прыблізнасці і безаблічны, павярхоўнасці і агульшчыне.

Але сёння ўжо ніхто не сумняваецца, што сама санетная форма тоіць у сабе вялікія магчымасці. І лепшыя творцы даказалі гэта. Мікола Маляўка даволі пераканаўча сцвердзіў сябе ў строгай форме санета, напісаўшы кнігу «Старая зямля», якая была адразу заўважана літаратурнай грамадскасцю. У даволі аб'ёмным зборніку ён, па сутнасці, стварыў своеасаблівую біяграфію роднай вёскі, рэдка каго з жыхароў абышоўшы сваёй увагай.

Пра славу людзі простыя не дбалі,
А для мяне яны Сузор'ем сталі.
Гарыць яно не ноччу над зямлёй,
Гарыць яно, нябачнае чужому,
У ясным небе памяці маёй, —
І я па ім звяраю шлях дадому.

Аўтар нібыта разахвоціўся самім жанрам санета. А таму не абмінуў яго і ў наступнай кнізе «Дзічка ў полі».

Уласна кажучы, гэта той жа самы жыццёвы роздум, што і ў вершах, даўно акрэсленых уласным почыркам, толькі падпарадкаваны ён больш строгай кананічнай форме. Адразу ўзнікае пытанне: ці здраджвае тут паэт ужо напрацаваным паэтычным прыёмам? Здаецца, што не, хоць і не парушаецца сама мадэль санета. Кожны твор як бы падзяляецца на два фрагменты. Першы — гэта своеасаблівы запеў, уваход у тэму, а другі — як пэўнае падсумаванне сказанага, але тут ёсць, як і ва ўсіх іншых жанрах паэзіі, свой кантрапункт і свае правілы гармоніі.

Кожны санет Міколы Маляўкі — гэта ўсхваляваны аўтарскі маналог, з цвёрда акрэсленай думкай напрыканцы. Але каб перайсці да такога маналога, аўтару трэба засяродзіцца ці на нейкай асобе, ці нават на звычайнай рэчы. А ў цэлым тут мы маем па-філасофску асэнсаваны кароткі верш-роздум. Спашлёмся на санет «Яно не выпраменьвае святло», дзе размова ідзе пра звычайнае люстэрка. Коратка праілюстраваўшы сутнасць самой люстэркавай шкліны, аўтар падводзіць нас вось да такой высновы:

Прагледзеўшы сямейныя альбомы,
Я да люстэрка падыходжу дома.
Няхай журботна так, няхай на міг,
Ды гэта — з фатаграфіямі зверка:
У глыбіні празрыстай бачу ўсіх,
Хто паглядзеўся некалі ў люстэрка.

Безумоўна, санеты — творчая ўдача паэта. І, як адчуваецца, ён вельмі азвычаіўся, «улюбіў» сябе ў гэты жанр і будзе звяртацца да яго яшчэ неаднойчы. Важна, што сам здольны самакантраляваць сябе, не паўтараць ужо аднойчы адшуканае.

Згадаем і яшчэ адну грань таленту Міколы Маляўкі — гэта яго часты зварот да гумару. Жартоўная падфарбоўка, досціп заўсёды дадавалі лірычнаму вершу настраёвасці і падсвечвалі яго знутры. Тое, што паэт схільны да гумару, сцвердзіла ў свой час і вышэйзгаданая паэма «Ліверная каўбаса». З таго часу вясёлыя іскрынкі гумару заўсёды праблісквалі амаль у кожнай яго новай кнізе і ўрэшце сталіся для нас звыклымі. Цэлы раздзел гумару «Філасофскі тост» знаходзім мы і ў апошнім зборніку паэта «Дзічка ў полі».

Выток паэзіі Міколы Маляўкі там, у славутых коласаўскіх мясцінах, у роднай Мікалаеўшчыне, да назвы якой ніяк не стасуецца слова «вёска». Гэта хутчэй за ўсё незвычайны гарадок, дзе многа адных і тых жа прозвішчаў, а людзі ведаюць адзін аднаго па мянушках ды пазнаюць у твар. Яшчэ студэнтам я даведаўся і пра мянушку Маляўкі — Рагавы. Па ёй лёгка адшукаць і хату паэта. Яна і сапраўды рагавая, на рагу вуліцы Коласа пры самым Нёмане. Калі б нёманскія хвалі мелі марскую сілу, яны б часта біліся ў вокны паэта, але і са сваёй лагоднай рачной сілай яны заўсёды б'юцца ў сэрцы Міколы Маляўкі.

Тут, у прынёманскіх барах, на даўно знаёмых сцяжынах, разам з грыбамі і ягадамі збірае мой зямляк і свой паэтычны неруш. У лес адпраўляецца толькі адзін. Кампаньён у такім разе недарэчы. Лес, ён і ёсць кампаньён. Для падмацунку бярэ з сабой лусту хлеба са скрылём сала, бо вяртацца дамоў часта даводзіцца толькі вечарам. А чаго спяшацца, калі выпраўляешся ў такія госці?..

Гады бяруць сваё. Тым, хто адправіўся ў дарогу, старая мудрасць раіць не азірацца. Ну а ўсё ж, калі не паслухацца яе, крутануцца ўслед за зямною воссю, то ўбачыш, што пройдзена не так і мала. Ды і колькі здзейснена! Можа, і не ўсё заўважана, дык нічога, прыйдзе час — заўважаць. Можа, і маё сціплае слова будзе нейкай падказкаю і намёкам будучым даследчыкам творчасці Міколы Маляўкі. «Любоў мая высокая, як неба, але і ёй зямныя крылы трэба, каб узляцець і славіць родны край», — зазначыў паэт у адным з вершаў. Нам жа, чытачам, імпануе тое, што ў яго паэзіі арганічна пяднаны і высокае, і зямное. У гэтым, пэўна, і ўвесь сакрэт ягонай творчасці.

**Зінаіда ДРАЗДОВА**

# ЧАЛАВЕК У МАРАЛЬНА-ДУХОЎНЫМ КАНТЭКСЦЕ
*(на матэрыяле сучаснай французскай і беларускай прозы)*

Пры разглядзе праблемы характару чалавека і іншых актуальных літаратуразнаўчых праблем, аналізе агульнага стану сучаснай нацыянальнай літаратуры, яе этычнага і эстэтычнага патэнцыялу востра адчуваецца неабходнасць і важнасць вандровак у іншыя літаратуры, перш за ўсё ў рускую, а таксама ў французскую, якая аказала асабліва вялікі ўплыў на фарміраванне буйной рускай прозы, а праз яе (а часам і непасрэдна) — і на фарміраванне беларускіх рамана і аповесці. Нашы пісьменнікі-класікі і сучасныя літаратары нярэдка выказваліся аб магутнай ролі і значэнні ў іх творчым жыцці мастацкага вопыту Стэндаля, Бальзака, Флабера і іншых класікаў, уладароў думак і пачуццяў цэлых пакаленняў Францыі. Асабліва шмат пісаў аб уплыве на творчае і духоўнае жыццё беларусаў французскіх класікаў Іван Мележ, аўтар вядомай сёння ўсяму свету «Палескай хронікі». Мележазнаўцы не пакінулі без увагі таго, з якой пашанай гаварыў І. Мележ аб Стэндалі, Мапасане, Флаберы, Рамэне Ралане, Анры Барбюсе і многіх іншых, аб французскім народзе ўвогуле. Беларускі класік больш чым хтонебудзь іншы ўсведамляў патрэбу ў працах, прысвечаных беларуска-французскім сувязям: «...сувязі між нашым, беларускім народам і французамі, — адзначаў Мележ, — вывучаны пакуль вельмі мала, гэта карпатлівая і, мне думаецца, вельмі ўдзячная справа яшчэ чакае сваіх даследчыкаў».

Французская літаратура, як вядома, здаўна «задавала тон» у сусветнай культуры, заўсёды трымала лідарства ў эксперыментатарстве і рэвалюцыянізацыі мастацтва. Яна амаль заўсёды з’яўлялася арэнай, на якой адбываліся самыя гарачыя бітвы і сутычкі розных мастацкіх плыней, напрамкаў, метадаў паказу чалавека.

Сучасная французская «вялікая» проза ўяўляе сабой вельмі разнастайную карціну ў тэматычным і стылёва-жанравым плане. Літаратурны пейзаж Францыі вымалёўваецца з самых розных і не падобных адзін на другога аўтараў з іх імкненнем да свежага погляду на жыццё. Беларускаму чытачу, канечне ж, цікава, чым жыве і дыхае французскі сучаснік, якія праблемы яго хвалююць, як ён ставіцца да «вечных праблем» — жыцця і смерці, кахання і нянавісці, шчасця і няшчасця, як успрымае няпростую сённяшнюю рэчаіснасць, ідэю глабалізацыі і замбіравання чалавека, якая адбываецца праз сродкі масавай інфармацыі.

Так, дзявяты нумар часопіса «Иностранная литература» за 2006 год поўнасцю быў прысвечаны літаратуры Францыі. У ім змешчаны фрагменты кнігі гутаркі пісьменніка Ф. Бегбедзера з каталіцкім епіскапам Жанам-Мішэлем дэ Фалько «Я верую — Я таксама не». Нягледзячы на тое, што гэта дыялог людзей з рознымі поглядамі на свет і чалавека, дыялог узаемнага неразумення, дыялог глухіх, ён успрымаецца з цікавасцю. Яго варта прачытаць, паслухаць абодва бакі, «работніка Бога», які выражае пазіцыю каталіцкай царквы і маладога літаратара, які выказвае пазіцыю сучаснай заходняй моладзі. Дыскутуюць яны

аб самых балючах праблемах сучаснасці — аб сэнсе Бога, аб веры, аб каштоўнасцях, аб шчасці, аб свецкім характары грамадства і аб ісламе, аб норавах, аб пісьменніку сёння і г. д. На жаль, у нас на Беларусі такія гутаркі паміж пісьменнікамі і епіскапамі не практыкуюцца. Епіскапы і святары мала цікавяцца справамі мастацтва і літаратуры, асобаю таго ці іншага пісьменніка, між тым як святы праведны Іаан Кранштацкі некалі пільна сачыў за творчасцю сваіх сучаснікаў Льва Талстога, Мікалая Ляскова і іншых, неаднаразова выказваў свае думкі адносна накірунку іх праблематыкі, маральнага значэння іх вобразаў, смела крытыкаваў іх за эстэтычную і этычную недасканаласць. І важкае слова служкі Бога не заставалася непачутым сярод шырокіх колаў чытачоў і літаратараў. Сёння, калі грамадства страціла маральныя арыенціры, царкоўнае слова адносна мастацтва і літаратуры, магло б быць вельмі карысным як для пісьменніка, так і для чытача.

Ф. Бегбедзер і епіскап Ж.-М. Фалько імкнуцца да шчырай і даверлівай інтанацыі, іх размова часам набывае характар споведзі, чаму зусім не перашкаджае рознасць поглядаў, цвёрдасць перакананняў кожнага. Можна глыбей, паўней зразумець ідэйна-мастацкі змест раманаў Бегбедзера «Канікулы ў коме» (1994), «Любоў жыве тры гады» (1997), «99 франкаў» (1999), «Windows on the World» (1993), «Рамантычны эгаіст» (2005), раскрыць этыку і эстэтыку, якія ўвасобіліся ў канкрэтных вобразах, канцэпцыю жыцця французскага пісьменніка.

«Я па-свойму крытыкаваў капіталізм і зусім ад гэтага не адмаўляюся, — зазначае Ф. Бегбедзер. — Думаю, што гэта сістэма спавядае рэлігію грошай, якая замяняе Бога таварам, камфортам, асалодаю і г. д. Гэта ператварэнне ўсяго на свеце ў тавар, прыватызацыя прыроды. Мае кнігі напоўнены татальным нігілізмам, абсалютным адчаем, даволі-такі злоснай (як я думаю) сатырай на сучасны матэрыялізм. І разам з тым нястрымным геданізмам, задавальненнем хвілінай. Падводзячы вынікі, можна сказаць, што мае персанажы шукаюць хутчэй задавальнення, чым шчасця. Але чаму? Таму што яны няздольны знайсці шчасце. Мой песімізм, навеяны постэкзістэнцыялізмам пакалення трыццацігадовых, род пошуку, па-вар’яцку-безнадзейнага — закахаешся, гэта доўжыцца тры гады, пачынаеш усё спачатку з некім іншым і г. д., — словам, быццам бы ты нядрэнна ўладкаваны ў жыцці, а ў той жа час адчуваеш пустату — усё гэта, па-мойму, не чужое метафізічным пошукам».

Ф. Бегбедзер, як некалі Флабер, на якога ён часта спасылаецца, схільны абагаўляць мастацтва: «Вось чаго я шукаю ў літаратуры — адказу на экзістэнцыяльнае пытанне: «Якога чорта мы тут робім?» Адказ я знаходжу ў мастацтве, але гэта толькі слова. «Мастацтва» або «Бог» — хіба гэта ў рэшце рэшт не адно і тое ж? І (працягваю выліваць жоўць) хіба многія не знайшлі для сябе рашэнне ў наркотыках, сексе, начных клубах?.. Хіба не сталі начныя клубы храмамі майго пакалення? Тыя ж абрады, тая ж уніформа, тыя ж цырымоніі... Танцпляцоўка — святая святых, house music — замест песнапенняў, а гарэлка з тонікам нясе «добрую вестку» і замяняе царкоўнае віно, злучаючы прысутных у нейкім дзіўным прычасці? (Даволі, хопіць, я супакоіўся)».

Чалавеку, які фарміраваўся і выхоўваўся на «высокай культуры», на высокіх евангельскіх ісцінах, здаюцца дзікімі бессаромныя думкі французскага пісьменніка адносна шлюбу, сям’і, кахання, нораваў. Ф. Бегбедзер, як, дарэчы, і яго калега і аднадумца М. Уэльбэк занадта шмат увагі ўдзяляе цялеснасці, паставіўшы перад сабою мэту пазнаёміць чалавека з яго целам, з новымі плоцевымі адчуваннямі, навучыць сексу, «кама-сутры», прадставіць у творах гінекалогію і сексапаталогію «буйным планам». «Усе целы ўзаемазамяняльныя!» — сцвярджае ён. «Трэба аддзяляць секс ад кахання, — гаворыць Бегбедзер. — Гэты тып паводзін быў заўсёды: пошукі чыстага, калі можна так выказацца, сексуальнага задавальнення. Але ў справу ўмешвалася Царква, грамадства накладвала свае забароны і распуснікаў, абвінавачаных у групавых д’ябальскіх штучках, білі камнямі. Маральнае

табу адышло ў мінулае. Трэба дазволіць людзям перажываць сваю сексуальнасць, як ім заўгодна, толькі не трэба, канечне, рабіць за абавязак абмен партнёрамі! А да гэтага ідзе. У некаторых колах, калі ты гэтым не займаешся, цябе лічаць безнадзейна адсталым. Я пакідаю за іншымі свабоду рабіць па сваім жаданні і, бадай, знаходжу здаровым тое, што ў 70-я гады, у эпоху сексуальнага вызвалення, Катрын Мілле вырашыла паставіць такога роду эксперымент і цяпер расказала аб гэтым у кнізе, якая выклікала захапленне мас.

У мяне ёсць тэорыя наконт абмену партнёрамі: людзям надакучыла вернасць, і, каб пазбавіцца ад яе пут, яны ўсё часцей аддаюцца адзюльтэру. Я табе ўжо выказваў сваю думку аб ненатуральным патрабаванні вернасці. Ідэя, быццам бы трэба як бы там ні было пражыць усё жыццё з адным і тым жа чалавекам, устарэла». Француз Бегбедзер гаворыць аб тым, што можна наталіць прагу целам, працягваючы ўсё ж любіць чалавека, і шукаць сустрэч з некім на баку. Ён гаворыць аб чалавеку як аб прадукце харчавання, як аб прадмеце насалоды. «Можна ж уявіць сабе спажыванне двух прадуктаў разам. Йогурт і крэм-бруле, разам або па чарзе. Разумею: так гаварыць жахліва, аднак гэта рэальнае становішча рэчаў. У нашы дні каханне становіцца ўсё больш мімалётным, пары лёгка развітваюцца, і, я ўпэўнены, жаданне — той жа прадукт, які хутка псуецца: з часам яно слабее».

А паколькі цела жанчыны непазбежна старэе, то непазбежна наступае разрыў адносін, канец кахання, драма кахання. Дарэчы, ніхто з пісьменнікаў беларусаў не скіроўваў увагі на такой жаночай праблеме як «шок саракагоддзя». Чаму? Можа, яе наогул не існуе? Або беларусы ўсё ж нацыя, якая больш цэніць духоўнасць жанчыны? Праблема ёсць, але вастрыня яе занадта перабольшана. Бо калі мы прыгадаем, напрыклад, самае першае, што прыйдзе на памяць з рускай літаратуры, старэючую шолахаўскую Аксінню, якая з трывогай глядзіць на згасанне сваёй прыгажосці, то заўважым, што гераіня, канечне ж, смуткуе з гэтай нагоды, але не настолькі, каб камплексаваць. Аднак другая гераіня «Ціхага Дона», Дар'я, хворая на сіфіліс, цалкам сканцэнтраваная на атрыманні цялесных асалод з самымі рознымі партнёрамі, выбірае смерць, а не працяг жыцця і пазбаўленне фізічнага хараства, якое азначала б смерць яе як сексуальнай жанчыны.

Літаратары Францыі (зразумела ж, не ўсе) зрабілі гэта «жаночае пытанне» ледзь не адным з важнейшых. У рамане Мішэля Уэльбека «Магчымасць вострава» так сказана пра «шок саракагоддзя» каханай героя-апавядальніка Ізабэлі: «Ён (шок) у яе не выяўляўся ў нейкіх пэўных формах: яна ніколі не скардзілася, быццам бы ні аб чым не трывожылася; гэта было нешта няўлоўнае і ў той жа час душараздзіраючае. Часамі — асабліва ў Іспаніі, калі мы збіраліся ісці на пляж і яна нацягвала купальнік, — я адчуваў, што, калі мой погляд спыняўся на ёй, яна крыху асядае, як быццам яе ўдарылі пад лыжачку. На імгненне грымаса болю скажала цудоўныя рысы яе тонкага выразнага твару — яго прыгажосць была нібыта непадуладная часу; але на целе, нягледзячы на плаванне, нягледзячы на класічны танец, з'явіліся першыя прыкметы старасці, што набліжалася, прызнакі, якія (каму ведаць, як не ёй) хутка пачнуць імкліва множыцца, аж да канчатковай дэградацыі. Я не мог зразумець, што адлюстроўваецца на маім твары, што прымушала яе так пакутаваць; я многае аддаў бы за тое, каб яна нічога не заўважала, таму што, паўтараю, я любіў яе; але гэта яўна было немагчыма. Як немагчыма было даводзіць ёй, што яна па-ранейшаму жаданая, па-ранейшаму прыгожая; я ніколі не мог ёй маніць, нават у дробязях. Я ведаў, як яна потым глядзела на мяне: гэта быў пакорлівы, сумны позірк хворай жывёлы, якая адыходзіць на некалькі крокаў ад статку, кладзе галаву на лапы і ціха ўздыхае, таму што адчувае прыкметы блізкай смерці і разумее, што не дачакаецца жалю ад суродзічаў».

У сучаснай французскай прозе моцна гучыць матыў аб няўменні сучаснага чалавека любіць, аб яго нявдольнасці на трывалыя, доўгачасовыя адносіны. У паняцце «каханне» французскія аўтары ўкладваюць каханне-страсць, фізічную

цягу аднаго полу да другога. Іх героі нямала разважаюць аб лёсе фізічнага кахання.

Ведучы гаворку аб цялеснасці ў французскай літаратуры, варта ўсё ж згадзіцца з думкай дырэктара выдавецтва «Тэкст» Альгерда Лібкіна аб рознасці ўспрыняцця аднаго і таго ж твора ў Францыі і Расіі. Лібкін справядліва заўважае, што некаторыя творы з добрым сюжэтам, цудоўным стылем, дакладнай мовай, творы, якія з'яўляюцца ледзь не класікай у Францыі, пакідаюць абыякавым рускага чытача. «Праўда, трэба ўлічваць і той факт, — адзначае ён, — што адукаваныя, інтэлігентныя французы, як правіла, людзі куды больш забяспечаныя, чым іх расійскія, скажам так, калегі, адсюль, можа быць, несупадзенне інтарэсаў».

Нягледзячы на меркаванні, што «людзям надакучыла вернасць», што «патрабаванне вернасці вядзе да фрустрацыі — непатрэбнай пакуты» (Ф. Бегбедзер), вернасць не надакучыла ні французскім аўтарам, ні іх героям. Той жа Бегбедзер на пытанне, ці згадзіўся б ён «убачыць любімую жанчыну ў абдымках другога», адказвае, што «не хоча сутыкнуцца з такім фактарам», што ён «раўнівец і ўласнік».

Роздум над сучаснай беларускай і французскай літаратурай, аб адметным і агульным у падыходах да паказу чалавека і вызначэнні катэгорыі духоўнасці прымушае канстатаваць, што французская літаратура ў параўнанні з беларускай пайшла значна далей у паказе цялеснасці чалавека, у адмаўленні ад гуманістычных прынцыпаў, у сцвярджэнні «амаральнай маралі», чым беларуская. Канечне ж, нельга уніфікаваць усю разнародную, шматстайную карціну літаратуры Францыі, аднак варта лічыцца з тым, што пісьменнікі, аўтары парнаграфічных твораў накшталт Уэльбека і Бегбедзера «задаюць тон» не толькі ў сябе на Радзіме, але і за мяжой, прызнаюцца амаль класікамі.

Трэба адзначыць, што такая рыса чалавечага характару як вернасць была закладзена ў сэрцы самім Творцам. У размове аб сям'і і прычынах разводу, аб тым, чаму Маісей дазволіў разыходзіцца мужу з жонкаю, Ісус Хрыстос гаворыць, што на падобнае ён пайшоў з-за жорсткасці сэрцаў людскіх, «а спачатку не было так». Калі б патрабаванне вернасці перавышала чалавечыя магчымасці, то вялікі Сэрцазнаўца не патрабаваў бы немагчымага. Адзінай прычынай для разводу ён назваў віну пралюбадзейства, сямейную здраду.

Сусветная літаратура стварыла вялікую галерэю раўніўцаў, якія не маглі змірыцца з мінулым сваіх любімых, дараваць ім дашлюбныя сувязі ці сямейную здраду. Дастаткова назваць такія нашумелыя ў пачатку ХХ стагоддзя п'есу Б'ернстэрне Б'ернсона «Пальчатка» і аповесць аўстрыйскага пісьменніка «Адна з многіх», якія разглядае ў сваіх працах на тэму полу прафесар, протаіерэй В. Зяньkоўскі. У апошнім гаворыцца пра тое, як згубна ўдарыла па сэрцы і душы нявесты споведзь яе жаніха аб дашлюбных сувязях. На гэтае прызнанне ён пайшоў для таго, каб назаўсёды развітацца з брудам мінулага. Аднак чыстая і нявінная дзяўчына не змагла перанесці такую праўду і скончыла жыццё самагубствам, як «адна з многіх».

Без перабольшання творы сучасных французскіх і беларускіх пісьменнікаў напоўнены смуткам па вернасці. Нярэдка паказваецца, які глыбокі крызіс ва ўспрыняцці жыцця наступае ў юных людзей, калі яны даведваюцца пра мінулыя сувязі сваіх каханых. Шчасце першага кахання шаснаццацігадовага героя з аповесці французскага пісьменніка Ніколя Рэ «І гэта толькі пачатак» не проста азмрочана. Мінулае ягонай каханкі Мацільды па сутнасці пастаянна цэліцца, страляе ў яго. Яна ў яго першая, ён у яе — не. У гэтым — уся трагедыя героя. Ён не можа дараваць каханай яе «гісторыю»:

«Паскаль. Я сяджу на тым самым месцы, якое Паскаль пазначыў дзіркай ад акурка, я цалую тое ж, што і Паскаль, мне ўсяго шаснаццаць, а мне ўжо дастаюцца адны аб'едкі».

Ці не ў кожнага з герояў французскіх раманаў свая любоўная гісторыя, а часам нават не адна, а некалькі, што папярэднічаюць расказанай у творы. Дый на гэтай, апошняй, хутчэй за ўсё не заканчваецца інтымнае жыццё таго ці іншага персанажа, які спазнаў смак цялеснасці. Аднак паглыбленне ў цялеснасць часта размывае характар. Думаецца, у сучаснай прозе дарэмна так шмат увагі ўдзяляецца сексуальнасці. Гэта паступова надакучае чытачу, набівае аскоміну.

Ва ўсім павінна быць мера. Англійскі пісьменнік Джон Фаулз, разважаючы пра свой новы раман, у якім малюе віктарыянскую эпоху, піша: «Віктарыянскія пісьменнікі цудоўныя, і ўсё ж амаль усе яны (за выключэннем больш позняга Хардзі) пацярпелі ганебнае паражэнне ў адным і тым жа: нідзе ў «рэспектабельнай» віктарыянскай літаратуры не ўбачыш мужчыну і жанчыну ў ложку (а большасць парнаграфічных раманаў таго часу заснавана на апісаннях бардэля і галантных сцэн XVIII стагоддзя). Мы не ведаем, як яны займаліся каханнем, што гаварылі адно аднаму ў самыя інтымныя хвіліны і што тады адчувалі.

І вось сёння я пішу пра дваіх людзей віктарыянскай эпохі, якія займаюцца каханнем; пішу, кіруючыся толькі ўласным уяўленнем і туманнымі ўяўленнямі пра дух стагоддзя і таму падобнае: атрымліваецца, фактычна, навуковая фантастыка. Падарожжа ў часе ёсць падарожжа ў часе, няважна — уперад або назад».

Наўрад ці страчана нешта ў творах А. Пушкіна, М. Гогаля, Ф. Дастаеўскага, М. Ляскова, Я. Коласа, І. Мележа, І. Шамякіна, І. Навуменкі, сучаснага пісьменніка Алеся Наварыча ад таго, што ў іх не паказаны жанчына і мужчына ў ложку. Яны не адмаўляліся гаварыць, кажучы словамі У. Маякоўскага «про это», не давалі зарок цнатлівасці ў творчасці, але ў іх высокі ўнутраны кантроль, які не дазваляў кідацца ў распусту, смакаваць грахоўныя сцэны, паказваць карціны «выпадковых сувязей».

Такога ўнутранага кантролю, відавочна, не хапае Адаму Глобусу, аўтару кнігі прозы «Літары», аповесці «Беларускі» з падзагалоўкам «Аповесць пра каханні», якія вылучаюцца з многіх сучасных кніг сваёй амаральнасцю, непрыстойнасцю. А. Глобус паставіў перад сабою мэту ўразіць публіку неўтаймаванасцю сексуальных фантазій, усур'ёз пазнаёміць чытача з агідным воблікам блуднага дэмана. Відаць, менавіта такую «адметнасць» празаіка мела на ўвазе газета «Аргументы и факты», калі пісала аб ім: «Ёсць беларускія пісьменнікі, а ёсць Адам Глобус. Ён — скандальны літаратар і паспяховы выдавец. У Расіі па ягоных літаратурных праектах здымаюць серыялы. Глобус штогод прэміруе маладых літаратараў. Яго шмат хто не любіць, але ягонай асобай цікавяцца ўсе».

Парнаграфічныя апавяданні А. Глобуса сведчыць пра тое, што пісьменнік цалкам згубіў маральны крытэрый. В. Вэбер справядліва заўважыў пра такія кнігі, што пасля чытання іх застаецца ўражанне, быццам вас зганьбілі. Падобнае ўражанне пакідае і твор «Споведзь самагубцы» Ігара Сідарука.

Праўда на баку І. Шумскай, калі яна піша: «Найноўшая беларуская літаратура ствараецца ўжо не столькі дзеля чалавека, колькі супраць яго, акумулюючы сярод значнай часткі творчай інтэлігенцыі дэгуманістычныя ідэі і мізантрапічны настрой».

Французы ў плане парнаграфіі ідуць «уперадзе планеты ўсёй». Паглыбленне ў цялеснасць натуральнае і апраўданае, хіба толькі ў рамане Ніколя Рэ «І гэта толькі пачатак», у якім падлеткі хочуць хутчэй уступіць у свет дарослых, спазнаць нязведанае. Твор гэты звернуты і да сямейнага чалавека, а таксама таго, хто не хоча ўступаць у шлюб. Раман адлюстроўвае традыцыйныя тэндэнцыі ў літаратуры: у ім ёсць характары, сюжэт, дзеянне, даследаванне часу і чалавека. Дакладней, паказвае вяртанне да ўсяго названага. Твор адрозніваецца паблажліва-іранічным, крытычным і разам з тым спачувальным стаўленнем да чалавека, хоць у гэтым сэнсе назіраюцца і песімістычна-ўпадніцкія ноткі.

І гэта толькі пачатак рамана напісаны ад першай асобы. У цэнтры яго падлетак Анры, яго старэйшы брат Мартэн, бацькі, а таксама яго першае каханне —

настаўніца французскай мовы Мацільда. Сям'я ў катастрафічным стане. Маці пакідае яе, мужа дзеля любоўніка. Анры ў курсе таго, што адбываецца, бо нярэдка становіцца сведкам іх сутыкненняў, спрэчак, «канцэртаў» за сцяной.

Ён застаецца з прыніжаным бацькам, зубным урачом, чалавекам маленькім, непрыкметным і нудным, які меў «у жыцці дзве вялікія страсці: жонку і цацачную чыгунку». Старэйшы брат Мартэн развітваецца са сваёй чарговай сяброўкай, з якою нейкі час жыў разам, і вяртаецца ў бацькоўскі дом. Нягледзячы на яшчэ малады ўзрост, Мартэн, «гэты арыгінал, які топча нагамі дзявочыя летуценні», мае ўжо даволі вялікі вопыт адносін з жанчынамі, які не хавае ад малодшага брата. Вачыма падлетка, які к сваім шаснаццаці гадам ужо пабачыў падыспад сямейнага жыцця, яго змрочныя бакі, і паказаны людзі і падзеі ў творы.

Французская літаратура, пачынаючы з сярэдзіны ХХ стагоддзя, акцэнтавала ўвагу на тым, як непазнавальна змянілася жанчына ў буржуазным свеце, ператварыўшыся з берагіні сямейнага ачага ў жанчыну-разбуральніцу. Не бацька, а маці ў рамане рушыць сям'ю. Яна не толькі пазбаўлена любові, але і звычайнага чалавечага такту, а часам проста ўпіваецца злом. Пакідаючы мужа, які не задавальняе яе ў ложку, яна гаворыць яму ўзнёслыя словы аб палюбоўніку, гаворыць гэта «*з асаблівай асалодай, як драпежнік, які ўжо пачуў пах крыві і ўчапіўся ў здабычу мёртвай хваткай*». Штучнасць, фальшывасць, адсутнасць цеплыні адчуваецца і ў яе адносінах да дзяцей. Антыпатычнай паўстае яна ў сцэне, калі наведвае смяротна хворага бацьку пасля аперацыі.

Салодкае і горкае перамешваецца ў гэтым жыцці, але на шляху Анры пакуль занадта многа горкага. Яго жыццё горкае не толькі ад страшнага, што адбываецца з бацькам. Ён пакутуе і ад ведання, што яго каханая зблізілася раней з іншым мужчынам. Цень гэтай сувязі не дае спакою юнаку, атручвае яго свядомасць. Ён не церпіць найменшай згадкі аб былым сваёй каханкі, у той час, як у кватэры Паскаль усміхаецца «з кожнай фоткі, з кожнай кнігі», якую яна дае яму прачытаць, паўсюль можна знайсці яго лісты. Паўсюль сляды перажытай страсці, дзесяці гадоў кахання...

Страціўшы фізічную чысціню, чысціню душы, дакрануўшыся да таямніцы цялеснага адзінства, Анры ператвараецца ў раўнівага мужа, які бясконца разварушвае былое сваёй каханай, вярэдзіць яе раны. Аднак не гэта прычыны разрыву адносін з ім Мацільды. Проста дзяўчына, як і большасць у наш час, імкнецца «вырвацца за межы вернасці,.. вынайсці спосабы любіць інакш, не ахвяруючы сваім жаданнем», як сказаў аб падобнай з'яве сучаснасці французскі пісьменнік Ф. Бегбедзер.

І беларускія, і французскія пісьменнікі імкнуцца сёння стварыць партрэт «героя нашага часу» розных узростаў, рознага полу. Малады чалавек сучаснай французскай прозы, бясспрэчна ж, непараўнальна больш разбэшчаны ў інтымных адносінах з супрацьлеглым полам, чым юны герой сучаснай беларускай прозы. «Я адмовіўся ад кахання», — прызнаецца герой рамана Бегбедзера «Windows on the World». — Я зрабіў выбар і аддаў перавагу задавальненню, а не шчасцю. Сямейныя пары наводзілі на мяне тугу. Я лічыў усіх жанатых мужчын кастрыраванымі палоннымі. Я думаў: ты не мужчына, калі не завальваеш кожны дзень новую жанчыну». Дзіўнае ўяўленне пра сапраўднага мужчыну, калі на першы план яго станоўчасці ставіцца як мага больш вялікі спіс палюбоўніц! Нават там, дзе чытач ужо гатовы паверыць у сур'ёзнае пачуццё паміж мужчынам і жанчынай, зноў жа заўважаецца, што і тут галоўнае — шуканне асалод, фізічнага задавальнення. Навошта двум закаханым трэці?

Між тым у рамане Мішэля Уэльбека «Платформа» такім «закаханым» патрэбен для фізічнай блізкасці трэці, каб насалода была большай. Гэта тым больш дзіўна, што ініцыятарам «сексу ўтраіх» з'яўляецца менавіта сама любімая жанчына, якая запрашае для гэтага іншую жанчыну. Вар'яцтва сучаснага свету ў французскай літаратуры, канечне ж, адбілася ў найбольшай ступені,

чым у беларускай, дзе прыхільнікі жывёльнага ладу жыцця выказваюцца ўсё ж больш стрымана і сарамліва. Можа, гэта ідзе ад цнатлівасці продкаў беларусаў, якія стараліся трымацца хрысціянскай маралі. Аднак жа не будзем абагульняць, бо гэта, відаць, не столькі залежыць ад нацыянальных асаблівасцей, колькі ад канкрэтнай асобы пісьменніка. І Францыя нараджала пісьменнікаў, высокая духоўнасць якіх здзіўляе і сёння. У якасці прыкладу можна назваць Антуана дэ Сент-Экзюперы, які сваёй творчасцю прапаведаваў хрысціянскія каштоўнасці. Ён, можа, як ніхто з французскіх пісьменнікаў так высока ўзняўся ў разуменні сэнсу сапраўднай любові. У яго творчасці знайшла шырокі адбітак узвышаная хрысціянская этыка любові. Нездарма ж некаторыя праваслаўныя падзвіжнікі прызнаваліся, што да Бога іх прывёў Экзюперы. Некаторыя сённяшнія французскія пісьменнікі апісваюць моцныя сямейныя сувязі, якія ўсё ж аднойчы трэскаюцца, пад магутным напорам абставін. Цнатлівасць, чысціня, можа, найбольш патрэбны ў сямейным жыцці, дзе мужа і жонку падсцерагаюць шматлікія спакусы.

У рамане Жана-Філіпа Арру-Віньё «Урок непаслушэнства» галоўны герой Філіп Бажэ, школьны настаўнік, які пражыў у згодзе і вернасці з жонкай пятнаццаць гадоў, бацька дзвюх дзяўчынак, у час школьнай экскурсіі ў Венецыю, нечакана нават для самога сябе здраджвае любімай жонцы з калегай — маладой, як ён лічыць, незалежнай адзінокай настаўніцай, якая заўсёды свабодна распараджаецца сабой і сваім часам. Мары-Поль, так завуць настаўніцу, жорсткая багіня любові і сладастраснасці, багіня Ачум, як яна сама сябе называе, здзівіла яго навізной і вопытнасцю ў любоўных гульнях, разбудзіла ў ім нечуваную любоў-страсць. Нялёгка даецца яму здрада. Грэх цягне да сябе, і ён гатовы перакрэсліць шчаслівае сямейнае жыццё, пятнаццацігадовую незаплямленую ўзаемную вернасць, пакінуць жонку: «Ён адчуваў на сабе гнёт выхавання, які сфарміраваў некалькі пакаленняў чапурыстых маралістаў, што і падумаць не маглі аб сямейнай нявернасці, якім было невядома само слова «жаданне». Здрадзіць Катрын азначала здрадзіць паважнасці і сур'ёзнасці продкаў, якія ўваходзяць каранямі ў незапамятныя часы. Магчыма, у Бажэ адсутнічаў ген пралюбадзейства, які мог бы ўсё значна спрасціць».

Герой хоча апраўдаць сябе, сваё хаценне і ў выніку апускаецца да асуджэння продкаў, што нібыта вінаваты ў адсутнасці ў ім «гена пралюбадзейства», які б усё спрасціў, пазбавіў бы ад пакут. Звернем увагу на тое, што парушэнне Божай запаведзі «не блудзі» і іншых запаведзей, чым бы не апраўдваў сябе чалавек, цягне за сабой дакор сумлення, унутраную трывогу. «Сумленне, — піша сучасны старац Паісій Святагорац, — самае першае Свяшчэннае Пісанне, дадзенае Богам першым людзям. Мы «здымаем» сумленне з нашых бацькоў як фотакопію. Як бы чалавек не таптаў сваё сумленне — яно ўсё роўна будзе выкрываць яго знутры. Бо няма нічога саладзейшага, чым мірнае спакойнае сумленне. Такі чалавек адчувае сябе ўнутрана акрыленым, і тады ён ляціць». Таму і не лётае ніхто з герояў сучаснай французскай і беларускай прозы, што сумленне іх неспакойнае.

Увогуле ў сённяшняй мастацкай літаратуры адбываецца асмяянне і абвяржэнне хрысціянскіх запаведзей, хрысціянскай этыкі. У ёй радыкальна асэнсоўваюцца такія традыцыйныя хрысціянскія каштоўнасці, як шчасце, свабода, справядлівасць, любоў, сяброўства, сям'я. У рамане сучаснага класіка Брукнера Паскаля «Любоў да бліжняга», які ў 2006 годзе выйшаў у Маскве ў перакладзе на рускую мову, малады трыццацігадовы чалавек (мае прыгожую жонку і разумных дзяцей, любімую працу) даходзіць да таго, што пачынае разумець біблейскае паняцце «любоў да бліжняга» вельмі своеасабліва, становячыся фактычна на шлях распусты.

Брукнер Паскаль вядомы рускаму і беларускаму чытачу і як аўтар эсэістычнай кнігі «Вечная эйфарыя», у якой досыць глыбока раскрывае падмену ў сучасным

заходнееўрапейскім грамадстве паняццяў шчасця, свабоды, здароўя, сексу, пакут і г. д., выказвае свае погляды на гэтыя рэчы, адмяжоўваючыся ад хрысціянскага разумення, адначасова ў нечым згаджаючыся з ім.

Сучасныя французскія пісьменнікі салідарныя ў ацэнцы жыцця са сваімі папярэднікамі-класікамі. Гэта ж тычыцца і гераінь: «Я пастаянна рабіла нешта не тое. Я, як мадам Бавары, усё жыццё расчароўвалася, чакала чагосьці нязбытнага, уяўляла там усялякае…» — так адзначае Аліса з рамана «Teen spirit» В. Дэпант сваю роднасць са славутай гераіняй Г. Флабера.

Аднак вобраз жанчыны ў беларускай і французскай прозе ўсё ж прыкметна адрозніваецца. Хоць прадстаўнікі і той і другой літаратур салідарна культывуюць тып жанчыны-спакушальніцы, палюбоўніцы, беларусы ўсё ж малююць больш цёплую і сардэчную, самаахвярную жанчыну, чым іх калегі, надаюць увагу маральнаму вобліку. Аднак і французы ўжо схільны бачыць у ёй яшчэ і панацэю ад многіх бед, лічыць яе своеасаблівым антыдэпрэсантам. «Будзь побач са мной жанчына, якая магла б мяне падтрымаць і супакоіць, я б, глядзіш, зрабіўся іншым чалавекам», — прызнаецца герой рамана Віржыні Дэпант «Teen spirit». І ў гэтым не зусім сентыментальным і не цёплым для чалавека часе, жанчына, як паказваюць французскія аўтары, з'яўляецца той сілай, якая здольна ўнесці ў жыццё прыгажосць і шчырасць, утульнасць і любоў. Гераіня рамана Мішэля Уэльбека «Платформа» Мары Жана, якая разам з галоўным героем твора «ўкалвае дзеля дабрабыту сучаснай культуры», не толькі добрая працаўніца, але і вельмі сардэчная, чалавечная: «яна гаварыла патрэбныя ў такіх выпадках словы, запас якіх невялікі, але гэта і не важна: я адчуваў у іх шчырую цеплыню, *што было дзіўна, але прыемна.* Да чаго ж усё-ткі жанчыны шчадралюбныя, думаў я, сядаючы ў цягнік на Шэрбур, яны нават на службе імкнуцца наладзіць сардэчныя адносіны, ім цяжка існаваць у свеце, пазбаўленым эмоцый, яны ў ім чэзнуць. У гэтым іх слабасць і прычыны многіх непрыемнасцей, недарэмна псіхалагічныя старонкі «Мары-Клэр» пастаянна сцвярджаюць адно і тое ж: неабходна выразна размяжоўваць работу і эмоцыі, толькі жанчынам гэта дрэнна ўдаецца, аб чым не з меншай пастаяннасцю сцвярджаюць дакументальныя старонкі таго ж часопіса».

Яшчэ ў савецкі час літаратуразнаўцы звярнулі ўвагу на своеасаблівасці сямейнага свету, атмасферы паміж дзецьмі і бацькамі ў творчасці заходніх пісьменнікаў. Прыжыўся нават тэрмін аб сем'ях, у якіх пануе халоднасць і недахоп любові адно да аднаго пры знешняй ветлівасці і павазе — «адносіны паводле Захада». Пры гэтым падразумявалася, што адносіны ў савецкай сям'і павінны быць больш цяплейшымі, больш сардэчнымі. У цэлым думка мне здаецца правільнай, хоць заўсёды ёсць пэўныя нюансы, якія могуць яе значна карэкціраваць. Можна назваць нямала твораў у беларускіх пісьменнікаў, дзе асуджаецца чэрствасць дзяцей да бацькоў, абыякавасць да сямейных традыцый. Аднак у колькасным плане перавага, відаць, будзе на баку французскай літаратуры. Там больш моцна, больш пераканальна малюецца сухі і бязрадасны сямейны клімат. Беларускі чытач ніколі не зможа спакойна чытаць, напрыклад, творы «Ліст да маёй маці» Жоржа Семянона або «Чужы» Альбера Камю, героі якіх поўнасцю пазбаўлены натуральнай, уласцівай чалавеку прывязанасці да маці і бацькі, да ўласных дзяцей. Адчужэнне, абыякавасць, а то і непрыязнасць і нават варожасць бацькоў да дзяцей і дзяцей да бацькоў — характэрныя для сучасных маладых і не вельмі маладых людзей, пастаўленых у цэнтры ўвагі французскіх раманістаў.

Беларуская проза апошніх двух дзесяцігоддзяў таксама канстатуе факт, што грамадства і яго індывідуумы амаль невылечна хворыя. Яна паступова падводзіла да думкі, што грамадства пайшло не тым шляхам, забыўшы Бога. Задавальняючы ў той ці іншай ступені цялесныя, плоцевыя патрэбы, яно забывала пра яго душу і дух. Пра гэта нагадваюць апошнія творы І. Шамякіна, В. Коўтун, М. Воранава, А. Казлова, А. Бароўскага і іншых. Чалавек атэістыч-

нага грамадства, які не мог наталіць голад душы і духу, калі дух гэты не быў заглушаны і забіты, не ачуваў сябе поўным. Ён шукаў паўнаты, але не мог яе знайсці ў тым, у чым шукаў. Задумваўся, аналізаваў жыццё, але заходзіў у тупік, адчуваючы сябе мерцвяком. Такі герой аповесці «Гісторыя хваробы» А. Федарэнкі з яго аднайменнай першай кніжкі, «нацыяналіст», зафанацелы «адраджэнец», студэнт інстытута Валодзя Вяргейчык. Падобны да яго і герой апавядання У. Сцяпана «Шэры матылёк», знешне вельмі рэспектабельны і перспектыўны герой-інтэлігент, які пакутуе ад непачутасці іншымі людзьмі, немагчымасці дагрукацца да сэрцаў сабе падобных, паспавядацца. Ён сам усведамляе, што не мае ў жыцці «нечага галоўнага». Што яно, гэта галоўнае? Герой не ведае. І аўтар, паставіўшы дыягназ хваробы свайго персанажа, нічога не прапаноўвае чытачу. Нібы гаворыць: так ёсць, але аб прычынах гэтай з'явы думайце самі.

Аднак у беларускай прозе матыў расчараванасці ў жыцці, бязрадаснасці існавання непараўнальна больш прыглушаны, чым у французскай, бо наша літаратура апошніх дзесяцігоддзяў пачала ўсё часцей нагадваць чытачу аб нябесным паходжанні чалавека. Сярод такіх твораў можна назваць раман «Пакліканыя» В. Коўтун, аповесць «Яніна» М. Воранава, аповесць «Горад у нябёсах» (учора, сёння, заўтра)» А. Казлова і некаторыя іншыя.

У аповесці «Горад у нябёсах» А. Казлоў арыгінальна расказвае аб непарыўнай сувязі пакаленняў, закранае праблему духоўнай радаслоўнай чалавека, заклікае мець «магутную, не збачэнскую генетычную памяць», «жыць у цеснай сувязі з краінай Продкаў». На мове хрысціянскай гэту праблему можна сфармуляваць як праблему адзінства, саюза, адносін і зносін паміж зямным і замагільным светам, зносін жывых з духамі і душамі нябачнага свету. Прападобны опцінскі старац Варсанофій аўтарытэтна гаварыў, што «святыя пільна сочаць за сваімі нашчадкамі», хадайнічаюць перад Богам за іх.

Трыццаціпяцігадовы Антак уважліва прыслухоўваецца да голасу ўласнага сумлення. Ён надзелены выключнай здольнасцю бачыць тое, чаго не бачыць ніхто з яго знаёмых — «горад у нябёсах», што прымушае яго сумнявацца ў сваім духоўным здароўі, дапускаць, што ён «вар'ят з адпаведнай установы», па якіх «плача «жоўты» дом». Антак нават размаўляе з жыхаркай «горада ў нябёсах», якая тлумачыць яму прызначэнне горада, дапамагае яму ў складаных жыццёвых сітуацыях. Ён са здзіўленнем даведваецца, што «горад у нябёсах» бачыць і адна з яго прыяцелек, якая адкрывае яму таямніцу краіны Продкаў, расказвае пра зацікаўленасць і жывы ўдзел у яго зямным жыцці памерлай бабулі, якая і «адтуль» дапамагае яму: «Цябе, Антак, моцна любіць твая родзічка. Яе далоні над табою, ейны дух дабрыні ды сардэчнасці, апякунства з табою. Любоў бабулі непамерна большая за любоў мацярок».

Аўтар «Горада ў нябёсах» сцвярджае думку аб любові, якая з'яўляецца звязваючым ланцугом паміж бацькамі і дзецьмі, унукамі і праўнукамі. І са сваімі героямі смуткуе з нагоды ачарсцвення чалавечых сэрцаў,неверагоднага звужэння іх, калі ў іх не месціцца нават любоў да самых родных — бацькоў, дзяцей. «Мы як бязродныя, бо бязродным — прасцей жыць, няма абавязкаў. Я, ён, яны (мы — агулам): нікому нічога не абавязаны... што гаварыць пра продкаў: мы забылі нашых бацькоў».

Філасофія аповесці А. Казлова — поўная супрацьлегласць філасофіі экзістэнцыялізму, якая сцвярджае абсурднасць чалавечага існавання. У сённяшніх французскіх пісьменнікаў атэістычная экзістэнцыялісцкая тэорыя — у пашане. Фрэдэрык Бегбедзер кідае заклік, вельмі падобны на той, што кідаў Альбер Камю, прапаноўваючы адмовіцца ад усялякай маралі, зліцца з прыродай і жыць натуральна, ігнаруючы абавязкі, разрываючы зносіны і саюзы з іншымі людзьмі. «Можа, нам варта менш маралізаваць і лягчэй мірыцца з жывёльным пачаткам у сабе», — прапаноўвае Бегбедзер.

Паводле хрысціянства, чалавек высокай маральнасці і духоўнасці мае нашмат больш абавязкаў перад людзьмі, чым чалавек амаральны, які хоча скінуць з сябе самую малую чужую ношу або нават ускласці на чужыя плечы і ўласную. Жыццё першага носіць на сабе прыкметы саюза і зносін з замагільным светам, а жыццё апошняга — парушэнне або нават разрыў гэтага саюза. Дасягнуўшыя духоўнай дасканаласці памерлыя хадайнічаюць за нас, сваіх нашчадкаў. А жывыя ў сваю чаргу хадайнічаюць перад Богам у малітвах за недасканалых памерлых, якія знаходзяцца ў пекле.

«Сучаснае ёсць вернае выражэнне саюза зносін жывых з памерлымі. Прыгледзьцеся да жыцця асобных людзей, сем'яў, грамадстваў, народаў — і вы будзеце ведаць пэўна іх саюз і зносіны з замагільным светам, убачыце, існуе саюз і зносіны або не, і нават вызначыце ступень іх», — пісаў манах Мітрафан у кнізе «Як жывуць нашы памерлыя і як будзем жыць і мы пасля смерці».

Як разглядваць аповесць А. Казлова? Для атэіста — гэта твор містычны. Для хрысціяніна, які ведае пра адзінства Царквы зямной і нябеснай, — рэалістычны. Закон адзінства чалавечага роду гаворыць аб тым, што жывыя сваімі малітвамі і добрымі справамі за памерлых, якія залічваюцца Богам як бы іх (памерлых) асабістыя ўчынкі, могуць мяняць замагільнае становішча сваіх продкаў у лепшы бок. А памерлыя ў дні цяжкіх выпрабаванняў нашчадкаў дапамагаюць іх уратаванню. Узаемныя клопаты і хадайніцтва жывых і памерлых — норма хрысціянскага жыцця.

Цікава, што ісціна адкрываецца Антаку ў дзень смерці любімай бабулі, якая сумленна пражыла сваё жыццё, дбаючы не пра сябе, а пра іншых. І заўсёды бачыла над сабою «горад у нябёсах». Бачыць «горад у нябёсах» — доля людзей з чыстым сумленнем, пазбаўленых бяскрылага эгаізму, — сцвярджае А. Казлоў.

Ягоны герой усведамляе, што забываць свае карані, сваіх продкаў, сваю гісторыю ўласціва людзям духоўна недалёкім, нездаровым, са смуткам канстатуючы, што такіх — пераважная большасць: «Вой, Божа ўсемагутны, магчыма, і горад у нябёсах узнік таму, што мы, занядбаўшы сваю гісторыю, выціснулі са сваіх душ Дух вялікасці і няскоранасці, прагналі з сэрцаў Памяць пра Продкаў, і Яны, нашы Продкі, дзеля таго, каб не пакінуць нас безабароннымі ў гэтым жорсткім свеце, стварылі, заснавалі горад у нябёсах, горад над намі. І ўсё дзеля аднаго — засцерагчы нас, нашчадкаў, як Багародзіца сваім Покрывам, чалавецтва, так нашы продкі нас, — ад знікнення і фізічнага вымірання. Бо яны яшчэ маюць спадзеў на наша Духоўнае адраджэнне...»

У беларускай прозе сярод пісьменнікаў, якія выяўляюць асаблівае імкненне да інавацыі па-ранейшаму лідзіруе Юры Станкевіч. Яго новыя раманы «Ліст у галактыку «Млечны шлях» і «Пятая цэнтурыя, трыццаць другі катрэн», а таксама іншыя творы, надрукаваныя ў кнізе «Апладненне ёлупа», сведчаць пра ўнікальнасць таленту гэтага творцы. Аўтара цікавяць праблемы, якія пакуль пакідаюць абыякавымі іншых нашых пісьменнікаў, але шырока ахопліваюцца замежнымі літаратарамі — чалавек Зямлі і магчымасць жыцця на іншых планетах, НЛА і іншыя галактыкі, звышзагадкавы і таямнічы Космас. Звяртае на сябе сапраўды нязвыклая і свабодная, наватарская і адметная форма рамана. Ю. Станкевіч адраджае ў сваіх новых творах знакаміты платонаўскі дыялог, праз які адбываецца пошук ісціны. Асабліва характэрны гэты тып дыялога для рамана «Пятая цэнтурыя, трыццаць другі катрэн», дзе метадалогія палемікі падобна на метадалогію палемікі ў Платона. Перапляценне ў творы рэальных і фантастычных сітуацый, навукова-атэістычнага і рэлігійна-хрысціянскага поглядаў на жыццё чалавека і Сусвету сведчаць аб тым, што перад намі вельмі дыялагічны твор, дзе вырашаюцца самыя разнастайныя грунтоўныя пытанні, пачынаючы ад узнікнення жыцця на планеце Зямля, Вялікага Выбуху да пошукаў ісціны адносна намеру Сусвету, перагледжання прынятых норм маралі, сістэмы каштоўнасцей.

Твор пачынаецца фантастычнай падзеяй — прыбыццём невядомага гелікап-

тэра і высадкай яго на адной з цэнтральных плошчаў вялікага горада. Адразу ж збіраецца натоўп цікаўных. Тут жа з'яўляюцца міліцыянты, патрабуючы ў незнаёмых прышэльцаў дакументы. Аднак госці паводзяць сябе вельмі агрэсіўна, накідваюцца на аператыўнікаў, аднаго, найбольш увішнага, нават вышпурваюць з борта. Адзін з назіральнікаў нечакана завалодвае выпадкова згубленым энланаўтамі прадметам — хранальным сінтэзатарам, за якім пачынаюць паляваць пілоты гелікаптэра, пагражаючы пакараць укрывальніка. Аўдытар Пётр Саковіч, рэпарцёр Багдан Кайра, філосаф, футуролаг Герман Антонавіч Зайцаў, бібліятэкарка Ліда вядуць вельмі працяглую (на дзясяткі старонак) дыскусію аб НЛА, нараджэнні Сусвету, назіраннях вучоных і іх высновах адносна НЛА, аб нашым апакаліптычным часе.

Мастацкая тканіна рамана саткана з самых розных навуковых, акультных і хрысціянскіх трактовак феномена НЛА, цытат і тлумачэнняў. Прыгадваюцца такія значныя фігуры як Віктар Вейнік, цікавасць якога да НЛА завяршылася вяртаннем ва ўлонне Праваслаўнай Царквы, гарачым зваротам да Бога, Серафім Роуз, вядомы праваслаўны тэолаг і даследчык НЛА, аўтар працы «Знакі на небе», уфолаг В. Ажажа і многія іншыя буйнейшыя уфолагі Расіі і замежжа, а таксама вядомы празорца Ностэрдамус.

Даючы слова навукоўцам, атэістам, вернікам, нехрысціянскім празорцам, пісьменнік, як і яго героі, не спыняецца ні на адной з версій адносна НЛА і «намераў Сусвету», тым самым дэманструючы шырокі погляд на праблему і яе нявырашанасць. Хоць усеагульная прызнанасць шкоднасці кантактаў з гуманоідамі павінна была б навесці на думку аб ісціннасці погляду Праваслаўнай Царквы і аднаго з яе дзяцей доктара тэхнічных навук акадэміка В. Вейніка, якія адмаўляў іншапланетную прыроду НЛА і заяўляў аб тым, што НЛА і гуманоіды — гэта ні што іншае як «козни бесовские». За імі стаяць дэманы, аб існаванні якіх добра вядома кожнаму хрысціяніну.

Раман-роздум, раман-даследаванне Ю. Станкевіча, безумоўна, паказвае, кажучы словамі Івана Мележа, «які шырокі свет чалавечых думак». Аднак звяртае на сябе ўвагу той факт, што аўтар і яго героі атручаны залішняй цікаўнасцю, упадніцкімі настроямі, неразуменнем вышэйшага прызначэння чалавека і яго місіі на Зямлі, прызнаннем бессэнсоўнасці жыцця і сумненнямі ў разумнасці ўсяго створанага Богам. У выніку — спрэчкі персанажаў аказваюцца бясплоднымі, бясконцымі, ні да чаго не прыводзяць апроч марна страчанага часу. Сапраўдную шырыню падыходу да акрэсленай праблемы дае вера ў Бога. Яна пазбаўляе змрочнага дэкадансу, якім грашаць многія замежныя пісьменнікі, у ліку якіх французы Фрэдэрык Бегбедзер, Мішэль Уэльбек, Венсэн Равалек са сваім раманам «Настальгія па чорнай магіі», дзе дае сваё бачанне канца свету, і беларус Юры Станкевіч, хоць ён нярэдка і робіць рашучы паварот у бок хрысціянства, але тут жа, як бы спахапіўшыся, вяртаецца да дэманічнай бязрадаснасці.

У фінале твора гучыць вельмі характэрны для нашага часу матыў канца свету, канца зямнога існавання. Тут Ю. Станкевіч звяртаецца да вядомай ва ўсім свеце асобы празорца Настрадамуса, дар якога быў, на думку Царквы, не ад Бога. Назва твора — «Пятая цэнтурыя, трыццаць другі катрэн» — тлумачыцца менавіта тут, у апошніх абзацах:

«Пасвядомасць празорцы не маўчала, і ў большасці цэнтурыяў і катрэнаў (а ўсяго іх было напісана 942) ён чуйна слухаў і назіраў тую адзіную субстанцыю, адкуль найбольш адчуваў незатухаючую і жахлівую пагрозу для ўсяго чалавецтва — гэта звышзагадкавы і таямнічы Космас.

Характэрны ў гэтым сэнсе трыццаць другі катрэн пятай цэнтурыі:

Дзе ўсё добра, усё ў парадку з Сонцам і Месяцам,
Шчодра (багата) набліжаецца разбурэнне:
Яно скіравана з неба, каб змяніць лёс,
У тым месцы, дзе сёмая скала».

У пятай цэнтурыі, трыццаць другім катрэне Настрадамуса Ю. Станкевіч бачыць прадказанне таго, што павінна адбыцца ў хуткім часе з Зямлёй і з Сусветам, аб чым святыя гаварылі, што «ідзе згуба на ўвесь сусвет», прыход і ўлада Антыхрыста тры з паловай гады, а пасля — другое прышэсце Ісуса Хрыста і Страшны Суд.

На жаль, аўтар рамана гатовы паверыць у духоўны плюралізм, гатовы і з лятаючымі талеркамі звязваць перагляд традыцыйных хрысціянскіх каштоўнасцей, нараджэнне новай маралі.

Эпіграфам да рамана «Ліст у галактыку «Млечны шлях» пісьменнік бярэ словы святога апостала Паўла «Не ўсе мы памром, але ўсе мы зменімся». Дзеянне ў ім адбываецца ў савецкі час. А героямі з'яўляюцца як плоцевыя людзі, так і духі — Божыя анёлы і анёлы Сатаны. Спасылаючыся на святога Афанасія, пісьменнік нават расказвае свайму чытачу аб нябеснай іерархіі, аб анёльскіх чынах, аб іх уласцівасцях і прызначэнні.

Твор апавядае пра тое, як настаўнік сярэдняй школы, выкладчык фізікі, астраноміі Корбат Андрэй Васільевіч піша ліст да іншапланецян, скардзячыся на сваю краіну і амаральнасць яе грамадзян, выказваючы жаданне «пакараць усё людства праз сутыкненне з астэроідам». Ліст, дзякуючы пільнасці савецкай актывісткі Асі, трапляе ў адпаведныя дзяржаўныя органы, якія пачынаюць неадкладную разборку з маральна-няўстойлівым героем, а ў выніку вырашаюць фізічна знішчыць яго. Яго нібыта адпускаюць, але за ім пасылаецца забойца, які павінен здзейсніць злачынства. Праважаты Корбата жадае яму анёла-апекуна ў дарогу, і апошні па-першым жа клічы з'яўляецца на дапамогу. У выніку забойца становіцца ахвярай, а пасля, шчасліва выбраўшыся з лап смерці, перастае палявацъ за Корбатам.

Юры Станкевіч закранае самыя розныя пытанні чалавечага жыцця, аўтар шырока звяртаецца да сюжэтнай інверсіі, свабодна пераходзіць ад аднаго эпізода да другога, ад рэальнай сацыяльнай з'явы да містычнай. Як і ў рамане «Любіць ноч — права пацукоў» пісьменнік задумваецца аб асаблівасцях беларускага шляху, аб беларускай нацыі, якая, нібыта, знішчае сама сябе, аб дэманізме ў мастацтве і наогул у чалавеку.

Бягучая крытыка паспела аднесці раманы Ю. Станкевіча «Ліст у галактыку «Млечны шлях» і «Пятая цэнтурыя, трыццаць другі катрэн» да метапрозы. Асноўнымі рысамі метарамана даследчыца Г. Бутырчык лічыць самарэфлексіўнасць і самаўсвядомленасць; акцэнтаванне штучнасці адлюстраванай рэальнасці; дыялог з папярэдняй традыцыяй, які можа адбывацца ў розных выглядах (гульня, парадзіраванне і інш.); складаную шматузроўневую кампазіцыю; асаблівы тып героя і апавядальніка, часам з падкрэсліваннем іх фіктыўнасці; спалучэнне жанравых форм і апавядальных тэхнік, спецыфічнае графічнае афармленне, актыўную стваральніцкую ролю чытача. «Да метараманных тэхнік, — заўважае яна, — актыўна звяртаюцца беларускія пісьменнікі. Шматузроўневая кампазіцыя, поліфанічнасць, выкарыстанне розных шрыфтоў пры графічным афармленні тэксту дазваляе ўпісваць у кантэкст сучаснай метапрозы раман Ю. Станкевіча «Ліст у галактыку «Млечны шлях».

У пазначаным рэчышчы Г. Бутырчык прапаноўвае разглядаць і аповесць Ю. Каляды «Галоўная памылка Афанасія».

Пісьменнікі-постмадэрністы звяртаюцца да такога спосабу аповеда як металепсія — хранічныя пераскокі ад апісання падзей у творы да працэсу яго напісання. У якасці класічнага ўзору выкарыстання металепсіі Г. Бутырчык называе раман Дж. Фаўлза «Жанчына французскага лейтэнанта», у якім пераплятаецца два тыпы аповеда — віктарыянскі раман XIX стагоддзя і постмадэрнісцкі метараман. З металепсіяй мы маем справу ў сучасных французскіх раманах, у прыватнасці, Фрэдэрыка Бегбедзера «99 франкаў» і «Рамантычны эгаіст». У апошнім аўтар дзённіка неаднаразова гаворыць аб сваім намеры перастаць пісаць дзённік, вядзе

гутарку аб ім з іншымі. «Я перастаў весці дзённік, таму што цяпер маё жыццё ўжо не ўяўляе ніякай цікавасці.< > Я сам сабе надакучыў».

«Людо, сутыкнуўшыся са мной у холе атэля, адразу пераходзіць у атаку:

— Ты праўда перастаў весці свой дзённік?

— Так... не хочацца мне...

— Здраднік! У цябе атрымалася больш шчыра, чым у Брыджыт Джонс, блін!»

Дзённікавыя запісы «Рамантычнага эгаіста» Ф. Бегбедзера напоўнены ацэнкамі самых розных з'яў сучаснага свету, у тым ліку музычных, кінамастацкіх, літаратурных, навуковых, палітычных. Нярэдка ў іх сустракаем апавяданні пра калег па пяры, аўтара-апавядальніка, пісьменніка, уражанні аб іх творчасці, чалавечых якасцях. Знаходзім цікавыя міні-партрэты французскіх пісьменніц і пісьменнікаў Амелі Натомб, Віржыні Дэпант, Мішэля Уэльбэка, Анны Гавальда і іншых.

Раман даносіць перакананне Ф. Бегбедзера, што чытач не жадае больш чытаць цалкам выдуманыя гісторыі, што яму неабходна мадэль, арыгінал. Ён хоча, каб напісанае было звязана з рэальнымі фактамі. Падобную тэндэнцыю да рэальнай мадэлі, рэальнага факта назіраем і ў апошнім рамане Ю. Станкевіча, хоць яна выражана слабей.

Творчасць Ю. Станкевіча некаторымі сваімі рысамі нагадвае творчасць сучаснага французскага пісьменніка А. Валадзіна. У артыкуле В. Шэрвашыдзе «Тэндэнцыі і перспектывы развіцця французскага рамана» (Вопросы литературы. 2007. № 2) раскрываецца своеасаблівасць творчасці гэтага пісьменніка-эксперыментатара, адзначаецца, што яна не ўпісваецца ў традыцыю французскай культуры, а таксама стаіць убаку і ад магістральных тэндэнцый сучаснага літаратурнага працэсу. Аўтар артыкула сцвярджае, што тэрмін А. Валадзіна «пост-экзатызм», вынесены ў загаловак рамана «Пост-экзатызм у 10 уроках, урок 11», не мае нічога агульнага ні з постмадэрнізмам, ні з іншымі тэндэнцыямі, якія пачынаюцца на «пост» і заканчваюцца на «ізм». «Раман «Пост-экзатызм у 10 уроках, урок 11», — тлумачыць В. Шэрвашыдзе, — гэта тэарэтычны тэкст, які ўключае аўтакаментарый, што характарызуе пост-экзатызм як напрамак заклапочаны рэфлексіяй над уласным метадам». < > «Погляд на ассуарый», які з'явіўся адначасова з «Пост-экзатызмам» у 1998 г., уяўляе сабой практычны аспект пост-экзатызму, мастацкае ўвасабленне яго тэарэтычных палажэнняў» < > «Дзеянне твораў Валадзіна — ад «Параўнальнай біяграфіі Жарыяна Мюрграва» да рамана «Бардо, аба не Бардо» адбываецца на памежжы паміж жыццём і смерцю. Персанажы пост-экзатызму падарожнічаюць у чорнай тантрычнай часавай прасторы паміж смерцю і наступным нараджэннем, якое доўжыцца, паводле будызму, 49 гадзін. 49 — лічба ў тантрызме магічная, яна абазначае падрыхтоўку душы да рэінкарнацыі». < > «Мастацкі свет Валадзіна — гэта свет сюррэальных відзежаў, у якіх зліваюцца галасы шаманаў, анёлаў, вар'ятаў і мёртвых». < > «Будызм, як і шаманства, цікавяць Валадзіна не з рэлігійнага, а з паэталагічнага пункту гледжання. У глыбінях усходняй мудрасці ён спрабуе знайсці формы аднаўлення заходняй цывілізацыі». < > «...фантастыка Валадзіна — «бутафорская», яна ўвасабляе на метаўзроўні маральныя і філасофскія праблемы».

Мы прывялі гэтыя вытрымкі з артыкула В. Шэрвашыдзе, каб даць хоць нейкае ўяўленне аб пісьменніку, да творчасці якога прыкаваны сёння погляды многіх французаў (у Расіі ягоная творчасць невядомая, яго першая кніжка, падрыхтаваная да друку, яшчэ не выйшла). Ад сябе заўважым, што новая плынь, якую ўяўляе сабой гэты празаік, нечым блізкая да сюррэалізму, з яго цікавасцю да сноў, галюцынацый, бессвядомага, тэндэнцыяй да невыразных адчуванняў, зацямнення сэнсу і г. д., хоць, канешне ж, аўтар мае шэраг сапраўды непаўторных адзнак.

Творы француза А. Валадзіна і беларуса Ю. Станкевіча блізкія сваёй антыхрысціянскай накіраванасцю, экуменізмам, духоўнай усёеднасцю. Асабліва

выразна антыхрысціянскі дух праяўляецца ў творчасці А. Валадзіна, які культывуе будысцкі, шаманскі светапогляд, варожую хрысціянству ідэю аб рэінкарнацыі, перараджэннях чалавека. Недарэмна ў Францыі аб А. Валадзіне і падобных яму пісьменніках гавораць, што яны з'яўляюцца будаўнікамі новых светаў.

Параўноўваючы класічную і сучасную французскую і беларускую «вялікую» прозу ў маральна-этычным плане, мы павінны адзначыць, што пісьменнікі Францыі ў нечым і раней і цяпер аказваюцца лепшымі аналітыкамі грамадства і індывідуума. Яны глыбей пранікалі і пранікаюць у свет чалавечых пачуццяў, глыбей паказвалі і паказваюць гаму інтымных адносін, у адзінстве душэўнага і фізічнага пачаткаў. Гэта, безумоўна, тлумачыцца няразвітасцю буйной беларускай прозы ў параўнанні з французскай, першыя раманы якой узніклі яшчэ ў часы Ламаносава. Але цяпер, калі французская літаратура кінулася асвойваць, на яе думку, мала даследаваны «мацярык» цялеснасці, яна пачала няправільна ацэньваць чалавека, прыніжаючы значэнне душэўнага і асабліва духоўнага ў ім. Акцэнт на перавазе фізіялагічнага боку і ў творчасці французскіх класікаў Гі дэ Мапасана, Эміля Заля і іншых. Так што гаварыць аб поўным разрыве сучасных пісьменнікаў Францыі з яе класікамі неправамерна. Беларуская класічная літаратура, як можна бачыць, увабрала ў сябе не толькі рускі духоўны вопыт, але і французскі. Натуральна, што ёй больш блізкім аказалася рускае прапаведніцтва, адкрыта і выразна выказаныя гуманістычныя тэндэнцыі, увага да ўнутранага свету чалавека, чым навуковыя, рацыянальна-лагічныя формы пазнання жыцця і аналітызм французаў з іх часам занадта прыглушаным этычным пафасам.

Цяжка рабіць прагназаванне ў літаратурных справах, цяжка адгадаць, якім шляхам стануць развівацца сучасныя беларускія і французскія раманы і аповесці, якімі яны будуць у маральна-этычным плане, якія каштоўнасці пачнуць адстойваць, якія ідэі прапагандаваць, якія новыя формы знаходзіць. Адно можна сказаць: усё залежыць перш за ўсё ад творчай індывідуальнасці і светапогляднай «ангажыраванасці» тых пісьменнікаў, якія прыйдуць, і тых, хто працягне працу на мастакоўскай ніве, вызначаючы галоўныя тэмы гэтых літаратур, вызначаючы іх нацыянальную адметнасць і адрозныя рысы.

**Алесь САВІЦКІ**

# ЛАСКАВАЕ СВЯТЛО ЛІТЗАВЫ

Уладзімір Караткевіч патэлефанаваў мне нечакана ранкам, спытаў крыху глухаватым і вясёлым голасам:

— Адарваў ад работы, стары?.. То і добра, што нічога не робіш. Габлюй да мяне і забяры карткі, бо за іх зноў ад жонкі прачоску меў: калі, кажа, ты карткі чалавеку аддасі… Якія карткі? А тыя, што ў Літзаве рабілі…

Узняцца на гару з вуліцы Янкі Купалы нядоўга, і неўзабаве, хвілінак мо праз пятнаццаць, я ўжо націснуў гузік званка знаёмай кватэры, што ў два акны выходзіць на вуліцу Карла Маркса. Гаспадар адчыніў мне дзверы і з усмехам зазначыў:

— Эге, бы на крылах! Я табе даў званок, паспеў толькі халат апрануць, а ты ўжо і тут, — і весела прадэкламаваў: — «Врезались танки угловато, с экрана в просмотровый зал…»

Я перапыніў яго, дадаўшы другі радок жартоўнай эпіграмы:

— «И князь Владимир воскричал…»

— «Зараза Валька виновата», — скончыў эпіграму Уладзімір Караткевіч і звонка зарагатаў. — Слаўныя тыя дзянёчкі паўднёвыя. Вось зараз на здымачкі паглядзіш і будзе на душы светла…

Ён павёў мяне ў свой кабінет, і я, ідучы следам за ім, згадваў той дзень, калі гэтая жартоўная эпіграма нарадзілася. Неяк у Піцундзе, у Доме творчасці пісьменнікаў, мы глядзелі фільм пра мірную вучобу нашых танкістаў. Фільм быў сумны, наіўны, і Васіль Быкаў з жонкай Ірынай не даседзелі і да паловы, ціхенька падняліся — балазе сядзелі з самага краю, ля праходу — і, прыгнуўшыся, шуснулі з залы. Мы ж — Уладзімір Караткевіч з Валянцінай і ўкраінская пісьменніца Раіса Іванчанка — даседзелі да канца. Потым, калі выйшлі ва ўнутраны дворык Дома творчасці і тэпалі па квадратовых плітах усцяж пахкіх паўднёвых ружаў — Быкавы далучыліся да нас, — пачалася гаворка пра фільм. Уладзімір Караткевіч вельмі заклапочаным і сур’ёзным тонам — робленасці гэтай мы спачатку не заўважылі — сказаў, што ў яго склалася вершаваная ацэнка фільма. І прачытаў экспромт: «Шли танки с несказанным рыком с экрана в просмотровый зал. И наш комбат Василий Быков впервые в жизни побежал».

Рагаталі ад душы. А нешта дні праз тры новы варыянт эпіграмы спарадзіў новыя жарты і рогат. У пакоі Караткевічаў — у іх быў шыкоўны двухпакаёвы нумар — зладзілася шчырая і добрая рыбная вячэра. Уладзімір паехаў на тоню з гагрынскімі знаёмымі рыбакамі, прывёз торбу рыбы, яе засмажылі на літфондаўскай кухні, і наш беларускі гурт, што быў у Доме творчасці, вячэраць у сталоўку не пайшоў: сядзелі за сталом, ласаваліся свежай рыбачкай, ухвалялі рыбацкія ўдачы «князя Уладзіміра». Я перарабіў на новы лад Караткевічаву эпіграмку, склаліся ў ёй тыя радкі, якімі вітаў мяне цяпер, адчыніўшы дзверы, гаспадар. Асабліва залівалася смехам тады жонка Караткевіча. Валянціна патрабавала напісаць эпіграмку ў цэнтры белага аркуша паперы. Калі гэта было зроблена, патрэсла той аркушок на далоні, сказала, што ён пойдзе цяпер «на сцяну, у залатую рамачку». Уладзімір Караткевіч весела дадаў: аркушок гэты, маўляў, мне «замест іконы паслужыць». І гэта была праўда: ён, які з усмешкай і паблажліва

адгукаўся на сяброўскае «Князь Владимир», за іранічным «зараза Валька» хаваў ад чужога вока невымерную любоў да сваёй жонкі, адданасць, падзяку за тое, што на крутых паваротках жыццёвых Валянціна ішла плячо ў плячо, была надзейным апірышчам.

Увайшоўшы ў свой вузенькі, на адно акно, кабінет, гаспадар падсунуў мне крэсла, уручыў даволі таўставаты чорны канверт ад фотапаперы, да якога быў прымацаваны металёвай скрэпкаю папяровы клапцік з маім прозвішчам. Прозвішча маё было размашыста выведзена і на бакавіне канверта.

— Усе карткі ўжо раздаў. Адны твае засталіся. Разглядай, дзівіся. І я таксама згадаю той дзянёк у Літзаве. Слаўна там было. Слаўна, — ён прысеў на канапу, уціснутую паміж сцяной і тарцом доўгай кніжнай шафы, узяў з маленькага століка папяросны пачак, закурыў. Потым падгроб зеленаватую падушку, узлакоціўся на яе, зазначыў задаволена: — Здымкі, скажу табе, атрымаліся файныя — японскі апарацік!

Я выцягнуў таўставаты пачак здымкаў з чорнага канверта. Сапраўды, зроблены ўдала, прафесійна! Разглядаў іх спачатку таропка, а потым па адным, на кожным засяроджваючы ўвагу, і ажывалі, плылі ўспаміны пра той дзівосны сонечны дзень у Літзаве…

На поўдні лёс творчай літфондаўскай пуцёўкі вельмі часта зводзіў мяне з Уладзімірам Караткевічам. Чатыры верасні запар мы былі разам у Доме творчасці ў Піцундзе. А перад гэтым, звычайна ў верасні—кастрычніку, мы сустракаліся ў Доме творчасці ў Гаграх. Двойчы я жыў у маленькім прыморскім корпусе, тройчы — у вялікім будынку за дарогай, дзе пошуму мора не чуеш, бо з аднаго боку шургоча шаша, а з другога — грыміць чыгунка. Уладзімір Караткевіч не прызнаваў ні той, ні другі корпус, а заўсёды пасяляўся ў аднапавярховым драўляным дамку, з шырокай тэрасай, на якой ад кожнага кроку мілагучна рыпела і спявала падлога. Нефарбаваная, напаленая сонцам, яна ажно апякала падэшвы, і Уладзімір Караткевіч штораз, вяртаючыся пасля купання ў моры, шлэпаў па ёй басанож, радасна вохкаючы ад задаволенасці. На гэтай тэрасе, дакладней, шырокім ганку, з вузенькай лавачкай ля сцяны, ён часцяком бавіў вечаровы час, глядзеў, як ідзе на спачын сонца, слухаў шоргат галькі, рытмічны і звонкі.

У Піцундзе, у новым Доме творчасці, ён пасяляўся з жонкаю ў нумары з шырокімі балконамі, з якіх добра былі відаць прычалы, піцундскія сосны і Востры мыс, што шырокай дзідай уразаўся ў мора. Аднак, седзячы на драўлянай гушкалцы каля століка і пазіраючы на агняны дыск сонца, што ўвачавідкі спаўзаў за небакрай, ловячы казачны «зялёны прамень» на марской вадзе, ён часцяком згадваў драўляны дамок у Гаграх і казаў, што «там, стары, было непаўторна лепей».

Згадваў ён той дамок і ў Літзаве. Мы трапілі туды выпадкова — дапамог парывісты і колкі вецер. Біла ў бераг хваля, на пляжы літфондаўскім было няўтульна: паплаваць яшчэ і можна было, але на пяску няўтульна. Раіса Іванчанка — Уладзімір Караткевіч яе добра ведаў — напаўжартам прапанавала: у Літзаву, панове, трэба ехаць, там і ветру няма, і вада празрыстая, і нават у ладны шторм паплаваць добра.

Да зманлівай прапановы далучыўся і Васіль Быкаў з жонкай Ірынай — таксама намыслілі ўцякаць з пляжа. І аніхто не расчараваўся, мы вельмі хутка даехалі да Літзавы. Мінуўшы паласу старых соснаў, мы трапілі на нешырокі пляж. Злева — блізкія горы, справа — сцяна зялёна-чорных соснаў, што затулілі ўрадавыя дачы, сосны і за спінаю, а перад табой — празрыстая вада вузкай бухты. Цішыня, пах разагрэтай сонцам іглiцы, дрогкае мроіва над хвалькамі.

Уладзімір першым рынуўся ў ваду. Гучна форскаў, пляскаў далонямі па вадзе, даваў нырца, ляжаў на спіне, раскінуўшы рукі. Потым вылез на бераг, сеў на гарачую гальку, сказаў, мружачы вочы, быццам нешта вышукваў у шырокіх шатах соснаў:

— Сюды б той драўляны дамок з Гагры. Літфондаўскі той дамок тут паставіць! Слаўна было б! Таму трэба гэта ўсё «запечатлеть для истории…»

Ён выцягнуў з кішэні вятроўкі фотаапарат. Апарат быў маленькі, нейкі дужа ж несамавіты, і гэтая акалічнасць выклікала нямала жартаў з нашага боку. Уладзімір Караткевіч спакойна патлумачыў: апарат японскі, на сонечных батарэях, наводка і патрэбная вытрымка робіцца аўтаматычна, таму твой асноўны клопат — «пасадзіць усіх у кадр». Скончыўшы фатаграфаваць, адклаў фотаапарат і запэўніў: «Якасць фотаздымкаў фірма гарантуе».

Аднекуль прыбег кудлаты сабака, сеў паблізу, глядзеў, быццам нешта вымольваў. Сабака быў не дужа ўкормлены, не дужа дагледжаны і сачыў за намі аддана і зацікаўлена.

— Хоча есці, — сказаў Уладзімір Караткевіч. Ён пасунуўся па гальцы да сабакі, спытаў: — Хочаш есці? — і сам жа і адказаў. — Хочаш. У вачах тваіх гэта напісана. Толькі мы самі галодныя, дарагі дружа.

Сабака, быццам зразумеўшы чалавечыя словы, апусціў галаву і паціху патрухаў па гальцы, кіруючыся да стракатага вялікага парасона, які толькі што ўзнік ля агароджы, за якой быў відзён рыбацкі прычал. Пад парасонам сядзелі жанчыны, нешта выцягвалі з пляжных сумак.

— Праз паўтары гадзіны ў Літфондзе пачнецца абед, — падала голас Раіса Іванчанка. — Калі хочам паспець на абед, дык трэба неўзабаве і ехаць.

Уладзімір Караткевіч запратэставаў рашуча:

— Ехаць? Адсюль? Ад гэтай раскошы? Буду галадаць. І вам усім раю. Галадаць ля мора вельмі карысна.

— Слушная прапанова, — сказала жонка Васіля Быкава, прыняўшы гэты жарт. — Але пітво патрэбна. Без пітва мы тут загінем.

— Пітво будзе, — запэўніў Уладзімір Караткевіч. — Калі высадзіліся з аўтобуса, дык добра агледзеўся па баках. Прыкмецілі шапік прыстойны і кафэ за дарогаю? Таму і пітво будзе, і харч належны, і не горш за літфондаўскі абед атрымаецца — ад галадоўкі я адмаўляюся.

Ён узняўся, пачаў вытрахаць пясок з жоўтых сандалетаў, кожным сваім рухам дэкларуючы, што зараз апранецца і рушыць па харч і пітво. Але яго загадна спыніў Васіль Быкаў.

— Сядай і не мітусіся, — запатрабаваў ён, паляпаўшы даланёю па гальцы. — Высакародства князя Уладзіміра агульнавядома. І прапанова раскашаваць тут, на выгодзе казачнай, усім па душы. І таму, каб нікому крыўдна не было, зробім па-франтавому. Запалкі маеш? Давай сюды… Та-ак, — Васіль Быкаў узяў карабок запалак, які Уладзімір Караткевіч выцягнуў з кішэні порткаў, адлічыў шэсць запалак і ў адной з іх адламіў галоўку і адкінуў. — Цягнем па чарзе. Хто выцягне зламаную, той і адпраўляецца ў паход. Пярэчанняў няма?.. Прынята, як кажуць на сходах, аднагалосна. Тады тасую запалкі… Бачыце? Ніякіх фокусаў.

Радасна і задаволена смяялася Раіса Іванчанка — цягнула першай і круціла ў пальцах запалку з карычневай галоўкай: шчаслівая, маўляў, глядзіце. Гэткія ж запалкі выцягнулі Валянціна з Ірынаю, і гэта выклікала выбух шчырай радасці ў Караткевіча:

— Заўсёды казаў: жанчыны шчаслівейшыя за мужыкоў. Але цяпер і наш выхад на сцэну!

У радочку запалак, што трымаў у сціснутым кулаку Васіль Быкаў, я доўга не вагаючыся, выбраў бліжэйшую. Запалка была без галоўкі!

Пачаў апранацца. І тое ж узяўся рабіць і Уладзімір Караткевіч. Я абурыўся: спраўляюся, маўляў, і адзін. Але ён быў няўмольны:

— Запалку кароткую выцягнуў — лёс, братка, такі ў цябе. Але харч і пітво людзям я абяцаў. Прапанова мая тут была — і адступіцца як?

— Сам пагібай, а таварыша выручай, як гаворыцца, — сказаў Васіль Быкаў, аддаючы дзве цэлыя запалкі Уладзіміру Караткевічу. — Пакладзі ў карабок. Ад іх, шчаслівых, усе запалкі ў карабку шчаслівымі паробяцца…

Мы рушылі з пляжа, жартоўна салютнуўшы рукамі на развітанне тым, хто заставаўся на ўгрэтай сонцам гальцы, над якой, калі хвалькі разбіваліся аб каменны ўзвал, сеяўся прыгожы вясёлкавы пылок.

Неўзабаве мы былі ўжо каля шапіка, драўлянага, пафарбаванага ў бляклы блакітны колер, з шырокім акном — вітрынаю на ўсю сцяну. У начны час акно, відаць, закрывалася драўлянай застаўкай, якая цяпер была ўзнята пад самы дах і трымалася на шырокіх жалезных падпорах. Узяўшыся за адну з іх рукою, Уладзімір Караткевіч аглядаў тое, што было выстаўлена на прылавак і раскладзена на паліцах, і ўголас пералічваў: пернікі, цукеркі, лаваш, яйкі, вафлі, сыр, — і, нібыта канстатуючы і пытаючыся адначасова, дадаў: — А пітва аніякага няма.

— Няма, — пацвердзіла прадаўшчыца. — Гадзіны праз дзве абяцалі прывезці «Пепсі».

— Пепсі-мепсі нас не можа задаволіць, нават каб і было, — Уладзімір Караткевіч хітнуў мне галавой, як бы запрашаючы пацвердзіць тое, што ён кажа. — Нам, людзям з паўночных земляў, патрэбна пітво натуральнае. Але з градусам. Вінаграднае.

— Можа, тое-сёе зараз купіць, — прапанаваў я. — Пернікі, скажам, лаваш, вафлі, сыр, яйкі… Сырыя яйкі — гэта рэч!

— Разумна гаворыш. Сырыя яйкі — харч багоў, — разважліва прамовіў Уладзімір Караткевіч, прамовіў больш для прадаўшчыцы, бо яна неяк падазрона прыглядалася да нас, і даверу на яе твары не было прыкметна. — Калі я не ўжываю сырыя яйкі, дык голас адразу «садзіцца». Нота «ля» мяне тады падводзіць, — ён роблена адкашляўся, быццам правяраў голас. — Л-ля-ля-ля-лям… Чуеш? Тэмбр заніжаны яўна на дзве тэрцыны. Шнуруем да кафэ…

Апынуўшыся на шашы, рагатнуў:

— Ха-ха… На дзве тэрцыны! От жа, хай цяпер галаву паламае, што тут да чаго, гэтая гандлёвая асба, — і дадаў з адценнем пагарды. — Калі на мяне глядзяць падазрона, ува мне адразу як нячысцік скача, карціць учмурыць штонебудзь…

Мне падалося, што гэта неабачліва: не купіць тое, што нам трэба, зараз, пакуль шапік адчынены. Уладзімір Караткевіч сказаў павучальна і аптымістычна:

— Ніколі не губляй надзеі. І думай спачатку пра галоўнае. А галоўнае нашага паходу што? Пітво. Яго чакаюць на беразе сонечнай Літзавы. І дзверы, патрэбныя нам, адчынены…

Мы шнуравалі да аднапавярховага драўлянага будынка кафэ напрамкі каля гранатавых дрэў, ніжняе голле на якіх было паабсякана. На правы бок ад іх, у неглыбокай лужыне, расцягнулася чорная, бы з вугалю, укормленая свіння, ля яе пароլі лычамі гразь два ладныя кабанчыкі. За будынкам кафэ разлеглася густое зяляніва садоў, за імі, у далечыні, падпіралі неба белыя грабяні гор — пазаўчора ў гарах выпаў снег, і ён яшчэ не растаў, і здавалася, што белыя хвалі памалу сунуцца на сады.

У маленькім, вельмі чысценькім і ўтульным кафэ панаваў смачны водар смажанай цыбулі. Ля буфетнай стойкі нікога не было. На шырокай электрапліце, адгароджанай ад залы цаглянай пераборкаю, паблісквалі дзюралевыя каструлю, на нізкім століку стосікам горбіліся каляровыя пластмасавыя падносы. Па правы бок ад іх, у квадратовым акне знерухомела жанчына ў белым халаце.

Уладзімір Караткевіч рашуча пашыбаваў да гэтага акна, траха не па пояс улез у яго і тут жа вярнуўся да першага століка, дзе хвіліну перад гэтым загадаў мне сядзець і чакаць.

— Перамовы скончыліся бліскуча — патрэбны адрас маем, — паведаміў ён і зрабіў знак пальцам, загадваў ісці за ім. На ганку ўжо, калі мы выйшлі з кафэ, патлумачыў: — Габлюем да Марылі. Вінаграднае пітво нас, спадзяюся, чакае добрае. Дзе прыпынак? Вунь ён. Ад яго трэба павярнуць управа. Знайсці трэці дом. Жалезная брама блакітная.

Ведаючы натуру Караткевіча, я не лез да яго з роспытамі. Трэба падпарадкоўвацца, рабіць тое, што ён гаворыць, чакаць, пакуль пэўныя тлумачэнні не будуць дадзены. Таму я моўчкі тупаў упобачкі, разглядаў шыкоўныя катэджы, што туліліся ў засені дрэў і вінаграднай лазы паабапал нешырокай вулкі, засыпанай шэрым, добра страмбаваным каменным друзам.

— Здаецца, тут, — Уладзімір Караткевіч спыніўся каля шыкоўнай жалезнай брамы. — Брама блакітная. Трэці дом. Цяпер застаецца адшукаць Марылю. Бачыш, як весніцы ўштукаваны ў браму? Майстар рабіў адмысловы…

Весніцы адчыніліся лёгка, без рыпення. Ад іх углыб саду вяла роўня сцяжына, выкладзеная каляровай пліткай. У канцы сцяжыны ружавела сцяна катэджа, падзеленага на дзве палавіны высокім, аж пад самы дах, акном. Невядома адкуль на сцяжыну выбег рослы сабака, кароткая каштанавая поўсць на ім ільснілася. Уладзімір Караткевіч пачаў размаўляць з ім, ішоў на яго смела і ўпэўнена, і сабака адступаў, але брахаў залівіста, на нотах высокіх. Калі да тэрасы, што адкрылася нечакана за густымі дрэвамі інжыру засталося крокаў з дзесяць, сабака спыніўся, ашчэрыўся, даючы зразумець, што далей пускаць незнаёмых гасцей намеру не мае.

З тэрасы, перавітай з бакоў і па даху вінаграднай лазой, упрыгожанай буйнымі фіялетавымі гронкамі, на сцежку ступіў мажны мужчына. Сіняя майка, абвіслая на рудыя, белыя на каленках, штаны, саламяны брыль быццам зачапіўся за чорныя бровы, густыя, як звітыя ў шнурок. Мужчына прыўзняў брыль, тут жа пасадзіў яго на ранейшае месца, спытаў хмурна:

— Не бачыце? Сабака без ланцуга!

— Сабака харошы, — прыветна прамовіў Уладзімір Караткевіч, павітаўшыся з гаспадаром. — Ён разумее: мы тут не на пагулянцы, пільная патрэба ў нас ёсць — пабачыць Марылю. Андрэеўна параіла нам да яе звярнуцца…

Сабака аціх. Гаспадар зрабіў крок назад і, абапершыся на парэнчы, што вытыркаліся з-пад спляцення вінаградных галін, гукнуў некуды ўніз, быццам пад зямлю:

— Марыля! Чуеш? К табе тут…

Сказаўшы гэта, гаспадар свіснуў, рушыў углыб саду, і сабака заскочыў яму наперад, і яны зніклі, як усё роўна расталі сярод густога голля інжырных дрэў і стромых дрэў, густа абчэпленых жоўтай буйнай хурмой.

Па левы бок тэрасы, ля самых парэнчаў, стаяў жалезны столік, засцелены цыратай у чырвоныя вялікія ружы. Побач месціліся тры белыя крэслы з гнутымі спінкамі. Уладзімір Караткевіч пастукаў па адной з іх касцякамі пальцаў, прамовіў ухвальна:

— Жалезныя. Абхазы паважаюць усё, што зроблена з жалеза. І абавязкова — белы колер. Ці блакітны… А з чаго, як думаеш?.. — не чакаючы майго адказу, патлумачыў: — Белыя кучомкі гор, блакіт неба, які толькі тут і ўбачыш дужа насычаны — усё гэта міла сэрцу чалавека.

Ён сеў на крэсла, яўна настроены развіваць гэтую сваю думку. Але на парэнчы лягла жаночая рука, затым паказалася чорная хустка, і з-за вінаграднай лазы, быццам з-пад карэння яе, выплыла прыгожая жанчына ў чорнай сукенцы.

Уладзімір Караткевіч ускочыў, галантна павітаўся, патлумачыў, хто нам параіў зайсці менавіта сюды, пачаў услаўляць вінаграднае пітво, нібыта толькі што пакаштаваў яго. Гаспадыня засталася абыякавай да гэтай ухвалы, спытала, колькі бутэлек патрэбна, і, атрымаўшы адказ, знікла, як усё роўна дала нырца пад вінаграднае плецева.

Пад домам было, відаць, вялікае скляпенне, і неўзабаве адтуль пачулася прыглушанае бомканне. Я нахіліўся над парэнчамі, спрабуючы зазірнуць у цёмнае зеўрала скляпення, куды вялі вузкія прыступкі. Спыніў мяне незадаволены голас Уладзіміра Караткевіча:

— Не суй носа ў чужое проса, як гаворыцца. Садзіся лепей да століка, пагартай газету. Бачыш сэрвіс? Каб чаканне не было празмерна нудным, да тваіх паслуг і газеты. Але сёння мы іх чытаць не будзем, бо заўтра, як казаў наш агульны мінскі сябар, навіны будуць свяжэйшыя. Нашы навіны нам і нясуць…

Са скляпення пад домам паднялася па прыступках гаспадыня, урачыста паставіла на стол тры бутэлькі з вінаградным пітвом. Пахвалілася, што якасць выдатная, бо рабілася не на продаж, а сабе, для хатняга ўжытку. Потым яна лоўка адарвала ад газеты папяровую стужку — рабіла заткала для бутэлек.

— Заткала з газет?!! Мая душа гэтага не пацерпіць, — з пафасам выгукнуў Уладзімір Караткевіч і пачаў поркацца ў правай кішэні вельветавых порткаў. — Коркі знойдзем. Мой знаёмы рыбак у Гагры казаў, калі клаў корак у кішэню: запас, маўляў, бяды не чыніць. Аршанскі, між іншым, чалавек…

Ён выцягнуў кароткі корак з белай пластмасы, дзьмухнуў на яго і загнаў у гарляк бутэлькі. Затым моўчкі папоркаўся ў левай кішэні, выцягнуў гэткі ж корак, двойчы падзьмухаў на яго і закаркаваў другую бутэльку.

На твары гаспадыні залунала ўсмешка. Аднак у наступны момант, калі Уладзімір Караткевіч выцягнуў з гэтай жа кішэні трэці пластмасавы корак, яна пляснула рукамі і з яе вуснаў зляцела незнаёмае мне слова. Я не ведаю мовы Абхазіі. Але зразумеў, што гэтае слова — захапленне і ўхвала.

Закаркаваўшы трэцюю бутэльку, Уладзімір Караткевіч павольна выцягнуў з задняй кішэні порткаў чацвёрты корак з белай пластмасы і патрос яго на далоні. Гаспадыня нейкі час глядзела за гэтай гульнёй, потым узняла рукі, быццам нечага прасіла ў неба, выгукнула у радасным захапленні:

— Ва-а-ай!..

Гэтак, з узнятымі рукамі, яна пайшла ў скляпенне і вельмі хуценька вярнулася і ўрачыста паставіла на стол чацвёртую бутэльку ружаватага вінаграднага пітва. Яна ўзяла з Караткевічавай далоні пластмасавы корак, закаркавала бутэльку і сказала, усміхнуўшыся лагодна і ўдзячна:

— Табе ў падарунак. За навуку, усмешку і радасць. За тое, што душа ў цябе сонцам поўная. Шчасліва жыць будзеш…

Грошы за чацвёртую бутэльку гаспадыня не ўзяла, нават пакрыўдзілася, калі я пачаў праяўляць настойлівасць, адмахнулася, быццам ад назолы якой. Яна ішла поруч з Уладзімірам Караткевічам аж да весніц. Я ішоў следам, пачуваючы сябе ніякавата: паторкнуўся з гэтымі грашыма, калі патрэбна было шчырае слова падзякі.

Заняты не дужа вясёлымі думкамі, я нават не заўважыў, калі, з якога дрэва гаспадыня сарвала вялізны чырванабокі яблык. Але бачыў, як яна аддавала яго Караткевічу і як той пачціва нахіліў галаву ў знак падзякі і пацалаваў ёй руку.

Калі ішлі вуліцай, Уладзімір Караткевіч гуляў з тым яблыкам, падкідваў і лоўка лавіў яго адной рукой, быццам каляровы дзіцячы мячык. Мы параўняліся з уваходам у кафэ, і ён папрасіў:

— Пачакай хвілю. Я мігам…

Праз адчыненыя нахлашч дзверы кафэ мне было відаць, як ён нетаропка, крыху валюхаста, шнураваў усцяж столікаў, як спыніўся і ўсунуўся па самыя плечы ў акно, за якім працавала пасудамыйка, як нейкі час стаяў, сагнуўшыся, узлакоціўшыся на шырокае белае падаконне. На шашы віскатнулі тармазы, на трывожнай ноце загуў сігнал аўтамашыны, і я павярнуўся. Белы «Жыгуль», узняўшы воблака пылу, выскачыў на ўзбочыну, абмінуў самазвал, які параўняўся з аўтобусам, і знік за паваротам.

З кафэ выйшаў Уладзімір Караткевіч, яблыка ў руках яго не было. Здагадаўся адразу, каму ён аддаў яблык. Але здзіўлення ўжо было не стрымаць, яно само па сабе вырвалася:

— А дзе яблык?

— Падзякаваў Андрэеўне. І каб жа ты бачыў яе вочы! — у ягоным голасе гучала шчырая задаволенасць. — Самая высокая радасць — радасць падзякі, што засвеціцца ў чалавечых вачах у адказ на дабрыню. Шмат дабрыні ці мала — няважна, галоўнае, каб яна чалавеку ад душы ішла. Мы мала пра гэта гаворым і пішам мала. Але нам з табой трэба болей думаць пра тых, хто на гарачым камені смажыцца пад сонцам. Нічога, вінаграднае пітво верне іх да жыцця ху-уценька!..

Ля шапіка мы доўга не затрымаліся, набылі ўсё тое, што нагледзелі раней, і выйшлі на бераг з пакункамі і згорткамі ў руках. Выгляд у нас, вядома ж, быў задаволены, і галасы нашы гучалі радасна, калі складалі пакункі і згорткі на ручнік, што пасцяліла на гальцы Валянціна, Караткевічава жонка. Яна ж і прапанавала сядаць каля прыгожага і нябеднага абруса.

— Паплаваем спачатку. А тады — абед, — сказаў Уладзімір Караткевіч тонам гаспадарскім, быццам мы былі госці ў яго хаце і яму належала камандаваць паводзінамі кожнага паасобку і ўсіх разам.

Ён імгненна распрануўся, застаўся ў плаўках і з пераможнымі воклічамі сігануў у ваду, паплыў, рэжучы хвалі шырокімі сажонкамі, нешта гукаў. Але гукаў не нам — мы яшчэ былі на беразе! — гукаў вадзе, што зіхацела пад гарачым сонцам, зялёна-чорным соснам, што разамлелі ад спякоты, белым грабяням гор, густой сінечы далёкай высі.

Удосталь нацешыліся вадою і пяшчотнымі хвалямі, вылезлі на бераг і паселі каля ручніка, што зрабіўся амаль казачным абрусам: імправізаваны і зусім не горшы — па каларыйнасці! — за літфондаўскі абед.

Ад каляровага парасона, дакладней, з-пад соснаў, ля якіх ён быў нацягнуты, трухаў да нас знаёмы сабака. Абабег наш шумны гурт і спыніўся каля Уладзіміра Караткевіча, расцягнуўся на гарачай гальцы, пазіраў аддана, у чаканні.

— А-а-а, гэта ты, — зазначыў Уладзімір Караткевіч, быццам працягваў з сабакам нядаўна перарваную гаворку. — Чаго бегаў да таго парасона? Не дужа цябе там прывецілі, гляджу. Сцяміў, што колер той падманны?

Ірына Быкава паклала перад сабакам на пляскаты камень кавалак лаваша з брылёчкам сыру. Сабака аблізнуўся, але не схапіў пачастунак, глядзеў на Уладзіміра Караткевіча, быццам пытаўся дазволу есці.

— Гэта — тваё. А мая луста вось, — Уладзімір Караткевіч гламзануў ад сваёй лусты, якую трымаў на правай далоні, і, гледзячы на сабаку, які нетаропка пачаў есці, зазначыў задаволена, дужа ўзрадаваны тым, што сабака не пабег некуды, а пачаў есці тут, есці не дужа спешна, як бы паказваючы сваю прыналежнасць да нашага гаманкога і вясёлага гурту: — Разумны сабака. І сябе паважае, і да нас з павагай… А вось той, з Марылінага саду, з іншага цеста зляплены. Уласніцтва задушыла ў ім адчуванне свае годнасці…

Падрабязна расказвалі і пра сабаку, што дзікім брэхам стрэў нас у Марыліным садзе, і пра Марылю, і пра тое, як мы трапілі да яе. Было і жартаў, і рогату дастаткова, і вінаграднае пітво здавалася смачным незвычайна, і ачарсцвелы лаваш, і задубелыя пернікі, якія мы запівалі сырымі яйкамі, ажно раставалі ў роце.

З Літзавы мы вярнуліся ў Дом творчасці ўвечары. Вярнуліся, быццам з нейкай дзівоснай краіны прыехалі, дзе няма абрыдлай гаманы ў задушным вестыбюлі, дзе няма зацяганых драўляных лежакоў на пляжы, дзе няма пахаў цвілой вады, што з гулам вылятае з шырокіх труб па правы бок ад літфондаўскага прычала — мы былі перапоўненыя пяшчотаю сонца, гоманам разамлелых ад сонца соснаў і кіпарысаў, закалыханыя мяккімі пакатымі хвалямі, зачараваныя дзівоснымі фарбамі вады і неба, ласкавым святлом, што скочвалася з белых грабянёў гор і клалася на сэрца.

Шмат часу сплыло. Але варта і сёння дакрануцца да здымкаў, што былі зроблены на беразе Літзавы, і адразу аднаўляюцца ў памяці і сяброўскія жарты, і гаворкі, і смех нашага вясёлага гурту, паяднанага лёсам літфондаўскай пуцёўкі ў Доме творчасці ў Піцундзе. І нібыта ўяве над усім — вялізны чырванабокі яблык, які быццам дзіцячы мячык узлятае ў паветра і кладзецца на моцную далонь Уладзіміра Караткевіча. Яблык з чужога саду, што пагушкаўся на паэтавых руках і паклаўся не ў чужыя чалавечыя рукі, а на душу знакам высокай дабрыні і гаючай радасці, веры ў веліч зямной прыгажосці, роўна адмеранай небам кожнаму з жывых.

*Ліпень. 1986 год.*

Эмануіл ІОФЕ

# ЛЕТАПІС СЯМ'І І ЭПОХІ

**Ироида ЦАРЮК. От родного порога.** *Мн: БГУ, 2011.*

Напярэдадні 90-годдзя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў выдавецтве БДУ выйшлі мемуары Іраіды Царук «Ад роднага парога». Аўтар кнігі — не толькі вядомы вучоны-гісторык, доктар гістарычных навук, прафесар, а і сястра знакамітага дзяржаўнага і палітычнага дзеяча Беларусі, аднаго з арганізатараў патрыятычнага падполля і партызанскага руху ў Вялікую Айчынную вайну Сяргея Прытыцкага. Яе ўспаміны — сапраўдны жыццяпіс як сям'і Прытыцкіх, так і эпохі 1930—1990-х гадоў. Нельга не пагадзіцца з рэдактарам гэтага выдання, дэканам гістфака БДУ С. Ходзіным: «Книга, которую вы держите в руках, — это летопись страны, эпохи через историю одной семьи — семьи Притыцких…

Эта книга создана не профессиональным писателем, а историком, что наполняет ее особым духом, вызывает ощущение соприкосновения с глобальной историей…

«От родного порога» — уникальная книга, это проникновенный рассказ о судьбах людей, готовых к самопожертвованию, яркая панорама их жизни, полной борьбы и тревог. Запечатлев в своем сознании примеры истинного мужества и героизма, преисполнимся благодарности нашим бабушкам и дедушкам, родителям, нашим дорогим учителям. Очень хотелось бы, чтобы эту книгу прочитали те, кому строить будущее нашей страны».

Пра С. Прытыцкага, безумоўна, пісалася і раней. У прыватнасці, ёсць кнігі Л. Чагінай «Жыццё, аддадзенае народу» (1987), шэраг артыкулаў аб жыцці і дзейнасці гэтага чалавека. Дый яшчэ ў 1978 годзе быў выдадзены зборнік яго артыкулаў і прамоў, дакументы і ўспаміны аб ім. Але вартасць новага выдання ў тым, што ў ім упершыню ўзнаўляецца цярністы шлях Прытыцкіх, які яны прайшлі разам са сваёй малой радзімай — Беласточчынай. Чытач знойдзе невядомыя і малавядомыя звесткі аб падпольнай барацьбе на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1920—1930-я гады братоў Іраіды — Аляксандра і Сяргея, сястры Любы. З асаблівай цеплынёй яна ўспамінае сваіх бацькоў Восіпа Рыгоравіча і Наталлю Ігнацьеўну. Прыводзяцца такія факты з дзяцінства і юнацтва Сяргея Васільевіча, а таксама рэвалюцыйнай барацьбы, якіх больш нідзе не знойдзеш. Можна сказаць, што ў лёсе сям'і Прытыцкіх адлюстраваны лёс усёй краіны.

У кнізе адлюстраваны лёс і такіх выдатных сыноў беларускага народа, як П. Валошын, Б. Тарашкевіч, І. Дабрыян, У. Царук, П. Жалезняковіч, В. Харужая, М. Дворнікаў, П. Пестрак, М. Танк. Менавіта мары аб светлым будучым, рэвалюцыйны рамантызм вялі іх ад роднага парога па шляхах падполля, забастовак, стачак, арыштаў, кідалі ў вір падзей.

Багатае на падзеі жыццё і самой І. Царук. Дачка бедняка з вёскі Гаркавічы Сакалкоўскага павета Беластоцкага ваяводства, яна прайшла доўгі жыццёвы шлях, на якім былі і дзіцячы дом у Саратаве, і рамеснае вучылішча ў Маскве, потым Нясвіжскае педвучылішча, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Большая частка яе жыцця — ад студэнткі да загадчыка кафедры, дэкана факультэта, доктара навук — звязана з гістарычным факультэтам БДУ. Менавіта тут, у сценах гэтай ВНУ, яна сустрэла шмат выдатных людзей. Многія старонкі кнігі прысвяціла настаўнікам, калегам, сябрам і вучням.

Дарэчы, яна стварыла сваю навуковую школу гісторыкаў Беларусі. Пад яе навуковым кіраўніцтвам аспірантуру скончылі 30 чалавек. 29 з іх паспяхова абаранілі кандыдацкія дысертацыі. Сярод іх такія вядомыя вучоныя-гісторыкі, як Валерый

Чарапіца, Мечыслаў Часноўскі, Вячаслаў Мянькоўскі, Сяргей Ходзін.

Не абыдзены ўвагай і стасункі С. Прытыцкага з многімі беларускімі пісьменнікамі. Так, у 1934 годзе ён вучыўся ў Мінску, у партыйнай школе КПЗБ. У той час усе вучні мелі мянушкі, а свае сапраўдныя імёны і прозвішчы яны не маглі называць. Штогод у школе займалася 25—30 падпольшчыкаў — членаў партыі і камсамола Заходняй Беларусі. Яна знаходзілася спачатку ў прыгарадзе Мінска — Лошыцы, а потым — на ўскраіне горада — на Грушаўскай вуліцы. Беларускую і рускую літаратуру ў партыйнай школе КПЗБ выкладаў Міхась Лынькоў. Ніхто не ведаў, што ён — пісьменнік, для іх ён быў выкладчык «Владэк Бельскі».

Як успамінае І. Царук, у 1950-я гады, будучы першым сакратаром спачатку Баранавіцкага, а потым Маладзечанскага абкама партыі, сям'я яе брата Сяргея Прытыцкага любіла ездзіць на Нарач яшчэ і таму, што там можна было сустрэцца з сябрамі — Міхасём Лыньковым, Максімам Танкам, Аркадзем Куляшовым, дзе ў іх былі дачы. Успаміналі падполле, сяброў, «турэмныя ўніверсітэты», загінуўшых сяброў. Зноў і зноў вярталіся ў размовах да першага сакратара ЦК камсамола Заходняй Беларусі Мікалая Дворнікава, Веры Харужай.

Сяргей Восіпавіч, па ўспамінах сястры, дастаткова добра ведаў рускую і беларускую літаратуру, нядрэнна польскую, цёпла адносіўся да П. Броўкі, К. Крапівы, П. Панчанкі, П. Пестрака, любіў паэзію, шмат ведаў на памяць з вершаў Я. Купалы, Я. Коласа. Чытаў, меў сваю думку аб Г. Сянкевічу і С. Жэромскім, В. Лацысе і Я. Райнісе, таму тэмы для размоў, гутарак заўседы былі. Нярэдка яны абмяркоўвалі побытавыя, гаспадарчыя справы, а таксама тое, чым Прытыцкі займаўся паўсядзённа. Іраіда Восіпаўна выйшла замуж за Аляксандра Царука — сына аднаго з арганізатараў падполля і партызанскага руху на тэрыторыі Баранавіцкай вобласці, Героя Савецкага Саюза Уладзіміра Царука. Гэтаму славутаму чалавеку і свайму свёкру яна таксама прысвяціла некаторыя старонкі сваёй кнігі.

Іраіда Восіпаўна была і застаецца сціплым чалавекам. Яна нідзе не ўжывае тэрмін «мемуары», а называе сваю кнігу проста «запіскамі». У яе былі ўсе падставы адзначыць:

«Мои записки — это мысли мои и тех людей, которые жили в то время, для которых сталинские времена, «хрущевская «оттепель» не далекая история, а огромная часть жизни. Возвращаясь в XX в., когда в основном происходили события, рассказанные мной, хочется подчеркнуть, что это мой век, мои годы, счастливые, порой горестные, но такие замечательные, потому что это были молодые годы».

Адзначаючы несумненныя вартасці кнігі, разам з тым не магу не назваць некаторыя недакладнасці. Так, на 9-й стар. адзначаецца, што Т. Касцюшка нарадзіўся ў вёсцы Сяхновічы Кобрынскага павета. У той жа час паводле «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» гэта адбылося ў фальварку Мерачоўшчына каля мястэчка Косава Слонімскага павета Навагрудскага ваяводства (цяпер Івацэвіцкі раён).

На 101—102-й стар. падкрэсліваецца, што У. Царук у гады Вялікай Айчыннай вайны ўзначаліў паўночную групу Баранавіцкага партызанскага злучэння. А на 128-й стар. сцвярджаецца, што ён быў камандуючым паўночнай групы Стаўбцоўскага партызанскага злучэння.

У сапраўднасці, У. Царук у 1943—1944 гадах быў камандзірам Стаўбцоўскага партызанскага злучэння, якое ўваходзіла ў партызанскае злучэнне паўночных раёнаў Баранавіцкай вобласці. Сустракаюцца і памылкі друку.

Вельмі добра, што кніга ілюстравана мноствам каштоўных фатаграфій, шэраг якіх публікуецца ўпершыню. Прынамсі, цікавы здымак, датаваны 1968-м годам: «С. О. Притыцкий в кругу белорусских писателей» (на стар. 135).

Шкада, што пры падрыхтоўцы рукапісу да друку выдавецтва значную частку яго скараціла.

Жыццё і дзейнасць С. Прытыцкага варта таго, каб 1 лютага 2013 года 100-годдзе з дня ягонага нараджэння адзначалася на рэспубліканскім узроўні. Тады б з'явілася магчымасць выдаць новае, значна дапоўненае выданне ўспамінаў яго сястры.

# ЗМЕСТ ЧАСОПІСА ЗА 2011 ГОД


## ПРОЗА

**Адам Мікола.** Вечная драма. Апавяданне. VIII—79.

**Адамовіч Лідзія.** Свет сапраўдных жанчын. Аповесць. VIII—38.

**Галубовіч Янка.** Споведзь. Апавяданне. V—86.

**Гальпяровіч Навум.** Шляхі і вяртанні. Апавяданні. IV—63.

**Гарэлікава Таццяна.** Вось так, гаспадарства. Увечары. Апавяданні. III—94.

**Гаўрыловіч Уладзімір.** Сястрычка. Апавяданне. V—69.

**Гігевіч Васіль.** Страчанае шчасце. Аповесць. IV—12.

**Гніламёдаў Уладзімір.** Валошкі на мяжы. Раман. Працяг. I—9; II—9.

**Гніламёдаў Уладзімір.** Сем гадоў у ЦК. Раман-дзённік. V—4; VI—38; VII—7; VIII—6; IX—10; X—11; XI—8.

**Дамашэвіч Уладзімір.** Хмельнае прозвішча. Апавяданне. XI—67.

**Камароўскі Алесь.** Смаката. Аповесць. III—9.

**Камейша Казімір.** Паміж кубкам і вуснамі. I—57.

**Кананові Іван.** Вепраўцы. Апавяданне. XII—66.

**Ліпскі Уладзімір.** Мужык. Дакументальная аповесць. I—104; II—50; III—65; VI—3; VII—39.

**Нікіцін Міхаіл.** Чую голас… Апавяданне. II—79.

**Пазнякоў Міхась.** Ліст дадому. Апавяданне. VI—67.

**Рыбак Алесь.** На раздарожжы. Раман. XI—38; XII—4.

**Рыбік Ніна.** Паміж днём і ноччу. Аповесць. II—100.

**Рыбік Ніна.** Вечар перад Ражством. Апавяданне. XII—54.

**Федарэнка Андрэй.** У Крыме. Апавяданне. IX—47.

**Чарказян Ганад.** Апавяданні. Пераклад з курдскай Казіміра Камейшы. VII—68.

**Шабалтас Васіль.** Каціны барон. Апавяданне. V—97.

**Явар Святлана.** Маленькія апавяданні. VIII—95.

## ПАЭЗІЯ

**Аўруцін Анатоль.** ***Я напраўду такі… ***Ізноў прыгорнецца прамень… ***Май… ***Два цягнікі таму назад… ***Чакае шчэ вяршыня лета… ***Маладзік… ***Пяты дзень ад народзінаў жніўня… ***Парваў блакнот… ***Жнівень… ***Ад’язджаю… ***Нямую ісціну дарог… ***Вечарэе… У трыццаць гадоў. Лямпачка. ***Свой зямны спаткаўшы жыццябой… Вершы. Пераклад з рускай Міколы Шабовіча. III—109.

**Бадак Алесь.** Камяні. Вершы. VII—3.

**Бараноўскі Алесь.** «І час маю памяць балесна кранае…» Вершы. I—3.

**Баторын Фелікс.** «Пяюць задумліва вятры…» Вершы. II—44.

**Валасюк Лявон.** Снежань. Вежа. Абярэг. Кола. Лотаць. Калоссе. Самотнік. Сярэбраны грош. Дабранач. Вершы. II—74.

**Валодзька Станіслаў.** Партызанскія кастры. Райнісаўскі сад. Камінар. Ой вырасла ружачка… ***Помніш, Янька-жартаўніца… Завея. Бацькоўскі дом. Вершы. V—93.

**Гальпяровіч Навум.** ***Мой лёс паміж радкоў маіх пралёг… ***Я пачую ўначы сурму… ***Нашы продкі на полацкіх вулках… Памяці сяброў. ***Без веры жыць — пакутна існаваць… ***Ты вернешся зноў з падарожжаў сваіх… ***Лісток кляновы апячэ далонь… ***Восень палае зіхоткім пажарам… Вершы. XI—63.

**Гардзей Віктар.** Адкуль Бярэсце. Адкуль Кажан-Гарадок. Адкуль Мілавіды. Адкуль рэчка Лань. Хамяк. Вершы. IV—56.

**Голуб Юрка.** Снег растае… Хада. На смерць дуба каля парэчча. Гродзенская гравюра. Да партрэта сланечніка. Мазгавая атака. Пабелены сад. Прэлюд. Матыў. Вішня. Вершы. III—3.

**Голуб Юрка.** З кнігі «Аберуч». Вершы. XII—50.

**Гракові Эдуард.** Мне сніцца дзедаўскі куток. ***У двары маім вясковым… Пад мясцінаю спалены мост. ***Паглядзі,

паспрабуй распазнаць… Самотнік вечны. Бліскавіцы без грому. Між задумлівых чарацін. ***Прыемны момант як-ніяк… Вершы. IX—57.

**Дзюбак Марыя.** «Мой таямнічы востраў…» Вершы. IX—3.

**Дукса Мар'ян.** ***Матуля неба, шчыра і прачула… ***Квітней для ўсіх, падворак без варот… ***Брыдуць салдаты… ***Сто грам баявыя… ***Яны сюды зляцеліся ізноў… ***У пыле кніжная паліца… ***У тэлевізары — крутыя… ***Спальны раён — гэта мікрараён… ***Што ж ты, мора, не станеш прэсным? ***Караблік радасці на моры бед… ***Якія ні шалеюць тут вятры… ***Ты выйдзі, красуня, на сонца хутчэй… ***Ён прадугледжаны… ***Упарта ціснe ўласны лёс цяжкі… Вершы. II—3.

**Жук Кастусь.** Сімфонія ў цэгле. Вершы. VIII—3.

**Жыгуноў Алесь.** Мелодыі восені. Вершы. X—44.

**Загурская Галіна.** ***Адусюль прылятаем мы ў родны свой кут. За далеччу гадоў… Песня не змоўкла… Доля. ***Жыве душа мая на строме… З небам сам-насам. Вечаровы супакой. ***Напомніў дождж асенніх метэораў. Вершы. IV—79.

**Зэкаў Анатоль.** Янкава калыска. ***З гэтым нельга не згадзіцца… ***Памерла маці, і ўжо тата… ***Мінулага не выракайся… ***Як шмат зрабіць не паспяваю… ***Ці па снезе ты, ці па марозе… ***Бывае, так затужыцца… Мядзведзева. ***Няма Таісы Бондар, Коўтун Валі… ***Я аднойчы налягу на вёслы… ***Люблю на беразе азёрным… ***Зазвоніць тэлефон — я схамянуся… ***Як да мяне, так і пасля мяне… Вершы. XII—61.

**Камейша Казімір.** Родны бераг. ***Мой бор пашуміць, і суцішыцца. ***Сем вёрст марудных тупаў ад шашы… ***І прысніў, і паверыў… ***Басанож па расе… ***Смуткам восеньскіх дзён… Старыя ходзікі. Раніца. Начны эцюд. Звеставанне. ***За ракою Перакуль… Вершы. V—60.

**Камейша Казімір.** ***Вечназялёніцца ойчы наш край… Знаходка. Акардэон. Госць. Рака. Нябесны замак. ***Бераг там, якіх на свеце мала… ***Дзе клён абдымаўся з ялінай… ***Няма на цяпло аніякіх прыкмет… Вершы. IX—39.

**Кандратаў Мікола.** Прага. ***Белыя змеі… Кроплі дажджу. ***Што можна новага сказаць… У адказ спадарыні М… Вершы. VI—81.

**Катляроў Ізяслаў.** «Сумотна ўсё ў стасунках з вечнасцю…» Вершы. Пераклад з рускай Соф'і Шах. VIII—88.

**Коўш Генадзь.** Начное святло. ***Дождж ідзе… ***Імя тваё — сонца… ***Мне не хочацца, восень, абдымкаў тваіх… ***З трывогай іду па Дзярэчыне… Вочы ліцвіна. ***Калі запытаюць, чаго я хачу… Вершы. IX—61.

**Краснова-Гусачэнка Тамара.** Дахаты! ***Калаўрот радавы… ***Боль за Радзіму — больш, чым проста боль… Паэзія. Дзе жывыя ўсе. Дзед Даніла. ***Як час ляціць!.. ***О, калі б я Вас не кахала… ***Прарастае скрозь памяць трава… Памяці сына. Вершы. Пераклад з рускай Андрэя Цяўлоўскага. VI—84.

**Лукша Валянцін.** Даравальная нядзеля. Студня. Перад Масленіцай. Дрыбінскія шапавалы. Выцінанка. Царскае паляванне ў Белавежскай пушчы. Лотасы ў дэльце Волгі. Амудар'я. Школа жабракоў. Кузьмінкі. Вершы. VII—33.

**Маеўская Ніна.** ***Белыя ліўні… ***Ах, сонейка гаючае, ратуй… ***Доўгія, доўгія ночы бяссонныя… ***Зрабіліся ценькімі ўжо раўчукамі вялікія рэкі… ***Вініш — дарэмна сэрца я палю… ***Не маю намеру кагосьці наўмысна зняверыць… ***Вось і восень прыйшла нечакана… ***Увітае бязродным вінаградам… Вершы. III—60.

**Мазго Уладзімір.** Мірскі замак. Берасцянка. ***Паклон табе, Нясвіжчына… Аўгустоўскі канал. Новы Ной. У Дзень святога Валянціна. Дыптых лета. Бераг надзей. Людзі і зоркі. ***Згадаем родныя лясы… Вершы. VI—61.

**Макарэвіч Васіль.** Вядро. Пажар. ***Дзе леснікамі… ***Клянчыць дажджоў долу трэба… ***Можа прыкінуцца ёгам і крамнікам… ***А яліны, з вярхушкамі-шпілямі… ***Мой дружбак, віхрасты верабей… Васьміpадкоўі. Вершы. X—3.

**Маляўка Мікола.** У гэты дзень. Верш. V—3.

**Маляўка Мікола.** Радаводнае дрэва. Вершы. XI—3.

**Міхно Вера.** ***Усміхніся мне, лёс… ***О! Колькі ёсць аблiччаў у любві… ***У

беганіне, спешцы і турботах… ***Каханне — мроі аб вясне… ***Як шанцуе замнога… Вершы. III—92.

**Мушынская Таццяна.** «Гэта светлае шчасце — чакаць і кахаць…» Вершы. XII—78.

**Мятліцкі Мікола.** ***О, як вясна дажджом атрутным секла… ***Праз столькі год і я наведаў Вусце… Мазыр. ***За Глінішчам урочышча Сакава… ***Няхай мяне перажыве… ***Гоні часу, шыры свету… ***Мірготныя агні Ўладзівастока… ***Над магілай Расула Гамзатава… ***Душа расінкаю дрыжыць… ***Мой лёткі век!.. ***Што помню я з мінулага?.. ***Твае — пагоркі, і палі… Паэт. Чарнобыль. Вершы. IV—3.

**Нарэйка Настасся.** ***Каласы, камяні і крыніцы… Калі думаць, што гэта бездань… Гарбата на злым палыне. ***Я, твая паланянка, ніколі не буду з табой… ***Дровы згарэлі… ***Уцягні мне нітачку ў іголку… Восень вярнулася. ***Ніякая вернасць мяне ля цябе не ўтрымае… Вершы. VII—89.

**Нафрановіч Аркадзь.** ***Шчыруе сейбіт днём вясновым… ***Ці не напомніць вам, мае сябры… ***Гады спяшаюцца, ляцяць… ***За годам — год... Асабісты рахунак. ***Зноў Месяц выплыў з-за аблок… Родная мова. ***У радасці жывём ці ў скрусе… Вершы. IV—76.

**Пазнякоў Міхась.** «Сэрца святлом загоіцца…» Вершы. I—51.

**Рогаль Іосіф.** Памяць. Голас сэрца. Абдымі мяне. Матуліна просьба. Малітва. Вершы. Пераклад з рускай Міколы Мятліцкага. VI—117.

**Русілка Любоў.** Зямлі і людзям. Урыўкі з паэмы. VI—76.

**Салодкая Надзея.** Словы, словы… Жалобная пані. ***Ідуць дажджы… Кола. ***Хочаш праўды?.. Вершы. V—102.

**Салтук Алег.** Вяртанне. Салаўёўка. ***Цвітуць сады, ідуць гады… ***Захінула чаромхай ваколіцу… ***Да жалю, да скону, да болю… Радасць. ***Стаіць і смяецца жанчына… Сон. ***Гарыць зара ўгары над небакраем... Вершы. VIII—34.

**Семяняка Валянцін.** Папараць-кветка. Церахавічы. У Камянцы. Сустрэчы. ***Сагрэе ў непагадзь цяпло тваёй усмешкі… Вершы. VII—65.

**Сямёнава Таіса.** Грамнічная свечка. Бяроза ў бацькоўскім двары. Суніцы. Матуліна герань. Малая радзіма. Зімовы вечар. Вершы. III—89.

**Тарасевіч Генрых.** ***Дваццаць год мінула з той пары… ***Мы прыйшлі да яе ўчатырох… ***Да зямлі, на выхадныя… ***Шэрыя палеткі… Вершы. III—106.

**Хвалей Яўген.** «Пакуль сэрца жаўрам спявае…» Вершы. VIII—73.

**Чарказян Ганад.** Хада. Мая трывога. Плач па бабулі. Беларусь васільковая. Дзе цячэ Бярэзіна. Дарога на Ушачы. У думках… Вяртаючыся дамоў. Маленства. На дарогу ўнучцы. Прымірэнне. Там, за гарой… Вершы. Пераклад з курдскай Казіміра Камейшы. X—92.

**Чарняўскі Мікола.** ***Па-над Будаю… Святло на пагосце. ***Глядзела сонца з-пад нябёс… ***Прачнуўся бор… ***Восень… Вершы. I—99.

**Шах Соф'я.** Уверх. Вянок санетаў. V—79.

**Шніп Віктар.** Балада Канстанціна Тышкевіча. Балада Рамуальда Зянькевіча. Балада Канстанціна Вераніцына. Балада Пімена Панчанкі. Балада Янкі Сіпакова. Балада Веры Рыч. Край Уладзіміра Караткевіча. Чорнае золата. ***Гэты дзень мы зляпілі са снегу… ***Нябачны хтосьці грае на раялі… Сонца кветкай на ўсходзе праз снег прарастае… ***Ізноўку дождж… Вершы. VI—31.

**Шушко Анатоль.** Маёй Беларусі. ***Якое шчасце!.. Просьба да сонца. ***Час родзіць паэтаў у нас… ***Кожны па-свойму прыходзіць да Бога… Баладнае. ***Маўчала са злыбядою… Вершапад. След. Ушушканы ўспамінам. Кветка волі. Вершы. XI—32.

**Ярчак Эльвіра.** Максіму Багдановічу. Верш. XII—3.

## ПЕРАКЛАДЫ

**Абай.** ***Верш — правадыр між слоў… ***Блізкі памірае… Восень. ***Зімы прадвесце… Зіма. ***Дзве дарогі… ***Вітаю ўзлёт танюткіх броў… ***Кос чарнеча ляжыць уздоўж гнуткай спіны… Вясна. ***Ты — вачэй маіх зрок… ***Да цемрашалаў быў пагардлівым здаўна… Вершы. Пераклад з казахскай Міколы Мятліцкага. II—88.

**Абдула Камал.** Даліна Чараўнікоў. Раман. Пераклад з азербайджанскай Людмілы Глінскай. IX—64; X—48.

**Бараўскас Вітаўтас.** Пад струнамі дажджу. Вершы. Пераклад з літоўскай Міколы Маляўкі. IX—99.

**Бечкавіч Мація.** Ты ж не малы ўжо. Песня зняволенага. Размова з Гойям. На магіле айца Юсціна. Японія, Ява, Мальёрка, Мадагаскар. Вершы. Пераклад з сербскай Івана Чароты. XII—82.

**Вуканавіч Слабадан.** Чалавек-кола. Апошні вандроўнік. Я слухаю прагноз падзей. Пральная машына. На пальмах спеюць камякі снегу. Паляванне. Вершы. Пераклад з сербскай Міколы Мятліцкага. VII—119.

**Гюлен Фетхулах.** Філасофскія запісы. Мініяцюры. Пераклад з турэцкай Ірыны Качатковай. IX—102.

**З кітайскай паэзіі.** Цюй Юань. Цао Чжы. Сун. Цзы Хоу. Юаньмін Тао. Вершы. Пераклад з кітайскай Міколы Мятліцкага. XI—80.

**Рза Расул.** Ад кожнай хваробы ёсць лекі. Аб традыцыі. Кроплі. Мова рук. Я — зямля. Вер. Без заходу. Неспакой. Падснежнік. Праметэй. Вершы. Пераклад з азербайджанскай Міколы Мятліцкага. I—127.

**Такак Харун.** Згадкі з былога. Навелы. Пераклад з турэцкай Ірыны Качатковай. XI—90.

**Хаб'янавіч-Джуравіч Ліляна.** Параскева: крыж у пустыні. Раман. Пераклад з сербскай Івана Чароты. IV—107; V—105; VII—93; VIII—102; IX—113.

**Шашкова Любоў.** Васілёўка. Веснавыя матывы. ***Што ты лятаеш, дурная варона… ***А ціш напята, як струна… Ельнік. ***Светла ў сасновым бары, як у храме… Спас. ***Расце дрэва… ***Якая елка… Начлег. Алёнін рай, ці Размова з фінінспектарам пра карысць патэнтаў на індывідуальную працоўную дзейнасць. Вершы. Пераклад з рускай Казіміра Камейшы. IV—99.

## КРЫТЫКА І ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

**Андраюк Серафім.** Слова шчырае, палкае. VI—141.

**Драздова Зінаіда.** Чалавек у маральна-духоўным кантэксце. XII—131.

**Кабржыцкая Таццяна.** Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч і Украіна. VIII—151.

**Камейша Казімір.** І высокае, і зямное. XII—124.

**Карлюкевіч Алесь.** Масты пабрацімства: Беларусь і Казахстан. VI—156.

**Кузьміч Міхась.** Паваротак лёсу і жыцця. IX—150.

**Ліякумовіч Цімафей.** Пабрацімы. XII—116.

**Мельнікава Зоя.** Сум па атлантах. I—158.

**Нуждзіна Тамара.** «Шчаслівы лёс плаціць любоўю…» IX—140.

**Рагойша Вячаслаў.** «Беларусь на куце ў хаце сваёй села». VII—144.

**Рагойша Вячаслаў.** Творчасць, надыханая пафасам пабрацімства. IX—158.

**Рагойша Вячаслаў.** Вяршыня беларускага Трыглава. XII—103.

**Шамякіна Марыя.** Эстэтычны ідэал маладой беларускай паэзіі. II—155.

## КНІГАРНЯ

**Берлеж Мікола.** Працяг Віцебскай краязнаўчай біябібліяграфіі. IX—189.

**Валовіч Міхась.** Гісторыя ў тытулах. IX—183.

**Гардзей Віктар.** Сказанне пра вёску Зубрэвічы і яе слаўны радавод. I—185.

**Зяновіч Юрась.** Вандроўка з пані Чаротнай. VIII—190.

**Іофе Эмануіл.** Летапіс сям'і і эпохі. XII—152.

**Камейша Казімір.** Убачыць у часовым вечнае. III—178.

**Камейша Казімір.** Каб не рваліся жывыя ніці. X—146.

**Кенька Міхась.** Майстэрства, што звязвае народы. X—177.

**Конеў Ягор.** Дзе жывуць палеманісты. I—189.

**Кручэнка Тамара.** «Хойнікшчыны спеўная душа». IV—171.

**Лагода Арцём.** Тонкі лёд — смелым не перашкода. X—150.

**Лешчанка Вольга.** Проста героі. IX—186.

**Ляновіч Васіль.** Сіла нацыі — у сіле духа. X—143.

**Марціновіч Алесь.** Лісты ў вечнасць. II—172.

**Марціновіч Алесь.** Жартуе той, хто … талент мае. V—180.

**Міршчына Мікола.** Нататкі беларускага бібліяфіла. VII—179.

**Нікольская Вольга.** Для дзяцей і… бацькоў. VI—188.

**Нікольская Вольга.** Казкі для сучаснага школьніка. VII—182.

**Паўленка Юрась.** Як два бусліныя крылы. VI—184.

**Чарняўскі Мікола.** Да людзей з любоўю ідучы… VII—175.

## ПУБЛІЦЫСТЫКА

**Максімовіч Валерый.** Традыцыя ў жыцці асобы і грамадства. IV—142.

**Максімовіч Валерый.** Застацца людзьмі. XII—97.

**Музей «Трагедыя Чарнобыля».** IV—153.

## КУЛЬТУРА МОВЫ

**Старычонак Васіль.** Другасныя іменныя намінацыі. IX—163.

## НАВУКА

**Каваленя Аляксандр, Ляўковіч Васіль.** Пульс часу. X—130.

**Нікіценка Пётр.** Наасферная эканоміка — разумная духоўна-маральная гаспадарчая сістэма нацыянальнага і планетарнага грамадскага ўзнаўлення. I—143.

**Ракаў Андрэй.** Беларусь на сусветнай дэмаграфічнай карце — учора, сёння, заўтра. VI—165.

## НАВУКОВЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ

**Бараноўскі Алесь.** Гнасеалагічныя матывы ў лірыцы Ніны Шкляравай. V—129.

**Бараноўскі Алесь.** Гуманістычны характар творчасці Анатоля Грачанікава. XI—101.

**Выскварка Таццяна.** Кадыфікаваныя і некадыфікаваныя прыметнікі-кампазіты Зарэцкага-апавядальніка. V—122.

**Дубашынскі Раман.** Канцэпты прыпавесцей Васіля Быкава. VI—90.

**Дубашынскі Раман.** Ідэйнае ядро і паэтыка прыпавесцей Янкі Сіпакова. IX—128.

**Мікуліч Мікола.** На этапах барацьбы і свабоды. VII—125.

**Мікуліч Мікола.** Паэзія і праўда рэчаіснасці. VIII—127.

**Мяснікоў Анатоль.** «Я наглядаю з увагаю за фактамі жыцця…» II—119.

**Прохар Маргарыта.** Эсхаталагічныя матывы Чарнобыля ў творчасці Івана Шамякіна. IV—135.

**Сівец Таццяна.** Захаванне асаблівасцей нацыянальнага характару ў перакладах з Джорджа Байрана на беларускую мову. I—134.

**Цыбакова Святлана.** Прырода — чалавек — культура, альбо Касмічнае ўсведамленне ў творчасці Анатоля Бароўскага. III—116.

**Шматкова Ірына.** Беларуская жаночая паэзія: да пытання эвалюцыі. XII—88.

**Шур Васіль.** Онімы як алюзійны кампанент мастацкага тэксту. X—100.

## ПОСТАЦІ

**«Беларуская цывілізацыя мае даўнія традыцыі».** Гутарка Зіновія Прыгодзіча з Адамам Мальдзісам. VI—112.

**Голуб Тэрэза.** «Таленавіты чалавек — таленавіты ва ўсім». I—151.

**Камейша Казімір.** Верасовы ўзятак важкі. VII—168.

**«Космасу належыць будучыня».** Гутарка Зіновія Прыгодзіча з Іванам Міско. III—139.

**«Музыка — душа народа».** Гутарка Зіновія Прыгодзіча з Міхасём Казінцом. XI—115.

**Мятліцкі Мікола.** Мой Мележ. II—145.

**Цяўлоўскі Андрэй.** У пошуках слова. IV—148.

**Яфімава Маргарыта.** Сонцам сеяў свой палетак. V—163.

## СПАДЧЫНА

**Марук Уладзімір.** З кнігі «Кудмень». Вершы. Публікацыя Веранікі Марук. VIII—121.

**Сербаў Ісак.** Беларусы-сакуны. Прадмова, пераклад і падрыхтоўка да друку Анатоля Валахановіча. VIII—158.

**Тулупава Анэля.** Калі прачнецца чарапаха. Апавяданне. IV—82.

**Чыгрын Сяргей.** З паездак Янкі Купалы. VII—149.

**Шамякіна Алеся.** Іван Шамякін — беларускім пісьменнікам. I—170.

## СТАРОНКІ ЛЁСУ

**Жыгоцкі Мікола.** Малавядомае пра Якуба Коласа. XI—137.

**Міцкевіч Наталля.** Доўгая дарога (ад дома Янкі Маўра да дома Якуба Коласа). III—159; IV—157; V—149; VII—154; VIII—171.

**Мяснікоў Анатоль.** Вернік і прапаведнік «светлай будучыні». IX—178.

**Рагойша Вячаслаў.** Колькі галінак з дрэва яго жыцця. V—168.

**Рудкоўская Ірына.** І памяць, і радасць, і боль… IV—166.

**Савіцкі Алесь.** Ласкавае святло Літзавы. XII—145.

**Саламевіч Янка.** Невядомае з жыцця класіка. VIII—148.

**Хваль Ала.** Сучаснасць у кантэксце вечнасці. IV—165.

## СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ

**Каваленя Аляксандр.** Гераічнасць і трагедыя 1941 года: забыццю не падлягае. VI—100.

**Матульскі Раман.** Бібліятэкі беларускага сярэднявечча. I—180.

**Саверчанка Іван.** Вялікі князь Аляксандр Казіміравіч у старадаўніх хроніках. V—157.

## ПОМНАЕ

**Гурскі Васіль.** Рубцы на сэрцы. V—175.

## ШКОЛЬНЫЯ ДАЛЯГЛЯДЫ

**Бечык Варлен.** Урокі Куляшова. II—142.

**Гніламёдаў Уладзімір.** Паэма пра Кастуся Каліноўскага. II—126.

**Камейша Казімір.** «Штодзённай прыналежнасцю сваёй…» II—140.

**Марціновіч Алесь.** Свяці, зорка, свяці. X—112; XI—107.

**Мінскевіч Серж.** Душа героя паводле Аркадзя Куляшова. II—133.

**Па старонках «Хамуціуса».** Гутарка Рагнеда Малахоўскага з Валянцінай Аркадзьеўнай Куляшовай. II—128.

**Радзімазнаўства.** Урок у Мётчанскай СШ Барысаўскага раёна. III—122.

**Урок мужнасці Алеся Савіцкага.** V—135.

## НАШ КРАЙ

**Брагіна Надзея.** Палац над Сожам. V—183.

**Карлюкевіч Алесь.** Літаратурна-краязнаўчае падарожжа па Беларусі. II—176.

**Карлюкевіч Алесь.** Вандроўкі па Ігуменшчыне. X—152.

**Мазго Уладзімір.** Мой зялёны гарадок. III—182.

**Марціновіч Алесь.** Хараство блізкіх дарог. VIII—185.

**Рыбік Ніна.** Чарнобыльскі вецер. IV—180.

**Саветная Наталля.** Гарадок літаратурны. VII—185.

**Ярота Расціслаў.** Людзі з сярэбранага кутка. XI—147.

***Падрыхтавала М. Міхайлава.***

*Аўтары нясуць адказнасць за факты, якія прыводзяцца ў публікацыях, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.*
*Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух аркушаў не вяртаюцца.*
*У выпадках паліграфічнага браку ў часопісе звяртацца ў друкарню.*

**Ідзе падпіска**
**на I паўгоддзе 2012 года:**

*індывідуальная льготная*
*для настаўнікаў (індэкс — 00471)*

на 1 месяц — 8690 руб.
на 3 месяцы — 26 070 руб.

*індывідуальная (індэкс — 74985)*

на 1 месяц — 13 420 руб.
на 3 месяцы — 40 260 руб.

*ведамасная (індэкс — 749852)*

на 1 месяц — 28 490 руб.
на 3 месяцы — 85 470 руб.

*ведамасная льготная*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь (індэкс — 00727)*

на 1 месяц — 23 120 руб.
на 3 месяцы — 69 360 руб.

**e-mail: polymya@bk.ru**

Юрыдычны адрас: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, паэзіі, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-66-74.

Стыльрэдактар *М. М. Гілевіч*
Камп'ютарная вёрстка *С. І. Стараверавай*

Падпісана ў друк 05.12.11 г. Фармат 70×108$^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 14,00. Ул.-выд. арк. 14,27. Тыраж 2745 экз. Заказ 3406.
Кошт нумара ў розніцу 11 500 руб.
Часопіс «Полымя» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі
Рэспублікі Беларусь. Рэг. № 9 ад 22.07.09 г.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79. ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.